# ЗМЕСТ Крыніца

# Іван ЛАСКОЎ



*Будзем ісці далей.*







# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

*(Раздзел з рукапісу кнігі «Летапісная літва. Сваяцтва і лёс»)*

Мы ўжо гаварылі вызначаць старажытныя этнічныя межы па чарапках гаршкоў, на якіх няма аніякіх моўных адзнак, рызыкоўна Што цяпер, пасля адкрыцця венгерска-летувіскіх моўных паралеляў, рабіцьмуць тыя, хто дзесяцігоддзямі сцвярджаў, што культура штрыхаванай керамікі (I тыс да н э – 1 палова I тыс н э ) належыць балтам? Але адмаўляць якое б там ні было значэнне археалогіі для высветлення этнічных працэсаў мінулага нявартa Важна толькі, каб разгляд археалагічных знаходак рабіўся аб'ектыўна, з улікам не толькі блізкага, але і далёкага, а іншы раз і вельмі далёкага матэрыялу гэта значыць, каб кругагляд археолага-аналітыка быў як мага шырэйшы

Вернемся да старажытнасцяў, што абвешчаныя балцкімі Ці параўноўваліся яны з матэрыялам нябалцкіх тэрыторый? Па-мойму, не Усё «балцкае» лічыцца балцкім аксіяматычна, згодна з прынцыпам гэта так, бо іначай быць не можа А давайце прыгледзімся да такой важнай праявы чалавечага, як пахаванні

У 1987 годзе ў Маскве археолагі выдалі вялікую і прыгожую кнігу на глянцавай паперы «Финно-угры и балты в эпоху средневековья» (адказны рэдактар і адзін з аўтараў – доктар гістарычных навук В.В Сядоў). Яна не проста апісвае знаходкі на балцкіх і фіна-вугорскіх тэрыторыях, а яшчэ і робіць спробы хоць неяк паказаць гісторыю этнасаў Першая частка яе называецца «Финно-угры», другая – «Балты» (аўтар усёй другой часткі – В Сядоў)

Што ж цікавага маецца ў гэтай кнізе адносна старажытнасцяў Летувы? А вось што Аказваецца, паводле

## ПРА МЯНЕ

**Ва ўсялякіх праявах наступнага жыцця дзяцінства з'яўляецца фундаментальным энерганосьбітам. І для Івана Ласкова – таксама. Памятаю яго ў пярэдадзень пяцідзесяцігоддзя Першага і адзінага юбілея нашага суродзіча. У Якуцку дату ўрачыста. . не заўважылі На Беларусі – не ўспомнілі, калі не лічыць артыкулаў у «Чырвонай змене» і «Гомельскай праўдзе». Не дзіўна. Добра, што хоць заўважылі смерць.. Ды ўсё ж пра Івана Ласкова ў пярэдадзень, за год, лічы, да паўвекавога яго юбілею. Тры кароткія сустрэчы, тры доўгія размовы, пастаянная прысутнасць пачуцця недагаворанасці І заўжды – развагі сам-насам пра магутную, руплівую, духоўна-стваральную энергію гэтага маленькага, падобнага на падлетка, чалавека. Відавочна па ўсім, Іван Антонавіч не дужа звяртаў увагу і на сваю знешнасць. Танныя акуляры з тоўстым шклом. Сціплы касцюмчык. Даўно не новая кашуля. Мо дзесяцігадовага ўзросту балоневая куртка. Тады, позняй восенню 1990-га года, мне падалося, што яму ўсё роўна – ці то дождж на вуліцы, ці то жорсткі пранізлівы вецер, халадрыга. Яму ў адрозненне ад нас цёпла.**

**Пры тых сустрэчах было зусім не да роспытаў І шкада.. Іншых сустрэч ужо не было. А тады ўвосень гаварылі пра гістарычныя, мовазнаўчыя росшукі Івана Ласкова Памятаю, як пры жыцці пісьменніка заакадэмізаваныя навукоўцы пасмейваліся з нацягну-**

# Яго голас

*«Я – мамонт шерсть моя рыжа,*
*Иду от холода дрожа. »*

**Калі Ваня Ласкоў, тады яшчэ студэнт Літінстытута, урачыстым басам абвяшчаў гэта са сцэны ў далёкім сібірскім горадзе Салехардзе, народ у зале сціхаў, перапыняліся размовы, людзі пачыналі ўглядацца ў шчуплаватага, невысокага хлопца ў акулярах, якому, здавалася, так не адпавядаў такі гучны, упэўнены, магутны голас. Ды і што гэта ён такое там гаворыць? Здаецца, і сапраўды нешта незвычайнае?**

**Тым летам мы, студэнты 4 курса, вандравалі з агітбрыгадай па працягах нашай Былой Вялікай Дзяржавы, па Запаляр'і, – і каб свет паглядзець, і каб на выступленнях крыху грошай зарабіць.**

**Ванечка – а інакш мы яго і не звалі – быў нашай, што называецца, «ударнай сілай» на ўсіх канцэртах. І калі ў зале было шумна, і калі мы не маглі справіцца з аўдыторыяй, і калі нас прымалі не надта добра, і калі трэба было перакрычаць шум парахода, – выручаў Ванечкін голас. Ды і не толькі голас – яго вершы: яркія, арыгінальныя...**

**У канікулы Ванечка звы-**

**тых, як яны меркавалі, высноў літаратара Што ж, і Мікола Ермаловіч усё яшчэ па вялікім рахунку не прызнаны і не ўшанаваны. Як не зразумеюць тыя навукоўцы, што найгалоўнае ў жыцці – пошук, імкненне да адкрыццяў. Ісціны не друкуюць па загадзя выпрацаваных адміністрацыйных пастановах...**

**Дзяцінства яго пачалося з вайны. У апошнім выданні даведніка «Беларускія пісьменнікі» пра нараджэнне зусім сціпла «Іван Антонавіч Ласкоў нарадзіўся 19.6.1941 г у горадзе Гомелі ў сям і рабочага» А ўсё наступнае – дзяцінства, юнацтва – уклалася ў яшчэ адзін радок: «У 1953–1958 гг выхоўваўся ў Магілёўскім спецыяльным дзіцячым доме» Што за радком? .**

*« Вы пытаецеся, што мяне звязвае з Краснапольшчынай? Гэта фактычна мая радзіма Сюды мае продкі пераехалі з Міншчыны ў 1914 годзе. Адсюль мая маці ў канцы 20-х гадоў паехала ў Гомель на пошукі долі. Тут яна двойчы выходзіла замуж. Другі раз за майго бацьку Ён быў з Украіны, уцёк ад голаду 1933 года. (Бібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» ўдакладняе «Бацька, Ласкавы Антон Іванавіч, украінец з Палтаўшчыны, земляроб. Працаваў на гомельскай цукеркавай фабрыцы «Спартак». –***А.К.***) Я нарадзіўся ў Гомлі, але вясной 1942 года маці разам са мной збегла ад немцаў назад, на Краснапольшчыну, дзе жыла яе маці, мая бабка, сёстры, браты ж былі на вайне. У вайну мой бацька прапаў без звестак, а дом у Гомлі згарэў. Таму маці*

пахавальнага абраду тэрыторыя ейная выразна падзяляецца на тры часткі адна ад Балтыйскага мора да ракі *Дубіса*, другая – ад *Дубісы* да ракі *Швянтойі,* трэцяя – на ўсход ад *Швянтойі,* да мяжы з Беларуссю І аўтар лічыць, што заходняя частка ў мінулым належала племю жамойтаў, сярэдняя – аўкштотаў, а ўсходняя – племю літва, якое ён з аўкштотай не змешвае

У археалагічным сэнсе гэтыя землі характарызуюцца наступным чынам. «Магільнікі жамойтаў у другой палове І – пачатку ІІ тысячагоддзяў з`яўляюцца грунтавымі і цяпер не маюць аніякіх наземных прыкметаў < > У V–IX стагоддзях непадзельна панаваў абрад целапакладання» (ФУБ, с. 383), г.зн над магіламі не рабілася насыпаў, а нябожчыка клалі ў яму некранутым «У IX–X стст. у выглядзе рэдкага выключэння на жамойцкіх магільніках з`яўляюцца трупаспальванні З XII стагоддзя яны практыкуюцца часцей, але пераважна на ўскраінах арэалу жамойтаў. Пахаванні па абраду крэмацыі выконваліся ў прадаўгаватых ямах. глыбінёй 0,35–0,70 м Спальванне нябожчыкаў рабілася ўбаку», г.зн не ў самой магіле, дзе рэшткі спаленых касцей складваліся купкай (ФУБ, с. 384) «У X–XII стст у рэдкіх выпадках разам з нябожчыкам хавалі і каня» (ФУБ, с. 383)

На ўсход і паўднёвы захад ад «арэала жамойтаў», у басейне ракі *Нявежыс,* у нізоўях правабярэжжа ракі *Нярыс* і ў парэччы Нёмана ад вусця *Нярыс* да горада Смалінінкай (на думку В Сядова, землі аўкштоты) «вылучаецца своеасаблівая група магільнікаў Яны змяшчаюць захаванні паводле абраду трупаспальвання, якія часта суправаджаецца трупапакладаннем коней» (ФУБ, с. 387) Пахаванні такія ўжываліся тут не спрадвечна Першапачаткова ў «Аўкштоце» былі такія ж, як і надалей у «Жамойці» грунтавыя, без насыпаў, з целапакладаннем У V–VI стагоддзях з яўляецца і трупаспальванне, нароўні з целапакладаннем А пачынаючы з VII стагоддзя, «у магільніках аўкштоцкага рэгіёну пануе трупаспальванне Крэмацыя нябожчыкаў рабілася ўбаку Для захавання выкопваліся круглыя або авальныя ямы Кальцынаваныя косткі складваліся на дно невялікай купкай Усе захаванні бязвурнавыя» (ФУБ, с 387) «У X–XII стст на магільніках

**чайна не ездзіў, як іншыя, дадому, – ён быў дзетдомаўскі, дому ў яго не было, і таму такія вандроўкі ўлетку былі яму звыклымі.**

**Ён быў крыху старэйшы за сваіх аднакурснікаў, да гэтага ўжо скончыў хімфак, папрацаваў на вытворчасці, меў нейкі жыццёвы вопыт.**

**А чаго не меў Іван – дык гэта комплексаў. Хаця на супермэна ён не выглядаў, – ростам не выйшаў, – усё ж, калі закахаўся ў прыгажуню Валю Гаўрылеву з Якуціі, – ён «здабыў» яе, апярэдзіўшы ў гэтым рыцарскім турніры многіх сваіх сапернікаў.**

**На апошнім курсе ў іх з Валяй нарадзіўся сын, і яны неўзабаве апынуліся аж у Якуцку. Там ім далі прытулак і работу. На жаль, не ў Мінску, як марылася Івану Ласкову. Бо калі ён прыехаў пасля сканчэння інстытута ў Мінск у пошуках работы і кватэры і звярнуўся ў Саюз пісьменнікаў, там яму адказалі: у нас тут і «члены» не маюць кватэры і работы, а вы хочаце, каб мы ўсякім пачаткоўцам дапамагалі.**

**Так павісла маладая сям'я ў паветры. Невядома, што з імі было б, калі б не Якуцк, што сустрэў іх больш гасцінна.**

**Іван, калі яшчэ вучыўся на апошніх курсах, ужо лічыўся прызнаным паэтам, выпусціў кнігу вершаў на рускай мове, – у той час, калі многія з нас толькі марылі аб кнізе. Ды, мабыць, прадчуваў ён доўгае расстанне з радзімай, і пачаў ужо тады, у Маскве,**





аўкштотаў побач з захаваннямі чалавека сталі хаваць коней Абрад пахавання людзей заставаўся ранейшым (трупаспальванне) < .> У аўкштоцкім рэгіёне даследавана болей за 1 тысячу конскіх захаванняў» (ФУБ, с. 389)

«Пахавальнымі помнікамі плямённай групоўкі літва, – працягвае В Сядоў, – былі курганы, што атрымалі ў навуковай літаратуры найменне ўсходнелітоўскіх» Тэрыторыя літвы ў сувязі з гэтым вылучаецца сярод суседніх балтыйскіх плямёнаў выразна» (ФУБ, с. 390) Усяго вядома каля 7 000 усходнелітоўскіх курганоў, вышынёй да паўтара і болей метраў

У самых ранніх курганах (IV–V стст ) сустракаюцца трупапакладанні ў падкурганных ямах. Часам побач з мужчынам у адной падкурганнай яме хаваўся конь. У V стагоддзі ў курганах з'яўляюцца рэшткі крэмацыі, а ў VI ст яны ўжо дамінуюць. Найболей позні трупапакладанні адносяцца да сярэдзіны VI стагоддзя. Спаленыя косці кладліся або пад курган, або ў сам курган на рознай вышыні, іншым разам пад ягонай вяршыняй (ФУБ, с. 392)

Але гэта яшчэ не ўсё. «На працягу ўсяго перыяду бытавання трупаспальвання ва ўсходнелітоўскіх курганах захоўваўся звычай хаваць каня Найбольшага распаўсюджання ён дасягае напрыканцы першага і на пачатку другога тысячагоддзя н э Няспаленага або спаленага каня звычайна хавалі асобна ад чалавека, насыпаючы яму спецыяльны курган. < > Заўважана, што для паўднёвай часткі арэалу ўсходнелітоўскіх курганоў характэрныя былі захаванні спаленых коней» (ФУБ, с. 393)

Арэал усходнелітоўскіх курганоў заходзіць і на Беларусь. «У канцы І – на пачатку ІІ тысячагоддзя ў басейне Верхняй Віліі, як і ва ўсходняй Летуве, шырокае распаўсюджанне атрымалі захаванні коней, што з`явіліся ў сярэдзіне І тысячагоддзя Спаленага або няспаленага каня хавалі звычайна асобна ад чалавека» (Я Г. Зверуго, с. 27) Спаконвечным курганны абрад у Летуве В Сядоў не лічыць: «Цалкам відавочна, што курганны абрад ва ўсходнія раёны сучаснай Летувіскай ССР прыйшоў з сярэдзінных паўночных раёнаў Летувы, а таксама сумежных з імі раёнаў Латвіі, дзе курганныя пахаванні вядомыя з першых стагоддзяў нашай эры» (ФУБ, с. 395)

*пасля вайны вяртацца ў Гомель пабаялася: там было галадна і не было дзе жыць».*

**(З ліста І. Ласкова аўтару. 10 лістапада 1990 г )**

**Дзяцінства настроіла на выпрабаванні. Вайна таму прычынай. Ласкоў, бязбацькавіч, не задаволіўся тым, што выжыў Пачаў жыць, змагацца насуперак абставінам. Ці адны тут гены – найгалоўнейшыя заканадаўцы? Пытанне як загадка. Дзейсная асоба – заўжды таямніца. Іван Ласкоў хіба што толькі зразумелы ў адным: у неспатольным жаданні працаваць.**

*«.. Я ў тры гады пачаў чытаць, у сем пісаць вершы. У школу ж пайшоў у 8 год, бо не было ў што апранацца. Вершы я дасылаў у газету «Зорька», бо чамусьці пісаў па-руску, хаця і гаварылі ў нашых Беразяках па-беларуску, і школа была беларуская. Мабыць, было болей рускіх кніг, чым беларускіх. Калі мяне пыталіся, кім я буду, я адказваў «Пушкіным». Задаваліся мне і болей складаныя пытанні. напрыклад, ці будзе вайна? Я адказваў – не будзе. Яшчэ памятаю, што чытаў на нейкія святы ці на хаўтурах Біблію на царкоўнаславянскай мове. Слава пра разумнага хлопчыка разляталася па ўсім раёне. Нават калі мне было больш за дваццаць год, я ехаў у Беразякі <. > праз Краснаполле і ў чаканні аўтобуса сеў у скверы на лаўку. Ішла міма нейкая жанчына, уважліва паглядзела на мяне і запытала, ці я не той разумны хлопчык з Беразяк. Я збянтэжыўся і сказаў.*

**пісаць па-беларуску. І там, у Якуцку, што б ён ні пісаў – ці вершы, ці прозу, ці то свае неверагодныя тэарэтычныя працы ды артыкулы, – ён марыў аб адным: перабрацца дадому, вярнуцца...**

**Помніцца, пару гадоў назад прыехаў Іван Ласкоў на адзін з пісьменніцкіх з'ездаў. І падчас традыцыйных спрэчак, «разборак» у буфетных кулуарах, калі адны групы ў запале абвінавачвалі другія бог ведае ў якіх грахах, ён, слухаючы нас, раптам мройліва заплюшчыў вочы і прамовіў: «Кожны раз, калі прыязджаю сюды, да сваіх, – нібы прыпадаю да чыстай крыніцы...»**

**Усе вакол замоўклі, з недаверам паглядаючы на Івана: ці не здзекуецца?.. А ён глядзеў на нас сур'ёзна і паблажліва. Тады адзін з нашых аксакалаў крыху няўпэўнена, з сумненнем у голасе, прагаварыў: «Трэба ж, няўжо ён і сапраўды недзе тут крыніцу разгледзеў?..»**

**.. Аб адным увесь час марыў Іван Ласкоў, – няхай, калі не ён, – то хоць яго сыны, што нарадзіліся ў далёкім Якуцку, вернуцца на Беларусь вучыцца, працаваць, жыць.**

**Яму заўсёды здавалася – тут адзінае месца, дзе дыхаецца лягчэй, дзе сонца яснейшае, дзе жыццё прыгажэйшае, дзе збываюцца ўсе твае мары, і ўсё навокал – самае адзінае, самае роднае...**

Любоў ФІЛІМОНАВА

*«Не». Але яна мне не паверыла, усё азіралася».*

(З ліста І Ласкова аўтару 10 лістапада, 1990 г )

Паэта заўважыў лёс. І прымусіў рупіцца яго душу Спярша – проста працаваць дзеля ісціны. З гэтага і першыя вершы запісваліся на рускай мове Матчына ж, родная, аднавяскоўцаў мова, – беларуская. З часам адбудзецца вяртанне. Чаму ж тады руская мова напачатку? Думаю, што не толькі таму, што «было болей рускіх кніг, чым беларускіх» А яшчэ вось што.

*«Правучыўшыся тры класы, я агледзеў, што, такі разумны, вучуся з дзецьмі маладзейшымі за мяне на год. Пайшоў да дырэктара і сказаў, што хачу здаць за чацвёрты клас экстэрнам. Тады ў чацвёртым класе здавалі іспыты па рускай, беларускай мовах і матэматыцы. Мне сказалі, што да іспытаў мяне дапусцяць, але перавядуць у пяты, калі я здам таксама іспыты па геаграфіі, гісторыі і прыродазнаўстве, г.зн. па ўсіх прадметах. Усе іспыты я здаў на «5» і быў пераведзены. А калі я яшчэ абмазгоўваў гэтую акцыю, напісаў у «Зорьку», просячы парады. ці варта мне пераходзіць адразу з трэцяга ў пяты. Мне адказалі, што мой намер дарэмны, бо вучачыся ў чацвёртым класе, я атрымаю болей трывалыя веды. Атрымаўшы гэтую параду, я напісаў «Дорогая «Зорька»! За совет спасибо, но я уже перешел в пятый класс. » У рэдакцыі ўзрушыліся і прыслалі карэспандэнта паглядзець на такога*

Што ж вынікае з пераказанага і працытаванага? Што да IV–V стагоддзяў н э. па ўсёй тэрыторыі Летувы, відавочна, панаваў адзін пахавальны абрад. трупапакладанне ў ямах без аніякіх насыпаў У IV стагоддзі над імі ва ўсходняй Летуве пачынаюць насыпаць курганы У V стагоддзі ва ўсходнелітоўскіх курганах з'яўляюцца рэшткі крэмацыі, а да сярэдзіны VI стагоддзя трупаспальванне робіцца тут пануючым. У «Аўкштоце» кurганоў над магіламі па-ранейшаму не насыпаюць, але з VII стагоддзя і тут спальваюць трупы У «Жамойці» ж трупаспальванне з'яўляецца толькі ў IX стагоддзі, і то «ў выглядзе рэдкага выключэння» Ва ўсходняй Летуве яшчэ ў часы падкурганнага трупапакладання пачынаюць хаваць разам з чалавекам каня Гэты звычай у перыяд курганнага трупаспальвання робіцца пануючым У «Аўкштоце» хаваць з чалавекам каня пачынаюць толькі ў X стагоддзі Захаванні з канём асаблівага размаху дасягаюць тут у X–XII стагоддзях. У «Жамойці» ж вельмі рэдкія, прычым толькі на мяжы з «Аўкштотай», захаванні з канём з'яўляюцца ў X–XII стагоддзях. Тут пануючым застаецца аж да канца дахрысціянскага часу пахаванне няспаленага цела ў яме без насыпу, без каня

Трупапакладанне і трупаспальванне, захаванне без каня і з канём – гэта вельмі розныя звычаі, можна сказаць, супрацьлеглыя Гэтаксама і насыпанне курганоў – вельмі сур'ёзнае адрозненне ад простага закопвання нябожчыкаў За ўсімі гэтымі звычаямі стаіць зусім рознае светасузіранне, зусім розныя рэлігійныя ўяўленні Чым жа выклікалася іх змена? На такое пытанне В Сядоў адказу не дае Адзінае, што ён сцвярджае, – гэта што курганны абрад ва ўсходнюю Летуву прыйшоў з Латвіі, дзе з'явіўся раней А ў Латвіі адкуль ён узяўся? Над гэтым аўтар не задумваецца зусім Трупаспальванне, лічыць ён, на тэрыторыі Летувы было спаконвечным, бо ішло ад носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі (ФУБ, с. 395) Але чаму яно па ўсёй Летуве на доўгі час замянілася на трупапакладанне, а потым ва ўсходняй Летуве і ў «Аўкштоце» вярнулася зноў, у «Жамойці» ж знікла назусім? І на гэтым аўтар не спыняецца

Чаму не спыняецца – зразумела Бо ўсе гэтыя змены, зыходзячы з адвечнага жыцця-быцця балтаў у Летуве, не вытлумачыш. Або вытлумачыш так, што самому няёмка будзе. Дык лепш зрабіць выгляд, што праблемы не існуе Але ж ці можа навука, хай і такая прыблізная, як археалагічная этналогія, абмяжоўвацца канстатацыяй фактаў?

Думаецца, не трэба быць вельмі здагадлівымі, каб зразумець, што пералічаныя змены пахавальнага абраду не маглі адбыцца без вонкавага штуршка Рэлігійныя ўяўленні, асабліва звязаныя з «тым светам», – рэч вельмі кансерватыўная Вось характэрны прыклад. Да прыходу расейцаў (XVII ст ) якуты хавалі сваіх нябожчыкаў на дрэвах, ставячы труну-калоду з нябожчыкам на памостарангас Расейскай адміністрацыі давялося прыкласці нямала намаганняў, перш чым якуты сталі хаваць сваіх нябожчыкаў у зямлі Зразумела, што ў Прыбалтыцы першага тысячагоддзя, дзе ў той час не было дзяржавы, ніхто нікому не мог загадаць хаваць так, а не іначай Значыць, змены пахавальнага абраду маглі выклікацца толькі прыходам этнічных груп з іншымі звычаямі і звычкамі

А цяпер падумаем, адкуль жа прыйшлі тыя этнічныя групы, з якіх ландшафтаў? Можа, пачнем з курганоў Навошта яны ў лясным краі? Тут не бывае моцных вятроў Невялікі грудок, насыпаны над магілай, трымаецца да двух дзесяцігоддзяў і не дае хаваць на тым самым месцы новага нябожчыка Іншая рэч – стэп, дзе вецер дзьме і дзьме безупынку, узмацняючыся да ўраганаў Тут, каб магіла захавалася, грудка мала Тут патрэбны вялікі курган, цяжкі і трывалы Апрача памяці пра нябожчыка, курганы, бачныя ў стэпах здалёк, выконваюць і арыентыровачную функцыю, што пры дагістарычным бездаражы было выключна важным Вось і думаецца, што курганы ў Латвіі, а потым і ў Летуве з'явіліся не самі па сабе, а з прыходам нейкіх людзей, што мелі дачыненне да стэпу Зразумела, курганам Латвіі і Летувы далёка да стэпавых па вышыні Але пасярод лясоў насыпаць высокія курганы і не было патрэбы Тут захоўваліся (і захаваліся да нашых дзён) і значна ніжэйшыя Можна было іх і ўвогуле не насыпаць. Але адмовіцца ад курганоў адразу не даваў звычай, што, можа, трымаўся тысячы гадоў

*дзівака. Карэспандэнт убачыла, што жылі мы з маці і братам вельмі бедна, што сам я быў малы і змучаны голадам. Вынікам гэтага візіту, які нарабіў шмат размоў у Беразяках, была мая адпраўка ў «Артэк» на дзве змены. На гэтым рэдакцыя не спынілася і ўгаварыла маю маці аддаць мяне ў дзіцячы дом, каб я змог скончыць школу І ў канцы сакавіка 1953 года я апынуўся ў магілёўскім дзіцячым доме № 1 .»*

(З ліста І. Ласкова аўтару 10 лістапада 1990 г.)

Дзіцячы дом – вось школа... Дзіцячыя дамы – і пачатак дарогі Віктара Казько, які ж таксама спярша пісаў па-руску Прыклады можна доўжыць... Адзін з іх з глебы чужаземнай – з туркменскай, але з той жа, савецкай, рэчаіснасці. Дык вось у Туркменіі набралі дзетак з шматдзетных сем'яў і павезлі ў дзіцячы дом у Расію. Наўмысна. Мелі за мэту выхаваць савецкіх кіраўнікоў з туркменскімі тварамі. Выхавалі. Тыя дзетдомаўцы пайшлі ў літаратуру, у кіно, у выяўленчае мастацтва, у армію. І як бы таго хто ні хацеў – сталіся большымі нацыяналістамі, чым іх браты, якія засталіся ў самых далёкіх аулах.

Першыя літаратурныя крокі Івана Ласкова звязаны з рускай паэзіяй. У 1966 годзе ў Мінску выйшла кніга вершаў «Стихия» Яшчэ праз тры гады – «Белое небо» Каб чытач зразумеў, што гэта зусім не кніжкі «местачковай» літаратуры па-руску, варта згадаць, дзе, у якім з перыядычных выданняў знайшлося месца і вершам беларускага хлоп-

# МЫТВА

Гэта быў першы аўтар, артыкул якога – «Нашчадкі таямнічае літвы» – мне давялося рэдагаваць у часопісе «Полымя» на пасадзе загадчыка аддзела навукі і культуры. «Рэдагаваць» гучна сказана, артыкул быў напісаны выдатнай мовай, чытаўся на адным дыханні, таму ўся падрыхтоўка яго да друку звялася да наклейвання «шапкі». Я адаслаў аўтару звычайнае рэдакцыйнае паведамленне – на які нумар артыкул запланаваны. Неўзабаве і нечакана для мяне ў адказ прыйшоў вялікі ліст. Так пачалася наша перапіска, якая доўжылася каля двух гадоў.

З самім Іванам Антонавічам я бачыўся разы два ці тры, і ўсё неяк на хаду: то ён, то я некуды спяшаліся і так толкам і не пагаварылі. Запомніўся эпізод з апошняй сустрэчы. Іван Антонавіч, ужо развітаўшыся, нейкі час яшчэ таптаўся ў дзвярах кабінета, быццам збіраўся з духам, потым неяк сарамліва, ціхім голасам папытаў: «Ці ёсць... якія водгукі на мой артыкул?» (Гэты момант я выкарыстоўваю ў сваёй аповесці «Такое кароткае лета».) Адзін водгук быў – злое, нават абразлівае пісьмо (пра яго яшчэ будзе гаворка). Вядома, я не паказаў яго Ласкову. І цяпер думаю, што зрабіў правільна.

Большую частку жыцця Ласкоў, як вядома, правёў у Якуцку, таму, бадай, адзінай трывалай сувяззю яго з радзімаю было ліставанне. Я ўпэўнены, што менавіта шматлікія пісьмы ў значнай ступені ўдасканальвалі яго мову, дапамагалі шліфаваць стыль, дысцыплінавалі думкі, – словам, духоўна фармавалі гэтага выдатнага публіцыста, навукоўца, празаіка і паэта. Паглядзіце, як пачынаецца адно з яго пісем:

«Шаноўны Андрэй Міхайлавіч! Дзякуй за добрую вестку (што артыкул прыняты да друку. – *А.Ф.*). У чацьвёрты нумар або восьмы –вялікага значэньня ня мае (Ласкоў карыстаўся дарэфармовым правапісам. – *А Ф* ). Працуем для вечнасьці...

Вас цікавіць, адкуль паходзіць назва Вашай рэчкі *Мытва*. А ў Ельскім раёне, пішаце Вы, на гэтай самай рэчцы ёсьць вёсачка Мытва. І пытаецеся: «Як Вы лічыце, што гэтая назва абазначае? Ці ёсьць нейкая сувязь Мыт – мытня – таможня (мяжа) з Украінай?»

В. Жучкевіч (гл. ягоны «Краткий топонимический словарь Белоруссии») на гэтае пытаньне Вам адказвае так: «*Мытва* – река, пр. Припяти. Название считается балтийским по происхождению (Кочубинский; Топоров и Трубачев; Погодин) при условии, что первоначальной формой названия была *Митава* (сопоставимо с латышским *Митава*). Возможно, современная форма по-

**ца – у «Новом мире». Былі і іншыя публікацыі – у Маскве, Ленінградзе.**

*« .. Першая беларуская кніжка вершаў «Кружное лета». Я на яе вельмі разлічваў у прапагандысцкім сэнсе. Яна павінна была прагучаць заклікам да беларусаў павярнуцца тварам да беларускасці. Усё ж такі я быў не апошні хлопец на вёсцы, выдаў дзве кнігі на рускай мове, друкаваўся ў Маскве, Ленінградзе. Вяртанне да роднай мовы павінна было прагучаць. Але гэта разумелі і ворагі беларускасці. Былі прыняты меры. На кніжцы ўказалі тыраж 5 000 На самой жа справе выпусцілі толькі палову –2.500. Увесь гэты тыраж быў накіраваны ва ўскраінныя вобласці Беларусі, г.зн. ва ўсе, апрача Мінскай. У Мінску кніжка не прадавалася – г.зн., там, дзе найбольш свядомага беларускага чытача. Я ўжо жыў тады ў Якуцку і нічога пра гэта не ведаў, а мой сябра, якога я прасіў <. > купіць «Кружное лета» для мяне, проста збіўся з ног, шукаючы зборнік. Спецыяльна ездзіў у Магілёў і яшчэ некуды.*

*Такім чынам, 90 працэнтаў беларускіх пісьменнікаў «Кружнога лета» не бачылі ў вочы. У друку былі тры рэцэнзіі. адна з Гомеля (не памятаю, чыя), адна з Магілёва (А. Пысіна), адна з Брэста (А. Разанава). Прытым адчувалася, што рэцэнзіі «стрыглі».*

**Адкрыўшы для сябе Беларусь, Іван Ласкоў патрапіў у .. Якуцію. На Поўнач завяла яго жонка –**

Цяпер пра захаванні коней, што ўзнікаюць ва ўсходняй Летуве (і на прылеглых мясцінах Беларусі) адначасова з курганамі Ці маглі людзі, якія жылі тут спрадвечна, – раптам, без дай прычыны ўвесці такі своеасаблівы звычай? Давайце разбірацца. Летува, як і Беларусь, край лясны і сёння, а паўтары тысячы гадоў назад, мусібыць, уяўляў з сябе амаль непраходныя нетры. Чым жа займаўся ейны жыхар у тыя часы? «На жаль, – піша В Сядоў, – ворыўных прыладаў працы (плуга, сахі – *І.Л*) у помніках другой паловы I тысячагоддзя н.э. (у Летуве – *І.Л.*) пакуль не знойдзена» (ФУБ, с. 395) Ворыўнае земляробства тут узнікла толькі ў XIII стагоддзі. Значыць, у IV–V стагоддзях было толькі прымітыўнае, матычнае земляробства, якое амаль не прыносіла плёну і для якога конь не быў патрэбны. Чым жа тады карміўся чалавек? Зразумела, тым, чым да ўзнікнення земляробства ўвогуле – паляўнічай ды рыбацкай здабычай А ці вялікую карысць мог прынесці на паляванні або рыбацтве конь? Гнацца за дзічынай па пушчанскіх нетрах на кані немагчыма, на ім можна толькі даехаць да месца палявання ды адвезці дадому здобыч, але ж у краі, парэзаным рэкамі і рачулкамі, гэта зручней было рабіць на лодцы. Што ж да рыбацтва, то ў ім лодка мае перад канём такія ўражальныя перавагі, што іх і даводзіць не трэба. Лодка была і галоўным транспартным сродкам Што ж заставалася на долю каня? Імчаць конніка ў бітву? Але ці былі тады ў Летуве конныя войскі? Вельмі сумніўна.

Трэба дадаць яшчэ і такую акалічнасць. У лясах Летувы, як і Беларусі, доўгі час (аж да канца XVIII стагоддзя) захоўваліся дзікія лясныя коні Людзі на іх палявалі, іхняе мяса ўжывалася ў ежу Зразумела, аднак, што галоўным аб'ектам палявання лясны конь быць не мог: на гэтую ролю прыдаваліся алені, дзікі, зубры і інш , з больш смачным мясам.

Ужывалася ў ежу і малако кабыл Але, ізноў-такі, ці магло тое малако канкурыраваць з малаком каровы? Таму ў гаспадарках утрымлівалася значна больш рагатага быдла, чым коней І, як паказвае астэалагічны матэрыял тагачасных паселішчаў, на першым месцы ў ім ідуць косткі кароў, на другім – свіней, на трэцім – козаў ды авечак (ФУБ, с. 396)

**явилась в результате сближения непонятной балтийской со славянской основой *мыть*, хотя допустимо и славянское происхождение от *Мытовь* (сравн. *мыто, мытище*) со смысловым значением «*пошлина*, таможенный сбор». Последнее вполне вероятно, исходя из географического положения реки, представляющей типичный рубеж на историческом пути вдоль Припяти». Як бачыце, мае цца саюзніка (праўда, ён ужо на тым сьвеце). Але піша ён лухту. Рэкі на Беларусі, навat і такія невялікія, як Мытва, атрымалі назвы задоўга да зьяўленьня мытняў...»**

**Лісты (пісьмы) раней лічыліся жанрам, такім як і аповесць, раман, і яны, лісты, патрабавалі пэўных правілаў напісання: так, напрыклад, адказваючы адрасату, перш неабходна было слова ў слова паўтарыць яго пытанне, і толькі потым даваць адказ. Лісты Ласкова я назваў бы класічнымі ў гэтым плане.**

**Вы, шаноўныя чытачы, відаць, звярнулі ўвагу на цвёрдыя, безапеляцыйныя словы Івана Антонавіча: «Але піша ён (В. Жучкевіч. – *А.Ф.*) лухту». Мушу ў гэтым месцы вярнуцца да таго злога ліста-водгуку, пра які ўжо згадвалася вышэй. Вядома, што людзі, моцна апантаныя якойсьці адной ідэяй, якія змушаны гадамі вусна і публічна адстойваць свае погляды, паступова, з часам, набываюць своеасаблівую зацятасць, нават хваравітасць, робіцца бязлітаснымі да апанентаў, асабліва калі гэтыя апаненты ў сваю чаргу таксама гатовы біцца на смерць, не**





Што ж атрымліваецца у гаспадарцы больш карыснай, чым конь, была карова, як аб'ект палявання важнейшым быў алень і дзік, у ваеннай справе конь яшчэ не ўжываўся. . Чаму ж менавіта каня сталі хаваць разам з людзьмі?

Сакрэт, несумненна, у тым, што гэта рабілі зусім не тыя людзі, якія жылі ў Летуве спрадвеку Гэта падкрэсліваецца яшчэ і тым, што не ўсе жыхары Летувы ўзялі звычай на ўзбраенне «жамойты» ж хаваць коней не сталі! Гэта рабілі толькі «літва» ды «аўкштота» Значыць, яны і прынеслі аднекуль звычай Адкуль? Адтуль жа, што і курганны абрад. са стэпаў або з тэрыторый, памежных са стэпам.

Для таго, каб паверыць у гэта, давайце падумаем, чым быў конь для стэпавіка Чалавек стэпаў земляробствам, як і лоўляй рыбы, не займаўся зусім. Яго галоўнай крыніцай жыцця была качавая жывёлагадоўля – выпасванне статкаў Ад іх качэўнік атрымліваў мяса і малако, скуры для сваёй вопраткі, воўну для лямцавых юртаў Зразумела, што для таго, каб забяспечыць усім гэтым сем'і, што харчаваліся без хлеба, без гародніны, статкі мусілі быць вельмі вялікімі – у сотні і тысячы авечак, кароў і іншага быдла

Адкуль жа ўзялося ў чалавека гэтулькі жывёлы?

Розныя даследчыкі, у тым ліку і нашы сучаснікі, выказваюцца ў тым сэнсе, што качавая жывёлагадоўля вырасла з аседлай, г зн спачатку чалавек прыручыў у адзінкавай колькасці маладняк розных дзікіх жывёлаў, а потым, размножыўшы вялікія статкі, пусціўся з імі ў бясконцую вандроўку па стэпах (гл В А. Шнирельман Происхождение скотоводства М , 1980, с. 237 і далей) Мабыць, аўтары падобных выказванняў не разумеюць самі, што пішуць. Можа, качэўніку ягонае жыццё і здаецца нармальным, чымсьці прывабным, але ж зусім іншы пагляд на качэўніцтва ў аселых земляробаў Аселы мае трывалы, надзейны дом, участак зямлі, на якім ён можа рабіць усё, што яму трэба, усё, што зробіць, застаецца пры ім, ён мае пастаянную і надзейную крыніцу ежы – свае палеткі Калі ж у яго яшчэ і шмат быдла, дык ягонае жыццё ўвогуле робіцца сытым і заможным Качэўнік вымушаны пастаянна цягацца за сваімі статкамі, жыць у шатры, што мала засланяе ад сцюжы, круглыя суткі пасвіць ды ахоўваць ад

**Валянціна Гаўрылева, аднакашніца па вучобе ў Літаратурным інстытуце імя Горкага. Дарэчы, для Ласкова гэта была ўжо другая вышэйшая адукацыя. Да Літінстытута паэт паспеў закончыць хімічны факультэт Белдзяржуніверсітэта.**

**У Якуціі Ласкоў працягвае пісаць па-беларуску Таму за час яго якуцкага адрыву (на жаль, ужо вечнага) у Мінску выйшла кніжка апавяданняў «Чароўны камень», зборнік аповесцяў «На падводных крылах», і асобным выданнем паэма «Кульга». А яшчэ ж артыкулы, што друкаваліся ў «Літаратуры і мастацтве», часопісе «Полымя». А яшчэ ж процьма ненадрукаванага. Але жыццёвыя акалічнасці прымушалі Івана Ласкова працаваць і на рускай мове. Пісьменнік шмат перакладае. У Маскве выходзяць перакладзеныя ім кнігі якуцкіх празаікаў Займаецца Іван Ласкоў і крытыкай, публіцыстыкай. Збірае матэрыял для рамана пра лёсы беларускіх паўстанцаў-каліноўцаў пасля іх высылкі ў Сібір..**

**У 1974 годзе на рускай мове выйшла паэма «Хромец». А ў 1985 годзе ў Мінску – «Кульга» .. Жывучы ў Туркменіі, недзе ў 1987 (ці напачатку 1988 г ) я прапанаваў вялікую рэцэнзію на «Кульгу» ў газету «Эдебйят ве сунгат». Размова ў творы – пра Сярэднюю Азію, пра Тамерлана. Як быццам туркменскую пісьменніцкую газету павінна было б зацікавіць. Ды дарэмным быў мой клопат. Антытамерланаўскі, антыдыктатурны твор насцярожыў...**

*«. Праўда ж <. > у тым, што паэма скіравана не столькі*

**выбіраючы сродкаў. Працытую пачатак таго водгуку, які не адважыўся паказаць Ласкову:**

**«Паважаны спадар Законнікаў!**

**Звярнуцца да вас прымусіла публікацыя артыкула І. Ласкова ў № 8, а таксама вестка аб присуджэнні прэміі вашага часопіса гэтаму аўтару. Каюся, што не напісала гэтае пісьмо раней, хаця парывы такія былі. Але цяпер я хварэю і маю колькі свабоднага часу. Хаця прызнаюся, мне шкада траціць астаткі свайго здароўя на маланавуковыя домыслы таварыша Ласкова.**

**Аднаго разу я ўжо мела гонар выступіць з крытыкай тэорый Ласкова ў «ЛіМе». Але, пэўна, сэнс крытыкі так і не дайшоў да аўтара...» і г.д.**

**Таксама звярніце ўвагу: «шкада траціць астаткі свайго здароўя»... Успомніце: «але піша ён лухту»... Чытаю гэта і лаўлю сябе на думцы: зразумела, мне цікава, адкуль пайшла назва маёй рэчкі Мытвы, і дзякуй Богу, што ёсць людзі, якія з гэтым пытаннем разбіраюцца... Але калі я, скажам, налавіў у той жа Мытве рыбы, збіраюся на беразе ладзіць юшку, шчаслівы, задаволены сабою і жыццём, разгортваю газету, у якой цыбуля, кроп, баначкі з прыправамі, і раптам чытаю ў гэтай разгорнутай газеце, што адукаваныя людзі недзе далёка-далёка «трацяць астаткі свайго здароўя», злуюць, абражаюць адзін аднога выключна з-за таго, як лепш расшыфраваць назву вось гэтай ціхай, з туманам і камарэчай над вадою, рачул-**

*супраць Тамерлана і яго абаронцаў, і тым болей не супраць Гітлера, які ў паэме з'яўляецца фігурай, што адцягвае ўвагу цэнзараў, а супраць Сталіна і сталінізму. Гэта добра адчулі тыя з маіх чытачоў, якія самі антысталіністы – рускія паэты Прэлоўскі, Еўтушэнка і інш. Была такая старэнькая – Неўская. У трыццатыя гады яна была пасаджана ў калымскі лагер, дзе праседзела 18 год. . Прачытаўшы «Хромца», яна адразу стала называць Сталіна «Тамерланам». «Хромца» Берта Аляксандраўна распаўсюджвала сярод сваіх таварышаў па рэпрэсіях. Мабыць, яны былі такой жа думкі. У кнізе Валкагонава «Триумф и трагедия» ёсць ліст аднаго з такіх масквічоў да Валкагонава, дзе стары піша пра сябе і сваю сям`ю. «Проклятый Тамерлан всё истребил, всё истоптал». Не магу праверыць, ці гэтае «проклятый Тамерлан» (маецца на ўвазе Сталін) ідзе ад маёй паэмы або ў нас з ім такая роднасць душ і поглядаў».*

**(З ліста Івана Ласкова аўтару 19 снежня 1990 г )**

**Як для мяне асабіста, дык «Кульга» ёсць адна з найцікавейшых, найярчэйшых паэм у беларускай паэзіі апошніх дзесяцігоддзяў І можна толькі падзівіцца, што крытыка не піша пра гэта. Як быццам з дыктатурай змагаўся ва ўсе мінулыя гады кожны другі беларускі пісьменнік. Іван Ласкоў словам сваім змагаўся. І гэта відавочна. «Кульга» – яркае выяўленне яго барацьбы.**

*« Антысталінская накіраванасць паэмы зусім не схаваная, трэба толькі быць уважлівым чытачом. Паглядзіце: Тамерлан рэдагуе сваю біяграфію, як Сталін. Тамерлана ўсхваляюць прыдворныя паэты, як Сталіна. Тамерлан ухваляе ў сваёй дзяржаве практыку даносаў і рэпрэсій («Вочы і вушы», «Балада пра данос»), Тамерлан марыць пра бяссмерце – як Сталін. Смерць Тамерлана аплаквае народ – як смерць Сталіна. Нарэшце, Тамерлана перакладаюць з труны ў труну – як Сталіна.*

*Усё, што напісана пра Тамерлана,* ***не*** *(тут і далей падкрэслена І. Ласковым. –* ***А.К.****) выдумана мной, каб падагнаць пад Сталіна. Гэта –* ***тыпалогія*** *тыранава. Кожны тыран знішчае працаўнікаў і невінаватых людзей, кожны тыран стварае ў дзяржаве лад даносаў і рэпрэсій, кожны тыран марыць аб вечнай славе, і кожнага тырана развенчваюць. І ў той самы час у кожнага тырана застаюцца прыхільнікі, што дамагаюцца і праз вякі маральнай рэабілітацыі злачынцы. Адсюль і неагітлерызм, і неатамерланізм, што мае месца ва Узбекістане, і неасталінізм – да яго мы, можа, яшчэ дажывем. Я лічу, што мая паэма яшчэ не раз спатрэбіцца людзям у барацьбе супраць тыранаў».*

**(З ліста І. Ласкова аўтару 13 снежня 1990 г )**

**Пасля 1991 года Ласкоў на Беларусь ужо не прыязджаў. Быў вельмі загружаны працай. Займаўся кнігай («... у кожнага свая дзялянка. Апошнім часам, напрыклад, я вельмі шмат працую над тым, каб кі, – мне гэта здасца незразумелым, далёкім, скажу нават – не вельмі важным, я нават буду пачуваць сябе вінаватым – бо робіцца ж гэтае тлумачэнне і вядзецца вайна паміж людзьмі нібыта і *для мяне* таксама, з-за мяне... І я падумаю тады· Мытва з тлумачэннем свае назвы балтыйскага ці комі-угорскага яна паходжання – шмат чакала і яшчэ можа пачакаць, а жыццё чалавечае – адно, і страчанага здароўя ніхто не верне...**

**Некалі Чэхаў прызнаваўся: «Я не ведаю, не магу сказаць, чаму мне падабаецца Шэкспір і не падабаецца Златаўрацкі», і тлумачыў сваю любоў да Шэкспіра (як і да Талстога) «магнетызмам іхняга стылю». І.А. Ласкоў, можа, як ніводзін беларускі публіцыст, даследчык, навуковец валодаў менавіта гэтай якасцю *магнетызмам стылю*. Ён не абганяў чытача, не стараўся «аглушыць» яго навуковасцю і туманнымі абстрактнымі тэзісамі, а прапаноўваў ісці побач з ім, часам нават знарок ствараючы ілюзію, што чытач абганяе яго, і тады здавалася, не ён, Ласкоў, а ты, чытач, робіш адкрыцці, яны твае.**

**Таму, думаю, заслуга І.А. Ласкова перад беларускай літаратурай і навукаю не столькі ў яго, сапраўды, даволі спрэчных гіпотэзах, колькі ў ідэальным прыкладзе падачы матэрыялу для навуковых прац. Яго творы, нават выключна дакументальнага плану, вядуць за сабою, «запальваюць», будзяць розум, прымушаюць шукаць – і знаходзіць! – там, дзе, здавалася б, усё даўно ўтрамбавана, даўно забрукавана каменнямі-глыбамі ранейшых тэорый.**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

драпежнікаў сваё быдла, мець рэчаў не болей, чым можна вазіць з сабой Таму ў гісторыі невядомыя выпадкі, калі б аселыя земляробы сталі качэўнікамі-жывёлаводамі А калі ў каго з'яўляўся лішак быдла, то яго ж можна было або з'есці, або прадаць. Такім чынам, такая схема ўзнікнення качавой жывёлагадоўлі выключаецца

А якой яна была ў сапраўднасці? Геніяльную думку на гэты конт яшчэ ў 1900 годзе выказаў польскі пісьменнік, даследчык этнаграфіі якутаў Вацлаў Серашэўскі. Незлічоныя статкі капытных авечак, кароў, коней і іншых – існавалі ў стэпах спрадвечна, і чалавек тут абсалютна ні пры чым Ён на зары свайго існавання паляваў у пушчах, дзе заўсёды можна высачыць здобыч, паставіць пастку, выкапаць яму і гэтак далей Але звяры ў лясах рэдка ходзяць вялікімі чародамі Каб падтрымліваць сваё жыццё, паляўнічы мусіў увесь час шукаць і шукаць здабычу Таму ён з зайздрасцю глядзеў на вялікія статкі жывёлаў, што насіліся сюд-туд па стэпах і тундрах І вось аднойчы ён адважыўся выбрацца ў стэп, каб болей у лес не вяртацца. З гэтага часу людзі, што сталі стэпавікамі (або тундравікамі), ужо не адставалі ад статкаў, да якіх прымацаваліся, як абцугамі Жывучы гэтымі статкамі, яны адначасова і ахоўвалі іх ад ваўкоў, чым зберагалі для сябе болей мяса Ішлі стагоддзі Паступова жывёлы сталі прывыкаць да таго, што ўслед за імі нястомна ідзе двухногае стварэнне, рэжа іх і доіць, а калі трэба, і ратуе

Я тут не цытую Серашэўскага, а хутчэй развіваю ягоную думку, выказаную даволі скупа (гл. W Sieroszewski Dzieła. Kraków, 1961, t. XVII(I), s. 161–162) Як усё геніяльнае, яна надзвычай простая і відавочная Чаму ж да яе не прыйшоў ніхто іншы? Мусіць, таму, што еўрапейская навука мае вельмі цьмянае ўяўленне пра прыроду стэпаў і жыццё качэўнікаў У прыватнасці, даследчыкі не ведаюць, што яшчэ да нядаўняга часу ў стэпах меліся вялікія статкі не толькі свойскія, але і дзікія, а ў тундрах і сёння дзікіх аленяў амаль гэтулькі ж, як і свойскіх; што стэпавае і тундравае свойскае быдла і да гэтага часу напалову дзікае і як толькі апека чалавека над ім прыпыняецца, вельмі хутка зусім дзічэе У прыватнасці, свойскае аленяводства штогод губляе шмат пагалоўя з-за таго, што свойскія алені ўцякаюць да дзікіх. Таму немагчыма не пагадзіцца з Серашэўскім, калі ён піша, што прыручэнне статкаў цягнулася стагоддзі Чалавек жа не прыносіў статкам вялікай карысці Ён іх нічым не карміў, сена ім не касіў· стэпавыя капытныя пасвяцца круглы год, і зімой здабываюць сухую траву з-пад снегу, якога тут вельмі мала. Чалавек у стэпе прападзе без статку, а статак без чалавека можа жыць.

Безумоўна, са стэпавага быдла першай была асвоеная авечка, –за авечкамі чалавеку цікаваць было лягчэй. І няма аніякага сумніву, што апошнімі былі прыручаныя табуны коней – самай хуткаходнай жывёліны стэпу Але, вядома, асобныя коні, выгадаваныя са злоўленых жарабятаў, паявіліся ў качэўнікаў задоўга да конскіх табуноў Вось гэта і стала пераломным момантам у гісторыі стэпу Сеўшы на каня, чалавек стаў гаспадаром бязмежных прастораў. Цяпер ён мог без цяжкасці дагнаць свой статак і накіраваць яго ў патрэбным кірунку Коннік мог адначасова сачыць і за некалькімі статкамі, што без каня аніяк не ўдавалася

Такую вялізную ролю адыграў конь ва ўмацаванні стэпавага ладу жыцця І ўжо за адно гэта стэпавік павінен быў абагаўляць каня А гэта ж яшчэ не ўсё Едучы на кані, чалавек ужо не трапляў пад капыты і рогі быкоў; болей паспяхова змагаўся з ваўкамі Далей стэпавік карміўся не толькі свойскімі статкамі Важнае месца ў ягоным жыцці займала і паляванне на яшчэ дзікіх капытных А стэп «прастрэльваецца» вачмі на шмат кіламетраў. Падкрасціся да дзікага быдла, калі яно пасвіцца на адкрытай прасторы, немагчыма На кані ж яго можна проста дагнаць Калі ж у стэпе, дзе фактычна няма дзе схавацца, пачаліся ўзброеныя сутычкі паміж людзьмі, а потым і войны, дык і цяпер чалавек на кані меў перад пешым каласальную перавагу, бо мог імкліва напасці і гэтак жа імкліва ўцячы, а чалавек без каня аказваўся цалкам безабаронны.

Дый увогуле што такое чалавек без каня ў стэпе? Ён асуджаны на гібель, на смерць, бо не ў стане здабыць сабе ежу Дык, можа, той першабытны паляўнічы, што ўпершыню выйшаў з лесу ў стэп, ужо меў каня? Мы ж ведаем, што, апрача стэпавага, быў яшчэ і лясны конь,

# НІКОЛІ НЕ ДАРУЮЦЬ НАМ

*(Не зусім фантастычныя разважанні)*

**Сустракацца з паэтам і вучоным Іванам Ласковым (так рана пайшоўшым ад нас) ці то ў яго таленавітай паэзіі, ці то ў яго дасціпнай навуковай публіцыстыцы, ці то ў самім жыцці было і радасна, і карысна. Застанецца гэта ў памяці назаўжды І заўсёды ён заклікаў, запрашаў, больш таго – нават «правакаваў» да творчасці, сведкам чаму хай будзе і гэты мой невялікі артыкул**

**Ад падарожжаў разам з І. Ласковым па слядах нашых далёкіх продкаў і іх суседзяў заўсёды атрымліваеш інтэлектуальную асалоду Куды б часам мы ні траплялі з глыбокапаважаным гідам, чытаць яго без захаплення і зацікаўленасці, скажам шчыра, немагчыма. І заўсёды на публікацыі І. Ласкова хочацца адгукнуцца. Гэта тычыцца і яго матэрыялу «Дагістарычныя блуканні: літва і жамойць» (ЛіМ, № 18–19 за 1993 г.). Праўда, аўтар тут, прадчуваючы закіды-пытанні· «якім жа было паходжанне сапраўднай літвы?, якой магла быць ейная мова?, чаму літва апынулася там, дзе бліснула і знікла?», як бы хоча прадухіліць, папярэдзіць іх за-**

**давесці справядлівасць сваёй гіпотэзы, выказанай у артыкуле «Племя пяці родаў» (угра-фінскае паходжанне летапіснай Літвы). Матэрыялу назапашана ўжо шмат, але праца яшчэ далёка не скончана».) І яшчэ згадка: «Мая кніга пра беларускую фінавугоршчыну ў чарнавіку напісана. Недзе 700 старонак на машынцы...» Можа здарыцца, што чытач усё ж атрымае гэтую кнігу.. Можа здарыцца...**

**Напрыканцы жыцця пісьменніка чакала новае выпрабаванне. Наш зямляк, збіраючы матэрыялы пра рэпрэсаваных беларусаў, прабіўся ў архіў КДБ Якуцкай АССР. Там і пазнаёміўся з справай Платона Айунскага, пачынальніка якуцкай савецкай літаратуры, які таксама стаўся ахвярай. Праўда, як высветлілася, «герой» працаваў на КДБ ды «здаў» шмат каго з відных дзеячоў Якуціі. Пра гэта Ласкоў і напісаў дакументальную праўду (артыкул «Драма паэта» ў газеце «Молодежь Якутии», 9 ліпеня 1993 года). Што тут пачалося!.. Мусіць, не было газеты, якая б не друкавала гнеўных лістоў з месцаў З пісьма ў газету «Молодежь Якутии»: «27 июля состоялось заседание правления Союза писателей Якутии, на котором была всесторонне обсуждена опубликованная в вашей газете серия статей И. Ласкова «Драма поэта», посвященная последним дням П.А. Ойунского... Автор издевательски пишет, что он в тюрьме сочинял свои показания, «словно бы трудился над последним томом своих сочинений» Какое кощунство! И это пишет средней руки литератор о выдающемся писателе, большом общественном и государственном деятеле... Мы с данной статьей Ласкова знакомы давно: года два тому назад под видом рецензии на книгу И. Николаева, И. Ушницкого «Центральное» дело» он в журнале «Полярная звезда», без ведома редколлегии, тайком пытался протащить ее. Тогда эта акция у него не прошла – члены редколлегии единодушно отвергли ее как явно клеветническую и приостановили публикацию. Но как показывает время, не остудил свой «разоблачительный» пыл И. Ласков, давно и систематически занимающийся очернительством лучших представителей якутского народа (когда-то за подобные попытки он был осужден на секретариате правления СП РСФСР).**

**... Мы, участники расширенного заседания правления Союза писателей Якутии, основанного П.А. Ойунским, настоящим письмом заявляем решительный протест проискам хулиганствующего хулителя Ласкова и требуем: прочь руки от Ойунского! Выражаем надежду, что творческий союз, членом которого является вышеупомянутый господин, если тот не солидарен с ним, скажет свое веское слово и сделает соответствующие выводы. .»**

**Чым не 37 год?. Засталося толькі апеліраваць да КДБ...**

**Неўзабаве пасля гэтых падзей Іван Ласкоў памёр (28 чэрвеня 1994 года ад інсульта). Няма сумнення, што да яго раптоўнай смерці прычыніліся спадчыннікі Тамерлана – калі не фізічна, то маральна.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

жарабятаў якога мог прыручыць пушчанскі паляўнічы. Бо вельмі цяжка ўявіць сабе, як мог чалавек пешкі рухацца хаця б за статкам авечак. Тыя статкі ж прывыклі ўцякаць ад ваўкоў, дык мусілі бегаць дастаткова хутка.

У качэўнікаў дзіця – хоць хлопца, хоць дзяўчынку – саджалі на каня, калі яно яшчэ і хадзіць не ўмела. І не злазіў з сядла чалавек аж да смяротнай хваробы, бо яно праз усё жыццё было ягоным рабочым месцам А колькі разнастайных абрадаў ды гульняў звязана ў стэпавікоў з канём! Колькі аб ім складзена казак, песняў, легенд!

Такім чынам, пры жыцці стэпавік быў непадзельны з канём Натуральна, што, паводле рэлігійных уяўленняў, конь мусіў служыць чалавеку і пасля смерці

Этнаграфія стэпавікоў вывучаная слаба, працы па ёй рэдкія і скупыя. Але ці варта сумнявацца, што звычай хаваць чалавека з канём ідзе ад стэпавікоў, для якіх, па-першае, конь так шмат значыў і, па-другое, якія мелі коней дастаткова, каб іх нават хаваць. Прынамсі, качэўнікі-венгры такі звычай мелі. І іх дахрысціянскія могільнікі якраз такія – тут пераважалі захаванні з канём (ФУБ, с. 327)

Такім чынам, звычай хаваць нябожчыкаў у курганах ды яшчэ з канём – безумоўна аніяк не мог скласціся сам сабой у лясной Летуве Хто ж яго прынёс сюды? Летапісная літва? Але ж мы назву «літва» пераклалі ўжо як «балотнае племя», а не «стэпавае»

Праўда, мы не ведаем, колькі часу літва жыла на Олце і адкуль яна туды прыйшла. А што пермскія плямёны займалі Дунайскі басейн не спрадвечна – гэта ясна: тыя рэкі, што ў ім носяць цяпер пермскія імёны, у часы Герадота называліся інакш. А вось што піша БСЭ (выд. 2-е, т 37, с. 337) «У 6 ст да н.э на тэрыторыю Румыніі пранікаюць з усходу качэўнікі-скіфы» Скіфаў мы прывыклі лічыць іранамоўнымі Але гэта агульная грэцкая назва вялікай колькасці розных плямёнаў. І хто сказаў, што ўсе яны былі іранскімі? У пермскіх мовах шмат іранскіх словаў. Ці не ад іранамоўных скіфаў часткова запазычваліся яны? У сваю чаргу, і скіфы мелі пермскія словы. «Греческо-русский словарь» 1899 года (складальнік А. Вейсман) з указаннем «скіфскае» падае *ENAREEC* (энарээс) «жанчынападобны мужчына» А ў комі мовах *энь* –«самка»

Адсюль вынікае, што пярмяне, у тым ліку і продкі літвы, цалкам маглі быць сярод скіфаў і разам з імі «пранікнуць» у Румынію. Тут, у новых умовах жыцця, яны маглі і асесці на балотах, страціўшы большую частку быдла, што прыгналі са стэпаў, але захаваўшы стэпавы пахавальны абрад. Рэлігійныя ўяўленні паганаў – рэч выключна трывалая, у чым пераканалася не адно пакаленне місіянераў, што спрабавалі хрысціянізаваць літву

Стэпавыя звычаі маглі трымацца ў «абалотненай» олцкай літвы яшчэ і таму, што побач безупынку пераносіліся ўсё новыя качэўнікі. сарматы, гуны ды іншыя І ўсё ж: разважанні – не факты Вось калі б мы цвёрда ведалі, што на Олце маюцца курганныя захаванні з канём, то можна было б прама звязаць іх з усходнелітоўскімі курганамі Ды, на жаль, літаратуру па археалогіі Румыніі адшукаць не ўдалося.

Таму паспрабуем пайсці іншым шляхам. На працягу ўсёй гэтай кнігі даводзілася, што літва была этнасам пермскім А што пішуць пра пахавальныя звычаі прыўральскіх пермскіх тэрыторый?

З працы «Финно-угры и балты в эпоху средневековья» вынікае, што ў Комі рэспубліцы і Пермскай вобласці ў першым тысячагоддзі нашай эры было шырока распаўсюджанае як трупапакладанне, так і трупаспальванне. Большасць захаванняў – грунтавыя (без насыпаў). Але ў Верхнім Прыкам і маецца вялікая група *курганных* магільнікаў Захаванні ў іх бірытуальныя, г.зн як па спосабу трупапакладання, так і трупаспальвання «Карпатлівы аналіз пахавальнага інвентара паказаў, што ён датуецца часам ад IV да VII стагоддзяў» (ФУБ, с 146) Нагадаю, што і ва ўсходняй Летуве курганы, напачатку з трупапакладаннямі, з`явіліся ўпершыню ў IV стагоддзі Такім чынам, паміж верхняпермскімі і ўсходнелітоўскімі курганамі можна праводзіць паралель. Але вось якая рэч у Комі рэспубліцы і Пермскай вобласці пакуль што не знойдзена захаванняў з канём, якія з`яўляюцца галоўнай адзнакай археалагічнага гарызонту ўсходняй Летувы А коней старажытныя пярмяне мелі, прычым нават болей, чым іншай жывёлы· «У складзе статку былі конь, карова, авечкі. Сярод астэалагічнага матэрыялу на першым мес-

**явай, што «пра ўсё гэта гаворка будзе іншым разам». Гэта значыць, трэба, маўляў, пачакаць. Але ж іншаму чытачу дай сёння ўвязацца ў гаворку. Тым больш, калі канкрэтна такая гаворка нагадвае разглядванне фотакартак, дзе мы знаходзімся ў далёкіх ад сённяшніх нас прасторы і часе. І таму вельмі цяжка адарвацца ад такога непераадольнага жадання, захапляючага занятку. Часам на тых фотаздымках не пазнаеш сам сябе, часам іншых прызнаеш за сябе, а часам і не памятаеш, пры якіх абставінах быў сфатаграфаваны, і г.д.**

**Дык вось, калі мы нейкім чынам робім спробу параўнаць звычайную фотакартку з картай этнаграфічнай (у дынаміцы), дык давайце падумаем над амаль непазнавальнымі таямніцамі гісторыі. Пачнём здалёку, з прыкладу. Здавалася б, ляжыць на паверхні блізкасць, нават роднаснасць нейкай часткі насельніцтва сучасных Іспаніі і Грузіі. Хіба ж амаль не супадаюць старажытная саманазва краіны Дон-Кіхота (Іберыя; ад назвы племя іберaў) і антычная і візантыйская назвы Усходняй Грузіі (Картлі) – Іверыя? Больш таго, назву «іберы» мелі і ўсходнегрузінскія плямёны, якія з`явіліся асновай пры фармаванні грузінскага народа, і старажытныя плямёны Іспаніі: турдэтаны, турдулы і іншыя, якія ў 3–2 стст. да н.э. былі заваяваны рымлянамі і раманізаваны. Але ж мы ведаем, што назвы тыпу «Нікарагуа», «Манагуа» ў былых іспанскіх калоніях сустракаюцца і ў сучаснай Грузіі. Так, прозвішча былога прэм`ера грузінскага ўрада – Сігуа. Хай назвы на «уа» – нават індзейскага паходжання, але ж будзем мецы на ўвазе, што яны не рэдкасць ні ў Іспаніі, ні ў Грузіі. Дарэчы, паміж сённяшнімі грузінамі і іспанскімі баскамі назіраюцца тоесныя рысы характару. А да чаго гэта мы? А да таго, што ў такіх выпадках пры вызначэнні, хто адкуль і куды прыйшоў і як яму ўдалося захавацца, варта браць пад увагу і сённяшні стан (духоўны, маральны, гаспадарчы, культурны і г.д.) тых «прыходзькаў». Думаецца, не варта ўспрымаць некаторую частку балтаў (жамойць – у прыватнасці) як не вельмі самадзейную, як пасіўную і г.д. Шматлікія крыніцы сведчаць, што балты былі не менш ваяўнічымі, чымся ўсе астатнія насельнікі ўсіх рэгіёнаў зямлі ў тыя часы. Жамойты былі своеасаблівым шчытом-поясам паміж Ордэнам і славянствам. Ды і не выпадкова іх саманазва трапіла ў тытул дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Ды і на сённяшні дзень, не асіміляваныя ні немцамі, ні беларусамі, ні палякамі, ні рускімі, яны могуць паслужыць прыкладам для нас, як трэба ратавацца. І таму, зыходзячы і з гэтага пункту гледжання, мы таксама супраць погляду, што балты як этнас склаліся ў Прыбалтыцы і, нікуды не выходзячы пяць тысяч год, жылі там. Балты, як і ўсе этнічныя субстанцыі, таксама былі ў паходзе. А вось адкуль і як – пытанне, думаецца, поруч з тымі, што вырашаліся, вырашаюцца і пры гэтым заўсёды будуць заставацца адкрытымі.**

**Але разгледзім шляхі балтаў як часткі арыяў паводле маланазнаёмых аўтараў. Так, сярод іх амерыканец Р. Аткінсан (іог Рамачарака яго новае імя) у сваёй кнізе «Религии и тайные учения Востока» (СПБ, 1914 г.), абагульняючы вопыт прадстаўнікоў эзатэрычных ведаў, па-**

цы стаяць косткі каня» (ФУБ, с. 126), «у гаспадарцы харынска-ламаватаўскіх плямёнаў галоўную ролю адыгрывала конегадоўля. Сярод косткаў свойскіх жывёлаў косткі каня ўсюды пераважаюць» (ФУБ, с. 150) Як паказваюць археалагічныя знаходкі, коней прыносілі на могілках у ахвяру; відавочна, іх елі на памінках. Але пахаванняў каня не адкрыта Тым часам, пахаванне з канём – звычай настолькі характаралагічны, што не прыняць яго пад увагу нельга Дык што, усходнелітоўскія курганы з конскімі захаваннямі наўрад ці належаць пярмянам?

Але давайце вернемся да пытання, дзе жыла летапісная літва. М. Ермаловіч на падставе летапісных крыніцаў ды тапанімічных дадзеных сцвярджае, што ейны арэал не выходзіў за межы сённяшняй Беларусі А пахаванні з канём амаль не выходзяць за межы Летувы На Беларусі яны агледжваюцца толькі па верхняй Віліі, што геаграфічна непасрэдна звязаная з усходняй Летувой гэтай ракою (гл. Я. Зверуго, с. 27, 8) А на Наваградчыне, Слонімшчыне ды Ваўкавышчыне неславянскіх курганоў вельмі шмат (гл Я Зверуго, карта на с. 8), аднак захаванняў з канём няма А характар захаванняў у тутэйшых курганах прыблізна такі ж, як і ў верхнякамскіх – з трупапакладаннем або трупаспальваннем Розніца толькі тая, што ў могільніках на поўначы рэшткі крэмацыі хаваліся ў падкурганных ямах, а ў тутэйшых – на зямлі пад курганом або ў самім кургане Але і на Беларусі сустракаецца попел у падкурганных ямах (Я Зверуго, с. 23).

Значыць, неславянскія курганы Наваградчыны ды вакольных мясцінаў Беларусі супадаюць з пермскімі, што лішні раз паказвае пермскасць летапіснай літвы, якая жыла тут. А ўсходнелітоўскія курганы з канём? Яны, верагодна, належаць блізкаму (бо курганы іх з чалавечымі рэшткамі такія ж самыя, што і ліцвінскія), але іншаму этнасу Якому?

Энцыклапедыя «Литва» паказвае (гл с 135, карта), што на поўначы літва межавала з *дзялтувой,* а на ўсходзе – з *нальшай* І дарэчы сказаць, на тэрыторыях гэтых плямёнаў усходнелітоўскіх курганоў з конскімі захаваннямі шмат, што паказвае карта 45 у кнізе «Финно-угры и балты в эпоху средневековья» У прыватнасці, тыя адзінкавыя захаванні з канём, што знойдзеныя на Беларусі (верхняя Вілія), размяшчаюцца, згодна з энцыклапедыяй «Литва», на тэрыторыі не літвы, а нальшы Дык ці не лагічна дапусціць, што і ўсе астатнія захаванні з канём належаць дзялтуве ды нальшы?

Энцыклапедыя «Литва» (гл с 135, карта) адводзіць летапіснай літве вельмі вялікі абсяг· ад Наваградка да ўпадзення Віліі ў Нёман А на поўначы гэты абсяг, паводле карты, яшчэ і прыкметна пераходзіць Вілію І калі параўнаць гэта з картай 45 (ФУБ), а таксама дадзенымі Я Зверугі, то атрымліваецца такая дзіўная рэч прыблізна на палове «літоўскай» тэрыторыі распаўсюджаныя захаванні з канём, а на другой палове, паўднёвай, іх няма Так у невялікага племя не бывае, не можа быць.

Таму натуральна ўзнікае думка, што мяжа паміж літвой ды дзялтувой, літвой ды нальшай у энцыклапедыі «Литва» праведзеная няправільна, і што прыблізна на сучаснай беларуска-летувіскай мяжы летапісная літва канчалася, далей пачыналася або дзялтува, або нальша, або і тая, і другая.

Мы практычна нічога не маем ад моваў дзялтувы і нальшы Затое назвы гэтых плямёнаў вельмі красамоўныя. Перш за ўсё, яны цікавыя тым, што рашуча адрозніваюцца ад тых формаў, якія дае Іпацьеўскі летапіс – амаль адзіная крыніца па ранняй гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. дзялтува ў ім – *«дяволтва»* (або *«дявельтва»)*, нальша – *«нальшаны»*. Чаму ж энцыклапедыя «Литва» адмовілася ад гэтых формаў, аддаўшы перавагу «дзялтуве» і «нальшы»? Лічыць іх скажонымі? Але калі скажэнне ішло ў бок ускладнення назвы? Чалавечы язык мае такую ўласцівасць, што любое незразумелае слова схільны ператварыць у штосьці прасцейшае, а не наадварот Так, падобна, і адбылося ў летувіскай гутарковай мове, дзе з *дяволтвы* за стагоддзі атрымалася дзялтува, а з *нальшаны* – нальша. Бо палетувіску і дзялтува і нальша нічога не азначаюць!

Прыслухаемся да слова *дзяволтва*. Нічога не чуеш, чытач? Або ўсё-такі чуеш у сярэдзіне гэтай назвы знаёмае *Олт*? *Дзяволтва* – гэта ж *дзяв-олтва, дзяв-олітва,* наша *літва* з папярэднім *дзяв-* *Дяв-* – гэта нібы азначэнне *літвы* І азначэнне гэтае таксама пермскае па-комі *дав* –

## *З лістоў Івана Ласкова*

**Закінуты лёсам у Якуцію, Ласкоў даваў прыклад такога шчырага служэння беларускай ідэі, якім мала хто можа пахваліцца і жывучы тут Паэт, празаік, крытык, ён у апошнія гады найбольш часу і сіл аддаваў гістарычным доследам. Яго гіпотэза аб фіна-угорскім паходжанні летапіснай літвы – сапраўднае навуковае адкрыццё, плён арыгінальнага, нестандартнага мыслення**

**З дакладам на гэтую тэму Ласкоў павінен быў ехаць у Хельсінкі, на міжнародны кангрэс фіна-угорскіх народаў. Не паспеў.. Не паспеў ён закончыць два раманы і п'есу; сабраць у архівах КДБ звесткі пра ўсіх беларусаў – ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у Якуціі Але паспеў закончыць і перадаць у Беларусь, у выдавецтва «Мастацкая літаратура», галоўную працу свайго жыцця – кнігу пра летапісную літву**

**«Ласкоў рабіў вялікую справу, – лічыць Адам Мальдзіс. – Ён практычна адзін распрацоўваў фіна-угорскі пласт у стварэнні беларускага этнасу. Не хачу сказаць, што яго высновы з'яўляюцца ісцінай у апошняй інстанцыі (такога нельга сказаць ні аб адным даследчыку), але мне асабіста яго доказы здаюцца лагічнымі і пераканаўчымі».**

**У гіпотэзы Ласкова ёсць і прыхільнікі, і праціўнікі Аднак пакуль што аспрэчванне яе ідзе толькі ў прыватных размовах. Няма ніводнай публікацыі, якая б гэтую гіпотэзу абгрунтавана абвяргала. Ласкоў чакаў навуковай дыскусіі Яна не адбылася «У кожнага нашага вучонага – свая дзялянка», – сумна жартаваў ён.**

**Тым больш прыемная прыхільнасць да Ласкова такіх выдатных нашых вучоных, як Адам Мальдзіс і Мікола Ермаловіч. «Ласкоў знайшоў залатую жылу, хай распрацоўвае яе далей, – не раз пры сустрэчах са мной гаварыў Ермаловіч. – Напішыце, каб хутчэй вяртаўся ў Беларусь. Такія людзі патрэбны тут»**

**Вярнуцца ў Беларусь – гэта была запаветная мара Івана Антонавіча. Але як? Тут не абяцалі яму ні працы, ні кватэры. Напэўна, былі праблемы сямейнага плану· жонка – якуцкая пісьменніца, у Якуцку нарадзіліся і выраслі дзеці. Дадаліся і непераадольныя фінансавыя цяжкасці «Прашу прабачэння за доўгае маўчанне, – пісаў мне Ласкоў. – Я са студзеня беспрацоўны, а беспрацоўны, аказваецца, мае значна меней часу, чым той, хто працуе. Хапаешся за тое і за сёе. Чытаю амаль што задарма лекцыі ў мясцовым універсітэце па расейскай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Блок,. Бунін, Гумілёў, Ахматава, Пастарнак і г.д. Пішу штотыдзень для газеты...»**

**ведамляе наступнае. Шмат стагоддзяў назад арыйскае племя спусцілася на раўніны Індыі, перамагаючы першабытных жыхароў гэтай краіны. Адкуль арыйцы прыйшлі, гісторыкі не могуць вырашыць канчаткова, але паданні ўказваюць, што прыйшлі яны з нейкай невядомай краіны. Некаторыя мяркуюць, што арыі прыйшлі з краіны, дзе раней былі зусім другія, іншыя кліматычныя ўмовы, чым цяпер; другія ж думаюць, што гэта былі рэшткі вялікага народа, родны край якога быў знішчаны ў выніку геалагічных пераваротаў. Сапраўды, некаторыя старажытныя паданні паведамляюць, што арыйцы былі нашчадкамі жыхароў былога кантынента Лемурыі (як не нагадаць платонаўскі міф аб Атлантыдзе?), які, паводле гэтых паданняў, быў размешчаны на прасторах Ціхага і часткова Індыйскага акіянаў і ўключаў у сябе землі і астравы, што цяпер прыналежаць Аўстраліі і Палінезіі. Гэтыя землі і астравы з'яўляюцца рэшткамі былога кантынента (як самыя высокія яго пункты); больш нізкія месцы – загінулі пад вадой. Паданні сцвярджаюць, што перад гэтым вялікім пераваротам, што разбурыў краіну і знішчыў жыхароў Лемурыі, адбылося перасяленне вялікіх мас лемурыйцаў пад кіраўніцтвам іх рэлігійных правадыроў, якія прадказалі катастрофу. Гэтыя перасяленцы і іх нашчадкі выратаваліся на некаторых вышэйшых пунктах аддаленых паўночных частак краіны, якая падчас катастрофы ператварылася ў астравы. Застаючыся на гэтых астравах на працягу стагоддзяў, яны затым эмігравалі на мацярык, у новую краіну, якая цяпер вядома пад імем Індыя. Апошняя была занята цёмнаскурымі жыхарамі, загнанымі ў яе з іншых краёў змяненнямі клімату і геалагічнымі катастрофамі Нашчадкі арыйцаў адолелі іх з прычыны значнай перавагі свайго інтэлектуальнага развіцця. Праўда, арыйцы дазволілі заваяваным жыць у спакоі, і апошнія засталіся вернымі рэлігіі сваіх прабацькоў· пераможцы, паважаючы чужыя веравызнанні, не навязвалі ім сваіх**

**Арыйцы ў новых краях квітнелі, і ад іх пайшлі арыйскія плямёны Індыі. Частка іх, аднак, перайшла ў краіны, што складаюць сённяшнюю Еўропу, а нашчадкі іх вядомы нам пад назвай германскіх, раманскіх, кельцкіх, грэчаскіх, славянскіх, балцкіх і іншых плямёнаў Факт агульнага паходжання гэтых плямёнаў да ўсяго пацвярджаецца іх моўнай роднасцю. І сапраўды, возьмем для прыкладу слова падзякі ў нас і ў нашых блізкіх і далёкіх суседзяў· па-беларуску – «дзякуй», па-польску – «дзенькуе», панямецку – «данке», па-англійску – «сэнк'ю» У літоўцаў побач са словам «ачу» ёсць слова «дзекуй». А ў санскрыце – мове старажытных арыяў – і ў сучаснай мове хіндзі гэта гучыць як «дханакат». Ці вось прыклад: «вавёрка» (беларуск.), «ваверайтэ» (літоўск ), «вэверыс» (латышск.), на санскрыце і хіндзі –«вавера» Рады гэтыя можна было б доўжыць аж да некалькіх соцень. Пра роднасць санскрыту і хіндзі з беларускай мовай і іншымі індаеўрапейскімі мовамі вельмі многа і падрабязна гаварылася ў красавіцкім (1993 г.) тэлечасопісе «Роднае слова». У гэтай сувязі варта прыгадаць-супаставіць «Джатаку» (на санскрыце – «Аповесць аб былых нараджэннях») – помнік старажытнага**

Пісаў ён літаратурныя агляды, прынцыповыя і вострыя, нажываючы сабе ворагаў у мясцовым пісьменніцкім асяроддзі

Вось так, занадта напружана, прайшлі апошнія чатыры гады жыцця Ласкова. Гавару — чатыры гады, бо столькі доўжылася маё знаёмства з Іванам Ласковым. Пачалося з перапіскі (ліставання, як гаварыў Ласкоў) па праблемах яго артыкула «Племя пяці родаў». Потым мы некалькі разоў бачыліся ў час яго апошняга прыезду ў Мінск увосень 1991 года. Я ўспрымала гэтае знаёмства як падарунак лёсу. У наш час, калі найчасцей сутыкаешся з раўнадушшам, цынізмам, меркантыльнасцю, радасна сустрэць чалавека адукаванага, цікаўнага, самаахвярнага і бескарысліва адданага сваёй справе.

У Ласкова быў своеасаблівы розум, востры і абсалютна непадуладны штампам і догмам Яму не заміналі агульнапрынятыя меркаванні, ён заўсёды думаў сам. Так, уласна, і адбылося з летапіснай літвой. Каму магла прыйсці ў галаву думка, што літва можа быць не балцкім народам? Сама назва вымушала да такой высновы. Але ж назва той, нашай літвы — адно, а назва Літвы сучаснай не гістарычная, яна ўзята самімі летувісамі. Зрэшты, пра ўсё гэта было шмат публікацый Ласкова ў «ЛіМе» і ў «Полымі» Неўзабаве, спадзяюся, мы ўбачым і яго кнігу.

Кожнага ліста ад Івана Антонавіча я чакала з нецярплівасцю, нібы гэта быў працяг цікавага прыгодніцкага рамана. Толькі дзеянне ў тым рамане ішло не наперад, а назад, у далёкую дагістарычную пару.

І вось апошняе пісьмо, ад 12 чэрвеня (памёр Ласкоў 28 чэрвеня ад інсульту), якое заканчваецца словамі:

«Больш падрабязна пасля...»

Як горка, што гэтага ***пасля*** не будзе!

Святлана КЛІМКОВІЧ

*«Мне вядома, што ёсць не толькі прыхільнікі мае гіпотэзы, але і праціўнікі. Напрыклад, вядомы В.П Грыцкевіч, не называючы майго прозвішча, на ўстаноўчай канферэнцыі «Бацькаўшчыны» заклікаў даць адпрэчку такім, як я, шкодным дылетантам у гістарычнай навуцы. А за некалькі дзён да таго, калі я ў яго прысутнасці стаў дзяліцца сваімі думкамі, сказаў, каб я «не вешаў лапшу на вушы». Чуў я, што варожа да мае гіпотэзы ставіцца і В. Вячорка. Ён нібыта ведае летувіскую мову і запэўнівае, што ўсе княскія імёны з яе адшыфроўваюцца. Гэта няпраўда. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, укажу толькі на адну, але вельмі важную. нідзе ў летапісах княскія імёны ня маюць характэрнага канчатку –* **с.** *А гэта ж былі імёны князёў, у тым ліку вялікіх. Дык хто ж пасмеў бы ператвараць імя* ***Вітаўтас*** *у* ***Вітовт, Жігімантас*** *у* ***Жыгимонт****? Ці, можа, мова, на якой гаварылі нашы продкі, не дазваляла канчатку -***с** *у імёнах? Дазваляла, і яшчэ як. І сёння маем імёны Тарас, Панас, Пратас, дык чаму* ***Альгірдас*** *ператварыўся ў* ***Ольгерд****? Ясна, што такіх ператварэнняў не было».*

15 студзеня 1991 г

«лісцёвы лес, гай на сухім месцы», «лясная паша», «сухадол» (КЭСКЯ), «пагорак, дзе сосны» (К. Жаков. Под шум северного ветра, с. 316) Ва ўсіх значэннях *дав* – нейкая *сухая* мясціна, з соснамі, гаем або лясною пашай Выходзіць, *дзяволтва* гэта *олітва, літва* сухіх мясцінаў

Цяпер *нальшаны.* Гэтае слова яўна складаецца з двух. І што ж? Абодва раскрываюцца з пермскага матэрыялу па-комі *нальк* – «пастка на дробнага звера», *чань* – «жарабя». *Налькчань – нальшчаны* – гэта такія людзі, якія ловяць у пасткі жарабят, *коннае племя.* «Коннае племя» – гэта вельмі стасуецца да захавання з канём, якое ўжывалі нальшчаны

Такім чынам, калі меркаваць па назвах *дзяволтва* ды *нальшаны*, то яны таксама былі пермскія або блізкія да пермскіх, асабліва *дзяволтва,* якая, мажліва, была адломкам літвы (невыпадкова галоўная рака гэтых плямёнаў носіць пермскія назвы на нальшчанскай тэрыторыі яна *Вілія,* на дзяволтаўскай – *Нярыс*). Толькі на сваёй папярэдняй зямлі, у басейне Дунаю, яны жылі на сушэйшых мясцінах, бліжэй да качэўнікаў-стэпавікоў, таму і ўжывалі конскія захаванні

А ці былі захаванні з канём яшчэ ў каго-небудзь з фінаў? Так, былі. Жыў у ніжнім цячэнні Акі народ *мурома,* што згадваецца на старонках «Аповесці мінулых гадоў» Зліўся ён з будучымі расейцамі яшчэ ў XI стагоддзі. Ад яго засталася назва горада *Мурам,* былінны асілак Ілля Мурамец ды шэраг археалагічных помнікаў, даследаваных толькі часткова. І вось што піша ў ФУБ Л.А. Голубева: «Выдатнай рысай пахавальнага абраду мурамы з`яўляюцца конскія захаванні. Яны вядомыя з VI–VII стагоддзяў (акурат як ва ўсходняй Летуве! – *І.Л.*), але большасць адносіцца да болей позняга часу (і ў гэтым супадзенне! – *І.Л* ) Агледжана 96 такіх захаванняў у 11 магільніках» (с. 85)

Супадаюць і асобныя рысы захаванняў. Так, ва ўсходнелітоўскіх курганах «інвянтар конскіх захаванняў сціплы. Гэта двухчленныя або трохчленныя цуглі, іншы раз са псаліямі, і жалезныя спражкі» (ФУБ, с. 393), мурама ж нярэдка хавала коней зусім без рыштунку (ФУБ, с. 85). «У выглядзе рэдкага выключэння, піша В Сядоў, – сустракаюцца захаванні людзей у адным (усходнелітоўскім – *І.Л* ) кургане з канём» (ФУБ, с. 393). Мурама ж хавала чалавека з канём у адной магіле даволі часта (ФУБ, с. 85)

Паміж конскімі захаваннямі ва ўсходняй Летуве і мурамы ёсць і адрозненні. Хаця ўвогуле захаванні мурамы бірытуальныя. Л.А. Голубева не піша, ці спальвалася пры захаваннях хаця б частка коней Нічога не піша і пра курганы захаванні мурамы – грунтавыя. Зразумела, што дзяволтва з нальшчанамі і мурама – розныя этнасы. Але, адчуваецца, мелі і шмат агульнага. Як маецца агульнае і ў пахаваннях мурамы ды прыўральскіх пермскіх. Так, у могільніках вымскай культуры (Комі рэспубліка) сустракаюцца такія захаванні, калі цела чалавека аказваецца спаленым без галавы, якая папярэдне аддзялялася і пасля клалася ў магілу разам з рэшткамі спаленых костак (ФУБ, с. 125). Такі самы спосаб захавання адзначаны і ў магільніках мурамы (ФУБ, с. 84). У магільніках мурамы і пермскіх знаходзяцца вельмі падобныя рэчы – напрыклад, упрыгожанні ў выглядзе вісячых на круглай аснове «качыных лапак» (гл. ФУБ, табліцы XXXL, 3 – LXV, 26). Немалаважна і тое, што ў комі-пярмяцкай мове маецца слова *мурома* са значэннем «буры», «цёмна-карычневы» «Шматлікія тапанімічныя ды гідранімічныя дадзеныя дазваляюць залічыць мураму да паволжска-фінскага племя, паводле мовы блізкага да мардвы, але якое адрозніваецца значнай своеасаблівасцю, піша Л.А. Голубева – У IX–XI стст мурама паводле сумы этнаграфічных прыкметаў, якія могуць быць устаноўленыя археолагамі, выступае як самастойная этнічная супольнасць» (ФУБ, с 82) Ці не тыя гэта прыкметы, што набліжаюць мураму да пярмянаў?

Але вернемся да Летувы Як павінен памятаць чытач, В. Сядоў паводле захаванняў І тысячагоддзя падзяляе яе на тры часткі тэрыторыя жамойтаў – на захад ад Дубісы, тэрыторыя аўкштоты – паміж Дубісаю і Швянтойі, на ўсход ад Швянтойі – тэрыторыя племя літва На першай усё тысячагоддзе пануюць звычайныя грунтавыя магільнікі з трупапакладаннем, на другой – грунтавыя магільнікі з крэмацыяй людзей і трупапакладаннем коней, на трэцяй – усходнелітоўскія курганы са спальваннем як людзей, так і коней Прычым у IV–V стагоддзях пад курганамі хавалі няспаленыя целы, а захаванняў з коньмі тады не

індыйскага фальклору – і «Шляхціца Завальню, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» – твор аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага. У «Шляхціцу Завальні» аўтар выкарыстаў беларускія легенды і казкі, якія тэматычна, сюжэтна і, галоўнае, па духу набліжаюцца да паданняў старажытнай Індыі. А яшчэ ўспамінаецца мне такі момант у маім жыцці. Заходжу неяк я ў рэдакцыю літаратурнай крытыкі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», а там купка людзей, сярод якіх былі В.С. Палтаран і А.С. Разанаў, сядзіць і слухае музычны запіс. На іх пытанне, што нагадвае мне спеў, які гучаў у той час, я адказаў: «Гэта штосьці нібыта з нашага, беларускага, Палесся». Яны, задаволена ўсміхнуўшыся і ўхваліўшы маю здагадку, адказалі: «Гэта песня з Індыі... старажытная... на санскрыце... днямі прыехала да нас». Прыклады, якімі насычана і эсэ І. Ласкова, таксама сведчаць аб гэтым, толькі, вядома, там размова ідзе пра больш аддаленыя ад нас у часе і прасторы плямёны. Цяпер паўстае пытанне, якім шляхам і ў якім парадку ішлі арыйцы ў Еўропу і якія яны пакідалі там сляды Што да славян, дык большасць навукоўцаў вядуць іх то з Ірана праз Каўказ, то зводзяць з Карпат, то ўвогуле знаходзяць іх у басейне Прыпяці. А вось выдатны гісторык расейскага замежжа С. Лясны ў сваёй кнізе «Откуда есть пошла земля русская» (Таронта, 1956, 1962 гг.) вядзе славян (рускіх) з Блізкага Усходу; гару Сіён ён называе па-руску «Сиян-гора» (сияющая). Назвалі ж яе русы, калі яшчэ знаходзіліся ад яе далёка на поўдні. Яна ім ззяла, яна іх клікала да сябе і далей – у Еўропу. Так што, як кажуць, усе дарогі вядуць у Рым. Дарэчы, калі аб Рыме. Спадарожна заўважым, што захапленне рымскага паэта Гарацыя – сына вольнаадпушчаніка ў яго «Одах»: «Orus!», якое эпіграфам да другога раздзела свайго «Яўгенія Анегіна» ўзяў А.С. Пушкін, – ёсць захапленне вёскай. Вось пушкінскі пераклад: «Orus!» «О деревня!». Прыгадаем: у сваіх апошніх публікацыях І. Ласкоў гаворыць аб нейкай вялікай папуляцыі русаў (славян) і аб тым, як яна была адбіта рымлянамі ў персаў (таксама – арыйцаў). Ці не з`яўляюцца тыя «вяскоўцы», як і тая «папуляцыя», продкамі позняй Русі – русаў, русічамі і г.д.? А ці не пра адно з плямёнаў той rusi – неўраў (праташлавян) – адных з насельнікаў будучай Беларусі – у свой час у сваёй «Гісторыі» пісаў бацька гісторыі – старажытнагрэчаскі гісторык Герадот? І ці не яны прынеслі на гэтую зямлю полісную дзяржаўнасць? Заўважым, неўры прыйшлі не на голае месца. Тут ужо гаспадарылі кельцкія плямёны, у прыватнасці – будзіны (відаць, ад іх ідуць назвы паселішчаў тыпу «Буда» і прозвішчы «Будны», «Буднік», «Будзінас» і г.д.). Хутчэй за ўсё ад змяшання (сінтэзу) названых плямёнаў з`явіліся крывічы, дрыгавічы, радзімічы, драўляне – адны з продкаў сучасных беларусаў.

І як цяпер не ўспомніць, што навокал амаль усе гісторыкі старых, новых і найноўшых часоў цвердзілі і цвердзяць, што «русь» – гэта варажскае племя, якое захапіла славянскія землі, вядома, не без дапамогі-запрашэння з боку тых жа славян, нягеглых і аблудных, навесці ў іх парадак і кіраваць імі?! А можа, тая ва-

было зусім. Захаванні з канём з'яўляюцца разам з абрадам крэмацыі ў V стагоддзі.

З гэтага ясна, што стваральнікі курганоў прыйшлі ва ўсходнюю Летуву дзвюма хвалямі· спачатку тыя, хто целы не спальваў і коней не хаваў, а праз стагоддзе-паўтара – носьбіты абраду хавання коней. І тыя, і другія прыйшлі ад нейкіх прыстэпавых прастораў або мелі стэпавае мінулае. І магчыма, у мінулым кантактавалі між сабой яшчэ на сваіх ранейшых землях. Таму іх новая сустрэча адбылася без аніякіх канфліктаў, плямёны сталі жыць мірна, у выніку чаго першыя перайшлі да абраду крэмацыі

Паколькі ў летувіскай мове бачны сляды суседства з венграмі, а такое суседства не магло мець месца раней за канец IX стагоддзя, то трэба думаць, што носьбіты курганнага абраду, якія прыйшлі ў IV–VI стагоддзях, не былі носьбітамі балцкіх гаворак. І мяркуючы па іх назвах (*дяволтва, нальшаны*), яны належалі да фіна-вугорскіх плямёнаў.

Тэрыторыя на захад ад Дубісы ў сэнсе пахавальнага абраду практычна не мянялася Тут панавала аж да хросту трупапакладанне ў грунтавых ямах без насыпаў. Значыць, і гэтае насельніцтва не было балцкім, бо прыйшло сюды задоўга да перасялення «балтаў» з Дунаю

А вось «аўкштоты» В Сядова «балтам» адпавядаюць. На тэрыторыі іх, паміж Дубісай ды Швянтойі, захаванні коней, прычым масавыя («у аўкштоцкім рэгіёне даследавана болей за 1000 конскіх захаванняў». – ФУБ, с. 388), з`яўляюцца тут якраз у X стагоддзі (гл тамсама) Гэта не мог быць прыход носьбітаў абраду пахавання з канём з усходняй Летувы, бо тут коней, як і людзей, хавалі ў *курганах*, а «аўкштоты» над магіламі людзей і коней насыпаў не рабілі. Акрамя таго, спальваючы нябожчыкаў, коней яны закопвалі няспаленымі – у адрозненне ад насельнікаў усходняй Летувы. У міжрэчча Дубісы і Швянтойі ў X стагоддзі відавочна прыйшло новае жыхарства, даволі шматлікае, бо магільнікамі, якія яно пакінула, міжрэчча ўсеяна густа. Яно змагло паўплываць нават на насельніцтва ўсходняй Летувы, што жыло тут ужо каля 400 гадоў· курганы з рэшткамі коней сустракаюцца тут з VI стагоддзя, але «найбольшага распаўсюджання» гэты звычай

*«Я ўжо не першы раз чую закід, што, маўляў, трэба маю гіпотэзу правяраць археалогіяй, як раіць Мальдзіс. Але рэч у тым, што археалагічныя здабыткі не маюць нацыянальнага кляйма. Асабліва гэта датычыць найболей старажытных пластоў. Вядомы тапаніміст У Ніканаў прыводзіць у адным сваім артыкуле выказванне археолага Монгайта. «Археологи, открыв ту или иную культуру, далеко не всегда могут связать ее с какимлибо народом, известным по ранним письменным источникам или современным. Очень редко мы можем определить название того племени, которое нам стало известным по археологическим признакам. Археологи должны очень осторожно делать заключение об этнической принадлежности той или иной «культуры», так как важнейшим признаком племени, народа является язык, на котором он говорил». На жаль, апошнім часам археолагі не карыстаюцца гэтай парадай-папярэджаннем. Усё, што знойдзена імі на тэрыторыі Беларусі, адносяць або да балцкага, або да славянскага, не даўшы сабе працы супаставіць знойдзены матэрыял са здабыткамі іншых мясцін».*

8 лютага 1991 г

*«Гэтымі днямі я шмат працую са следчымі справамі КДБ, карыстаюся ласкай раней недаступных дзядзькоў. Хачу напісаць для беларускага друку пра рэпрэсаваных у Якуціі землякоў. Але хутка мяне з КДБ выпруць, бо чалавек, які мне дапамагае, ідзе на пенсію. Тады я буду працаваць над заключным раздзелам кнігі пра беларускую фіна-вугорыю, раздзелам пра імёны літоўскіх князёў. Буду разглядаць тры версіі. 1) ці летувіскія гэта імёны, 2) ці славянскія, 3) ці пермскія. Вы вельмі слушна напісалі ў апошнім лісце, што «будынку» М І Ермаловіча нестае менавіта разумення, што літва не была балтыйскай, а мая гіпотэза*

**ражская русь была лепшай часткай славянскай русі, той часткай, якая з прычыны неўспрымання ўтробна-прымітыўнага існавання сваіх супляменнікаў і дэспатызму мясцовай улады сталася тут незапатрабаванай, нават маргінальнай, больш таго – дысідэнцкай, а калі па-сучаснаму – апазіцыйнай і таму вымушанай пакінуць свае абсягі і накіравацца далей на поўнач – у Скандынавію, дзе не было рабства. А ўжо адтуль у пэўны зручны момант па запрашэнні некаторай часткі даўнейшых сваіх суграмадзян вярнулася назад дамоў і таму так лёгка «заваявала» славян. Праўда, як цвердзіць гісторыя, адбылося гэта амаль дарэмна, амаль без станоўчых вынікаў. Нездарма, відаць, кажуць, што гісторыя нас нічому не вучыць. Дарэчы, пра скандынаўскі адыход і вяртанне як бы намёкам піша і вышэй памянёны гісторык С. Лясны.**

**Ёсць меркаванні (і гэта пацвярджаецца дадзенымі археалогіі, тапанімікі і інш.), што першы арыйскі паток на Усходнюю Еўропу ў асноўным складалі балты. Папярэднія насельнікі гэтага рэгіёну ўграфіны, падобна астатнім, ці асіміляваліся, ці адступілі ў паўночна-ўсходнім напрамку. Некаторыя, як літва, заставаліся надоўга ўстойлівымі з прычыны сваёй магутнасці і непераможнасці. Трэба мець на ўвазе, што ўграфіны былі ва ўсіх адносінах дастаткова развітым жыхарствам Усходняй Еўропы. Узяць, напрыклад, тых жа венграў. Ім было з чым прабіцца ў самы цэнтр Еўропы. А, можа, і некаторая частка літвы апынулася там дзесьці ў глыбіні еўрапейскага кантынента, бліжэй, вядома, да захаду, пакінуўшы сваю назву**





«дасягае напрыканцы першага і на пачатку другога тысячагоддзя», г.зн. са з`яўленнем пахаванняў з канём у «Аўкштоце».

Я бяру тэрміны В Сядова «Аўкштота», «аўкштоты» ў двукоссе таму, што не магу згадзіцца быццам паміж Дубісай ды Швянтойі ў часы захаванняў з канём жыла адна аўкштота. Не Тут прыбышы з Венгрыі, што ўзялі ад венграў (а можа, яшчэ і раней – ад аўараў) абрад пахавання з канём, першапачаткова размясціліся ўсе· і аўкштота, і жамойць. На захад жа ад Дубісы жамойці тады не было Тут жылі галоўным чынам *куршы*, якія ў наступныя часы перайшлі на мову жамойці, у выніку чаго стварыўся сённяшні жамойцкі дыялект летувіскай мовы (гл З Зинкявичюс К вопросу о происхождении жемайтского диалекта БСИ–1982, с. 114–115).

У далейшым як жамойць, так і аўкштота рассяліліся з цеснага для сябе ўчастка, балазе мясцовае насельніцтва было рэдкае, і з цягам часу асімілявалі дзякуючы больш высокай культуры, прынесенай з сярэдзіны Еўропы Дапамагала асіміляцыі, трэба думаць, і тое, што мясцовае жыхарства падзялялася на мноства дробных плямёнаў, што размаўлялі на самых розных дыялектах, не маючы агульнай мовы, а таксама паспрыяла нямецкая агрэсія, супраць якой паганскія плямёны кансалідаваліся вакол жамойці

Так памяць зямлі папраўляе няўважлівых даследчыкаў, што гатовыя пад папярэднія ўяўленні падагнаць увесь знойдзены матэрыял.

### ПАДРАХУНАК

Затрымаемся на гэтым месцы ды азірнёмся назад, наладзім агледзіны. што мы знайшлі на нашай доўгай дарозе?

Нагадаю, што пачалася яна са сцвярджэння М І. Ермаловіча, што аніводнае імя літоўскіх князёў не адшыфроўваецца з летувіскай мовы Гэты тэзіс намі правераны са слоўнікамі ў руках Сапраўды, большасць імёнаў летапіснай літвы не мае этымалогій у летувіскай мове А адсутнасць канцовага -*с* гаворыць за тое, што яны і ўвогуле не балцкія

*гэты будынак давяршае. Я пісаў яму пра гэта яшчэ ў 1989 годзе, пасля таго, як ён даслаў мне сюды кароткі водгук на «Племя пяці родаў». І ведаеце, ён адразу зразумеў, што мая гіпотэза робіць яго сістэму неабвержнай, і блаславіў мяне на пошук. Але пакуль гэты пошук не скончаны, дакладней, вынікі не надрукаваныя, ён не можа на іх спасылацца і таму працягвае выкладаць балцкую версію літвы, але гэтай версіі сам супярэчыць, называючы Гэдымінавічаў славянамі. «Славянскасць» літоўскіх імёнаў ідзе ў яго ад дарэвалюцыйнай (1885) працы нейкага Юргевіча, дзе той даводзіць, нібыта Вітаўт – скажонае Віктар, Альгерд – Аляксандр, Мінгайла – Міхайла і г.д. Менавіта адсюль і ідзе сцвярджэнне Ермаловіча, што «аніводнае імя так званых літоўскіх князёў не адшыфроўваецца з летувіскай мовы», якое і штурхнула мяне ў вір пошукаў. Добра яшчэ, што гэта сапраўды так, бо праца Юргевіча зусім ненавуковая, тэндэнцыйна-вялікадзяржаўная. Ну а што да Ермаловіча, то Вы разумееце, што калі Вітаўт – Віктар, то чаму Даліл – не Давід?!»*

1 мая 1991 г

*«Мы ж павінны мець на ўвазе такі важны факт. на Беларусі невядомыя творы тыпу «Слова аб паходзе Ігаравым» у дачыненні да XI–XIV стст., г.зн. напісаных у мясцовай славянскай мове. Што мы маем? Толькі творы Кірылы Тураўскага, напісаныя па царкоўна-славянску, г.зн. на мове, прынесенай разам з пісьменнасцю. Кірыла – гэта XII стагоддзе. І надалей доўга яшчэ пісьмовыя помнікі Беларусі пісаліся на царкоўна-славянскай мове. А чаму ж не трапляла на старонкі кніг жывая народная мова? Ці не таму, што яна не была славянскай і таму не магла мець пісьменнасці? І вядомыя першыя імёны* ***Рогвольд, Рогнедь*** *яўна не славянскія... А ў той*

**спачатку балтам, потым – славянам і, вядома, сваім суродзічам, што былі асіміляваны. А можа, літва ўлілася ў мадзьярскае мора? Трэба думаць, не выпадкова пераклікаюцца такія імёны ды прозвішчы ў сучасных венграў, беларусаў і літоўцаў, як Барташ, Кукрыш, Кунтыш, Міклаш, Понтыш, Понтус і г.д. З гэтага пункту гледжання наша антрапаніміка заслугоўвае асаблівай увагі. Тут, думаецца, можна знаходзіць празрыстыя пераходы з венгерскай на беларускую, як, скажам, пераходы ў сучаснай літоўскай і беларускай мовах: Петрэне – Пятрэня, Кіене – Кіеня, Макарэне – Макарэня і г.д. І яшчэ. Ці не патаемная этнічная памяць Сцяпана Баторыя (Батуры), які паходзіў з мадзьяр, не давала згаснуць яго цёплым пачуццям да Беларусі-Літвы? Успомнім, што ён увесь час імкнуўся жыць на Беларусі. Аб гэтым сведчыць і замак у Гародні – замак Сцяпана Баторыя (Батуры). І яшчэ прыгадаем, што комі-пярмяцкае «батора» – гэта той, хто гаворыць хутка і манатонна. Ці не адсюль у нас гэта слова значыць «балака». А ад яго і да «балагурыць» – недалёка. Тут жа дададзім, што комі і пермякі – гэта народы фіна-угорскай групы**

**За балцка-арыйскім патокам ішоў славянска-арыйскі паток. Вядома, адбываліся тыя ж самыя этнічныя працэсы: асіміляцыя, адступленне, захоўванне сябе. Гэтыя складаныя працэсы, безумоўна, знаходзілі адбітак і ў мове. Вось прыклады, як ад угра-фінаў праз балтаў даходзілі да славян (тут маецца на ўвазе – да беларусаў) назвы тых ці іншых прадметаў, аб'ектаў, з'яў. Скажам, угра-фіна-балцкі рад, які дае сам І. Ласкоў: «сляза» па-вен-**

*сама час назвы плямёнаў: крывічы, радзімічы, дрыгавічы – паводле формы (-ічы) славянскія. Значыцца, славяне былі, дый без іх не было б славянскай мовы. Беларусь не стала б славянскай. Але колькі іх, славянаў, было?*

*Я так думаю. Тое, што вышэй было сказана пра яцвягаў, можна распаўсюдзіць на ўсю Беларусь. Гэта значыцца, да з'яўлення славянаў тут жылі вельмі перамешана шматлікія і ў той сама час невялікія колькасна плямёны, якія не мелі агульнай мовы. Зразумела, яны неяк сумаўляліся, але не так, як аднамоўцы. Потым прыйшлі славяне, некалькі плямёнаў (згодна з Ермаловічам, ледзь не з дзесятак). Яны гаварылі на блізкіх, зразумелых для ўсіх гэтых плямёнаў мовах. А фіна-вугры – на мовах вельмі розных, ніводная з якіх агульнай быць не магла. Таму агульнай для ўсіх плямёнаў, як славянскіх, так і неславянскіх (а славяне рассяліліся па вольных мясцінах пасярод фіна-вуграў) сталі славянскія гаворкі. А фіна-вугры сталі пераходзіць на іх, як болей зручныя ў зносінах паміж плямёнамі. Гэты працэс паскорыла з'яўленне пісьмовай, царкоўна-славянскай мовы. Вялікую ролю ў славянізацыі адыграла і царква, дзе на царкоўна-славянскай мове ішла богаслужба кожны дзень. Там жа, дзе хрысціянізацыя адразу не ўдалася, як на землях літвы, фіна-вугорскія гаворкі захоўваліся даастаткова доўга.*

*Вядома, што літва хрысцілася ў каталіцызм, г.зн. можна было чакаць, што літва спольшчыцца. Але каталіцкі касцёл працаваў на лаціне. Каталіцкія ксяндзы большай часткай былі відавочна, палякамі або выхоўваліся ў польскай мове і традыцыях. Па-за касцёлам яны гаварылі па-польску. Таму з цягам часу ў мове каталіцкага насельніцтва сталі ўжывацца польскія словы, а шляхта і наогул паланізавалася. Але большае значэнне для*

Якое ж паходжанне гэтых імёнаў? Аніводная з трох версій, прапанаваных іншымі даследчыкамі. што яны скажоныя хрысціянскія, нехрысціянскія славянскія, скандынаўскія выпрабавання фактамі не прайшла.

Яшчэ ў 1989 годзе ў артыкуле «Племя пяці родаў» («Літаратура і мастацтва», 18 жніўня), абапіраючыся на тое, што назва *літва* канчаецца на *-ва*, як дзесяткі розных назваў Беларусі, а гэта канчатак пермскі (*-ва* ў комі мовах – «рака»), аўтар выказаў здагадку, што літва была племем пермскім, і паспрабаваў адшыфраваць каля дзесятка ліцвінскіх імёнаў з дапамогай комі-пярмяцкай мовы. У далейшым, папершае, быў значна пашыраны кантынгент ліцвінскіх імёнаў, па-другое, аўтар звярнуўся і да матэрыялу іншых пермскіх моваў комі-зыранскай ды удмурцкай У выніку высветлілася, што кірунак выбраны правільна і імёны летапіснай літвы сапраўды раскрываюцца з пермшчыны.

Для пацвярджэння або абвяржэння таго, што летапісная літва была па мове блізкай да сучасных пермскіх народаў, аўтар разгледзеў гідранімію раёнаў Беларусі, на якіх, як даведзена М.І. Ермаловічам, размяшчалася летапісная літва. Высветлілася, што ранейшае ўяўленне аб гэтай тэрыторыі як суцэльна балцкай не вытрымлівае крытыкі. Больш за палову тутэйшых гідронімаў – пермскія. Яны не толькі паўтараюцца на сучасных пермскіх тэрыторыях (Нёман, Шчара, Зэльва ды інш.), але і без цяжкасцяў адшыфроўваюцца з пермскіх моваў Большасць такіх гідронімаў мае пермскія гідранімічныя канчаткі-тэрміны (*ва, адз* ды інш ) Летувіскіх жа гідронімаў на разгледжанай тэрыторыі практычна няма, а тыя летувіскія этымалогіі, якія прапаноўваліся раней, пры аб'ектыўным аналізе адхіляюцца.

На цеснае суседства продкаў сённяшніх летувісаў і нейкага пермскага этнасу паказваюць шматлікія летувіска-пермскія лексічныя паралелі, адкрытыя рознымі даследчыкамі, у тым ліку аўтарам гэтых радкоў (усяго болей за 100)

Даследуючы пытанне, якім чынам пермскае племя магло апынуцца на Беларусі, аўтар разгледзеў гідранімію Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і напаткаў цэлы россып пермскіх рачных назваў у басейне Дунаю А ўдакладняючы магчымасць гэтага нечаканага факту, адкрыў і яшчэ



большую неспадзеўку Аказалася, што ў пермскіх мовах да 140 словаў супадае з лацінскімі, да 80 – з грэцкімі, да 60 – з румынскімі, да 40 – з нямецкімі Такім чынам, абсалютна бясспрэчна, што на пачатку нашай эры еўрапеоідныя па расе пермскія плямёны размяшчаліся ў басейне Дунаю, адкуль і рушылі, згодна з гідраніміяй, на Днестр, Днепр, Дон, дзе частка іх засталася і пасля асімілявалася славянамі, а частка дайшла да Урала, дзе сама асімілявала паўночных мангалоідаў, у выніку чаго ўтварыўся ўральскі, пераходны расавы тып.

Як сведчаць гістарычныя дакументы, што згадваюцца ў кнізе М.І. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», яшчэ ў XII стагоддзі на дунайскім доплыве *Олце* была мясцовасць *Літва*. Аўтар даследаваў гідранімію паміж Олтам і Беларуссю і ўстанавіў, што на гэтай прасторы шмат пермскіх гідронімаў Такім чынам, трэба згадзіцца, што літва прыйшла на Беларусь з Олта

У сваю чаргу, балты таксама не займалі адвечна тыя тэрыторыі, на якіх жывуць сёння. Аб гэтым сведчаць адкрытыя аўтарам летувіска-венгерскія лексічныя паралелі (усяго каля 70) Вядома, што венгры прыйшлі на сваю сённяшнюю зямлю толькі ў 896 годзе, а да таго качавалі ў стэпах Прычарнамор'я і Дона, куды прыйшлі з Азіі Адсюль бачна, што найбліжэйшы да Летувы пункт венгерскага гістарычнага шляху – Венгрыя І сапраўды, на венгерскім правабярэжжы Дунаю (т.зв. Панонія) захоўваюцца яўна балтыйскія гідронімы У летувіскай мове агледжваюцца паралелі з лацінскай, ілірыйскай, дака-фракійскай, румынскай мовамі Такім чынам, продкі летувісаў да прыходу венграў жылі ў Паноніі, адкуль рушылі ў Прыбалтыку не раней за X стагоддзе І якраз у гэты час у Летуве з'яўляюцца новага тыпу грунтавыя захаванні крэміраваных рэштак чалавека з адначасовым захаваннем няспаленага каня.

Што яшчэ, якія дзівосы прынясе нам гэтае падарожжа ў мінулае? Будзем ісці далей

*1989–1993,*
*Якуцк.*

*літвы мела цеснае, шматстагодняе суседства з праваслаўным насельніцтвам, якое ўжо цалкам славянізавалася, перайшоўшы на моўны кангламерат з крывіцкіх, радзіміцкіх, дрыгавіцкіх гаворак ды царкоўна-славянскай мовы».*

1 мая 1991 г.

*«Шчыры дзякуй Вам за выразку з «Народнай газеты», а таксама за ўсе папярэднія лісты, на якія я не паспеў адказаць. Праўду кажучы, мяне вельмі здзівіла, што маю такіх прыхільнікаў, як аўтар артыкула «Які знак твой?» В. Кошалеў (лекар-тэрапеўт!). Я ж яшчэ не надрукаваў кнігу. Але, мабыць, на людзей дзейнічаюць не столькі мае доказы, колькі немагчымасць паверыць, што летувісы сапраўды маглі падпарадкаваць Беларусь, стварыць такую вялізную дзяржаву і пры гэтым не ўжывалі ўласнай мовы ў дзяржаўных актах, а пісьмовасць атрымалі толькі ў XVI стагоддзі, дзякуючы Рэфармацыі. Мая здагадка ўсё ставіць на месца, таму так лёгка ўспрымаецца.*

*«Полымя» з маім артыкулам я яшчэ не бачыў і не ведаю, у якім нумары ён змешчаны. Але я выпісваю «Полымя», так што хутка атрымаю.*

*Мая кніга ў чарнавіку скончаная. Атрымалася 700 старонак. Цяпер усё гэта трэба перачытваць, рэдагаваць і перадрукоўваць. Працы на паўгода. Але буду выконваць яе са спакойнай душою, бо, здаецца, знайшоў выдаўца. Тут у нас, у Якуцку, гасцяваў ансамбль «Рунь» (БТІ), а прывёз яго лідэр «Бацькаўшчыны» Я. Лецка. Дык вось, не ведаючы, што ён выдавецкі работнік, я разгарнуў перад ім свае пошукі і вельмі зацікавіў. А калі паказаў толькі што дасланую з Сыктыўкара газету з фотаздымкам комі жанчын у нацыянальных строях, ён ажно ўзрушыўся, усклікнуўшы: «Дык гэта ж нашы жанчыны!». І*

**герску «сірас», па-летувіску «ашара». А мы дададзім, што ў беларусаў гэтая канкрэтная назва пашыралася і ўтварыла паняцце – «сірата». А вось назву населенага пункта на Беларусі – Обаль У.М. Топараў і А.М. Трубачоў у сваёй кнізе «Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья» (М., 1962 г.) выводзяць з фінскай мовы (угра-фінск. –** *Я.Г.*)**. З угра-фінскай, трэба меркаваць, гэтая назва трапіла да балтаў, а ад іх – да беларусаў. Зазірнём у кнігу В.А. Жучкевіча. Обаль – рака, прыток Заходняй Дзвіны, таксама возера і гарадскі пасёлак Шумілінскага раёна, чыгуначная станцыя на лініі Віцебск – Полацк, сяло Гарадоцкага раёна, Абалянка – рака, даплыў (прыток) Лучасы, сістэма Заходняй Дзвіны; Абольцы – сяло Талачынскага раёна; Абаляны – сяло Браслаўскага раёна. У 1505 г. згадваецца сяло Абольцы (М.К. Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. М., 1892, стар. 123), тое ж у 1593 г. (Археологический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. 4, стар. 299 і інш.). Назвы, вытворныя ад літоўскай асновы «абеліс» – яблыня, яблыновы, што пацвярджаецца не толькі блізкасцю назваў да ўказанай асновы, але і прыстасаванасцю іх да паўночна-заходняй часткі Беларусі, дзе добра выяўлены балтыйскі тапанімічны пласт і ёсць славянскія калькі. (Паводле В.А. Жучкевіча. – Краткий топонимический словарь Белоруссии., Мн., 1974.) Але ж «обаль» па-фінску – яблык. Такім чынам, мы бачым балцка-славянскае запазычанне ў угра-фінаў. І яно, запазычанне гэта, пасля было зафіксавана нават у літаратуры (рускай). Успомнім В.К. Трэдзьякоўскага з яго «Тэлемахідай», дзе сказана: «...чудище обло [кругло –** *Я.Г* **], огромно, стозевно и лайяй...». А.А. Радзішчаў гэтыя словы ўзяў эпіграфам да свайго «Путешествия из Петербурга в Москву».**

**Мы маем падставы сцвярджаць, што шукаць у мове літвы (і сучаснай, і летапіснай) венгерскага (угра-фінскага) следу неяк ніякавата з той прычыны, што (і гэтаму не супярэчыць сам І. Ласкоў у сваіх публікацыях «Племя пяці родаў» і «Нашчадкі таямнічае Літвы») у пэўнай ступені гэтыя этнічныя суб'екты ёсць адно цэлае; што напрамак балцка-угра-фінскіх запазычанняў, – безумоўна, яўна абодвабаковы, – адбываўся ў часы балцка-арыйскай каланізацыі новых земляў. Адначасова звяртаем увагу на тое, што мы не блытаем літву з ліцвінамі. Літва – гэта адзін з субстратаў будучых беларусаў, як і жамойтаў, а ліцвіны – гэта ўжо амаль беларусы.**

**А возьмем назвы ракі і горада Віцьба і Віцебск, а таксама левага даплыву Прыпяці – Віць, мужчынскія імёны Віцень, Вітаўт. Здавалася б, тут і славянскі корань (віць) і дапушчальная лацінская аснова (віта – жыццё) вырашаюць пытанне не на карысць іх угра-фінскага паходжання. Але ж у мове хансі паняцце «вада» мае слоўнае абазначэнне-выяўленне «віт» (гл.: Э.М. Мурзаев «Словарь народных географических терминов», М., 1984 г.). Мова ж мансі належыць да фіна-угорскай групы ўральскай сям'і. Ды і як жа мы не ўспомнім рэчку Віцім – правы даплыў Лены. Дарэчы, зусім блізка ад Румыніі, куды нас апошнім часам кліча І. Ласкоў, ёсць рэчка Віт – правы даплыў Дуная. Праўда, знаходзіцца яна на балгарскай тэрыторыі. Але ж не так далёка там і Венгрыя – краіна фіна-угорскай ментальнасці. Да ўсяго – у Югаславіі ёсць невялікі горад з назвай**

*сапраўды, касцюмы ў іх, апрача галаўных убораў, – літаральна беларускія, з андаракамі, а на андараках – нашы ўзоры. На жаль, здымак чорна-белы. Але, здаецца, тыя ўзоры – чырвоныя, на белым полі. Дарэчы, і ў мардвы ўлюбёныя колеры белы і чырвоны.*

*Адным словам, Лецка прымусіў мяне напісаць заяўку ў «Мастацкую літаратуру».*

2 кастрычніка 1991 г

*«Нарэшце магу Вам падзякаваць за «Старонкі гісторыі Беларусі». Атрымаў я гэтую кнігу ад Вас прыблізна з месяц таму, але напісаць не было часу. Пісаў два важныя артыкулы, а таксама два доўгія лісты сваім летувісам. «Лісты» – гэта толькі так называецца, на справе ж таксама артыкулы. Я апошнім часам нарваўся на тое, на што і не спадзяваўся. Аказалася, мой прагноз, што летувіская мова магла зазнаць не меншы пермскі ўплыў, чым беларуская, апраўдваецца. Знайшоў болей за 100 летувіскіх слоў пермскага паходжання. А карыстаўся слоўнікам літаратурнай мовы. Калі ж узяцца за паўднёва-усходнія летувіскія дыялекты, дык, думаю, малюнак будзе яшчэ болей выразны. Гэтыя знаходкі, можна сказаць, ставяць кропку ў пытанні, ці была летапісная літва пермскім племем. Таму я пошук (даcтаткова складаны, бо я ж не ведаю летувіскай мовы) працягваю і імкнуся знайсці ўсе летувіскія пярмізмы, якія толькі змагу».*

3 жніўня 1992 г.

*«Вы, мабыць, падумалі, што я здрадзіў фіна-вугорскай ідэі, выводжу цяпер літву ад румынаў. Паверце, усё, што было, застаецца. Толькі шлях літвы мяняецца. Раней я думаў (услед за фіназнаўцамі), што крыніцай распаўсюджвання пармянаў з'яўляецца Прыўралле. Новыя дадзеныя паказваюць, што такой крыніцай... быў басейн Дунаю. Якія дадзеныя – я пісаў Вам у верасні, цяпер жа не буду, каб Вам цікавей было чытаць працяг «Дагістарычных блуканняў».*

19 снежня 1992 г

*«Прашу прабачыць за доўгае маўчанне. Я практычна нікому не пісаў апошнія месяцы. Так атрымліваецца. Я са студзеня беспрацоўны, а беспрацоўны, аказваецца, мае значна меней часу, чым той, хто працуе. Хапаешся за тое і за сёе. Чытаю амаль што задарма лекцыі ў мясцовым універсітэце па расейскай літаратуры пачатку XX стагоддзя: Блок, Бунін, Гумілёў, Ахматава, Пастарнак і г.д. Пішу штотыдзень для штотыднёвай газеты. Плоцяць яны па ранейшых мерках астранамічна – 20 руб. за газетны радок (23 знакі), амаль па рублю за літару. З мая за актыўнасць стаўку маю павысілі да 25 руб. за радок, г.зн. ужо больш за рубель літара. Каб выходзіла газета штодзень, то, можа, і разбагацеў бы. А так усё роўна атрымліваецца сціпла.*

*Ды ўсё гэта дробязі. Галоўнае – я ўсё ж такі скончыў першую кнігу, «Летапісная літва: сваяцтва і лёс». Засталося толькі перадрукаваць».*

15 мая 1993 г

*«Я агледзеў, чаго не чакаў і пра што зусім не думаў, калі рабіў першыя крокі: па-першае, да 150 комі-лацінскіх і удмурцка-лацінскіх лексічных супадзенняў, па-другое, каля 70 пермска-старажытна-грэцкіх, па-трэцяе, каля 70 пермска-румынскіх, па-чацвёртае, каля 40 пермска-нямецкіх; маецца і жменька пермска-албанскіх. Гэтыя супадзенні неабвержна гавораць, што ў часы Рымскай імперыі старажытныя пярмяне жылі ў басейне Дунаю. Адсюль яны, мяркуючы па гідронімах (дарэчы, у басейне Дунаю больш за 30 вядомых гідронімаў – пермскія), пайшлі на поўнач і*

# ЧЭРВЕНЬ

*(Да паэмы «Кульга»)*

**Адсвяткаваўшы май вячысты наш,**
**Да дна сагрэўшыся вячыстым маем,**
**Мы у сцюдзёны чэрвень зазіраем**
**Гурмою, несвяточнаю наўсцяж.**

**Глядзім з пакрытай шэранню душой,**
**З напружанасцю яраснай і злою:**
**Чаму, чаму усё ж не на чужой?**
**Чаму, чаму такою не малою?**

**Глядзім праз часу ўздзірванелы пласт,**
**Што кожны год ажно на год таўсцее,**
**І пакідае спадзяванне нас,**
**На праўду-матку меншая надзея.**

**Бывае, здасца воку мудраца:**
**Крышталь магічны – вось ён! Ёкне сэрца,**
**Ды у аблокі сонца дасць нырца,**
**І патухае на далоні шкельца.**

**А іншы сам – і не мудрэц зусім –**
**Сляпое шкельца за крышталь магічны**
**Як выдасць – ды і цацкаецца з ім,**
**Нібыта з мікраскопам загранічным.**

**О, каб ён быў, няўлоўны той крышталь,**
**Мы б ад яго дабіліся адказу,**
**Чаму праслаўленая наша сталь**
**Праслаўленая стала не адразу.**

**Калі адзін паслаў, другі павёў,**
**Чаму машыны не загрукаталі,**
**Чаму не рынуліся на звяроў,**
**Гремя огнём, сверкая блеском стали?**
**Ці ж тую сталь пад лёскат гучных слоў**
**Тры пяцігодкі мы не гартавалі?**

**Ужо заснеш нібы – як страсяне,**
**Як скалане сярод дрымотнай ночы:**
**Чаму, чаму? – пытаем і у сне,**
**Але не йдзе да нас і сон прарочы.**

**І я прарочым сном не засынаў**
**І крышталя не маю пахваліцца,**
**Ды бог ці д'ябал мне наканаваў**
**У чэрвені тым самым нарадзіцца.**

**І я без вешчых сноў, без крышталя,**
**Ох, як не раптам, ох, як спакваля,**
**Ох, да чаго і доўга і здаля**
**Ішоў – то прама крочыў, то ў абход,**
**Без нічые падказкі і парады,**
**Але дайшоў-такі да гэтай праўды –**
**Сам не скажу вам, на каторы год.**

**Прыйшоў, прыйшоў – хоць за руку не вёў,**
**Ніхто не вёў – а ўсё-такі прыйшоў.**

**Спасцігнуў я, у чым быў горкі лёс,**
**У чым было няшчасце нашай сталі –**
**Яго з сабою той няўхільна нёс,**
**Каго мы з ёй так шчодра рыфмавалі.**

**- - - - - - - - - - - - - - - - - -**

**Прыглядваючыся праз часу дым**
**Да, прама скажам, вельмі дзіўных фактаў,**
**Адны гатовы іх тлумачыць тым,**
**Што ён занадта даўяраўся пакту.**

**Які даверлівы! Аж хоць бы хны,**

**Віцезь. Усё гэта дае нам падставу заключыць, што Віцень і Вітаўт – ці не проста гэта сыны вады? А Віцязь? Ён зафіксаваўся і ў назве возера Свіцязь. Сын вады, як сын агню і г.д.? Гэта ж недзе на амерыканскім кантыненце ў часы індзейцаў былі такія імёны. Цікава, а як яны ўзніклі ў іх? А можа, да індзейцаў там ужо нехта іх насіў, а індзейцам яны дасталіся потым? (Але аб гэтым крышку ніжэй.) Дарэчы, таму, хто займаецца даследаваннямі наяўнасці ў беларускай тапаніміцы, як і ў беларускай мове ўвогуле, фіна-угорскага моўнага падсубстрату, цікава і карысна будзе звярнуцца да мемуараў бацькі Максіма Багдановіча – Адама Ягоравіча Багдановіча «Мои воспоминания» (часопіс «Неман», № 5–8, 1994 г.).**

**Нельга пагадзіцца з І. Ласковым, што сярод іншых назваў назва «Дунай» прынесена на Беларусь з Румыніі летувісамі. Дарэчы, рэчка Дунай у нас ёсць не толькі ў Іўлеўскім раёне, але і ў зменены выглядзе – у Лагойскім, Клецкім, Быхаўскім і іншых раёнах нашай краіны. Дунай – яго сляды можна знайсці і пад Мінскам. Старажытны Менск стаяў якраз пры ўпадзенні Дунай ў Менку. (Жадаючыя могуць пабываць там хоць сёння.) А назву сваю гэтая рака, як і многія іншыя водныя сістэмы, да якіх была прыстасавана гаспадарчая дзейнасць чалавека, атрымала, відаць, ад іранскай групы моў, у якіх «дон» – гэта агульная назва ракі. Для прыкладу возьмем: Ардон, Гізельдон, Дон, Донау (Дунай), Данапрыс (Днепр), Днестр і інш. Іранамоўныя ж назвы занесены былі і на нашы землі, па ўсёй верагоднасці, сарматамі. Адзначым, што «Дунаеў» на Беларусі ў старажытнасці было шмат. І таму не дзіва, калі ў многіх народных песнях спявалася аб тым, як «...за Дунаем мой мілы гуляе». Такое паходжанне назвы «дунай» знаходзім у Я.М. Паспелава ў яго «Школьном топонимическом словаре» (М., 1988 г.), у работах Э.М. Мурзаева, Т. Тэр-Сплавіньскага і ў некаторай ступені ў В.А. Жучкевіча.**

**Любыя (вялікія і малыя) перасяленні народаў, зразумела, былі выкліканы самымі рознымі прычынамі, сярод якіх не апошняе месца, трэба думаць, займаў этнічны, а калі гэта разумець пашырана – расавы менталітэт. Таму, адпраўляючыся ў падарожжа ў краіну ведаў, не будзем забывацца на тое, што кожны народ хацеў заняць лепшае месца пад сонцам, хаця, праўда, гэта не заўсёды яму ўдавалася, і ніколі ні адзін народ (калі ён сапраўды – народ) добраахвотна сам не лез у балота ці ў хмыз які. Зразумела, у жыцці ёсць і выключэнні і іншыя правілы. І гэта таксама даследчыку трэба мець на ўвазе. І, безумоўна, ні ў якім разе яму не трэба пазбягаць нетрадыцыйных крыніц. У дадзеным выпадку маюцца на ўвазе эзатэрычныя веды. Колькі гістарычнага матэрыялу пра іншых далёкіх продкаў утрымліваецца на старонках твораў Ч.У. Гекерторна, Дж. Фрэзера, Эд. Шурэ, Д. Штрауса і многіх іншых! Хто нам сёння падкажа, што гэта за людзі (беласкурыя, блакітнавокія, русавалосыя) жылі на амерыканскім кантыненце да адкрыцця яго індзейцамі (мангалоідамі). Апошнія, перагрэтыя жоўтым сонцам, амаль поўнасцю першых і знішчылі. Некаторыя этнографы сцвярджаюць, што і сёння на прасторах Амерыкі сустракаюцца рэлікты тых далёкіх «бледнолицых» – «бледнатварых». Невыпадкова таму з'яўленне еўрапейцаў, у прыватнасці іспанцаў, было ўспрынята мангалоідамі**

*паўночны ўсход: Польшча, Беларусь, Падмаскоўе, басейн Дона – паўсюдна яны заставаліся і зліваліся з іншымі плямёнамі, страчваючы мову, якая захавалася толькі на сучасных пермскіх тэрыторыях. Тут яны, будучы самі еўрапеоідамі (бо рымскія аўтары нічога не гавораць пра наяўнасць мангалоідаў на межах імперыі), зліліся з мясцовымі мангалоідамі накшталт ненцаў, ханты, мансі, у выніку чаго ўтварыўся ўральскі расавы тып».*

15 мая 1993 г.

*«Я ўжо цалкам перакананы ў правільнасці свае гіпотэзы. Тым і жыву пасярод нягод апошняга часу. Ёсць адчуванне, што нездарма жыву.*

*Днямі на Лене адбудзецца крыгаход, зноў вазьмуся за карасёў. Цяпер ужо не столькі для забавы, колькі для эканоміі сродкаў (у крамах* ***мінтай*** *каштуе 527 р. кг.)».*

15 мая 1993 г.

*«Галоўнае ж, я нарэшце скончыў перадрук «Летапіснай літвы» і нават склаў для яе паказальнікі (на жаль, не ўсе, якія патрабуюцца для навуковай кнігі). Рукапіс пасылаю Лецку з Алесем Баркоўскім, у якога якраз скончылася навігацыя. Лецка, спадзяюся, па-ранейшаму працуе ў «Мастацкай літаратуры» і па-ранейшаму зацікаўлены ў выданні гэтай кнігі. Зразумела, я хацеў бы, каб Вы прачыталі рукапіс, але Алесю я даю заданне без вялікай затрымкі аддаць яго Лецку. Можа, папросіце ў Лецкі на рэцэнзаванне? Каму-небудзь жа будуць даваць, можа, і не аднаму рэцэнзенту. Не падумайце, што мною кіруе жаданне, каб рукапіс трапіў да свайго чалавека, я амаль перакананы, што ў «Летапіснай літвы» праціўнікаў на Беларусі не знойдзецца. Хай нават чалавек спавядае і іншыя погляды, пазнаёміўшыся з матэрыялам, сабраным мною, хочаш не хочаш мусіць*

**І не свярбюча, значыць, і не мулка,**
**Што першай кінутай у печ вайны**
**Была такая ж самая цыдулка*?**

**Другія лупяць ува ўсе званы,**
**Абы каторы да званоў дарваўся:**
**Баяўся, хлопцы, наш Аплот вайны,**
**Не даць прычэпкі зверу завіхаўся!**

**Што ж, прыгадаем, як было яно:**
**Ва ўпор звяруга зырыць, точыць зубы,**
**А мы – хай зырыць! – мы сабе ў кіно,**
**А мы – хай точыць! – мы сабе у клубы.**

**Ужо за рэчкаю то у клубок**
**Свой скруціць хвост, то б'е ім па свірэпцы –**
**Мы ж вочы плюшчым і насы убок:**
**Каб, гэта значыцца, не быць прычэпцы...**

**Няўжо і праўда думаў наш «Аплот»,**
**Што гэтым нейк перашкодзім зверу?**
**Не геній хай, але ж не ідыёт!**
**Як Станіслаўскі паўтараў: не веру!**

**————————————————**

**Грашыць не трэба: дурнем ён не быў,**
**Прынамсі, шмат каго передурыў.**
**І страхам вочы не яму муціла –**
**Зусім не гэта ў чэрвень нас каціла.**

**Сядзеў, нібы у крэпасці, ў Крамлі**
**Той, хто лічыў сябе пупом зямлі:**
**Не бог, не геній – партфункцыянер**
**З злавеснай тамерланаўскай закваскай,**
**Такі ж падступны і няўмольны звер**
**Пад бальшавіцкай, чалавечай маскай.**

**Ужо не помніў, колькі год сядзіць,**

* У Польшчы з гітлераўскай Германіяй быў заключаны аналагічны пакт аб ненападзе.

**Амерыкі як божая кара за знішчэнне сваіх папярэднікаў. Выходзіць, што тыя белыя адкрылі Амерыку нашмат раней за індзейцаў, не кажучы ўжо пра Калумба; і можа, яны ўжо даўно ваявалі з жоўтай расай і ў рэшце рэшт зніклі. Хай бы на тым і скончыліся расавыя войны, тым больш у планетарным маштабе! Але некаторыя высокія аўтарытэты (у прыватнасці С.С. Макараў (1848–1904 гг.) – рускі флатаводзец, акіяногараф, віцэ-адмірал) сцвярджалі і сцвярджаюць, што яшчэ будзе вялікая хваля жоўтай расы на Зямлі. Чырвоная і чорная расы ўжо панавалі, белая пануе, жоўтая – на чарзе.**

**І ўсё ж такі, хто яны былі, тыя белыя? Не выключана, што тэта маглі быць і угра-фіны – частка і нашага этнічнага субстрата, якія, калісьці трапіўшы праз Чукотку ў Амерыку, спарадзілі там сваю цывілізацыю. А можа, яны там, у паўночным паўшар'і, і жылі, як жылі па ўсім Еўразійскім кантыненце, таксама бліжэй да Поўначы? Так, такое магло быць у тыя далёкія часы, калі суша была амаль суцэльнай, калі мацерыкі яшчэ так не дрэйфавалі. Але прыйшлі заваёўнікі, якіх таксама пасля заваявалі, і разбурылі ўшчэнт усё жыццё і, прагнаўшы з усяго амерыканскага кантыненту сваіх папярэднікаў, сцёрлі ўсе іх сляды. Толькі як ні сцірай – а сёе-тое заўсёды ды застанецца. Ці не перагукваецца назва возера Маракайба (Венесуэла) з сібірскай назвай Бадайба або назва рэчкі Каўка (Калумбія) з назвай птушкі ў нас на Беларусі? А як не прыгадаць тут вялікага патрыёта нашай зямлі Аляксея Каўку? І тут жа давайце ўспомнім у Янкі Купалы: «Закаўкалі каўкі на ўзвышшы...» Дарэчы, слова «каўкаць» – «крычаць» запазычана з літоўскай мовы («Этымалагічны слоўнік беларускай**





**І верыў, што сядзець да скону будзе:**
**Хто б мог яго адгэтуль папрасіць –**
**Адны ў зямлі, другія у «Дальбудзе».**

**Прывычна ласку раздаваў і здзек,**
**Даўно ўвайшоўшы ў смак абранай ролі;**
**Каму на волі жыць, каму ў няволі,**
**Каму і жыць увогуле даволі –**
**Сам вырашаў, не раіўся генсек.**

**Што там народ – у партыі і то**
**Ён не пытаў дазволу ні на што,**
**І нат пасада тая, што дала**
**Генсеку партыя, пад пошчак маршаў**
**У рэшце рэшт здавацца пачала**
**Арыгінальным тытулам манаршым.**

**Гэй, каралі, цары і іншы хлам!**
**Цяжкой ступой ідзе на змену вам**
**Генсек – манарх дваццатага стагоддзя!**

**————————————————**

**Ад беспадстаўнай сціпласці не прах**
**Наш гэты, тыпу новага, манарх:**
**Як і вядзецца скрозь у самадзержца,**
**Усебаковай славай цешыў сэрца.**

**Сам архітэктар, сам і будаўнік**
**Зайздроснага грамадства без памаркі,**
**Усё ён вызнаў, ува ўсё пранік –**
**Ад лёсу моў да сельскай гаспадаркі.**

**І хто паэт найлепшы, і артыст,**
**І чым, дапусцім, шкодны вейсманіст –**
**Усюды адчуваў сябе, як дома,**
**Наш геніяльны энцыклапедыст,**
**Хоць з семінарыі не ўзяў дыплома.**

**Паспеў ён славы паспытаць любой,**
**Збанамі піў – любой было уволю.**

*прызнаць, што гэты матэрыял трэба ўводзіць у навуковы ўжытак».*

1 лістапада 1993 г

*«Мабыць, Алесь Баркоўскі перадаў Вам мой ліст? Ён вылецеў з Якуцка 4 лістапада, узяўшы рукапіс мае кнігі. Звестак ад яго пакуль не маю. Затое адзін чалавек мне напісаў, што Алесь па радыё на ўсю Беларусь распавядаў, як мне тут блага жывецца. Не ведаю, ці варта было. Не люблю скардзіцца, бо ці нам, хто пераўжыў пасляваенны час, падаць у роспач? Дарэчы, справы мае палепшыліся. Знайшоў месца ў дзіцячым часопісе. Рэдактар мой даўні знаёмы, у нас з ім поўнае разуменне. Заробак у месяц 150 тысяч. Яшчэ атрымліваю ва універсітэце 50 тысяч. Праўда, сённяшняя тысяча – як ранейшы рубель. Ну, то на 200 рублёў можна было жыць. Паціху вылезем з ямы. Тым болей, у адрозненне ад Вас, даўгоў у мяне няма (не люблю пазычаць).*

*Вось толькі зусім не стала часу на творчую працу. Трэба рыхтаваць другую частку беларускай пермшчыны, а няма калі. Бачыце, я ўзяўся за высвятленне пытання, ці сапраўды паміж індаеўрапейскімі мовамі маецца генетычная сувязь, ці сапраўды яны паходзяць ад нейкай адной? А можа, агульны пласт іх лексікі тлумачыцца ўзаемадзеяннем носьбітаў гэтых моваў? Метадалогія мая такая. Вылучаю «ядро мовы», г.зн. такія словы, якія павінны былі б у кожнай мове існаваць спаконвечна: назвы найболей важных акаляючых з'яваў (сонца, зямля, неба, вецер, агонь і г.д.), частак цела (галава, вочы, нос, рот, рукі, ногі, і г.д.), найважнейшыя дзеясловы (сядзець, стаяць, хадзіць, есці, спаць і г.д.), найважнейшыя якасці (вялікі, малы, высокі, нізкі, шырокі, вузкі і г.д.). Выбраўшы да 150 такіх словаў, хачу выпісаць іх з усіх еўрапейскіх моўных груп: славянскія, лацінскія, грэцкія, нямецкія, летувіскія, а по-*

**мовы», т. 4, Мн., 1988 г.). Не выключана, што ў літоўскую мову яно трапіла з фіна-угорскай стыхіі. А ці не чуем мы хаця б знешняй сугучнасці ў мангольскім «Чэйбалсан» і індзейскім «Чэйбаябас»? І, безумоўна, знаходзім падабенства ў мелодыях мангалоідаў Поўначы (і еўрапейскай таксама) і індзейцаў – супляменнікаў Гаваты, а таксама ў характары і фактуры строяў таймырскіх шаманаў і тых жа індзейцаў. Прыклады гэтыя неверагодныя. І, відавочна, іх можна доўжыць, калі добра ўглядзецца ў карту адпаведнага маштабу, культуру і побыт названых этнічных груп. А хіба не так успрымаецца людзьмі, у чыёй свядомасці гістарычна замацавалася, што Мажайск – гэта ва ўсе вякі спрэс рускі горад, калі ты ім паведамляеш аб тым, што горад гэты быў калісь і беларускім, і літоўскім, і што назва яго балцкая, як і назва рэчкі Мажа ў Капыльскім раёне, як і беларускае прозвішча Мажэйка? Па-літоўску ў сучасным варыянце «мажэйка» – гэта маленькі, самы меншы хлопчык у сям'і. І варта высветліць, як яно трапіла да балтаў і адкуль. А рэчка Мажа сапраўды невялікая, як невялікім у свой час быў і Мажайск.**

**А цяпер, вяртаючыся да І. Ласкова, выказваючы сваё захапленне яго росшукамі, шчодрасцю, з якой ён падае мноства прыкладаў, здабытых, вядома, у велізарнай працы, хочам звярнуць увагу на тое, пра што ён і сам, безумоўна, думаў: кожны народ, кожны этнас, кожны чалавек, апроч сваёй сённяшняй Радзімы, належыць усёй зямлі, і што ўсе мы людзі, хочам мы таго ці не, ёсць дзеці адной маткі-гісторыі і аднаго бацькі-Творцы, якія ніколі не даруюць нам, калі мы будзем забывацца на сваё паходжанне.**

**Яўген ГУЧОК**

*тым параўнаць. Ці ж няясна, што калі ўсе гэтыя мовы паходзяць ад адной, то ядро іх павінна супадаць? А ўжо першыя назіранні паказваюць, што такіх выпадкаў, каб слова з ядра мелася ва ўсіх гэтых мовах, выключна мала».*

15 снежня 1993 г.

*«Што ж далей? Крыху адпачну і – за другую частку свайго даследавання, назву якой яшчэ не прыдумаў («Нашы пермскія карані»? Або штосьці зусім іншае?) Яна фактычна ўжо ёсць, але яе трэба перапісваць. Тут будуць раздзелы па гідраніміі Беларусі, беларускіх прозвішчах, этымалогіі беларускай мовы, нарэшце, аб назве Беларусь. А спадарожна – філасофія дагістарычнага мінулага людзей, этнасаў і моваў. Нейкую ж трэцюю, спецыяльную частку па гісторыі славянства наўрад ці варта пісаць, тое, што маю, укладу ў другую. А то жыцця на ўсё гэта не хопіць. А я ўсё ж пісьменнік, павінен скончыць хоць бы два пачатыя раманы.*

*Вось такія клопаты. Што ж датычыць штодзённага, то ў ім мала цікавага. Каб карміць сям'ю даводзіцца займацца рознай лухтой. Кажучы напышліва, змагацца за існаванне. Такі стан Вам добра вядомы, як я разумею. Час ад часу згадваю студэнцкія гады – дапамагае. Я не аптыміст у дачыненні да Расеі і шчаслівай будучыні ёй не прадказваю. 3–4 кастрычніка – гэта толькі пачатак, бо ў эканоміцы ніякага прабліску, аніякага зруху да лепшага. Што ж да Беларусі, то тут я аптыміст, бо чым горш для Расеі, тым болей шанцаў для Беларусі вырвацца з імперскага пекла. Тым, па шчырасці, і жыву».*

1 лістапада 1993 г

**Адной фатальна не ставала – той,**
**Што імператараў хмяліць найболей.**

**І памагатых – тлумная гурма,**
**Ды спадзявацца на яе – дарма:**
**Хоць вызалочвай іх рукамі ногі –**
**Не можа быць стратэг без перамогі,**
**А перамог дзе ўзяць, калі няма?**

**Ну, памаглі, панарабіўшы звону,**
**Удалую прысвоіць абарону.**
**Ды гэтай кропляй прагу не суняць:**
**Браць гарады, а не абараняць**
**Стратэг павінен, каб стратэгам стаць.**

**––––––––––––––––**

**Чорт пабірай, як проста ім было,**
**Хвалёным Македонскім Аляксандрам!**
**Ішоў туды, куды яго вяло,**
**І браў сваё назло сваім Касандрам.**

**Ці Тамерлан. Ужо сярэднявечча,**
**А ці трымаў сябе ён, як авечка?**
**Якія вогнішчы за ім палалі!**
**І ні на грош ніякае маралі.**

**І нават Банапарт, Напалеон, ***
**Калі яму свяціла перамога –**
**І ні задумваўся ніколі ён,**
**І ні аглядваўся на анікога.**

**А ты ў душы хоць тройчы будзь стратэг –**
**Ты і не маеш права на набег.**
**Ты не эмір. Ты ўсё-такі генсек**
**Той самай партыі, што абвясціла –**
**І свет пачуў яе праз роў трацілa! –**

* У ваенных акадэміях трыццатых гадоў вывучалася ваеннае майстэрства Аляксандра Македонскага як найвялікшага стратэга старажытнасці, Тамерлана – як найвялікшага стратэга сярэдневечча, Напалеона – як найвялікшага буржуазнага стратэга.

# ЭНЕРГІЯ ПАДМАНЛІВАСЦІ

**Неяк увосень 1989 года ў інстытуце мовазнаўства, дзе я тады працаваў, мелася адбыцца пасяджэнне. Звычайна ў такіх выпадках супрацоўнікі наперад ведалі парадак дня будучай зборкі і мелі магчымасць да яе падрыхтавацца. Гэтым разам тэма гаворкі была агучана непасрэдна на пасяджэнні: «Аб публікацыі ў газеце «Літаратура і мастацтва» артыкула Івана Ласкова «Племя пяці родаў». Кіраўнік сектара агульнага і славянскага мовазнаўства, доктар філалагічных навук В.М. Коратка ахарактарызаваў лімаўскую публікацыю як выключна ненавуковую і прапанаваў даслаць у газету вельмі рэзкі водгук.**

**Мяркую, што паспешлівасць, з якой было падрыхтавана тое пасяджэнне, адыграла не лепшую ролю.**

**У сувязі з «аварыйнай сітуацыяй» на пасяджэнне сабралася, пераважна, навуковая моладзь. Сёй-той не чытаў лімаўскай публікацыі, а частка прысутных не валодала праблемай зусім. Тым не менш: калі з навуковым бокам усё было збольшага зразумела (ніхто не падтрымаў поглядаў І. Ласкова), то**





**«Вайна – вайне! Народы! Мір навек!»**

**Ды што рабіць, калі бунтуе кроў**
**Выслоўе нечаканае вось гэта,**
**Наконт – падумаць! – усяго Сусвету:**
**«Малы, каб мець аж двух гаспадароў». ***

**Які усё-ткі дзёрзкі чалавек!**
**З адной нагою і адной рукою**
**Дый непісьменны шчэ, як чаравік –**
**І не збаяўся выракчы такое!**

**Ох ганарысты Чынгісханаў зяць!**
**Ну што ён меў з таго, што браўся ўзяць?**

**Ці мо ягоны трон ужо стаяў**
**На неабдымнай шостай частцы сушы?**
**Ці у яго па аксаміту траў**
**Не коні тупалі, а танкаў тушы?**

**Ці у яго не беркуты з рукі –**
**Бамбардзіроўшчыкаў арда ўзлятала,**
**Каб прасаваць раз'юшаным металам,**
**Таптаць здранцвелыя мацерыкі?**

**А можа, ён зусім не пра сябе?**
**Не мог жа ён, з мазгамі, як у змея,**
**Не разумець, што пры сваёй сяўбе**
**Увесь Сусвет касцямі не засее!**

**Не, верыў ён, што грымне лёсу ўдар,**
**І ён на гэты ўдар не будзе ў крыўдзе, –**
**Калі с т а л ё в ы, новы гаспадар**
**Яму, жалезнаму,** на змену прыйдзе.**

**І ён прыйшоў, ужо прыйшоў, і моц**

* Вядомае выказванне Тамерлана: «Сусвет занадта малы каб мець двух уладароў»

** Імя Цімур у перакладзе азначае «жалеза», у сувязі з чым мянушку «Тамерлан» (Цімур-Кульга) і перакладаюць як «Жалезны Кульга»

**як трэба было вырашаць праблему маральную? Бо ж у асобе аўтара артыкула мы мелі апанента-дылетанта, неспецыяліста. Мы былі ў розных вагавых катэгорыях, І. Ласкоў быў для нас своеасаблівым «братам меншым». Ці канечне трэ было ў такім выпадку даваць катэгарычны «адлуп»? Для мяне істотным было і тое, што з-за нас магла пацярпець славутая газета «эпохі Анатоля Вярцінскага». У непрыхаванай раздражнёнасці загадчыка сектара я быў схільны бачыць адбітак ягонай незадаволенасці «ЛіМам», пазіцыяй газеты.**

**Здаецца, мы вырашылі напісаць у «Літаратуру і мастацтва», але пастанавілі змякчыць акцэнты. Я на пасяджэнні казаў пра тое, што публікацыю «Племя пяці родаў» трэба ацэньваць паводле крытэрыяў мастацкага твора, а не навуковага артыкула. (Ну, з якой навуковай працы можна даведацца, напрыклад, пра тое, што канкрэтная ідэя прыйшла аўтару ў галаву позна вечарам, ці пра тое, што з бібліятэкі, дзе ён працуе, відаць вокны ягонай кватэры?) Хто ведае, здавалася мне тады, можа, публікацыя аматара І. Ласкова зможа прыцягнуць да мовазнаўчай праблематыкі моладзь, якая, атрымаўшы пэўную падрыхтоўку, пазней здолее адсеяць зерне ад кукалля.**

**Не хачу сказаць, што сёння мне сорамна за сваю тагачасную пазіцыю. Я, аднак, не ўпэўнены, што мой уплыў тады быў карысны... (Відаць-такі, мы так і не напісалі ў «ЛіМ», прынамсі, у надрукаваным 20 кастрычніка 1989 года аглядзе пошты з наго-**

Страшную мае, страшны розум мае,
Ён мог бы зерне гэтае змалоць –
«Дэкрэт аб міры» чортаў замінае.

Напаў бы хто! Глядзіш на ўсе бакі:
Ну хто, паны суседзі? Вам жа можна!.
Зацята кіснуць масаю тварожнай,
Ніхто не рыпаецца, слабакі.

---------------------------------

І зноў даносіцца знаёмы звон:
«Баяўся! Чуеце? Баяўся ён!»

Што ж ён, галовы нашы забіваў
Чужою тою і малою тою,
А сам нагамі коўдру узбіваў,
Начамі курчыўся ад непакою?

Ды і чаго было яму баяцца?
Бразготак ашалелага паяца?

За ім стаяла верная, як раб,
Як кантынент гіганцкая краіна,
А ў ёй усё – ахвота браць была б:
Любое золата, любая гліна.

Яна «стаяла»? Ён стаяў за ёй,
Стаяў за ёй, як за сцяной якой.

І за сцяною гэтай – ведаў ён –
На ўсеагульным калашматным полі
Двухсотмільённая чарга на скон, –
Яна не дойдзе да яго ніколі.

А колькі ўбіў на сталь і на дзюраль,
Каб авалодаць і зямлёй, і небам!
Дарма, ці што, пятнаццаць год амаль
Марыў народ хранічным недаедам.

Самаздаволена глядзеў наўкол:

ды артыкула І. Ласкова Інстытут мовазнаўства не згадваўся.)

Пазней І. Ласкоў надрукаваў яшчэ некалькі артыкулаў (у тым ліку нават у «чыста навуковым» выданні – другой кнізе «Беларусікі») Ён ужо крыўдаваў на лінгвістаў, якія, знаходзячыся «пад мохам акадэмічных забабонаў», не звярталі ўвагі на ягоныя публікацыі, смела крытыкаваў «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» і прапаноўваў свае шматлікія версіі. У І. Ласкова з`явіліся прыхільнікі, якія «са значэннем» пыталіся са старонак таго ж «ЛіМа»: а чаму гэта маўчыць «афіцыйнае» мовазнаўства?

Раскрытыкаваць «канцэпцыю» (даруй мне, Божа, гэтае двукоссе, як і ўвогуле тое, што я ўзяўся пісаць гэты тэкст) фіна-вугорскай арыентацыі беларускай мовы лінгвістам было вельмі проста. Але ніхто не хацеў займацца «біццём маладзенца»...

У 20-я – першай палове 30-х гадоў у Савецкім Саюзе шмат займаўся этымалогіяй сумнавядомы акадэмік Мікалай Якаўлевіч Мар. Ён адмаўляў славянскі характар украінскай мовы, выяўляў яе «асаблівыя» сувязі з магрэльскай, чанскай, грузінскай. На думку М. Мара, «нельзя без яфетических языков Кавказа (акадэмік сам прыдумаў «яфетычную» сям`ю моў, ад якой нібыта пайшлі ўсе мовы свету. – *С.З.*) ...понять ни русского, вообще славянских, ни германских языков, ни, более того, турецких, ни китайского». Продкамі рускай мовы акадэмік абвяшчаў скіфскую, кімерскую, абхазскую, этрускскую, баскскую





Хто мае столькі гусеніц і крылаў?
А як прыемна ўспомніць Халхін-Гол:
Вось дзе салому ламанула сіла.

Баяўся? То гаршкі навошта біў
З саюзнікамі у трыццаць дзевятым,
А потым іх, як цуцыкаў, дражніў,
З Фінляндыяй улезшы у дэбаты?*

Адседзіліся! Чывікнулі штось
Ды і маўчаць, як вераб'і у просе.
Нічога! Ёсць яшчэ пад бокам в о с ь.
І завадатар ёсць у гэтай восі.

Маньяк, шаленец мюнхенскі, п'яны
Ад таннай славы пакарэння слабых –
І ён у сне Сусвет трымае ў лапах,
І ён сябе не мысліць без вайны.

Ён мог бы, мог! Але, відаць, і ў ім,
У нейкім месцы цёмным, патайным,
У пятках, можа, хоць ён і храбрыцца,
Хаваецца душонка баязліўца.

Так несумненна, несумненна так –
Хоць аб сусветным панаванні марыць:
Нашто іначай прапаноўваў пакт –
Нібыта браў дазвол па Польшчы ўдарыць?

Такі, бадай, ніколі і нідзе
На болей моцнага не нападзе.
Каб ён палез у завароху першым,
Ты абавязан выглядаць слабейшым!

---------------------------------

І ноч прыйшла, і позні час агні
За вокнамі прарэджваў і прарэджваў,

* На момант абвяшчэння вайны Савецкім Саюзам Фінляндыі апошнюю падтрымлівалі Англія і Францыя. У далейшым, не атрымаўшы ад іх істотнай дапамогі, Фінляндыя далучылася да фашысцкай Германіі.

і іншыя, вельмі адрозныя ад славянскіх, мовы. «В ошеломляющем количестве» ён знаходзіў у рускай мове «подлинные чувашизмы». Слова *лапоть*, напрыклад, Н. Мар дзяліў на *la – po – te*, пры гэтым першы склад *la* выяўляў у выглядзе *па* ў розных абхазскіх словах: гэты ж элемент (але ў выглядзе *sa*) знаходзіў і ў слове *сапог*. Слова *пирог* Н. Мар разглядаў як складанае – з груз. *pur* (хлеб) і баск. *ogi* (хлеб). Знаёмая метода, ці не праўда?

Пасля разгрому марызму на пачатку 50-х (яго, папраўдзе, даводзілася «граміць», бо апалагеты «новага вучэння аб мове» займалі ў савецкай лінгвістыцы кіраўнічыя пасады) трэба было вярнуць «раскалыханую» этымалогію ў яе выйсцёвы стан. Лінгвісты ў тую пару нястомна нагадвалі, што наяўнасць у розных мовах падобных або тоесных гукавых спалучэнняў яшчэ не дае падстаў гаварыць пра генетычную сувязь гэтых моў. Мовазнаўцы пісалі, што ў Мара «ўсе гукі пераходзяць ва ўсе гукі». Яны справядліва сцвярджалі, што адной з найгрубейшых хібаў канцэпцыі М. Мара было «ігнараванне канкрэтнай гісторыі моў», што этымалогіям акадэміка ўласцівы «выключная бяссэнсавасць і сваволя». Мараўскі перыяд у мовазнаўстве нанёс навуцы вялікую шкоду, і сёння лінгвісты ўспамінаюць яго як «кепскі сон»...

Давайце зробім немагчымае і паверым у тое, што існавала роднасная комі-пярмяцкай «лацінская мова». (Гэтым самым мы, праўда, абразім спецыялістаў па фінавугразнаўству, якія гэткай «мовы» не ведаюць. Але што

А ён вачэй не закрываў ані:
Аб гэтай ночы Зоргe папярэджваў.

Дый ці адзіны Зорге! Колькі іх
Галовы аддало за дату тую...
І кожны, мусіць, верыў, што ратуе.
Як іх не скора ўспомняць і не ўсіх!

Які працяў бы іх, бясстрашных, жах,
Калі б маглі як-небудзь здагадацца,
Як своеасаблiва наш манарх
Да гэтай ночы будзе рыхтавацца!

Так-так, ён склаўшы рукі не сядзеў
І вось цяпер глядзеў, ці ўсё паспеў.

Паспеў трубнуць на ўвесь шырокі свет:
Раз абяцаў не нападаць сусед,
То і няма падстаў чакаць нападу;
А хто суседа будзе абражаць –
Як правакатараў усіх саджаць.
Вось рагатаў паяц, відаць – да ўпаду...

Хай парагоча! І з таго, што ў час,
Калі ён разварочвае армады –
І бронevoйскі без саляру ў нас,
І без снарадаў – па мяжы! – гарматы,
І што сцярвятнікам яго даём
На палявыя нашыя садзіцца,*
І што вiжы яго ужо і днём
Ідуць пасвiстваючы праз граніцу,
Што на пагранзаставах камсастаў
Ідзе у адпачынак бесклапотна...

Хай паiржэ. Абы не засвiстаў
Адбою саранчы сваёй балотнай.
Абы рвануўся праз кусты-пасты,

* Былі выпадкі, калі германскія самалёты, што выконвалі рэйсы Берлін-Масква, Масква-Берлін, садзіліся на палявыя аэрадромы ў Беларусі.

зробіш, такія правілы гульні нам прапанаваны.) Давайце паверым і ў тое, што комі-пярмяцкім з паходжання з`яўляецца, напрыклад, беларускае слова *багна*. Але як тады растлумачыць наяўнасць гэтага слова ў іншых славянскіх мовах – украінскай, польскай, чэшскай, славацкай, верхнялужыцкай і ніжнялужыцкай? (Адпаведныя словы пададзены ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» ў артыкуле *«багна»*, і гэты артыкул І. Ласкоў чытаў і нават цытаваў.) Тут таксама фіна-вугорскія запазычанні? Здаецца, ёсць нагода выставіць прэтэнзіі не толькі беларускім этымолагам, але і польскім, чэшскім, славацкім... Ці не занадта будзе?

Беларускае прозвішча *Поздзер* і польскае слова *paździerz* (кастрыца) тлумачыцца пры дапамозе комі-пярмяцкага *паздер* (верхні пласт кары). А як тады трэба разумець наяўнасць слова *поздер*, напрыклад, у сербскай мове? А славенскае *«pazder»* (асколак, трэска, сучок)? І ці не лепшай тут была б уласная, славянская этымалогія – ад *дзерці, драць*?

Выключна адважнай выглядае спроба этымалагізаваць на аснове комі імя *Жыгімонт*. Тады гэткім жа спосабам трэба тлумачыць і імёны *Сігізмунд, Зігмунд*. Але ці не ўжываюцца яны ў немцаў? Тое самае можна сказаць пра «этымалогію» слоў *гумно, бадыль* і шматлікіх іншых. Славянскія адпаведнікі гэтым словам ёсць ва ўсіх або амаль ва ўсіх славянскіх мовах, у тым ліку, напрыклад, у славенскай, харвацкай, македонскай.





Як выхваляецца, у тэмпе марша!
Там паглядзім, як зарагочаш ты,
Калі цябе пагонім да Ла-Манша.

Там паглядзім, каму быў суджан крах,
Каму купацца ў бессмяротнай славе,
Хто на гліняных высіцца нагах
І хто калос аж да нябёс на справе.

Ну а пакуль – скаль зубы, блазен, скаль!
...Задураная песнямі пра сталь,
Не насцярожвала вушэй Расія
Насоўвалася на бяссілле сіла.

І крэматорыем смуродзіў бэз,
І быццам попел, сыпаліся зоркі,
А ён па люльку у кішэню лез
І мімаходзь рашаў, што зробіць з Зорге.

І спалі мы апошні раз усмак,
Ён усыпіў народ, і спаў прасцяк.
Ніхто не ўскочыў, каб шаленца спудзіць,
Ніхто не ведаў з нас, ш т о нас абудзіць.

І ён не ведаў, «геніяльны» Ён,
Што нат і думаць кіне пра Ла-Маншы
І будзе доўгіх, доўгіх дзесяць дзён
Маўчаць, нібы вады у рот набраўшы,

І зразумеўшы, што ніхто, нідзе,
Апроч як мы, яго не прыме SOSы,
Да мікрафона ледзьве дабрыдзе
І скажа «Бацька» наш: «Браты і сёстры!..»
-----------------------------
І сорак год прайшло, як грукат сціх,
І раны быццам бы мы залячылі,
А колькі нас тады палегла ўсіх –
Аж і да гэтага не падлічылі.

Хто кажа дваццаць, хто і дваццаць пяць –

І. Ласкоў сам згадвае, што «ў гісторыі не адзначана ніякага кантакту паміж Беларуссю і Перм`ю». Навуцы вядома, што продкі пермскіх народаў спачатку жылі ў басейне ракі Вяткі і па сярэднім і ніжнім цячэнні Камы. (Нагадваю, што гэтыя тэрыторыі знаходзяцца на ўсход ад Ніжняга Ноўгарада.) Пазней комі перасяліліся на тэрыторыю сучаснай Рэспублікі Комі (якая, зноў нагадваю, знаходзіцца паміж Архангельскай і Цюменскай абласцямі, на паўночнаўсходнім ускрайку Еўропы). Было таксама, што комі рассяляліся за межы сваёй этнічнай тэрыторыі – на Урал і ў Сібір, гэта значыць рухаліся на ўсход. Ці маглі быць у тых краях продкі беларусаў? Якія ёсць падставы гаварыць пра асаблівыя і інтэнсіўныя комі-беларускія кантакты? «Перш, чым параўноўваць у розных мовах якія-небудзь з`явы, трэба ведаць іх гісторыю». Напісана гэта было ў сувязі з практыкаваннямі М. Мара Але ці не варта было б ведаць гэта кожнаму, хто хоча займацца этымалогіяй не па-дылетанцку?

...Бяру ў рукі даведнік «Беларускія пісьменнікі» і бачу, што ў ім раскрыта «загадка І. Ласкова»: аказваецца, у творчасці пісьменніка «паяднаны рэальнасць і фантазія, сур`ёзнасць, разважлівасць і ўсмешка». Стваральнікам «фантастычнага жанру» І. Ласкоў быў і ў этымалогіі. Можна толькі шкадаваць, што ён не змог ставіцца да гэтага боку сваёй дзейнасці ўсмешліва і іранічна.

Сяргей ЗАПРУДСКІ

Адкуль жа ведаць нам той лік гаротны,
Калі дагэтуль у гразі балотнай
Непахаваныя яшчэ ляжаць.

Па ўсіх мая бясконцая туга,
Па ўсіх, па ўсіх, кім балявалі чэрві,
Але асобны боль за тых, хто чэрвень
Абраў сабе для першага «куга».

Усё зрабіў, каб чырванню заліўся
Вясёлы чэрвень, што абралі мы,
Той, хто у самы чорны дзень зімы
На гора нашае на свет з'явіўся.

Над ім віселі авіяпалкі,
Над ім дзяжурылі аэрастаты –
Нас засланялі толькі мацяркі
Сабой і ад гранаты, і гарматы.

Ніхто не скажа, колькі нас было,
Бо большасць нас і не была на ўліку.
Дарэмна захлыналіся ад крыку:
Лісцём занесла, снегам замяло.

Я, можа, з тысячы адзін жывы.
Тырчу, як колас на стаптаным полі.
Таму аб даўняй чэрвеньскай крыві
Я не павінен забываць ніколі.

Таму даўно дзень нараджэння свой,
Як свята нейкае, не адзначаю –
І з сённяшняга чэрвеня у той,
Бы ў брацкую магілу, зазіраю.

# ЗАПОЗНЕНЫ ЛІСТ

Ваня... Калі ж гэта было? У тваім і маім дыпломе аб вышэйшай адукацыі значыцца: Масква, Літаратурны інстытут, 1966–1971 гады. Цэлых пяць гадоў мы хадзілі аднымі і тымі ж шляхамі-дарожкамі, заходзілі ў адны і тыя ж аўдыторыі. Прыблізна мы амаль аднагодкі, але гэты ліст, на жаль, ужо запознены... Не ведаю, ці ўспаміналася табе час ад часу тая раніца, калі мы прыйшлі пісаць сачыненне на сваім першым уступным экзамене. Мне яна запомнілася адным момантам, над якім пасля часта смяяўся і ты. За мною сядзеў пачынаючы празаік Жэня Шміт (сляды яго недзе згубіліся ў Маскве, а, можа, у Парыжы ці Нью-Ёрку), ён пісаў вольную тэму і чамусьці вырашыў запытацца ў мяне, як пішацца: *Экзюперы* ці *Экзепюры*... А я ўвогуле ўпершыню пачула гэтае прозвішча, якое для мяне нічога не гаварыла. Пасля экзамена пабегла ў інстытуцкую бібліятэку і пачала адкрываць для сябе французскага пісьменніка: «...Спазнаць можна толькі тыя рэчы, якія прыручыш, – сказаў Ліс. – У людзей ужо не хапае часу што-небудзь спазнаць. Яны купляюць рэчы гатовымі ў магазінах. Але ж няма такіх магазінаў, дзе гандлявалі б сябрамі, і таму людзі больш не маюць сяброў. Калі хочаш, каб у цябе быў сябар, прыручы мяне...» З гэтага і пачаўся для мяне літаратурны інстытут...

А для цябе? Экзюперы табе не трэба было адкрываць. Ты быў ужо вельмі сталы ў сваіх літаратурных ведах, ва ўсялякім разе, так мне здавалася. У цябе ўжо была адна нейкая хімічная вышэйшая адукацыя, можа, нават і няпоўная, але гэта ўжо і не мела значэння, таму што перавагу ты аддаў літаратуры. У цябе ўжо быў пэўны запас вершаў, і даволі добрых.

У нашым творчым семінары, якім кіраваў вядомы паэт і перакладчык Леў Адольфавіч Озераў, ты адразу ж стаў пачынаючым творцам нумар адзін, і мы трошкі цябе раўнавалі да Озерава, таму што ён вельмі далікатна, але ва ўсім вылучаў цябе і ставіўся да цябе як да асобы, якая ўжо склалася. Ну, вядома ж, ты тады ўжо не быў пачынаючым. Так, ты быў ужо асобай. Мы не надта гэта разумелі і даволі часта пасмейваліся з тваёй нейкай празмернай аскетычнай сур'ёзнасці, а ты ў сваю чаргу пасмейваўся з ветру, які, магчыма, яшчэ залішне шумеў у нашых галовах. Мы цябе раздражнялі сваім невуцтвам, сваімі свавольнымі ўчынкамі і няўменнем пісаць добрыя вершы. Ды што раздражнялі, нярэдка твайму абурэнню не было межаў! Ну, хаця б узяць такі эпізод... Ён, напэўна ж, застаўся і ў тваёй памяці. Леў Адольфавіч заўсёды імкнуўся як мага болей пашырыць нашыя літаратурныя веды і нярэдка арганізоўваў нам сустрэчы з жывымі класікамі рускай паэзіі. І вось аднойчы мы пачулі ад яго, што замест творчага семінара паедзем у Перадзелкіна на дачу да Іллі Сяльвінскага. Ты рыхтаваўся да гэтай сустрэчы, ты падрыхтаваў шмат пытанняў і, як пасля сам сказаў, мы ўсё табе і сабе сапсавалі. Прыехалі, расселіся на верандзе, частаваліся нейкай садавінай, і для пачатку Ілля Львовіч папрасіў нас прачытаць па вершы. І адразу ж вызвалася свой верш прачытаць Света Басуматрава (яна на той час пісала вершы на рускай мове). Чытала па-жаночы дзёрзка і распаволена:

*... И уведу в леса, дразня коленями,*
*хранителя священного огня,*
*чтоб он забыл о времени, о племени,*
*и женах, не похожих на меня!*

Ты быў праціўнікам усялякіх «каленяў», але, як ні дзіўна, пасля Святланінага верша гаворка стала вельмі жывой. Праз колькі часу Сяльвінскі ўжо сам чытаў нешта з Ганны Ахматавай. І тое, як табе ўяўлялася гэтая сустрэча, міжволі парушылася. І ты вінавациў у гэтым нашу, як табе здавалася, несур'ёзнасць. А гэта, напэўна, проста была маладосць... Гарачая і эгаістычная. Мы тады, раз'язджаючыся на канікулы, неяк і не задумваліся, чаму ж ты нікуды не збіраешся? А табе проста не было куды ехаць. У цябе не было бацькоў, толькі нейкія далёкія сваякі на Гомельшчыне. І, напэўна, нярэдка большую частку лета ты праводзіў у Маскве, але не марна. Невядома, дзе, з якімі архівамі ты працаваў, але ўжо тады пачалі з'яўляцца часткі твайго «Тамерлана». Цябе вельмі падахвочваў Леў Адольфавіч, у вас ужо былі з ім нейкія свае размовы, ён бачыў у табе вельмі таленавітага сталага паэта. Пабачыла аднойчы і я...

Озераў запрасіў цябе і мяне паўдзельнічаць у літаратурнай вечарыне, якая наладжвалася ў славутым Політэхнічным музеі і якую ён вёў. З усіх тых удзельнікаў мне запомнілася Сільва Капуцікян, табе, напэўна, запала нейкае іншае імя. Але справа не ў гэтым. Зала была паўнюткая. У Маскве яшчэ быў пік цікавасці да ўсялякай паэзіі. Вось Леў Адольфавіч аб'яўляе тваё імя, гаворыць, што ты яго вучань і студэнт, ты выходзіш да трыбуны і ў поўным сэнсе хаваешся за ёй, усё роўна як хлапчук-падлетак. Зала адпаведна рэагуе, але тут пачуўся твой зычны, добра пастаўлены бас: «Я – мамонт...» І зала прыціхла, падпала пад уладу твайго голасу і радкоў... Потым былі доўгія воплескі. Ты быў шчаслівы і ўсхваляваны. Радаваўся і Леў Адольфавіч. Яму вельмі хацелася зрабіць з нас паэтаў, і на гэта ён не шкадаваў ні часу, ні душы.

А час бег... І штосьці ў табе пачало мяняцца. Ты стаў больш мяккім, больш усмешлівым. Але неяк ці не ў шэсць раніцы пастукаўся да мяне ў пакой. На табе не было твару. «Што здарылася, Ваня?» – «Раскажу потым, апранайся, паедзем у інстытут...» – «Дык вельмі ж рана?» Ты сам разумеў, што рана, але табе трэба было выказацца, ты чакаў ад некага суцяшэння. І вось мы едзем ранішняй Масквой, потым прагульваемся па Цвярскім бульвары, залатая восень дыхае ва ўсім... Аказваецца, ты амаль страціў галаву з-за таго, што ў Маскве Дні якуцкай літаратуры, што наша аднакурсніца малады празаік з Якуціі Валя Гаўрылева гэтай ноччу дзесьці затрымалася з сябрамі, якія прыехалі на гэтыя Дні. І ты не ведаеш, што думаць, што рабіць, як да гэтага ставіцца. Вось яно што!.. Ваня, Ваня... Да цябе прыйшло каханне... Ты быў бездапаможным, неспакушаным у гэтых пачуццях, як дзіцёнак. Я пачала ўсяляк супакойваць цябе, я ўхваляла твой выбар, у Валі была проста незямная прыгажосць і добрае, мудрае сэрца. У нейкі момант на тваіх вачах заблішчэлі слёзы ад вышыні, ад глыбіні тваіго пачуцця... А неўзабаве вы сталі мужам і жонкай. І ў цябе з'явілася яшчэ адна радзіма – Якуція. Ты палюбіў той паўночны край, ты з такой любоўю заўсёды гаварыў пра якутаў і, калі да Валі прыязджалі сваякі, спяшаўся пазнаёміць іх з намі. У вас нарадзіўся сын Андрэй. Пакуль ты з Валяй заканчваў інстытут, ён выхоўваўся ў Валіных бацькоў у Якуціі. Але ты вельмі любіў гаварыць пра тое, што твой маленькі сын адчувае сябе беларусам. Помню, як ты расказваў мне, што калі Андрэю паказалі на трактар і сказалі, маўляў, вунь трактар «Беларусь», ён закрычаў: «Не! Не! Беларус – гэта я!» Увогуле, ты сам заўсёды вельмі ганарыўся сваім беларускім паходжаннем. І што тычыцца Беларусі, беларускай літаратуры, да цябе можна было

звяртацца, як да энцыклапедыі. Ты насіў у сабе шмат ведаў і там, у Маскве, пры любой магчымасці заводзіў гаворку пра нашу радзіму, мову, паэзію...

Перад тым, як пачаць пісаць гэты запознены ліст да цябе, я доўга ўглядалася ў фотаздымак нашага выпуску. Вось Люба Філімонава, за ёю Ала Кабаковіч, потым я і тут жа праз некага (на жаль, прозвішча ўжо выпала з памяці) твая Валя. А дзе ж ты? – мільганула думка. Цябе я знайшла ў другім радзе побач з выкладчыкам сучаснай рускай літаратуры Аляксандрам Мікітавічам Уласенкам. Ён беларус, наш зямляк, і гэтаксама, як Леў Адольфавіч Озераў, ва ўсім вылучаў цябе. Вось і перад здымкамі ты пра нешта загаварыўся з ім, ды так і застаўся побач. Потым мы ўсе раз'ехаліся, хто куды. Вядома, ты з сям'ёй мог бы вярнуцца ў Мінск, але, відаць, настаяла Валя. Вы паехалі ў Якуцію. Цябе не палохаў гэты выбар. Таленавіты, з агромністай эрудыцыяй, ты мог брацца за любую літаратурную справу: рэдактарскую, перакладчыцкую. І ты рэдагаваў, перакладаў у Якуцку, пісаў вершы, дзіцячыя кніжкі і, як паказаў час, займаўся навуковымі росшукамі. Ты вельмі лёгка авалодваў рознымі мовамі. Ці не табе ў інстытуце прыйшла думка, каб мы, беларусы, вывучалі факультатыўна польскую мову? Мы ўсе цябе падтрымалі і нам пайшлі насустрач. У нас з'явілася настаўніца, польская пісьменніца і перакладчыца пані Мар'я Даліньска. Мне здавалася, што я ў самым лёгкім становішчы. Тое ж самае, напэўна, думала і Ала Кабаковіч. Мы былі родам з Заходняй Беларусі, нашы маці заканчвалі пачатковую польскую школу, і асобныя польскія словы чуліся намі з дзяцінства. А ты, што называецца, пачынаў з азоў, але спатрэбілася вельмі мала часу, каб ты, што называецца, «улез» у польскую мову, а заадно і ў гісторыю, цалкам. І, калі нам выпала паехаць на міжнародныя курсы паланістаў, што наладжваліся тады пры варшаўскім універсітэце, ты здзіўляў настаўнікаў сваімі глыбокімі ведамі. Запомнілася твая звычка час ад часу папраўляць акуляры, ты любіў трапны жарт, і ўсе твае эмоцыі заўсёды былі на тварах. Хочацца зноў успомніць Экзюперы. Не ведаю, што нас прыручала, але ты быў сябрам цяпер ужо далёкай маладосці. І як не ўспомніць адзін з тваіх прыездаў у Мінск, калі я табе сказала: «Ваня, ужо няма Алы Кабаковіч...» Ты здрыгануўся, памаўчаў, потым выдыхнуў: «Няўжо?.. Якая бязлітаснасць... Навошта так рана?» А ў мінулым, дзевяноста чацвёртым годзе дзесьці ў самым канцы чэрвеня праз Маскву я ляцела ў Амерыку. З Шарамецьцева пазваніла нашай аднакурсніцы маскоўскай паэтцы Раі Рамананавай. «А як Ваня Ласкоў? – запыталася яна ў мяне. – Дзе яны цяпер з Валяй?» «Усё там жа, – адказала я, – у Якуцку. Была ў іх думка пераехаць у Мінск, але, як і ўсюды цяпер, вельмі цяжка з кватэрамі, ды, можа, калі-небудзь і пераедуць!» Мне думалася пра тваё жыццё... А праз месяц, калі вярнулася ў Мінск, у думках я вымавіла амаль твае ж словы: «Няўжо?.. Якая бязлітаснасць... Навошта так рана, Ваня?..»

*«... Бачыш, вунь там, у палях, спее пшаніца? Я не ем хлеба. Каласы мне непатрэбны. Пшанічныя палі ні пра што мне не гавораць. І гэта сумна! Але ў цябе залатыя валасы. І як цудоўна будзе, калі ты мяне прыручыш! Залатая пшаніца стане нагадваць мне цябе. І я палюблю шолах каласоў на ветры. .»*

(Антуан дэ Сент-Экзюперы).

Раіса БАРАВІКОВА

# АБ КАРЫСЦІ АМАТАРСТВА

Настае век прафесіяналаў, і ўсякае аматарства сёння ўспрымаецца з недаверам. Але пакаленне Івана Ласкова жыло ў час, калі паміж афіцыйнымі літаратарамі і свабоднымі творцамі, паміж акадэмічнай навукай і самавукамі-вынаходнікамі ляжала прорва. Колькі геніяльных адкрыццяў легла «пад сукно» толькі таму, што аўтары гэтых адкрыццяў не належалі да касты навукоўцаў, дзе панаваў кланавы інтарэс! А колькі цудоўных творчых задум згінула не развіўшыся ва ўдушлівай атмасферы афіцыёзу! Закліканыя абараняць свабоду творчага самавыяўлення асобы, прафесійныя саюзы паступова пераўтвараліся ў закрытыя і самадастатковыя сістэмы, якія з цягам часу дэградавалі і дэпрафесіяналізаваліся. Злавесны міг гэтага працэсу адзначыў яшчэ Кузьма Чорны. 5 кастрычніка 1944 года, незадоўга да скону, ён са смуткам у душы падводзіў вынікі масавага прыходу ў літаратуру «ўдарнікаў ад станка і ад сахі»: «У Беларусі асталося сем пісьменнікаў беларускіх, а членаў Саюза пісьменнікаў у Беларусі звыш сотні (у наш час звыш чатырох сотняў. – *М.Т*)... Каб усе яны пакінулі пісаць сваю халтуру, а сталі будаўнікамі, краўцамі, кавалямі, земляробамі або падвучыліся і сталі настаўнікамі, яны маглі б даць карысць рэспубліцы. Беларускай інтэлігенцыі бадай што ўжо няма, а гэтыя носяць яе імя і сціраюць з нашага жыцця беларускі характар».

Іван Ласкоў і іншыя «сямідзесятнікі», якія ішлі ў літаратуру паасобку і гуртам, выяўлялі велізарныя творчыя патэнцыі пакалення, што нарадзілася ў саракавыя – ваенныя і пасляваенныя – гады. Яны, у адрозненне ад папярэднікаў, не помнілі вайны, але жылі і вайною. Лепш сказаць, што вайна жыла ў кожным, і не толькі ў памяці, але і ў самой істоце, аслабленай вечным недаяданнем, галечай і нэндзай. Век многіх з гэтага неваяваўшага пакалення быў дужа кароткім. Іван Ласкоў паспеў адзначыць толькі свой першы «круглы», ён жа і апошні, юбілей. Колькасна гэта пакаленне ад самага пачатку было нешматлікім, і страта кожнага ўспрымаецца як асабістая драма, нагадваючы пра вялікія творчыя магчымасці і нязддзейсненыя задумы. Ласкоў рана адчуў, якія варункі рыхтуе яму жыццёвы лёс:

*І я жывы – жывенькі я, хаця*
*Была карычневая смерць так блізка,*
*Так абдзімала на зары жыцця, –*
*Аж калацілася аб столь калыска.*

І ў гэтым таўталагічным паўторы «я жывы – жывенькі я», і ў вынесеным у канец радка і выдзеленым рыфмаю верагодным «хаця», і ў апакаліптычным вобразе калыскі, якую шпурляла выбуховай хваляй ажно пад столь, прарываецца востры боль душы чалавека, які ўвогуле не меў звычкі скардзіцца. Пачуцці шукалі выйсця, і Ласкоў досыць доўга і пакутліва ішоў метадам «спроб і памылак» па шляху да самога сябе сапраўднага. Будучы прыроджаным гуманітарыем па натуры, скончыў хімфак Белдзяржуніверсітэта і, толькі папрацаваўшы па спецыяльнасці колькі год, адчуў патрэбу ў прафесійнай літаратурнай адукацыі. Што ж, Літінстытут у Маскве быў якраз той навучальнай установай, дзе маладыя літаратары мелі магчымасць папоўніць свае веды, пераправерыць свой выбар, паспаборнічаць з іншымі ў сферы мастацкай творчасці! Іван Ласкоў, паводле ўспамінаў аднакурснікаў, а сярод іх Ала Кабаковіч, Раіса Баравікова, Алена Папова, Любоў Філімонава, вылучаўся няўрымслівай энергіяй, звернутай, як здавалася, на дзіўныя аб'екты. Напрыклад, захапіўся жыццяпісам Тамерлана: прайшоў і праехаў мясціны, дзе некалі адбываліся падзеі, грунтоўна вывучыў усе даступныя першакрыніцы і аддаў ажно 17 гадоў працы над паэмай, якая перакідвалася з выдавецкага плана ў план і выйшла ў рускамоўным варыянце толькі ў 1975 годзе ў далёкім Якуцку, дзе ўрэшце атабарыўся аўтар. У беларускамоўным варыянце паэма «Кульга» выйшла ў свет у 1985 годзе. А датуль даводзілася чуць хіба толькі рэха вясёлых плётак пра дзівака-паэта, што невядома чаму напісаў вялізны, на тры тысячы радкоў, твор не пра нейкага сучаснага тырана, а пра паўміфічнага і малавядомага ў славянстве вампіра Цімура, па мянушцы «Тамерлан», што азначае «Цімур-ланг», «Цімур-кульга». У мясцовых рэдакцыях, выдавецтвах, Саюзе пісьменнікаў цікаўна слухалі развагі І. Ласкова пра таямнічую сувязь Усходу і Захаду, пра адлюстраванне даўніх падзей у самой беларускай мове, пра лёс «сібірскіх беларусаў», ахвотна спачувалі, згаджаліся і не згаджаліся, але не друкавалі вынікаў яго даследаў. Паэт працяглы час перабіваўся неабавязковымі літзаказамі, выдаючы час ад часу то ў Якуцку, то радзей у Мінску кніжкі на рускай мове. Так яго ўспрымаў тады і аўтар гэтых радкоў, сам ураджэнец якуцкага краю, дзе ў ролі спецперасяленцаў, як называлі афіцыйна сасланых беларускіх сялян-кулакоў, апынуліся мае бацькі. І калі мне прапанавалі на рэцэнзію рукапіс апавяданняў І. Ласкова, я ахвотна ўзяўся за чытанне: хацелася мець уласную думку пра «дзівака-адзіночку» і памагчы яму – у 1983 годзе апавяданні выйшлі асобнай кніжкай пад назвай «Чароўны камень». Найбольш цікавымі мне падаліся апісанні паўночнай экзотыкі, наравістай якуцкай прыроды, нораваў яе насельнікаў, якутаў, беларусаў, рускіх. У гэтым напрамку, здавалася, і трэба шукаць аўтару.

Аднак у Івана Ласкова была свая, і палымяная, жарсць ён з сейсмаграфічнай чуйнасцю ўспрымаў падземныя штуршкі далёкіх падзей і рабіў спробу за спробай, каб агучыць пачутае ў слове. Паэма «Кульга» задумвалася рыхтык тады, калі ў нашым грамадстве пачынаў маячыць злавесны цень крывавага куміра мільёнаў адураных прапагандай людзей, савецкага, паводле тропа Ларысы Геніюш, «вусатага сонца». Падспудна рыхтавалася рэабілітацыя ка́та, што азначала толькі адно – вяртанне краіны ў цемрашальства 30-х гадоў. Мусіць, менавіта гэта змусіла паэта звярнуцца да гісторыі, актуальнасць якой была відавочнай: «І, пэўна, сённяшняму жывадзёру Над подзвігам Кульгі памазгаваць Хацелася б у пошуках узору». Узнаўленне «подзвігаў» Цімура складае асноўны сюжэт паэмы. Гэтыя «подзвігі» апісаны з вялікай паэтычнай сілай у раздзеле «Мячэць». Пабудова мячэці ў гонар адной з жонак Жалезнага Кульгі вылілася ў яшчэ адно злачынства перад чалавечнасцю: «Жывых людзей шырокія пласты Перакладаліся пластамі вапны». Паэт, разумеючы, што вышэйшаю мэтаю літаратурнай творчасці з'яўляецца мастацкі вобраз, свядома дазваляе сабе «зрывацца» час ад часу ў голую публіцыстыку: «Які ўжо там, да д'ябла, з катам такт!» Ён называе свайго Кутлуг-Цімура антыгероем, разбойнікам, жывадзёрам, зладзюжкам, які яшчэ падлеткам, паводле летапіснага сведчання, «украде овцю у человека». І ён жа здзіўляецца, якая магутная энергія была змарнавана на нялюдскія справы: «О, што зрабіў бы гэты чалавек, Каб нарадзіла маці чалавекам! Мо голаў злу б сусветнаму адсек...» У раздзеле «Трактат аб вайне і міры» І. Ласкоў праводзіць прамыя паралелі паміж падзеямі мінулага і сучаснасці, пачынаючы з антрапагенезу і канчаючы эпохай, калі разгарэлася «аж на мільён ці болей год вайна». Урэшце ён абвяргае «прыгожа» пададзеную класікам бесчалавечную ісціну: «Дело прочно, когда под ним струится кровь». Яго формула: «Недаўгавечна ўсё, што на крыві, І асабліва, як яна бруіцца...» На гэта ў паэта ёсць сваё права, права сына той зямлі, якая «ні цара свайго, ні караля не спарадзіла». Выразныя гістарычныя аналогіі падвёрстваюцца ў апавяданні паэта пра рэспубліку простых людзей, себзяварцаў, што год жылі «без цара, без хана, без эміра».

Поруч з цэнтральным персанажам паэмы І. Ласкова ўвесь час ідзе гісторык Ібн-Арабшах, які быў адзіным сярод шматлікіх летапісцаў, хто насуперак патоку хваласпеваў назваў ката катам, Гвалтаўніком Сусвету, не дыстанцыіруючыся пры гэтым ад аб'екта нянавісці: «Мой боль, мой сорам...» Ён выносіць Цімуру свой прысуд – прысуд

вякоў – і пераклікаецца тым самым з нашчадкам, беларускім паэтам, які, бачачы, што «людзей-гігантаў – яўны недабор, затое вылюдкаў-гігантаў... божа!», адважна бярэ на сябе ролю суддзі: «Я – суд стагоддзяў, я – вякоў адплата За ўсё і ўсіх, каго замучыў ты». Як сапраўдны творца, ён прадбачыць многія будучыя падзеі, калі нагадвае сучаснікам: «Глядзі –святкуюць людзі. Ды строгі ў матухны-прыроды лад: Год сорак набяжыць – і іх не будзе». У чэрвені 1941 года астанкі Цімура-Кульгі ўскрылі і паклалі ў сталёвы куфар, а гады тры назад сусветную прэсу абышлі фотаздымкі пашчэнкаў і чэрапа, па якіх ідэнтыфікавалі крывавага фюрэра. Паэт завяршае свой прысуд, але спакою ў яго сэрцы няма: «Адно і тое ж бачу я у сне: Што па часах, магчыма, і не скорых, Ды зноў устане мой смяротны вораг». Прагрэс не спыніць, і некалі, вельмі можа быць, людзі навучацца ўваскрашаць мінулае:

*Забудзецца ў вяках сівых мой боль,*
*Нянавісць паглыне стагоддзяў замець,*
*І нехта зноў на стол перад сабой*
*Цімураў чэрап памятны паставіць.*

У паэта нічога іншага не застаецца, як заклікаць нашчадкаў да розуму і заклінаць памяццю забітых. «Мільён разоў забіты чалавек», ён мае на гэта гістарычнае і маральнае права. У пошуках выхаду ён прапануе свой варыянт вывучэння мінулага, і лепшых, і горшых яго старонак. Гэты шлях можна назваць рэканструкцыяй усяго пазітыўнага, што было ў гісторыі беларусаў і што робіць іх менавіта беларусамі, самастойным этнасам. У выніку ў друку з'явілася серыя артыкулаў, якія не маглі застацца незаўважанымі прыхільнікамі нацыянальна-духоўнага Адраджэння: «Племя пяці родаў», «Нашчадкі таямнічае Літвы», «Зямляк. А можа, аднапляменнік?», «З маўклівых прадонняў» і інш. Відавочна, што пісьменнік, на гэты раз ужо ў ролі даследчыка, гісторыка, этнографа, мовазнаўцы, пакрысе выбіраўся на паўзабытую сцяжыну менавіта беларускага мыслення, якое ацэньвае ўсё, што было і што ёсць, з беларускага пункту погляду, маючы на ўвазе перш за ўсё «нацыянальныя інтарэсы» беларусаў. На жаль, яго пошук абарваўся на самым узлёце...

Вось некалькі важных высноў, да якіх цалкам самастойна прыйшоў Іван Ласкоў, уважліва чытаючы многія даследаванні слынных папярэднікаў і сучаснікаў. Ставячыся з безумоўнай павагай, скажам, да працы Валянціна Грыцкевіча «Путешествия наших земляков», ён тым не менш робіць істотныя карэктывы да аўтарскай канцэпцыі, зважаючы на тое, што ў кожным з нас, нават самым стопрацэнтным патрыёце, сядзіць моцная няўпэўненасць у тым, што Беларусь мела дастаткова гістарычных дзеячаў, якімі можна было б ганарыцца перад усім цывілізаваным светам, а ў выніку мы занадта доўга ўзважваем, ці можам аднесці да беларусаў знакамітых продкаў з «каталіцкімі» прозвішчамі, баімся вокрыку збоку, робімся празмерна абачлівымі. У выніку пільнага вывучэння жыццяпісу Эдуарда Пякарскага, героя кнігі В. Грыцкевіча, І. Ласкоў прыходзіць да адназначнага заключэння, што славуты даследчык якуцкай культуры, аўтар першага слоўніка якуцкай мовы быў паводле сваёй нацыянальнай самасвядомасці беларусам: нездарма яго сусед па ссылцы Вацлаў Серашэўскі, па паходжанні і поглядах несумненны паляк, лічыў Э. Пякарскага «зруселым», бо ў тыя часы сярэдзіна, а яе займалі менавіта беларусы, не прызнавалася ні адным, ні другім бокам: ні палякамі, ні рускімі. І гэта толькі адзін з важкіх доказаў беларускасці вучонага. Многія іншыя аргументы, на думку І. Ласкова, наогул не ляжаць на паверхні, і іх унутраны сэнс можа разгадаць толькі чалавек, пазбаўлены звыклай псеўданавуковай зашоранасці ў поглядах на рэчы. Інакш кажучы, аматар, здольны ўлічваць і ўжо адкінутыя аднойчы вучонымі-прафесіяналамі гістарычныя звесткі. Але, дадамо пры гэтым, аматар, які любіць ісціну, а не сябе ў ісціне. Мовазнаўчыя экзерсісы пісьменніка, што ўразілі многіх адраджэнцаў-сучаснікаў, прыхільніку акадэмізму ў навуцы могуць здацца аматарскімі, несур'ёзнымі, неабгрунтаванымі, і ўсё ж...

Калі 33 працэнта беларускіх прозвішчаў, сабраных такім выдатным знаўцам этымалогіі, анамастыкі, як акадэмік М.В. Бірыла, з'яўляюцца «цёмнымі» паводле свайго сэнсавага паходжання, то гэта, несумненна, павінна было выклікаць натуральнае жаданне разабрацца. Пачынаць трэба было, і гэта хутка зразумеў І. Ласкоў, з вывучэння геаграфічнай прасторы ў яе сувязі з гісторыяй, інакш кажучы, з лінгвістычнага арэалу, бо адказы на пытанні даследчыкі часта шукалі, зыходзячы з сучасных уяўленняў аб нашых суседзях, у той час, як у мінулым суседства наша магло быць іншым. Што магло быць агульнага ў беларусаў з комі-пермякамі? Адказ відавочны: нічога. А І. Ласкоў, як аматар і чалавек мала дасведчаны ў анамасіялогіі, проста зазірнуў у слоўнік і здзівіўся, як шмат агульнага выявілася паміж гэтымі этнасамі, раздзеленымі велізарнымі прасторамі. Тое, што слынным навукоўцам здавалася адступленнем, выключэннем з агульнай упарадкаванасці, рэгулярнасці, аднастайнасці ў пабудове і функцыянаванні моўных адзінак, выяўляла дзіўным чынам моўныя заканамернасці. Многія даследаваныя пісьменнікам прыклады сведчаць, што яны знаходзяцца не на перыферыі, а ў цэнтры (ядры) беларускай лексікі, а значыць складаюць фундамент мовы. Гэта датычыцца і сэнсу, і гучання слоў, якія нявопытнаму воку здаюцца спецыфічна беларускімі. Тысячы і тысячы спалучэнняў слоў, марфем, фанем у выніку ўтварылі своеасаблівую духоўную атмасферу, у якой і жыве сама беларускасць, няўлоўная, цяжка вытлумачальная, але рэальная, як сама беларуская прырода, гісторыя, мова. Каб адчуць гэта, трэба быць, як Іван Ласкоў, чалавекам са свежым, таленавітым позіркам на свет, надта шматстайным, каб аддаваць яго на навуковыя эксперыменты вузкім спецыялістам.

**Міхась ТЫЧЫНА**

*Рэдакцыя часопіса выказвае падзяку Алесю Баркоўскаму за актыўную дапамогу ў зборы матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчасцю Івана Ласкова.*



# Наталля КУЧМЕЛЬ

## Я маю твор...



***

Ляніва, быццам адэсіты, вып'юць кавы
І пойдуць блындацца па горадзе без справы –
Абое даўганогія, пад сонцам, за руку
І ветрык, што ў дрымотных пошуках чагосьці
На даляглядзе, як падушкі, хмары мосціць,
Не пашаволіць разамлелую руку,

Бо на адно дастане сіл· даткненнем гібкім
Малой нагі высушваць мокрыя адбіткі
На шэрым покрыве бетоннай паласы
І спрабаваць спатоліць вялае тамленне,
Ёй абвіваючы спадніцаю калені,
Яму разбэрсаўшы на вочы валасы.

Я маю твор...

# Васіль ЖУКОВІЧ



***

Недзе у нерушы сон цвіў
Дружна пралеска цвіла.
Кветкамі зоркі і сонца
ты ў маім лёсе ўзышла

Стала вяхой, а не ўцехай,
космасам поўніла дні
Ты не завянеш: ты рэха
вечна жывой вышыні



# Юры СТАНКЕВІЧ

У НАС



*Галоўнае пачыналася пасля, калі цемра шчыльным дыванам ахоплівала ўсё навокал і калі абвостраны слых пачынаў лавіць і аналізаваць начныя гукі. Марка Валынец эксперыментаваў са страхам.*

# ЗБІРАЛЬНІК СТРАХУ

*Аповесць*

## 1

Раніца апошнім часам усё часцей прыгнятала яго сваёй беспрасветнасцю І цяпер у небе беглі хмары ды імжыла У гэты сумны малюнак звыкла ўпісваліся шэрыя, уціснутыя ў асфальт дрэвы, што ліхаманкава скідвалі з сябе напаўгнілое лісце, ды брудныя галубы ля сметніцаў Ішло на познюю восень.

З пустым рукзаком за спінай Марка Валынец, былы навуковец, а цяпер беспрацоўны, рухаўся ў чалавечым патоку прывакзальнага пляца Чыста механічна ён выхопліваў позіркам і вызначаў постаці і твары сустрэчных: вось едуць на лецішча, каб прыбрацца да зімы, пенсіянеры; спяшаюцца рабочыя ў ватоўках і танных вязаных шапках; асобна збіліся ў гурт чаўночнікі на Расею; паліць першую ранішнюю цыгарэту вакзальная прастытутка, вірue натоўп цыганак, гарэзуюць студэнты, зліваецца з шэрай плынню непрыкметны і такі ж шэры злодзей, пакутуе ад смагі п'янчуга, адбывае дзяжурства малады міліцыянт, гергечуць па-свойму гандляры-каўказцы, з жывёльнай цярплівасцю сядзіць на прыступках жабрак, шэпчуцца некалькі яўных гомасексуалістаў, кідаецца з боку ў бок вар'ят і –бамжы Паўсюль. Ніколі раней ён не бачыў столькі бадзяг, жабракоў і ўсялякай набрыдзі на дарогах, у цягніках, у крамах, метро, падземных пераходах, у парках, скверах і на вакзалах.

Хаця былы навуковец Марка Валынец яшчэ не дасягнуў пяцідзесяці, у мінулым меў абароненую навуковую ступень, не запіваў і не апускаўся, – знешне ён сам нагадваў бадзягу. Аброслы сівой шчэццю падбародак, шырокі, у зморшчынах, лоб ды нізка насунутая пакамечаная бейсбольная кепка надавалі яму змрочны выгляд. Выцвілыя джынсы, зношаныя красоўкі на нагах ды брызентавая штармоўка толькі ўзмацнялі такое ўражанне

Ён прамінуў аўтобусны прыпынак за прывакзальным скверам і мусіў ужо спусціцца ўніз праз пераход да касаў, як яго вочы раптам выскубнулі з натоўпу твар маладой жанчыны. Жанчына была светлавалосая, з кароткай стрыжкай, апранутая ў шэрую куртку з непрамакальнай тканіны, у высокіх карычневых чаравіках Круглыя акуляры надавалі яе маладому твару безабаронны выгляд. Жанчына была знаёмая па мінулым – тут пачуццё ніколі не падманвала яго, дый увогуле ён меў абвостраную зрокавую памяць.

Марка Валынец пазбягаў сустрэч з былымі знаёмымі Не любіў роспытаў, спачуванняў, няшчырасці ён быў заняты іншым, лічыў, што выпаў з той абоймы назаўсёды, і таму хацеў аднаго каб яго пакінулі ў спакоі Але калі-нікалі яго пазнавалі ў твар, і тады яму ніяк не выпадала выкруціцца Так і цяпер

–Я вас памятаю, – сказала, павітаўшыся, жанчына – Вы – Марка Валынец. Калі я прыйшла ў інстытут, то праз паўгода вас. вы раптам зніклі. Усе пра гэта толькі і гаварылі Вы мяне пазналі?

– Не, – зманіў Марка Валынец.

Ён памкнуўся ісці далей, але ў жанчыны была прыемная і даверлівая ўсмешка Яна нібы выпраменьвала дабрыню, і ён спыніўся Што ж, няхай зірне на яго зблізу – пэўна хутка страціць цікавасць. У яго было яшчэ крыху часу ў запасе

– Мяне завуць Ірына Абуховіч, – сказала жанчына

Марка Валынец моўчкі глядзеў ёй у твар, вывучаючы

– Тую сываратку мы так і не атрымалі. Распрацоўка была тупіковая Вы мелі рацыю, калі папярэджвалі.

– Я даўно адышоў ад афіцыйнай навукі Яна мяне больш не хвалюе.

– Я чула, быццам вы сталі экстрасенсам, нават практыкуеце

– Лухта. Я не выступаю ў клубах і не прымушаю людзей матляць галовамі

– Дык гэта няпраўда?

– Я ўдасканальваю сябе, скажам так. Ну, і калі-небудзь мяне цікавяць «бастардныя», як кажуць навукоўцы, праблемы

– Выбачайце, я пайду, калі вы спяшаецеся, – сказала жанчына.

Вырашылі, што я звіхнуўся? Прызнайцеся, што падумалі.

– Так, – раптам згадзілася Ірына Абуховіч. – Падумала

Марка Валынец паморшчыўся, але жанчына зняла акуляры і зноў яе рахманая ўсмешка стрымала яго.





– Я не магу вам растлумачыць, вы самі павінны зразумець, – пачаў міжволі Марка Валынец. – Гэта чуткі, не больш Я, скажам так, чалавек, які толькі і ўмее, што ўзнімацца на пажарную вышку. Вось і ўсё

– Не разумею, – сказала Ірына Абуховіч. – Патлумачце, калі гэта не сакрэт.

Ну, прыкладам, вы стаіце на вуліцы і бачыце, як побач праязджае веласіпедыст Ён едзе паўз вас, знікае з поля зроку, і вы не ведаеце, што з ім адбываецца потым Але ўявіце, што вы ўзнімаецеся на гарадскую пажарную вышку і адтуль глядзіце на дарогу, якая вядзе далёка за горад, і зноў, з вышыні, бачыце таго ж веласіпедыста, а таксама ўсе перашкоды, якія яму сустрэнуцца. Вы цяпер ведаеце пра непрыемнасці, калі яны ёсць, задоўга да таго, як даведаецца той веласіпедыст.

– Забаўна. Але ж гэта алегорыя, я так разумею

– Так, не больш Іншым разам я дапамагаю людзям, калі яны просяць.

– Мне здаецца, – сказала Ірына Абуховіч, – што вы дасягнулі б нечага істотнага, зрушылі б якую гару. Вы дарэмна кінулі інстытут

– У нас нельга што-небудзь зрушыць, каб потым яно не звалілася на тваю ж галаву Такі народ, дый навука ў заняпадзе. Мы так адсталі, што нават няёмка Вы чулі, напрыклад, пра ідэі і вопыты француза Жака Бенвеніста? Не? Вам, як біяхіміку і практыку, трэба хаця б пазнаёміцца. Ідуць вельмі цікавыя распрацоўкі. Па дэгрануляцыі, прыкладам Калі можна атрымліваць з малекул немалекулярную субстанцыю, то магчымы і зваротны працэс. А гэта значыць, што можна імгненна пераносіць сваё электронна-магнітнае пераўтварэнне нават на іншыя планеты. Чым не «бастардная» ідэя? Вам не здаецца дзіўным, чаму прosты шаман раптам пачынае сцвярджаць, што ён тройчы бываў на Месяцы? Мне не А тое, што біяінфармацыя можа перадавацца вадой? Вы, хутчэй за ўсё, свядомы практык, нармальная жанчына і чалавек, – вы можаце мне растлумачыць, як у вадкасці захоўваецца нейкі «адбітак»? Тым больш пры разбаўленні аднаго да дзесяці ў стодваццатай ступені? Дзеля параўнання – колькасць часціц у Сусвеце – дзесяць у шасцідзесятай ступені ..

– Я не мадам Кюры Тут патрэбны неардынарны інтэлект, які не баіцца рызыкі. Вось вы калісьці не баяліся

– Вы памыляецеся, – не згадзіўся Марка Валынец. – Якраз тады я баяўся

– А цяпер – не?

Цяпер – не

– І вы не вернецеся назад? У інстытут?

– Навошта? Жыццё кароткае. Каб дарэмна марнаваць час?

– Так, мы хіба што корпаемся над рознымі дробязямі

– Што ж, – усміхнуўся Марка Валынец, – тады займіцеся ўсур'ёз сям'ёй, дзецьмі

– У мяне няма сям'і, – сказала Ірына Абуховіч

– Ну, гэта можна паправіць. Як кажуць, мужчына да пары́, а жанчына да па́ры.

Людская плынь цякла вакол іх, абмінаючы з бакоў, як маленькую выспу.

– Мы зараз разбяжымся, – сказала жанчына, – дык вы можаце хуценька ўзняцца на вашу пажарную вышку і паглядзець адтуль, што мяне чакае?

Марка Валынец усміхнуўся і пацiснуў плячыма

– Вы выйдзеце замуж за высокага брунета і ён павязе вас у вясельнае падарожжа. У Еўпаторыю

– А калі без жартаў?

– Тады зірніце навокал Будзьце больш абачлівая Эпоха Рыб адыходзіць, пачынаецца эпоха Вадалея Пераходны перыяд заўсёды небяспечны Плутон выйшаў са знаку Скарпіёна і ўваходзіць у знак Стральца. Наперадзе – трынаццаць гадоў катастроф Дастаткова жахаў?

– Мне цікава з вамі, але, па-першае, вы са мной жартуеце як з дзіцём, а па-другое – трэба ісці, – сказала Ірына Абуховіч і зірнула на гадзіннік – Бывайце

Марка Валынец яшчэ некалькі секунд назіраў, як вакзальная плынь паглынае яе, а потым спусціўся па прыступках у пераход. Затхлае паветра павеяла на яго пахамі тытуню, цвілі і нямытай чалавечай плоці Ён зноў падняўся наверх, праціснуўся да касы і стаў у чаргу

Вагон электрычкі быў перапоўнены людзьмі, але ён ведаў, што праз некалькі прыпынкаў многія выйдуць. У праходзе звыкла пацягнуліся жабракі, адзін з іх нават

моўчкі крануў яго за плячо, настойліва патрабуючы грошай, потым прайшлі гандляры газетамі, брашурамі па садаводству, таннымі кніжкамі на расійскай мове ў крыклівастракатых вокладках, насупраць рабочыя выцягнулі калоду карт і пачалі гульню.

Марка Валынец ехаў у лес. Кіламетраў за сорак-пяцьдзесят ад горада, лічыў ён, усё адно – выйдзе. У лесе ён іншым разам збіраў травы, карэнні, асобныя віды грыбоў, а потым проста адпачываў. знаходзіў якую ціхую паляну і, калі не надта надакучалі камары, ляжаў да поўнай цемнаты, паклаўшы голаў на рукзак, драмаў ці слухаў як шумяць пад ветрам дрэвы

Галоўнае пачыналася пасля, калі цемра шчыльным дываном ахоплівала ўсё навокал і калі абвостраны слых пачынаў лавіць і аналізаваць начныя гукі Марка Валынец *эксперыментаваў са страхам*

## 2

Пацук нечакана выслізнуў на дарожку, і маладая жанчына, якая назвала сябе раней Ірынай Абуховіч, не паспела зрэагаваць. Яна спынілася і стаяла так, прыціснуўшы да грудзей пусты пластыкавы пакет Пацук імкліва перабег заасфальтаваную дарожку і прапаў у шэрым, як і сам, смецці. Жанчына агледзелася. яна прыкідвала, як ёй лепш прайсці Тут, на тэрыторыі клінікі, яна была не першы раз, але амаль заўсёды нейкі час блукала сярод шматлікіх двухпавярховых карпусоў і дарожак паміж імі, якія перакрыжоўваліся і зноў разбягаліся ў розныя бакі Узбоч густа раслі кустоўе шыпшыны, акацыі ды клёны.

Трава на даўно нестрыжаных газонах парудзела, ноччу ўжо крыху падмарожвала, з клёнаў ападала лісце і ўсцілала зямлю жоўта-чырвоным покрывам

Жанчына так і пайшла не па дарожцы, а па траве газона, падслепавата гледзячы пад ногі праз фотахромныя лінзы акуляраў Таму яна запознена ўбачыла двух мужчын, нерашуча сцішыла крокі, павярнулася, каб скіравацць назад, і міжволі пачула іх размову Мужчыны былі маладыя, гадоў па трыццаць-трыццаць пяць. Адзін светлы, каротка стрыжаны, з масіўным падбародкам і кірпатым носам баксёра, другі – цёмны шатэн, амаль брунет, доўгавалосы, з завушніцай і роўным, амаль класічным малюнкам носа. Жанчыну яны не ўбачылі

– Ты б замест мяне схадзіў, – сказаў шатэн з завушніцай, – на, бяры кантэйнер

– Не хачу, гэта твая работа, – аспрэчыў баксёр

– Там энергетыка хрэновая, а я ж табе гаварыў, што са мной Учора паўтарылася, а я думаў – прайшло.

Зноў заклініла? – здзівіўся баксёр – А дома?

Дома норма

– Ну ты і псіх. Давай кантэйнер. Калі што – ірві да дзвярэй, да мяне А ўвогуле – «пушку» трэба з сабой браць, ёлуп Пакуль не ўліплі

– Ты ж ведаеш, я «мокрых» спраў не люблю Кожнаму – свае.

– Тады сядзі дома, галадай, як усе. А тут – чужая тэрыторыя, нас, пэўна, узялі на пеленг, дый Фелікс многа ведае

– Не скажа, пакуль больш даём, заўважыў шатэн

Ну, куй, пакуль гарачо, – падсумаваў кірпаносы.

– Пакуль – дурачок, – скаламбурыў шатэн з завушніцай

Абодва засмяяліся

Жанчына ціха павярнула ўбок і адразу выйшла на знаёмы арыенцір – адзінокую сасну з засохлай вершалінай Там, за ёй, стаяў флігель празэктуры Але яе апярэдзілі: кірпаносы з металічным кантэйнерам у руках, накшталт таго, што носяць зімой рыбакі, скіраваў да дзвярэй раней за яе і спусціўся ўніз па прыступках.

Жанчына нерашуча спынілася Яна пашукала і знайшла побач рэшткі драўлянай лаўкі, села і агледзелася Людзей на дарожках між карпусамі ў гэты час амаль не было. Там-сям мільгаў брудна-белы халат медсястры ды правезлі на калясцы нябожчыцу: старую з жоўта-воскавым тварам Жанчына дастала з сумачкі цыгарэту і запаліла. Яна выкурыла яе амаль усю, калі з'явіўся кірпаносы з кантэйнерам у руках. Кантэйнер відавочна пацяжэў, бо ён не размахваў ім, як раней Доўгавалосы з завушніцай





перахапіў у яго скрыню, і абодва таропка нырнулі ў цёмна-карычневую іншамарку Запрацаваў матор, машына развярнулася і знікла.

Жанчына кінула недапалак і спусцілася па прыступках. Яна адчыніла дзверы і нерашуча зайшла ўнутр. Санітар празэктуры, якога звалі Феліксам, – высокі, худы, з рэзкімі рысамі твару, не заўважыў яе, бо якраз рабіў доўгі разрэз скальпелем па тым, што ляжала перад ім на стале, засланым пластмасавай цыратай Гэты рух скальпеля і зафіксавала жанчына. Унутрана сцяўшыся, яна сачыла за тым, як рукі ў гумавых пальчатках выцягнулі і кінулі на латок каляровыя вантробы, што нечакана набылі ў электрычным святле ўсе колеры вясёлкі

– Прывет, Фелікс, – сказала жанчына. Голас яе гучаў глуха. Яна раскрыла сваю сумачку, выцягнула адтуль апроч таго, вялікага, што трымала ў руках, яшчэ некалькі цэлафанавых пакетаў і двухсотграмовую бутэльку са спіртам

А, Ірына. І «падагрэў» прынесла?

Санітар азірнуўся, кіўнуў, не здымаючы пальчатак, падышоў да яе і забраў з рук два пакеты. Затым вярнуўся да латка з вантробамі, саўгануў туды скальпелем, выняў сэрца, потым адчыніў халадзільную камеру, выцягнуў яшчэ адно, кінуў у пакеты і паклаў жанчыне ў працягнуты ёю вялікі пакет

– Толькі два, – сказаў ён, усміхаючыся, і забраў у яе бутэлечку са спіртам. – За «падагрэў» дзякуй.

Жанчына нерашуча запярэчыла

– Але ж два мала Трэба хаця б чатыры.

– Ну, за грошы не купіш, – далікатна рагатнуў Фелікс, – пазвані заўтра, пазаўтра – прыйдзеш і забярэш. А пакуль –няма

– Мне так далёка дабірацца

– Ты ў нас маладая, прыгожая, – фамільярнічаў Фелікс, – па дарозе з кім-небудзь пазнаёмішся Замуж выйшла?

Не бяруць.

Фелікс падміргнуў ёй, і жанчына з пакетам у руках таропка выйшла наверх.

Шэры, хмарны дзень нагадваў прыцемкі У твар ёй дыхнула прахалодай восеньская імжа. Яна набрала ў грудзі паветра і разам, нібы пасля хуткага бегу, выдыхнула яго, накінула на галаву капюшон курткі і рушыла ў напрамку да брамы

Аўтобусы ў апошні час амаль не хадзілі, і яна пайшла пешшу, міжволі пераварваючы інфармацыю Двое на іншамарцы забралі і павезлі ў кантэйнеры напэўна тое ж, што і яна. Магчыма, ныркі, лёгкія, печань, вочы, якія іншыя часткі цела, косткі Фелікс даў ёй толькі два сэрцы, а дамова была на пяць, ну хаця б на чатыры Ірына Абуховіч адчула, як яе ахоплівае туга Гэтае пачуццё заўсёды з'яўлялася ў ёй, калі яна сустракалася з няшчырасцю, маной ці іншымі чалавечымі заганамі.

Ірына Абуховіч працавала навуковым супрацоўнікам у інстытуце трансфузіённай гематалогіі, дзе па дамове з замежнай фірмай цяпер імкнуліся стварыць дыягнастычную сістэму для вызначэння ранняй стадыі лейкозу. Дзеля гэтай мэты ў лабараторыі бялковай хіміі выдзялялі ферытын Менавіта ў чалавечых сэрцах утрымлівалася яго больш за ўсё Сэрцы спачатку рэзалі на дробныя кавалкі, потым праганялі праз звычайную мясарубку, перамолвалі на міксеры і ставілі на экстракцыю Калі бялок пераходзіў у раствор, адтуль выдзялялі ферытын. Іх лабараторыі патрэбны былі пяцьшэсць добрых сэрцаў штомесяц. Не бралі толькі тых, што пасля інфаркту, а таксама з трупаў старых і жанчын (у клетках апошніх ферытыну ўтрымлівалася зусім мала)

Яна ўжо даўно здагадвалася, што ідзе буйны крадзеж людскіх касцей, вантробаў, нырак і іншых частак цела Усё гэта каштуе за мяжой вельмі дорага Фірмам за пастаўкі ўсяго гэтага ў шпіталі плацяць велізарныя грошы Яна ведала, што без згоды сваякоў забаронена аддзяляць з трупаў часткі, але гэта ігнаруецца і «свежыя» трупы адразу рабуюцца. Вантробы выкрадаюцца, а целы набіваюць рознымі лахманамі і зашываюць. Ніхто з радні, сваякоў не будзе потым правяраць Дзеля гэтага трэба зноў разразаць труп, але на такое ніхто, вядома, не йдзе Ды ніхто толкам нічога й не ведае Не анатаміруюць старых, якія памерлі дома, астатніх – усіх Нельга рэзаць толькі чэрап і мазгі – гэта робіць са спецыяльнага дазволу паталагаанатам, а не санітар.

Жанчына ішла далей, раздумваючы Яна ўжо выбралася на вуліцы, клініка і флігелёк празэктуры засталіся далёка ззаду, але гнятлівае пачуццё не пакідала Ірыну Абуховіч.

Да таго ж ёй усё яшчэ мроіўся пах таго месца, адкуль яна выйшла, – пах тлену і гніення

Большасць крамаў, паблізу якіх яна ішла, былі зачыненыя Бадзягі, па звычцы, туляліся каля іх, спадзеючыся атрымаць што-небудзь ад прахожых. Ірына Абуховіч спынілася каля бруднай люстраной вітрыны. На яе глядзела яна сама – маладая, звычайная жанчына, русявая, з простым тварам, сціпла апранутая, вось толькі акуляры сведчылі пра далучанасць да сярэдняга класу белых каўнерыкаў.

Старая жабрачка, што стаяла непадалёку, спакваля наблізілася да яе, не гледзячы ў твар, працягнула руку, схіліўшы галаў, і жанчына раскрыла сумачку, таропка сунула ёй нейкую папяровую драбнату.

Ірына Абуховіч пайшла далей, каб да канца працоўнага дня яшчэ паспець у сваю лабараторыю, пакласці ў халадзільнік пакет і зрабіць тое-сёе з аналізаў

Калі папраўдзе, то ў глыбіні душы яна ўжо не верыла ў тое, што іх намаганні дадуць нешта істотнае. Няма сродкаў. Дарэчы, раптам прыгадалася ёй, раней яны таксама вялі некалькі праектаў, якія нічога не далі. Хаця б тую ж справу з дэльфінамі, якая праходзіла ў іх праз першы аддзел, была засакрэчана і да якой спачатку далучылі Марку Валынца.

У той час Масква цікавілася перспектывай скарыстання дэльфінаў у якасці дастаўшчыкаў мін, каб узрываць баявыя караблі ці субмарыны патэнцыяльнага праціўніка. Але дэльфіны – разумныя істоты і не хацелі ўзрывацца Тады ім рабілі лабатамію, але пасля яе рэзка зніжаліся разумовыя здольнасці істот З'явілася і яшчэ адна перашкода: цяжарныя самкі дэльфінаў таксама ўпарта не паддаваліся дрэсіроўцы, а ў замкнёнай і абмежаванай прасторы выкідвалі дзіцянятаў і гінулі самі Вызначыць жа ў дэльфінаў цяжарнасць было надзвычай цяжка і складана: патрэбна была спецыяльная сываратка, якую і мусіў вырабляць іх інстытут Кроў дэльфінаў прывозілі ў кантэйнерах аж з Севастопаля.

Адзіным чалавекам, які не захацеў займацца тады гэтай справай, быў старэйшы навуковы супрацоўнік, кандыдат навук, Марка Валынец. Ён не толькі адмовіўся, але і здолеў неяк прапіхнуць у сталічным навуковым часопісе адпаведны рызыкоўны артыкул, дзе паўнамёкамі аб'явіў усю гэту справу бязглуздзіцай Валынцу, вядома, не даравалі Яго працы забаранілі, самога неўзабаве панізілі ў пасадзе, а потым ён увогуле знік, і ніхто не ведаў куды Нейкі час гаварылі пра яго быццам бы неардынарныя здольнасці ў галіне парапсіхалогіі, якія ў яго праявіліся, пра яго сяброўства з вядомым мінскім псіхолагам і філосафам Зайцавым, а потым забыліся, як звычайна забываюцца на большасць тых, хто знікае са штодзённых спраў і не трапляецца на вочы.

### 3

Марка Валынец ішоў па лясной дарозе з рукзаком за спінай. Рукзак быў лёгкі: у ім былі сухія карэнні, чага, некалькі відаў зёлак – усё, што ён сабраў

Сутонела Неба было хмарнае, часам імжэла Лес шумеў у вяршалінах дрэў На вузкай і пакручастай лясной дарозе было пуста. Цемра імкліва запаўняла ўсё навокал Урэшце стала зусім цёмна

Як ён вызначыў – трапляючы ў сітуацыю, якую сенсорна нельга спрагназаваць, звычайны сучасны чалавек пачынае адчуваць *беспадстаўны страх*. Ён, па сутнасці, *не ўмее баяцца* Ідэальнай эксперыментальнай сітуацыяй, якая б мадэлявала глыбокі страх, быў якраз адзінокі шпацыр у глухім лесе ноччу, пажадана восенню, калі на небе няма ні месяца, ні зорак, і дзьме вецер Такая сітуацыя, лічыў Марка Валынец, дазваляе дасягнуць сапраўднага беспадстаўнага страху, паколькі ў прыгарадным лесе амаль няма буйных драпежнікаў, якія могуць на цябе напасці, – мядзведзяў ці ваўкоў, а злачынцы ў гэты час цісняцца якраз бліжэй да сваіх ахвяраў – да людзей – і аддаюць перавагу больш камфортнаму наваколлю.

Марка Валынец вучыўся карыстацца *энергіяй страху.* Задача заключалася ў тым, каб лакалізаваць яго ў межах энергетыкі і пераўтварыць у рэакцыю, якой можна кіраваць.

Ліхтарыка ў Марка Валынца не было, але вочы паступова адаптаваліся да змроку, і гэта дазваляла яму няспешна ісці па дарозе, прыслухоўваючыся да падсвядомых рэакцый арганізма. Нібы з боку, ён назіраў за тым, як яго ўспрынядце і паводзіны





здымаюцца з «аўтапілота» і перадаюцца на «ручное кіраванне» і з'яўляецца звыклая неабходнасць быць гатовым адразу да ўсяго Стан цела, думаў ён, якое рыхтуецца да любога ўздзеяння, да любой сітуацыі, – і ёсць страх, які ён зараз адчувае Па меры таго, як на вандроўніка ўсё больш ціснулі цемра і адзінота, яны «ўзворвалі» самыя глыбінныя пласты яго псіхікі. Розум рыхтаваў цела да горшага, і неабходна было дамагчыся станоўчых вынікаў у гэтым накірунку ад самога інтэлекту, яго згоды на тое, што адбудзецца. Калі ж розум даваў такую згоду і перапыняў «бой з ценем», то гэта форма супольнасці цела і розуму нечакана давала рэзкія эмацыянальныя ды гарманічныя выкіды Ён адчуваў вялікі прыліў энергіі і амаль такі ж спад напругі – быццам з плеч звальвалася гара, адсюль, пэўна, і адпаведны выраз, думаў Марка Валынец.

Ён планаваў ісці па дарозе доўга, пакуль не выйдзе да якой станцыі, ці да той пары, калі развіднее, а потым ехаць у Менск.

Так ён ішоў, згубіўшы адчуванні часу і прасторы, інстынктыўна адхіляючы галаў ад галінак і цалкам зліваючыся з цемрай, што акружала яго шчыльнай і вязкай масай.

Раптам гук працуючага матора і далёкае святло фар за спінай прымусілі яго саступіць з дарогі І хаця розум замітусіўся, забунтаваў і звыкла параіў схавацца ў цемнаце за дрэвамі, прапусціць машыну, якая набліжалася, ён спыніўся і стаў чакаць.

Магутны «бээмвэ», распырскаўшы лужыну, параўняўся з ім і спыніўся. Таніраванае шкло кабіны пасунулася ўніз, і Марка Валынец убачыў у святле прыбораў маладога чалавека гадоў трыццаці, цёмнавалосага, з тонкімі рысамі твару, з завушніцай.

– Бацька, нам на асфальт трэба і хутчэй, – сказаў той, – хацелі з аэрапорта шлях скараціць, а ўляпаліся ды блукаем

– Гэта даволі проста, – патлумачыў Марка Валынец. – Павернеце неўзабаве ўправа, хвілін праз дзесяць язды павінен быць пераезд праз чыгунку А там і шаша блізка.

Побач з тым, хто пытаў пра дарогу, узнікла галава вадзіцеля – светлавалосага, з кароткай стрыжкай і пераламаным носам баксёра.

– Сядай, ты нам шлях пакажаш Калі не баішся, вядома А то ноч, лес ..

– Я не баюся.

Марка Валынец сеў на задняе сядзенне

– Самы кароткі шлях той, што правераны, – сказаў ён з ветлівасці.

– Не вумнічай, стары, – перабіў яго бландзін, што вёў машыну – Ноч, а ты адзін на дарозе, ды яшчэ ў лесе Чаму дома не сядзіцца?

– У мяне хобі такое, – сказаў Марка Валынец.

– Ну і куды ты ідзеш? фыркнуў бландзін за рулём

– У напрамку дасканаласці, скажу так.

Абодва на пярэдніх сядзеннях пераглянуліся

– А хобі якое, калі не сакрэт? – спытаў брунет з завушніцай

– Збіраю страх

Двое зноў зірнулі адзін на аднаго

– Страх? Навошта? – пацікавіўся вадзіцель.

– Каб не баяцца.

– Так, – шматзначна падсумаваў бландзін за рулём, – выгляд у цябе, як у бамжа. Мо, у дадатак да запалення мазгоў і блохамі абзавёўся? Падкінеш нам яшчэ.

– У мяне няма ні блох, ні драмаманічных схільнасцяў, ні сіндрома адзікуньвання, – звыкла патлумачыў Марка Валынец.

Бландзін за рулём тарганўў галавой у яго бок, хацеў нешта сказаць, але замест гэтага выцягнуў з пачка цыгарэту.

– Не палі, – раптам папрасіў яго доўгавалосы з завушніцай, – ты лепш панюхай Чуеш?

– Што?

– Пах. Травы духмяныя.

У кабіне ад рукзака вандроўніка хвалямі выпраменьваўся густы пах раслін.

Вы хто – траўнік? Знахарыце? – спытаў малады чалавек з завушніцай, але ўжо на «вы» і з большай пачціваасцю – Вы яму, дурненькаму, даруйце, – ён кіўнуў на сябра, – мы прынізілі, так бы мовіць, ваш статус, прабачце.

Машына з цяжкасцю прасоўвалася па вузкай лясной дарозе. Па лабавым шкле і кабіне час ад часу шоргалі галінкі дрэў

– Ды ён, можа, трусоў у псіхушцы гадуе, – сказаў бландзін за рулём. Вось і нясе ім траўкі На падсобную гаспадарку

– На развілках бярыце ўвесь час управа, – не пакрыўдзіўся Марка Валынец.

– Слухаюсь, таварыш Напалеон.

– А нас вы не баіцеся? – спытаў брунет з завушніцай

– Я нікога не баюся

– Гэта немагчыма. Усе баяцца

– Таму і вынік адпаведны. Калі б які-небудзь народ, прыкладам, кінуў баяцца, ён бы без аніякіх вялікіх высілкаў авалодаў светам Манголы былі блізкія да гэтага Ім не хапіла дасканаласці і разумення

Тады, можа, чачэнцы заваююць свет? – з іроніяй пакпіў бландзін, не адрываючыся ад руля і ад дарогі, за якой пільна сачыў – У іх жа быццам поўная бязбоязнасць.

– Не сумняваюся, што яны, у адрозненне ад нас, свайго даб'юцца, – сказаў Марка Валынец. – Успомніце іспанскіх канкістадораў Франсіска Пісара быў свінапасам і не мог напісаць нават сваё імя, але ён не ведаў страху, вось у чым галоўнае

– Ну і што?

– А тое, што сто восемдзесят жаўнераў на чале з ім знішчылі інкскую імперыю, якая налічвала трыццаць мільёнаў жыхароў.

– Гэ-эх ты! – не стрымаў здзіўлення бландзін

– Не магу ўрубіцца, – перабіў брунет з завушніцай, – скажыце ўрэшце знахарыце ці не?

– У прынцыпе – гэта адно з самых дробных складаных таго, чым я займаюся. Аматарства, не больш.

– Не ганіце туфту, – азірнуўся на яго брунет з завушніцай – Мы давязём вас да горада, але за гэтую паслугу адкажыце мне на адно пытанне, згода?

Марка Валынец кіўнуў.

– Дык вось, патлумачце мне, чаму я апошнім часам не магу «чужую» бабу трахнуць? З жонкай усё нармальна, а калі якая іншая трапляецца – гамон. Заўчора ў матэль адну завёз, ну, выпілі па сотцы, яна распранулася дагала, а я – не магу Яна ўжо і рукамі і, прабачце, па-іншаму спрабавала нуль.

– Ты яшчэ пра ўсё па радыё раскажы, – засмяяўся бландзін – Ну, адкуль гэты трусазнаўца можа ведаць, чаму ты імпатэнт?

– Я не імпатэнт З жонкай – поўная норма

– Вы ахвяра часовага псіхічнага ўздзеяння, – супакоіў Марка Валынец, – над вамі проста пажартавалі, і вы сталі баяцца

Хто пажартаваў?

– Я не магу вызначыць так вось, на хаду, хаця гэты жарт па-мойму, проста дробны напад якой-небудзь вядзьмачкі, акультыста, мага, яшчэ якой моцнай асобы.

– І вы можаце мне тую асобу вылічыць? – аж загарэўся брунет з завушніцай Гэ-э-х, я б з ёй разабраўся!

– На гэта мне трэба час і інфармацыя пра вас саміх. Я павінен ведаць хаця б ваша імя

– Мяне завуць Ігар, – сказаў брунет – А майго сябра – Стас.

Бландзін за рулём незадаволена хмыкнуў Ён напружана сачыў за дарогай, не губляючы, тым не менш, ніці размовы

– А мяне – Марка, – сказаў Валынец. – Я вас вылечу, гэта нескладана, бо ваш выпадак вельмі просты.

– Што мне рабіць? Гаварыце, я заплачу вам

– Калі ахвяра, гэта значыць, у нашым выпадку, вы, сканцэнтруецеся на, скажам так, зямных інтарэсах, а потым выканаеце тое, што я вам параю, то вы – здаровы чалавек ужо праз гадзіну

– Ды глупства ўсё гэта, прымі «калёс» якіх, паеш скумбрыі, – хіхікнуў Стас, – усё і пройдзе.

– Глохні Я яму даю веры

– Ты псіх.

– Займайся сваім, ёлуп.

– Можа, ты і порткі здымеш? Трэба ж паказаць, што ў цябе там, і чаму не працуе.





– Не трэба, – усміхнуўся Марка Валынец. – Вось, няхай з'есць перадусім хаця б гэта. – Ён выцягнуў з кішэні звычайны стручок перцу і працягнуў Ігару

– І ўсё? – спытаў той з недаверам, але перац узяў

– Не зусім, – сказаў Марка Валынец. – Вам трэба не толькі сродак медытатыўнай абароны, але і канцэнтратыўнай Гэта тое, што я вам раней раіў Жывіце, не задумваючыся над прычынай, не паглыбляйце працэс. Памятайце, што тады аніякі вядзьмак нічога вам не зробіць, не праб'е ваша біяполе, а значыць, і вас. Ну, прыкладам, ён варожыць, каб вас сурочыць, а вы рагочаце на капусніку ці ў мясцовым кінатэатры.. Не бойцеся

– А калі не падзейнічае? – спытаў Ігар.

– Вось мой тэлефон, – Марка Валынец напісаў на паперцы лічбы. – Пазваніце Але, я ўпэўнены, у гэтым не будзе патрэбы

Малады чалавек, які назваў сябе Ігарам, уключыў святло ў кабіне, павярнуўся ўсім тулавам, узяў паперку і зірнуў зблізу ў твар вандроўніку Вочы іх сустрэліся

Марка Валынец убачыў амаль жаноцкіх рысаў твар, на якім тым не менш чыталася істэрычная жорсткасць, шырокі рот і слабы, зрэзаны падбародак, неспакойныя карыя вочы, вострыя вушы драпежніка

Раптам твар нібы адслаіўся, паплыў, і замест яго з'явілася жоўта-сіняя азызлая маска, зблытаныя валасы, вочы ашклянела глядзелі ў неба

Мне трэба выйсці, – сказаў Марка Валынец, – спыніце машыну!

Ён раптам адчуў небяспеку Гэта неспадзявана даў сябе знаць рэдкі дар прадбачання, якім валодаў яго дзед, магчыма, прапрадзед, яшчэ хто з далёкіх продкаў Небяспека была не для яго, а для гэтых маладых людзей – ён быў упэўнены

– Хіба вам не ў Менск? – спытаў Ігар

– Не Я выйду тут Так трэба Вунь пераезд, за ім шаша Вы знойдзеце дарогу самі, без мяне Але я вам параю быць вельмі асцярожнымі

– Ну, нагані яшчэ і жуды, сказаў Стас і спыніў машыну. – Вылазь, трусазнаўца

– Дайце адрас усё-такі, – папрасіў Ігар – Я запішу Вы кажаце, што я стану здаровым А калі не?

– Баюся, што ён вам не спатрэбіцца, – сказаў вылазячы, Марка Валынец. – Вы рызыкуеце хутка памерці Магчыма, абодва. Змяніце абставіны, шлях. Вы ў небяспецы, і гэта вельмі сур'ёзна

– Жадаю і табе шчаслівa дабрацца да сваёй роднай псіхушкі, – злосна буркнуў Стас – Раскаркаўся, убогі

– Хвіліну, – расчыніў дзверцы кабіны Ігар. – А што, уласна кажучы, з намі здарыцца, таварыш шаман?

Марка Валынец падумаў некалькі секунд, матор працаваў, і ўрэшце сказаў тое, што прамільгнула ў падсвядомасці

– Вас з'ядуць канібалы.

Маладыя хлопцы ў машыне зарагаталі

– Бывай, блажэнны! Пакуль, юрод!

Матор рыкнуў на поўную моц, і машына сарвалася з месца.

*

– Вас з'ядуць канібалы . – перадражніў Стас і зноў фыркнуў ад смеху – Ха-ха-ха! Мужычок «закручаны» да ўпору А гаварыў складна, я б сказаў, язык добра падмазаны Я і слоў падобных ніколі не чуў Яшчэ накаркаў чаго

– Час такі, – сказаў Ігар Ён быццам павесялеў – Цьмяны і смутны У такі час з'яўляюцца юроды, празорцы, ведзьмакі і экстрасенсы А таксама шмат танных прыгожанькіх дзевачак. Галоўнае – ты чуў? Не баяцца! Едзем у матэль! Я праверу яго метад. І вып'ем чаго-небудзь.

– Псіх Ён І ты таксама Усе ненармальныя. Добра, едзем Я хачу выпіць.

Абодва запалілі Машына ўжо вырвалася на шашу і імчала ў бок горада

– Наш кантэйнер, пэўна, ужо ляціць высока ў небе, – сказаў Ігар – Трэба і чарговы збіраць.

– Так. Няблага крутануліся. Але варта быць больш абачлівымі ганарлівы на кані

выязджае, а вяртаецца пешкам. Чуў такую прымаўку? Гэта клініка – не наша паляна.

– Ты хоць ведаеш, хто на ёй пасвіцца?

– Каўказцы Гэтыя «залётныя» на ўсё гатовыя Яны ж сюды едуць, каб там у сябе ў акопы не ісці Ваяваць хоча не кожны За тое ім адсюль трэба грошы на сваю радзіму гнаць, зброю, інакш іхняя радня там у распыл пойдзе. Яны ж там як закладнікі, вось чаму тут гэтыя і лютуюць.

– А Фелікс можа стукнуць?

– Каму? Ім? Няма аніякай выгады. Якая яму розніца, хто плоціць? Дый з паталагаанатамам трэба дзяліцца Усё па ланцугу павязана.

– Я б не застаўся там, дзе ён працуе, і на хвіліну нават за пяцьсот баксаў, – сказаў Ігар – У мяне б нервовая сістэма не вытрымала сярод жмуроў.

– Пэўна, тады і з жонкай закլініла б, хіхікнуў Стас. – Ніякі вядзьмак не даў бы рады. Г-эх, інвалідзік ты наш

Там яшчэ, як ты ведаеш, жанчына ходзіць раз-два на месяц, – сказаў Ігар. – На халяву Фелікс аддае ёй толькі сэрцы. Мужчынскія

– Ты высветліў, адкуль яна?

– З інстытута гематалогіі пры Акадэміі У іх дамова з клінікай, нейкія вопыты робяць. Можа, варта пужнуць?

– Ні ў якім разе Яна фон Разумееш? Калі ў Фелікса будзе якая праверка, мала яшчэ што, хіпеж[1] які адбудзецца – усё на яе спішацца. Няхай ходзіць.

– Добра. Пакруцімся так з год, і куплю сабе домік ля мора. У Крыме А можа і за мяжу зліняю Там за зялёныя ўсё купіць можна.

– І прапіску? – рагатнуў Стас.

– З грамадзянствам, вядома, нявыкрутка. Маеш рацыю

– Нічога, так уладкуешся У прымы пойдзеш. Ты ж у нас прыгожанькі. Вось толькі імпатэнт Прабач, напаўімпатэнт

– Не Там нашых асабліва не любяць, – не пакрыўдзіўся Ігар – Казалі – вітаюцца скрозь зубы, дзяцей у адну школу з іх дзецьмі не аддасі – супраць.

Звыкнуцца, маць іх

Горад імкліва насоўваўся на іх начнымі агнямі Працавалі «дворнікі», бо шкло пакрывалася кроплямі вільгаці. Рэдкія сустрэчныя машыны амаль бязгучна праносіліся міма, асляпляючы вандроўнікаў фарамі

– Едзем у матэль, – сказаў Ігар – Да дзевак.

Ён выцягнуў з кішэні перац і пачаў жаваць.

## 4

Ішла сёмая гадзіна раніцы Марка Валынец, які дабраўся дадому, рыхтаваўся паспаць. Апошнімі днямі ён мала спаў Ён распакаваў рукзак і прыняў душ, калі зазваніў тэлефон Марка Валынец зняў слухаўку

– Ало! Ало, лекар! – крычаў голас у слухаўцы – Гэта я, Ігар!

– Я хачу спаць, – сказаў Марка Валынец, – у мяне мала часу, каб размаўляць пра жыццё Дарэчы, вы яшчэ жывыя? Гэта дзіўна Я вас сур'ёзна папярэджваю. Сцеражыцеся.

– Ды кіньце вы свае жарты, лекар! – крычаў голас – У мяне ўсё клас! Я ваш метад скарыстаў, і я здаровы! Мы якраз у дзевак, хочаце – і вам прывязём? Давайце толькі свой пеленг!

Марка Валынец паклаў слухаўку

Ён праспаў некалькі гадзін, потым знайшоў у халадзільніку ежу і паеў. Еў і слухаў навіны Транзістар выплёўваў іх на дрэннай, зрусіфікаванай мове· стабілізацыя, далейшая інтэграцыя, паляпшэнне ўзроўню

Ён ведаў, што гэта хлусня

Яшчэ года паўтара назад, калі кандыдат навук Марка Валынец, нармальны сем'янін і грамадзянін, імкнуўся ўтрымацца на паверхні навуковай плыні, ён самастойна, нешта

[1] Хіпеж – непрыемныя размовы (блатн.)





накшталт пабочнага захаплення, пачаў распрацоўваць праблему грамадскага выжывання Тэма была новая, праца яго зацікавіла і рухалася хутка. Але чым хутчэй яна падыходзіла да завяршэння, тым больш акрэслена ён бачыў наступствы сваіх разлікаў Урэшце, сэнс вынікаў можна было звесці да некалькіх найбольш важных лічбаў і разлікаў. Марка Валынец вылічыў галоўнае індэкс выжывальнасці Калі яго ўмоўна класіфікаваць па пяцібальнай сістэме, то крытычная рыса складала дзесяці паўтара бала. У еўрапейскіх краінах яна хісталася ад трох да чатырох і дзевяці дзесятых бала. У Бельгіі, прыкладам, лічба складала роўна чатыры балы. У Расіі – якраз паўтара. У нас, як выявіў Марка Валынец, індэкс споўз да адзінкі. Затое падскочыў узровень псіхапаталогіі і злачыннасці.

Навуковец Марка Валынец звярнуўся са сваімі вынікамі да ўрадавых колаў, частку надрукаваў, але не дачакаўся нават адказу Больш працаваць не мела ніякага сэнсу, і ён кінуў усё. Гэты народ, які дазволіў калісьці вынішчыць цэлае пакаленне, меркаваў Марка Валынец, дасюль не можа пазбавіцца страху А людзі, якія не ўмеюць не баяцца, не здольныя ні на што вартае. Ён зразумеў простую паслядоўнасць распаду і тое, што яму не дадуць ніякім асабістым навуковым каменем хваляваць балота, дзе драпежнікі звыкла цікавалі за сваімі ахвярамі. Ён лічыў, што зрабіў свой экзістэнцыяльны выбар

Марка Валынец апрануўся і выйшаў з кватэры. Ён быў усё ў той жа штармоўцы, бейсбольнай кепцы і старых красоўках. Але знешні выгляд і тое ўражанне, якое рабіў гэты выгляд на людзей, мала яго непакоілі

Цяпер ён ішоў, каб правесці чарговы сеанс псіхатэрапіі Перадусім да яго звярнуўся за дапамогай вядомы ў рэспубліцы кікбаксёр-прафесіянал Валынца выпадкова параіў яму нехта з сяброў Ужо ў гадах, немалады «профі» прызнаўся яму, што не можа пазбавіцца страху Гэты страх прыйшоў раптоўна, як бывае раптоўным дождж ці снежны абвал. Праз месяц яму трэба было правесці важны бой чэмпіянату Еўропы Праціўнік быў сур'ёзны, відэакасеты з запісамі яго паядынкаў ляжалі на стале ў прафесіянала Кожны прагляд чарговай касеты толькі пагаршаў яго стан. Ён баяўся не грашовых страт і не паніжэння свайго рэйтынгу ў выніку паразы Ён баяўся калецтва.

Марка Валынец звычайна рэдка браўся за такія справы, але «профі» чымсьці яму падабаўся Магчыма тым, што не шукаў лёгкіх заробкаў у баку, не пайшоў, як кажуць, *па рынку*, чым цяпер канчаюць сваю кар'еру многія вядомыя спартсмены, не хаваў, што пагарджае гэтым Ён імкнуўся насуперак усяму да нейкай сваёй, неасэнсаванай яшчэ ім самім, дасканаласці Марка Валынец правёў з ім некалькі гутарак і паступова растлумачыў яму тое, што збольшага ведаў сам Сутнасць была ў тым, каб ён, як спартсмен, перад кожным боем быў унутрана згодзен быць пабітым, калі гэтага варты, і свядома адмовіўся б ад прагназавання сітуацыі і тым самым вызваліўся ад «мадэлі паводзін» Удзельнік паядынку, тлумачыў прафесіяналу Марка Валынец, павінен не нападаць і абараняцца, а нібы прымаць удзел у схватцы, дасягаючы ўнутранай згоды

Марка Валынец уявіў сабе гару мышцаў і ўзбуджаныя нервы – усё тое, што было цяпер прафесіяналам, і што яму давядзецца пераконваць і ў чарговы раз заспакойваць, пазбаўляючы дэпрэсіі. Здавалася, той пачаў нешта разумець Ён няблага плаціў, а грошы Марка Валынец аддаваў дачцэ-студэнтцы. Асабіста яму, лічыў ён, многа не трэба

Непрыкметны, увесь засяроджаны ў сабе, ён крочыў па вуліцы горада, акідваючы цупкім позіркам прахожых і звыкла класіфікуючы іх: вось ідзе насустрач чалавек, схільны да німфаманіі, а вось жанчына з цэлым наборам хвароб· тут і дыябет, і істэрыя, і будучы інсульт; вось спяшаецца, размаўляючы з сабой, мужчына з азызлым тварам хворага на посталкагольны псіхоз, а вось пенсіянер з кіёчкам, які не ведае, што дажывае апошні год, а вось шукае недапалак звычайны бадзяга, які мусіць неўзабаве сканаць дзе-небудзь у падвале, а вось бацькі з хворай спадчыннасцю прагульваюць хлопчыка-даўнёнка

## 5

Праз суткі Ірына Абуховіч зноў прайшла ў адчыненую браму клінікі і рушыла па дарожцы да празэктуры Некалькі хвілін яна блукала сярод карпусоў, звыкла страціўшы

напрамак, і пачала азірацца, пакуль урэшце не знайшла свой стары арыенцір – паўзасохлую сасну Яна скіравала ў яе бок.

Шолах лісцяў прымусіў яе ўздрыгнуць. На гэты раз пацукоў было двое Адзін за адным яны слізганулі ў шэрай, напаўгнілой лістоце і прапалі з вачэй так імгненна, быццам іх і не было Ірына Абуховіч сцепанула плячыма Яна спусцілася па прыступках, адчыніла дзверы і ўвайшла ўнутр.

Фелікс сядзеў у крэсле ля сцяны і паліў цыгарэту На каталках перад ім ляжалі трупы з накінутымі на іх бруднымі прасцірадламі Гудзеў кампрэсар халадзільнай камеры Як і раней, яе ахапіла пачуццё гідлівасці, змешанае са страхам.

– Я сёння спяшаюся, – сказала яна санітару – Ёсць што-небудзь для мяне? Ты ж, пэўна, не дарэмна выклікаў

– А-а, прывет, – усміхнуўся ёй Фелікс. – Што, дыскамфортна, мадам? Даніну прынесла?

Ірына Абуховіч выцягнула з сумачкі двухсотграмовую бутэлечку са спіртам

– Мо вып'еш за кампанію? – спытаў Фелікс.

– Не Адпусці мяне хутчэй, – яна падышла бліжэй і працягнула санітару пусты пакет і спірт

– Яшчэ не пачынаў, – сказаў Фелікс, – ды не мандражыруй ты так, я хутка

Ён наліў сабе спірту, дадаў вады, выпіў, зацягнуўся цыгарэтай, кінуў у бок недапалак і надзеў на рукі пальчаткі. Потым выхапіў з грудка бліскучых інструментаў скальпель. Фелікс падышоў да бліжняй каталкі і адкінуў прасцірадла, потым наблізіўся да другой, якая стаяла побач, і зрабіў тое ж.

– Маленькі ўступ, – звярнуўшыся да трупаў, працягваў піжоніцца Фелікс, – ён тычыцца жыцця. Так, так, мае бедныя Ёрыкі, ха-ха Зусім нядаўна я ведаў вас іншымі увішнымі і ўдачлівымі Але пра гэта забудзем, бо яно зараз неістотнае Я хачу спытаць наступнае ці задумваліся вы, мае маўклівыя слухачы, што такое жыццё? Наўрад. А жыццё, як казалі ў даўніну індзейцы, – гэта «лятучы цень, што плыве над травой, растваpаючыся ў захадзе сонца» Так, цень, не больш. Яшчэ парася ў чэраве, а доўбня ўжо гатова, ха-ха

І Фелікс паклікаў яе, каб падышла бліжэй

– Зірні, якраз што табе трэба. Абодва маладыя, здаровыя У мінулым, вядома Толькі прывезлі Зараз я іх крыху паказычу

Ірына Абуховіч здранцвела глядзела перад сабой Яна адразу пазнала абодвух: прыгожага цёмнавалосага хлопца з завушніцай у правым вуху і яго напарніка – з пераламаным баксёрскім носам Гэта яны прыходзілі сюды зусім нядаўна, яна не магла памыліцца

– Што з імі здарылася? спытала яна чамусьці шэптам – Яны трапілі ў аварыю?

– Звычайная разборка, я так думаю, – Фелікс узяўся за скальпель, – падыдзі бліжэй, не бойся. Убачыш, колькі ў іх дзірак Застрэлілі ўчора ў матэлі, калі яны выходзілі ад прастытутак «Сэляві» Каўказцы, быццам Але сэрцы не пашкоджаны, тое, што табе і трэба, вышэйшы гатунак. Не якія там інфарктнікі Шкада аддаваць, ха-ха .

Фелікс занёс скальпель над трупам цёмнавалосага з завушніцай і спрактыкавана зрабіў доўгі разрэз

– Гэ-х, і казытну яго зараз!

– Я выйду пакуль, – сказала Ірына Абуховіч. Пачакаю там, на двары – Яна ўжо таропка ішла да выхаду

– Ты толькі зірні, які мужчына! – рагатнуў ёй услед Фелікс – Ну, не хочаш, не трэба Пакет пакінь, слабачка!

Яна знайшла рэшткі лаўкі, села і запаліла Вецер з шоргатам гнаў па дарожцы апалае лісце З'явілася раптам сонца, кінула на яе рахманы, цёплы прамень і адразу ж знікла ў хмарах

Неўзабаве пачаў паднімацца па прыступках Фелікс Спачатку ўзнікла яго вузкая, яйкападобная галава, потым доўгае тулава, якое рабіў яшчэ больш доўгім брудны, шэры халат, потым ногі ў вузкіх нагавіцах і чорных чаравіках У руках ён трымаў пакет.

– Забірайце, мадам Што вы там, дарэчы, з імі робіце?

– Выдзяляем бялок.

– А замуж за мяне пайшла б? задаў нечаканае пытанне Фелікс

– Чаму ж не, – сказала Ірына Абуховіч – Кінеш піць, дык жанчыны ўвогуле цябе на часткі пачнуць ірваць.

– Э, не Памыляешся Як толькі якой скажу, дзе працую, – адразу задні ход.

З пакетам у руцэ яна выйшла праз расхістаную браму клінікі і пайшла да аўтобуснага прыпынку На ім гусцеў натоўп. З урыўкаў размоў, якія яна пачула, Ірына Абуховіч даведалася, што транспарт раптоўна спынілі, а цэнтральныя вуліцы горада заблакаваныя пастамі міліцыянтаў: чакалі праезду нейкай важнай асобы з Расіі.

Яна падумала і пайшла дварамі, мінуючы развярэджаныя, даўно не прыбраныя кантэйнеры са смеццем, скасавураныя альтанкі для аматараў даміно, дзіцячыя пляцоўкі з разламанымі драўлянымі лаўкамі і муляжамі ракет ды самалётаў, кволыя дрэўцы, якія ўвесь час ламалі, так і не даючы вырасці, зноў заходзіла ў падваротні і вузкія праходы паміж дамамі, стараючыся не губляць накірунку.

Усё часцей і часцей ёй сталі трапляцца дрэнна апранутыя, непаголеныя людзі з азызлымі манголоіднымі тварамі, з нечакана вострымі, ацэньваючымі нядобрымі позіркамі П'яны мужчына ў ватніку і зношаных салдацкіх ботах ляжаў ля аднаго з пад'ездаў. Побач, быццам не заўважаючы, стаялі купкамі некалькі чалавек, сярод іх жанчына з крывападцёкамі пад вачыма (так званы «сімптом акуляраў» машынальна вызначыла Ірына Абуховіч), і палілі танныя цыгарэты

– Пазыч грошай, прыгажуня, – нахабна звярнулася да яе жанчына з «сімптомам акуляраў», – а то на «шанэль нумар пяць» не хапае

Не адказваючы, Ірына Абуховіч пайшла далей Услед ёй прагучалі пагрозы і лаянка Яна прайшла праз цёмную, засмечаную экскрэментамі арку і зноў выйшла на чарговы падворак Тут гарэла невялічкае вогнішча, побач распальвалі такое ж. Над імі віселі ўжо металічныя, чорныя ад сажы, кацялкі. Бегалі брудныя, мурзатыя дзеці з нахабным бляскам у вачах. Ля сцяны, якая па ідэі архітэктара павінна была калісьці служыць летнім экранам для дэманстрацыі фільмаў, ля пакарэжаных лавак, на брудных матрацах ці то проста ляжалі, ці то спалі людзі.

Адразу некалькі жанчын акружылі Ірыну Абуховіч

– Паваражу, шэравокая, – схапіла яе за рукаў старая з чорным зморшчаным тварам

– Усю праўду скажу, – прапанавала другая.

– Пазалаці ручку, не шкадуй

Раптам адзін з падлеткаў, прабягаючы побач, вырваў у яе з рук пакет і кінуўся прэч

Мяса! – закрычаў ён. – Тут мяса!

У здранцвенні яна моўчкі пазірала, як бліснуў нож і кавалкі паляцелі ў кацялкі Некаторыя мужчыны, якія падхапіліся з матрацаў, бралі кавалкі рукамі, рэзалі і прагна елі сырымі, макаючы ў соль і скоса пазіраючы ў яе бок, нібы чакалі, што яна выцягне яшчэ што-небудзь і дасць ім

Прыцэмлівыя, касавурыя гэтыя позіркі напужалі яе больш за ўсё Здранцвеўшы, прыціскаючы да сябе сумачку, яна адступала ад іх, не рызыкуючы павярнуцца спінай, пакуль урэшце не апынулася ў адлеглы. Тады заспяшалася і амаль подбегам пайшла на гук машын, трымаючыся падалей ад трупехлых задворкаў

Некалькі разоў яна мусіла павярнуць, праходзіць праз двары, усе дамы былі на здзіўленне аднолькавыя, з пашарпанымі сценамі і выбітымі дзвярыма пад'ездаў, што зеўралі пустатой, з засыпанай смеццем зямлёй пад вокнамі, з тэлефонамі-аўтаматамі без слухавак, і Ірына Абуховіч ўрэшце зразумела, што заблудзілася, нібы ў лесе Тады яна пайшла проста наўздагад, і неўзабаве выйшла на быццам знаёмую вуліцу, прайшла яшчэ крыху, павярнула, раптам апынуўшыся перад расчыненай брамай, і – знерухомела Гэта была клініка

Фелікс стаяў на дарожцы ўжо ў плашчы, шыракаполым стэтсанаўскім капелюшы і ўсміхаўся.

Зноў пачынаўся дождж.

*1996 г.*

Я маю твор…

# Уладзімір ЛОБАЧ



## ЗМЯЯ

Змяя, не абысці цябе
На гэтай сцежцы,
Бо ты – зямлі бранзалет,
І на цябе ўжо ніяк не забыцца.

Пад Сонцам сляпучым, Змяя,
Шапочаш начныя заклёны,
У цемрыве крохкім, трывожным
Ты колам магічным і срэбным
чаруеш.
І перасохлыя вусны мае,
І невідушчыя вочы –
Адбіткі спакою твайго
Не абысці мне цябе
На гэтай Зямлі
На крок мой апошні
Адкажаш сваім пацалункам,
Падорыш мне вечны спакой,
Пакінуўшы вечную мудрасць
Сабе, як заўсёды.

Каханне памерла, Змяя!



# Рыгор БАРАДУЛІН

ТЫ



*Босая сцежка да храма. .*

*з Табой:*

# З Рыгорам Барадуліным гутарыць Леанід Дранько-Майсюк

**Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК.** Паміж нараджэннем і смерцю – пустыня самоты, якая называецца жыццём. Непаэт запярэчыць. якая там «пустыня»?! Жыццё ёсць жыццё і само па сабе – яно вялікае шчасце З непаэтам згодзяцца апалагеты царквы: так, жыццё, нават самае пакутнае, і ёсць шчасце Цалкам прыняць гэта не магу, мусіць, таму што пішу вершы і захоўваю ў душы адчуванне, што чалавек, які піша вершы, жыццё ўспрымае толькі як суцэльную адзіноту Па-іншаму не можа, бо паэт Канечне, «пустыня самоты» – метафара даволі=такі звычайная. Але мне падабаецца даўняя думка, народжаная гэтай метафарай. паэта ніхто не выведзе з самоты – ні дзяржава, ні сям я, ні сябры, ні каханая, ні алкаголь. Праўда, наконт алкаголю ў мяне мізэрны вопыт .

**Р. БАРАДУЛІН.** Самота й смерць – дзве суперніцы. Абедзве сочаць за чалавекам, ледзьве ён заявіць пра сябе, пра сваё з'яўленне ў свет першым плачам ці крыкам. Дарэчы, плач і крык – традыцыйныя спадарожнікі самоты. Па традыцыі смерць дае шанец самоце, бо ведае – чалавек будзе ўрэшце ейны

Байран і Багдановіч, Рэмбо й Багрым рана адчулі сваю самоту, бо былі паэтамі ад нараджэння.

Чалавек водзіць сябе па пустэльні самоты, як Майсей свой народ, роўна гэтулькі, колькі трэба, каб пазбыцца рабства жыцця й спodзеву, каб вярнуцца да сябе самотнага, з'адзінелага.

Усе ад Бога. Усё ад Бога. І самота таксама ад Бога. Бо самыя самотныя ў існасці сваёй Бог і чалавек. Бог бадай і стварыў чалавека па вобразе й падабенстве сваім, каб не так самотна было аднаму Па сутнасці самота – боская спадчына. Яна й трымае чалавека, бо ў самім слове аснова САМ падкрэслівае самастойнасць, самавітасць, веру толькі ў сябе самога і рыхтуе да немінучае сустрэчы сам-насам з Гаспадаром жыцця

Дзяржаву чалавек прыдумаў на сваю галаву Дзяржава трымае, так бы мовіць, у загоне самоту самотаў. Ад гэтага самота не чэзне, не меншае, а наадварот робіцца яшчэ больш фатальнай І ў гэтым калгасе, які завецца дзяржавай, кожнаму няўтульна Кожны толькі й марыць мець свой надзел, свой кут, дзе льга было б быць самому, быць асобнай самотнай асобай

Сям'я – спачатку добраахвотны прыгон, пакуль твая абранніца мянуецца каханай. Рэдка хто прывыкае да прыгону, каб не марыць вырвацца з яго. І не толькі з прычыны аднастайнасці й хамута надзённых і штодзённых клопатаў

Не надта што мяняе й каханка. Багата мяняючы, пралятаеш ветрам па жыццёвым полі. Пільнуючыся адной ці нават адных, ператвараешся ў ставок, убранзаваны бросняй

Сяброў шмат у маладыя гады. Яны – як зялёнае лісце вясной А глыбокую восень сустракаеш безлісцёва. Самыя балючыя сябры, якія раней за цябе вярнуліся ў вечную самоту І часам жывеш спадзяваннем, што там з імі абавязкова сустрэнешся

Калі звярнуцца да паслугі папулярнае метафары, дык усё жыццё – алкаголь. П'яніць і хмеліць радасць і бяда,ростань і сустрэчы, буйносць і кайнасць. Застолле, пагасціны, бяседы. І ад калыскі да кута за намі йдзе алкаголь. Алкаголь не ратуе ад самоты. Гэта хутчэй тыя вярыгі, чыста па-беларуску кажучы, ратугі, якія яшчэ мацней лучаць цябе з самотай Алкаголь – цёмны вір, які ніколі не пакажа, што на дне. Колькі ні ўглядайся пад пільным позіркам самоты.

**Л. Д.-М.** Асаблівых доказаў адносна таго, што прадбачанні паэтаў спраўджваюцца, мяркую, вышукваць не трэба. Класічных прыкладаў таму дастаткова. Дарэчы сказаць, прадбачанні палітыкаў часцей за ўсё ператвараюцца ў фарс. Слова ж паэта мае ўстойлівую перспектыву і трывалы сэнс. Аднак жа відавочна і тое, што пераважная большасць паэтычных прадбачанняў і прадказанняў мае выразнае апакаліптычнае гучанне Такое ўражанне, што паэты з усіх філасофскіх дактрын упадабалі толькі дактрыну экзістэнцыяналізму, а з усіх хрысціянскіх твораў Адкрыццё Святога Іаана Багаслова. Часам ад такіх рыфмаваных і нерыфмаваных прадказанняў робіцца ніякавата. . Заўважана, што і Рыгор Барадулін схіляецца ў сваіх апошніх кнігах да фатальнага суму, спадзеючыся хіба што на міласэрнасць плахі.

**Р.Б.** Я б нават слова «прадбачанні» ў стасунках да палітыкаў не ўжываў Бо ўсе іхнія прагнозы ў пераваже сваёй – эстрадна-цыркавыя нумары з той дозай гіпнозу, якая ў іх маецца. У паходнях палітыкаў і палітыканаў бенгальскі агонь Эфект імгнення Галаватлумнае шоу Гэта зноў жа той самы алкаголь, пра які мы ўжо казалі, толькі ў іншым посудзе А пахмелле бывае дужа цяжкое На сваім вяку я адчуў яго няраз. І ўжо ў нашыя дні асвяжыў у галаве

Сум – як бы хрэснік самоты. Да суму трэба дарасці, бо сум спараджаецца думкаю, сталасцю, нават старасцю. Паэты дзеці з яснымі вачыма і хмарнаю душой Хмарнай ад суму Ужо ў немаўлячую душу селіцца дарослы сум, сум скону й развітання. Як і сірот, Бог любіць паэтаў, шчадруючы іхнія душы Праўда, мама бывала казала. Бог сірату любіць, толькі шчасця не дае. Хоць разуменне шчасця ў кожнага сваё Дый паэты ніколі шчаслівымі не бываюць. У пакутах нараджаецца дзіця. У пакутах нараджаецца паэтава слова Гэта не слова сапраўднай паэзіі параўноўваюць з вераб'ём.

У «Адкрыцці (апакаліпсісе) святога Апостала Яна Багаслова» прадказанняў на

# СЦЮДЗЁНЫ ПРАРОК

**Калі мастак імкнецца пабачыць Бога, ён піша абраз, а не карціну.**

**Калі паэт далучаецца да тысячагадовай мудрасці свету, ён называе сваю кнігу «Евангелле...»**

*Як у сцюдзёную раку,*
*Паволі ў Біблію заходжу.*

**Дзе тая рака Іардан, якая раптам вымерзла да самага дна? Ці не ейнае «мулкае рэчышча» завуць Вушачай на радзіме Рыгора Барадуліна?**

**Новае «Евангелле» адбываецца на «зямлі абяцанай», дзе «перапёлкаю ў збажыне хаваецца вестка благая», «палын нагоніць аскому», «раўніну выгарбіць курган»...**

**У нябёсах над гэтай зямлёй лунаюць вяшчунныя птушкі. І таму мроіцца, што назаўжды «зляціць маркота зязюляй шэрай», паснуць да раніцы «зайздросныя совы», «і крумкач накрумкае ўраган»...**

**Там, дзе прарокі і цары пакутліва шукаюць наканаваныя шляхі, збіваючы «на дарогу сцяжыну», абапал усіх шляхоў «спадаюць дні, як ягады з гарнушак», «на зацятым лузе атавай узыходзіць мудра туга», і «прыемна гусці ў канюшыне чмялю»...**

**Някідкі краявід, кожная дэталь якога выклікае ў душы беларуса метафізічныя пачуцці, робіцца не дэкарацыяй, але актыўным месцам існавання для старажытнай мудрасці. Паэт змяшчае адвечныя ісціны ў новыя каардынаты ўласнага адчування свету.**

**«Евангелле» Рыгора Барадуліна пішацца ў час, калі трашчаць непалестынскія марозы, у якіх «снегам замяце свой след зіма» і «бур'яном старым дымным палыном зарастуць халады, як сляды ліхадзея». І не дзіўна, што з такой няўтульнасці «у вырай будзе зноў душа прасіцца».**

**Перастварэнне міфа – антычнага ці біблейскага, як паказвае гісторыя мастацтва і літаратуры, амаль заўсёды мела плён. Але нярэдка славянскія багамазы малявалі не кананічныя вобразы, а тыя абліччы, якія бачылі вакол сябе. І тады з'яўляліся святыя з простымі сялянскімі рысамі, ліванскія кедры, падобныя да паўночных хвояў, пустэльні, парослыя зялёнай травой.**

**Падобна да таго, як перакладаюцца на мноства моваў імёны біблейскіх персанажаў, набываючы новае гучанне, робячыся імёнымі людзей, так і сама мудрасць, схаваная ў свяшчэнных кнігах, прыходзіць да таго народа, да якога яе данесціць Паэт. Той паэт, у разуменні святой Тройцы якога адлюстраваннямі пабачанага ў маленстве фаворскага святла сталіся і трысцё, і трысцен, і трыпутнік... Паэт, які верыць у свой народ нават у тыя гадзіны, калі «жорсткі анёл да яго пасланы».**

**Галіна БУЛЫКА**

тысячагоддзі. І ўсе мы, сённяшнія, пераканаліся ў збытнасці ягоных прадбачанняў Хаця б пра зорку палын. Цытаваць не трэба, бо цытуюць усе, дарэчы й не дарэчы. А ў 1925-м годзе малады Уладзімір Дубоўка нават канкрэтызаваў лакальна катастрофу: «. . чарнобылем не зарасцеш». Гэта пра Беларусь.

Пра сябе Апостал казаў нездарма: «Я, Ян, брат ваш і супольнік у скрусе.. » Цытую з бліскучага перакладу, я ўдакладніў бы – перавыдыху Васіля Сёмухі

Чаму «Адкрыццё» так узрушае, чаму яно такое магічнае, такое пераканаўча фатальнае? Таму што напісана паэтам. Дый Біблія ўся – найвышэйшая кніга паэзіі.

І нашае жыццё, нашае бытаванне зямное – паэзія суму Зажураная, засмучаная, замаркочаная душа чуе Богавы словы. Словы гэтыя й ёсць Паэзія.

**Л. Д.-М.** Этнонім Беларусь у маімі разуменні сінанімічны перш за ўсё беларускай мове. Я веру, што Беларусь – вечная, значыць, вечная і беларуская мова Вядома, з пункту гледжання значнай часткі нашага дэнацыяналізаванага грамадства мая вера – беспадстаўная, наіўная, а можа нават і смешная. І сапраўды, жыццё сведчыць не на яе карысць, а спрачацца з жыццём цяжка. Тым не менш варта ўспомніць, што я паверыў у вечнасць Беларусі тады, калі прачытаў ваш знакаміты верш «Мая мова», які завяршаўся дэкларацыяй «. .як жыта, спрадвечная беларуская мова!» Мяне, школьніка, гэтая пафасная дэкларацыя нацыянальна выхавала Аднак, трэба прызнаць, верш «Мая мова» застаўся ў глыбокім савецкім часе. Ягонае нацыянальна-выхаваўчае ўздзеянне на сучаснага беларускага школьніка будзе мець абмежаваны эфект менавіта па прычыне відавочнай дэкларатыўнасці. Вядома, маю выснову можна аспрэчыць. сучаснага школьніка ўсё больш і больш «выхоўваюць» антынацыянальныя абставіны, і цяпер любая паэзія (дэкларатыўная ці недэкларатыўная) будзе мець на ягоную душу абмежаваны эфект .

**Р.Б.** Дэкларатыўнасць – яна ад адчаю, ад безвыходнасці. Дэкларатыўнасць – і самападман, і самазаспакаенне хоць на той момант, калі пішаш ці дэкламуеш (тут слова чытаць не зусім стасуецца) – заклічны, лозунгавы верш Гэта й не «Пісьмо вялікаму Сталіну» і не траянскі конь. Гэта бліжэй да кукіша ў кішэні.

Што тычыцца верша «Мая мова», дык ён пісаўся ў той час, калі на гэтую тэму й заікацца нельга было. Пісаўся ў падгалоссе панчанкаўскаму:

Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне

Панчанку савецкая цэнзура змусіла змяніць гэтыя радкі Мой верш то друкаваўся, то не пускаўся ў друк Карлас Шэрман пераклаў кніжку маіх вершаў «Чорны вол маёй трывогі» на іспанскую мову Пільнае вока Галоўліта зняло «Маю мову»

Пасля я зразумеў, чаму не ўпадабаў гэты верш мой вялікі сябра Караткевіч Не мог Уладзімір нават у думках дапусціць радок: «І калі нават мова мая замаўчыць. .»

Але мяне, як чалавека на схіле, пацягнула ў краіну ўспамінаў. У той час, калі ў нашай рэальнай краіне беларускай мове ўладатрымцы фактычна аб'явілі вайну Не раўнуючы, як тых ваўкоў, беларускую мову абставілі сцяжкамі рэферэндумаў ды беззаконных законаў

Некалі Грыбаедаў лямантаваў, каб народ «. хотя б по языку нас не считал за немцев» І мы лямантуем на свой лад.

Пытанне беларускае мовы балючае праз стагоддзі. І нацыянальную свядомасць можна выхаваць толькі ў самастойнай дзяржаве, якая шануе карэнную нацыю, спавядаючы мову гэтай нацыі, баронячы ейны менталітэт.

А што да паэзіі, дык яна мусіць старацца быць на роўных з паэзіяй свету

Каб яе не шкадавалі, а паважалі, ганарыліся беларускай паэзіяй галоўныя спажыўцы – маладыя.

У прыватнасці вашае крэда, спадар Леанід, сімпатычнае маёй душы. Бо вы працуеце на інтэлігентнасць і акрыленую вытанчанасць беларускай паэзіі. Вы традыцыйны пазайздроснаму. Дбаеце, каб доўжылася традыцыя Максіма Багдановіча.

Дасць Бог, гэта дасць свой плён!

І, як бы робячы скразною лінію алкаголю, хацелася б акрэсліць жанры. Калі пабытовая проза нагадвае сабой усенароднаабранае віно (недзе ў шасцідзесятых гадах майго стагоддзя быў досціп: «Бач, Вася, за руб нуль дзве, а п'еҵца, як за руб нуль сем»), дык паэзія гэта каньяк ад шматзоркавага армянскага да «Напалеона» А дэгустатар – талент рэдкі. Некалі мне, зялёнаму паэту, Аляксей Зарыцкі, паэт адукаваны, арыентаваны на класіку, сумна казаў, што ў нас няма культуры піцця.

Мала ў нас і дэгустатараў паэзіі Нюх сапсаваны шырспажывам Не да марачных каньякоў Сумна кажу, сівы паэт

**Л. Д.-М.** Беларусь мае шматвяковую гісторыю. Беларускаму ж пісьменству ў яго арыгінальна-артыстычным выяўленні крыху больш за сто гадоў. Толькі ў XX стагоддзі яно канчаткова развіталася з этнаграфічна-фальклорнымі формамі. Нядобразычліўцам добрая падстава сцвярджаць, што мы спазніліся да індывідуальнай творчасці, што Апалон выдаткаваў сваё святло іншым літаратурам, і мы карыстаемся толькі рэшткамі гэтага каштоўнага святла. Як бы там ні было, мне, занадта пераборліваму чытачу, ёсць што чытаць і па-беларуску. Аднак жа дзеля аб'ектыўнасці варта ўдакладніць. чытаць ёсць *што*, але спіс твораў малы. Упэўнены, спадар Рыгор, што і ваш чытацкі спіс любімых беларускіх кніг невялікі. Дык што няўжо прычына ў тым, што літаратура нашая жывілася толькі рэшткамі Апалонавага святла?

**Р.Б.** Беларускае пісьменства не ў накрэсленым варыянце, а ў слоўнагукавым мае вякі вякоў. Ці мы будзем называць яго фальклорам (мудрасцю народнай) ці вуснай народнай творчасцю, гэта – літаратура, паэзія перш ад усяго. Наіўна будзе тлумачыць, што фальклор – аўтарская творчасць. Іншая справа, што імя аўтара не захавана, а твор ягоны дапрацаваны іншымі Ці палепшаны, ці пагоршаны, тут ужо не разбярэш Адхіляючыся ў сумна жартоўны бок, льга сказаць, што й аўтарскі фальклор 30 – 40-х гадоў перыяду савецкай імперыі, ці, дакладней, даносы – дасюль ананімныя, хоць аўтары шмат якія жывыя Таямніцу іхніх прозвішчаў, іхняе аўтарства тоіць адпаведная ўстанова, што сама як айсберг

Фальклор куды авангардысцейшы за ўсе класічныя формы, пачынаючы з санета. А

# МАГІЯ РАДКА

**Р. Барадулін – Паэт ад Бога, таму, здаецца, дыхае радкамі, дыхае свабодна і раскавана. Праўда, нельга не адчуць, што ён яшчэ і майстар-ювелір, які граніць радок, стварае ўражанне віртуознай лёгкасці пісьма. Р.Барадуліну, быццам чараўніку, падуладныя слова, гук, фарба, ён надзіва маляўнічы. Асабліва ярка квяцісты стыль яго пісьма выяўляецца ў пейзажным жывапісе:**

*Цыбатай нагой жураўлінаю*
*Імшарамі верасень крочыць.*
*Ад кіслых прысмак журавінавых*
*Заплюшчыла сонца вочы.*

**«Заспаная раніца мжыстая...»**

**Барадулінская маляўнічасць эстэтычна роднасная метафарычнаму жывапісу ў беларускай паэзіі 20-х гг., які дэманстравалі У. Дубоўка, Я. Пушча, У. Хадыка, Т. Кляшторны... Мусіць, можна сказаць пра метафарычную плынь у паэтычным мастацтве. У нашым часе гэткі яркі і каларытны матафарычны свет стварыў, напрыклад, А. Вялюгін – паэт, майстэрства жывапісання якога яшчэ намі належным чынам не ацэнена і не асэнсавана. У аснове мыслення і А. Вялюгіна, і Р. Барадуліна ляжыць маляўнічая метафара, заснаваная на спалучэнні канкрэтна-пачуццёвага і асацыятыўнага пачаткаў. Суб'ектыўная асацыятыўнасць вобраза, яго эстэтыка-семантычная выяўленчасць атрымала з вуснаў В. Бечыка трапную характарыстыку – «барадулінскі метафарызм». Метафара паэта – глыбінна-адухоўленая, дзівосная і ўражлівая.**

**Для верша Р. Барадуліна ўласціва пранікліваая рытміка-інтанацыйная арганізацыя, музычнасць, сэнсавае і гукавое абыгрыванне слова. Радкі ў творах паэта нярэдка нагадваюць пералівы хваль, іх музыка то мілагучная, пластычная, то неспакойная, напружана-драматычная. А часам верш гучыць парывіста і гарэзліва. Словам, Р. Барадулін шматгранны ў выяўленні, ён – віртуоз гукапісу. Не магу не затрымаць увагу на ягоным творы «Слухаючы мора», жанр якога ён вызначае досыць арыгінальна – «хваля-паэма». Тут інтанацыйна-гукавая інструментоўка багатая алітэрацыямі і асанансамі, кранае слых эўфанічнымі паўторамі:**

*Мора белае разлівалася гэтак, бывала,*
*што толькі комін з хваляў тырчэў,*
*а мору выстыламу было ўсё*
*мала.*

**Р. Барадулін у кнігах апошняга часу прыкметнае месца адводзіць такому мастацкаму прыёму адлюстравання, як кантраст. У аснове яго вершаў нярэдка ляжыць антанімічнае сутыкненне вобразаў, слоў і іх сэнсаў, і гэта выяўляе драматызм паэтавага позірку на свет. У «Новых святцах» канстрастна супрацьпастаўляюцца спрадвечныя беларускія імёны і назвы радыеактыўных элементаў. Даволі плённа ён разнастаіць і жанравыя формы паэтычнага выяўлення:**

гэтыя ж формы якраз і першаасветлены Апалонам.

Карані фальклору ў паганстве. А паганства – самае што ні ёсць паэтычнае бачанне свету, самае першароднае мастацтва, самае першароднае пісьменства душы.

Калі браць фармальна ўзрост нашага беларускага пісьменства, пісьмоўства, дык трэба пачынаць яшчэ да «Слова пра паход Ігаравы» Існа «Слова» напісана старабеларускаю моваю Праваслаўная царква й расейшчына добра ўтуманілі паняцці царкоўнаславянскай і старажытнарускай мовай. І атрымліваецца, што беларусам і мову й пісьмоўства даў кастрычніцкі пераварот

Асобна трэба казаць пра саветызацыю беларускай літаратуры. Да гэтага часу ў хрэстаматыі ўключаюцца такія творы, якія выклікаюць у лепшым выпадку паблажлівую ўсмешку Нават з Купалы й Коласа.

Ускосна й непасрэдна лацінамоўная, польскамоўная й расійскамоўная літаратура, творы нашых славутых землякоў – гэта таксама стасуецца да беларускага пісьмоўства.

Што тычыцца, як вы кажаце, арыгінальна-артыстычнага выяўлення, дык яго ў фальклоры болей чымся ў творах, дзе аўтар тужыцца быць ці традыцыяналістам, ці дужанаватарам

Так, спіс любімых беларускіх кніг адносна невялікі. Не думаю, што ў іншых уласна літаратурах ён на вёрсты вымяраецца.

Затое толькі, відаць, камп'ютэр можа падлічыць у колькі тамоў змесціцца фальклор, незнакавы запіс паганскага пісьмоўства.

Маючы самы самабытны фальклор, мы адначасова й самыя старыя й самыя маладыя ў прыгожым пісьмоўстве Маем глебу й невычэрпныя паклады ў ёй

Алкаголь паганства не дае нам зрабіцца залішнімі рацыяналістамі, прагматыкамі. Дзякуючы яму, на свет глядзім шчыра, як паэты, на сябе – з вясёлым пакепліваннем, як паэты...

**Л. Д.-М.** Цудоўна моўлена. «. на свет глядзім шчыра, як паэты, на сябе – з вясёлым пакепліваннем, як паэты » Цікава, а ці часта гэтак робіць сам Барадулін? Ці глядзіць ён на сябе «з вясёлым пакепліваннем», напрыклад. як на аўтара бясконцай (!) колькасці вершаў? Чытачы і крытыкі ведаюць, што ваша творчасць гэткая ж бязмежная, як, скажам, і творчасць Рансара – тысячы і тысячы рыфмаваных радкоў Вядома, калі пішацца – трэба пісаць. Аднак мне здаецца, што бясконцая вершаваная колькасць – з`ява шкодная для паэта, бо паэзія вельмі часта знікае, адчуўшы прыгнёт многапісання. У рамане Р.М Рыльке «Запіскі Мальтэ Лаурыдса Брыге» сказана. «. . трэба ўсё жыццё назапашваць сэнс і суладдзе... і тады, магчыма, перад смерцю напішаш дзесяць удалых радкоў.. Каб стварыць адзін верш, трэба ўбачыць мноства гарадоў, людзей і рэчаў, трэба зразумець звяроў і птушак, адчуць, як раскрываюцца раніцай кветкі Неабходна згадаць пра шляхі ў далёкіх краінах, пра нечаканыя сустрэчы і тыя расстанні, якіх не пазбегнуць, а таксама згадаць пра дасюль таямнічыя дні дзяцінства, трэба ўспомніць бацькоў, якіх крыўдзіў неразуменнем у той момант, калі яны прыносілі табе радасць. трэба ўспомніць дзіцячыя хваробы. і дні ў цішыні пакояў, і досвіткі на моры, і наогул марскую прастору і вандроўныя ночы... – аднак і гэтага яшчэ мала. Трэба, каб жыла ў табе памяць пра няшчасныя ночы

**лера-паэма, навела, пацеры...**

**Сваёй творчасцю Р. Барадулін дае красамоўны адказ на пытанне пра тое, якім павінен быць паэт і якой павінна быць паэзія. Праўда, спрэчка на гэты конт не мае пачатку і наўрад ці калі будзе мець заканчэнне. Паэт з аднолькавым поспехам піша добрыя і выдатныя творы публіцыстычныя, палітычныя, грамадзянскія, медытатыўныя, сатырычныя... Пад пяром яго нараджаюцца гімны і оды, элегіі і балады, пасланні і эпіграмы... Творца знаходзіцца ў палоне філасофскіх рэфлексій, балюча перажывае чарнобыльскую трагедыю, па-адраджэнску ўсхваляваны лёсам Бацькаўшчыны, услаўляе Беларускі народны фронт, складае прачулыя малітвы, дасціпна высмейвае чалавечую дурноту... Перад намі грамадзянін, патрыёт, эстэт з тонкім светаадчуваннем і паэт-філосаф. Можна скрыжоўваць коп'і і даводзіць, што палітыка ды публіцыстыка – гэта справа журналістыкі, а не паэзіі. Чытаючы так званыя «гучныя» радкі Р. Барадуліна, часам думаеш і пераконваешся, што гэта сапраўды так. Аднак шмат якія з ягоных твораў вострага, трывожнага гучання – споведзь і боль сумлення, гаворка пра важнае і галоўнае на зямлі. Паэт, відаць, не мае права зачыніцца ў сваёй ракавіне, асабліва ў наш час, калі душа чалавечая плача, крычыць, няверыцца, калі свет поўны бяды і драматызму. Р. Барадулін кліча да браталюбства, чалавечнасці, шчыра турбуецца пра лёс роднага краю:**

*Хай беларус беларуса*





кахання, з якіх ніводная ноч не падобная на папярэднія; каб ты памятаў пра жаночыя крыкі ў хвіліну любоўнай асалоды, а таксама памятаў пра лёгкіх, белых парадзіх, якія, стомленыя родамі, толькі што заснулі І трэба пабыць з чалавекам, які памірае, а таксама пасядзець каля нябожчыка. Аднак адных толькі ўспамінаў мала Трэба ўмець пазбаўляцца ад іх, праганяць іх, калі іх занадта шмат, і цярпліва чакаць, калі яны зноў з`явяцца. Самі па сабе ўспаміны мала чаго вартыя. Але калі яны стануць у табе крывёю, зрокам і жэстам, зрастуцца з табою, вось тады ў нейкі незвычайны момант узнікне сярод іх першае слова верша »

Калі верыць Рыльке, а верыць яму чамусьці хочацца, як усяго багата трэба дзеля гэтага першага слова. Дзеля аднаго верша. А дзе ж бяруцца сілы на тысячы і тысячы радкоў?

**Р.Б.** У мяне не было ранняга ўбранзавення, як у некаторых сённяшніх маладых. Сам сябе і ў думках на Вы не называў Ніколі не лічыў, колькі радкоў напісаў сам і тым болей, колькі мае калегі. Саветызацыя мазгоў як гэта ні дзіўна, у маладой нашай змены большая, чымся ў старэйшых. Добра засвоіл: «Социализм – это учет». Калі творчую імпатэнцыю лічыць за самы важкі паказчык паэта, тады можна ўпікаць іншага, што ён піша шмат Бо вядома, у чужых руках усё большае

Прыгадваецца, як у часы імперыі прымалі ў Саюз пісьменнікаў вучоную паэтку Самы пераканаўчы довад быў – ёй цяжка пішацца.

У паэзіі, як і ў жыцці арганізму, кепска, калі слабіць, але не лепей, калі крэпіць. Натужную, напісаную антыгалавой паэзію шмат каму карціць выдаць за глыбакадумную, філасофскую. У век хімізацыі набірае разгон паэзія сінтэтычная. Яна лёгка перакладаецца на еўрапейскія мовы, бо калькамоўная, практычна падрадкоўная, пластмасавая. Гэта аднаго песняра кахання, які пісаў кароценькія вершыкі, і ўвогуле мала пісаў, Ахматава назвала мужчынам з сінтэтычнымі яйцамі.

Вы цытуеце развагі неўраўнаважанага героя Рыльке Магчымасць перад смерцю напісаць дзесяць удалых радкоў не кожнаму з'явіцца. Як быць з тымі маладымі, удвая маладзейшымі за вас паэтамі, якія напісалі цэлыя тамы? І гэта класіка. Дарэчы, сам Рыльке сваёй творчай практыкай пярэчыць пастулатам свайго ж героя У Рыльке не дзесяць удалых радкоў Падлічыць іх трэба шмат часу

Відаць, надта ж высокай думкі пра свае магчымасці той паэт, які ведае, колькі трэба для гэтага першага слова, а сам піша цэлыя кнігі вершаў.

Самы лепшы чытач і крытык – час. Ён свой прысуд робіць спакойна. Без зайздрасці і злосці.

Вяртаючыся да вобраза алкаголю, трэба сказаць, што паэія – той самы алкаголь. Адны меней падлягаюць пад ягоны гіпноз, іншыя болей. І піша кожны гэтулькі часу, і гэтулькі вершаў, колькі Бог паклаў яму на душу

**Л. Д.-М.** Згаджаюся, пярэчачы вам, і пярэчу, згаджаючыся з вамі Што рабіць, у гэтым выпадку пазіцыя мая зменліва-рухомая. Але, спадар Рыгор, я ваш абсалютны саюзнік адносна таго, што паэзія падобная на алкаголь. І наогул падабаецца мне сам гэты вобраз – алкаголь. Сімвал Апалінэра і Ясеніна. Імёны геніяльных паэтаў згадаліся невыпад-

*Будзе любіць як брата.*
*Светлая імем Ісуса*
*Наша крывіцкая хата.*

**«Маленне за Беларусь»**

**Праўда, надзённасць тэмы – з'ява пераходная. Украінскі паэт Дз. Паўлычка добра заўважыў, што «сапраўдным мастацтвам часам здаюцца вельмі вострыя, злабадзённыя рэчы, якія сапраўды кранаюць нас, але варта зазірнуць у іх праз некалькі гадоў – і ўсё паўстае бляклым і нецікавым. ...Сапраўднае і фальшывае ў паэзіі, зразумела, можна вызначыць і адразу, але там, дзе адбылася памылка, праўду скажа толькі час». І такія памылкі ў барадулінскай паэзіі заўважныя, іх разумее сам аўтар: «Я хадзіў дэманстраваць адзінства У калонах шчыльных, як сцяна...» («І я»). У паэтавай душы нарадзілася пакаянне, але перадусім яшчэ больш магутна ўзвысіліся духоўна значныя прыярытэты быцця: Маці, Беларусь, Бог. Зрэшты, Р. Барадулін ніякі «не ўзорнапаказальны чысцейшай вады пярэварацень», як імкнецца давесці ў камуністычнай газеце «Мы и время» (1995, № 23, 22 верасня) нехта А.І. Іванчанка. Гэты паэт – сумленне і моц беларускага духу, бо заўсёды заставаўся глыбока нацыянальным паэтам. Ён увесь у нерушы матчынай мовы, у паэтызацыі беларускай прыроды. А што напісана колькі твораў услаўляльнага пафасу пра Леніна, рэвалюцыю і камуністаў – дык гэта ўсяго сведчанне часу, гісторыі, уступка ідэалогіі, якая татальна ачмурыла людскія галовы. Тыповым песняром камуністычна-бальшавіцкай сістэмы Р. Барадуліна ніяк**

кова. Усё часцей і часцей, мусіць, таму, што сам пачынаю перакладаць, думаю пра Барадуліна – цудоўнага перакладчыка. Барадуліным-перакладчыкам захапляюся не менш, чым Барадуліным-паэтам. Апошняе, самае моцнае, маё ўражанне – томік паэзіі Сэсара Вальехі, бунтоўна (можна чытаць: алкагольна) пераствораны вамі А да паэзіі Вальехі загучалі па-беларуску, па-барадулінску дзесяткі твораў чылійскіх, кубінскіх, іспанскіх, французскіх, англійскіх, польскіх паэтаў. Творы Ясеніна таксама. Толькі не Апалінэра. Дык куды ж падзеўся Апалінэр? Той самы Апалінэр, чыё імя заўсёды згадваецца, калі мы вымаўляем сакральнае слова алкаголь! Дазвольце не паверыць у тое, што творчасць аўтара «Алкаголяў» вам не цікавая. А таму, магчыма, правакацыйна, але, упэўнены, не крыўдліва, прапаную вам выправіць сваю «памылку» – калі ласка, адказваючы на маё шостае пытанне, перакладзіце гэты вось мініяцюрны верш Апалінэра:

*Au lac de tes yeux tres profond*
*Mon pauvre coeur se noie et fond*
*Là le défont*
*Dans l'eau d'amour et de folie*
*Souvenir et Mélancolie*

**Р.Б.** Пачну з таго, што любое слова – гэта пераклад, пераклад думкі, подумкі, памкнення Кожны чалавек – спачатку перакладчык самога ж сябе, ад таго, наколькі дакладна ён перакладзе свае развагі й жаданні, урэшце эмоцыі свае словамі, нагэтулькі ён і будзе зразуметы.

Што тычыцца перакладу паэзіі, дык тут шмат тэорый, якія абапіраюцца на практыку, і шмат практыкі, якая ні на водную тэорыю не абапіраецца. Усе параўнанні перакладу з вернай і нявернай дамай, з рабом і гаспадаром не буду пераказваць.

Маецца паняцце – аўтарызаваны пераклад. Гэта калі аўтар згодны адказваць за ўсе грахі перакладчыка. Сталыя й маладыя гады мае прыпалі на час росквіту савецкай літаратуры. Зразумела, што тады развіваўся, быў у самай сіле савецкі пераклад. Перакладалася на расійскую мову шматнацыянальная савецкая паэзія, часцяком і з аднае мовы на другую. У большыні ж сваёй пераклады рабіліся з так званых падрадкоўнікаў (гэта расійскі подстрочник так скалькавалі) ці, па-чалавечы кажучы, з даслоўнікаў. Аўтар, каб быць паважаным не толькі сабой, але й на ўзроўні абкома ці ЦК рэспублікі, мусіў выдацца ў Маскве. Некалі Аляксей Зарыцкі распавядаў, як рэдактар выдавецтва «Советский писатель» Мікалай Сідарэнка запытаўся ў яго: «Вам як, каб па-расійску, ці каб кніжка выйшла?..» Гляджу, што ўзрост заўсягды пра сябе не забывае – і мяне заносіць на ўспаміны. Каб быць карацейшым, скажу, што давялося быць і савецкім перакладчыкам – перакладаў брацкую паэзію. Але, дзякуй Госпаду, паточнікам не зрабіўся. Дапамагла класіка У першую чаргу англамоўная ды іспанамоўная За іспанамоўную паэзію не ўзяўся б, каб лёс не паслаў мне Карласа Шэрмана.

Я ўжо згадваў пра аўтарызаваны пераклад. Але гэта магчыма пры жывым аўтары. А

**не назавеш, а змена арыенціраў у ягоным светапоглядзе, эвалюцыя мыслення – рэч непазбежная і заканамерная. Паэт яшчэ ў апагей будаўніцтва камунізму трымаўся на непарушным, надзейным духоўна-эстэтычным грунце, ішоў ад зыходных асноў нацыянальнага быцця:**

*Неруш свой*
*панясу я аберуч,*
*Як слязіну з матуліных воч.*

*Ад абразы,*
*ад позірку злога,*
*Шлях заблытаўшы для наслання,*
*Неруш ранішні –*
*матчына слова,*
*Мне, як бору,*
*цябе засланяць!*

**«Неруш»**

**Сыноўняе пакланенне Беларусі і роднаму слову ў паэзіі Р. Барадуліна – спадчынна-невынішчальная лінія жыцця. Яна ў яго ад маці, ад Бога. Дарэчы, вобраз маці ў Р. Барадуліна – цэнтр нацыянальнага свету. Уся яго паэзія – гэта споведзь перад маці, узвышэнне ўсяго матчынага, святога на зямлі.**

**Паэт б'е сёння ў звон Адраджэння, пра што сведчаць вершы «Грунвальд», «Вернута быць павінна», «БЗВ», «Дык як?» і інш. Ён па-грамадзянску страсны, заклікальны, душэўна ўздымны і ўстурбаваны. Але сёння, як ніколі раней, ён па-філасофску заглыблены ў сваёй скіраванасці да спазнання складанасці свету, таямніцаў быцця, вечнага і вечнасці. Надышоў такі час, калі паэт востра адчувае вечар жыцця, уяўляе царства ценяў і «ў думках рэшту дзён перабірае». Законы чалавечага існавання няўмольныя, таму, напэўна, і**





класікі, за рэдкім выключэннем, бываюць толькі мёртвыя. З класікамі можна абысціся й вольным перакладам Ды слова вольны тут жа цягне за сабой устойлівае словазлучэнне – вольныя паводзіны. Насмелюся ўвесці тэрмін – самаўпэўнены пераклад. Гэта калі перакладчык упэўнены сам, што можа па-свойму перакласці іншамоўнага паэта, гэта калі ў перакладзе паяднаецца й аўтар і перакладчык. Не акадэмічна, затое не мёртва.

Нічога не разумею ў супрамаце – дысцыпліне, якую вывучаюць тэхнары, але надзвычай люблю супраціўленне матэрыялу пры перакладзе. Чым болей мазгакрутна, чым болей да абсурду цьмяна, тым большая ахвота перакласці на беларускую мову, каб даказаць, што мова нашая можа пераняць, збеларусіць любую гранітнадумную класіку, любы гарачы авангард. Бо, паўтаруся, не маючы дзяржаўнасці, мова нашая йшла ў фальклор, як у партызаны, і там дамаглася й глыбіні й віртуознасці.

Зноў жа пераклад – алкаголь не меншае сілы, як і сама паэзія. Гэта калі паэзію можна часам параўнаць з каньяком, тады пераклад не саступае старадарожскай ці бакштанаўскай самагонцы ці шчыраму спірту з хлеба, а не з пілавіння

Спадар Леанід, пытаецеся наконт Апалінэра. Гэта мая даўнястудэнцкая любоў А маладая мілосць заўсягды нерашучая. Так і не хапіла смелай нахабнасці на самаўпэўнены пераклад. Калі Бог дасць веку, можа ўсё-ткі пасмялею. Дасюль чытаў і перачытваў Апалінэра цвярозай душой. Да ўсяго, што Апалінэр паэт паэтаў, ён яшчэ й наш крэўнік. Па жылах ягоных і паэзіі ягонай цякла крывіцкая кроў

Як школьнік заданне на хату, прымаю вашую прапанову Так гучыць Апалінэр у маім самаўпэўненым перакладзе:

*У возеры тваіх вачэй*
*Сумуе сэрца балючэй*
*Сум нішчыцца глушэй*
*Вадой шаленства і мілосці*
*Маркоты і непамысносці*

Хоць на тройку з мінусам – маю надзею? .

**Л. Д.-М.** Тройка з мінусам за такі цудоўны пераклад?! Не, гэта надта сціплая самаацэнка. Стаўлю сваю цвёрдую чытацкую пяцёрку з плюсам. Дарэчы, ваша палітлірыка і віртуозныя мініяцюры (так званыя «дурнотн») – таксама своеасаблівыя пераклады. Мова рэалій штодзённага жыцця (палітычнага, бытавога, літаратурнага і калялітаратурнага) перакладваецца на мову сатырычнай паэзіі. Сатыра ваша трапная, дасціпная, часам вельмі злая. Так, злосць у сатырычных творах Рыгора Барадуліна навідавоку Зрэшты, сатыра такой і павінна быць. Аднак я неаднойчы чуў, што безадносна ад сваёй творчасці, скажам так – сам па сабе, Барадулін – злы чалавек. Чуткам я не веру, але спытацца наогул у вас хачу: якая станоўчая мэта можа апраўдаць існаванне злосці?

**Р.Б.** Спадар Леанід! Адказ мушу пачаць з падзякі за вашую адзнаку, далібог жа завышаную. Здаецца мне, што так нейкім чынам адказваю й на працяг пытання. Злыя людзі наогул рэдка могуць дазволіць сабе некаму падзякаваць. Гэта, зразумела, жарт.

**назіраецца ў барадулінскіх вершах градацыя суму, тугі, імкненне да быційна-філасофскага одуму. Мастацка-эстэтычны свет яго радка пабіблейску мудры, глыбінна-аналітычны і канцэптуальны. Пра гэта акурат і сведчыць адна з самых выдатных кніг у сучаснай паэзіі – «Евангелле ад Мамы» (1995). Тут Р. Барадулін больш за ўсё хрысціянскі філосаф, прапаведнік агульналюдскай маралі. Ён, як і некалі Ф. Скарына ці К. Тураўскі, малітоўна-засяроджаны, этычны, чалавекалюбны: «Нікому нічога не будзьце віннымі, Апроч узаемнай любові» («Азёры ніяк не развесці вінамі...»).**

**Што ўражвае ў барадулінскай паэзіі, дык гэта яшчэ і тое, наколькі універсальная ў ёй сістэма вобразаў прыроды. Паэт па сутнасці стварыў адметную філасофію травы і кругазвароту дрэва, ракі і цішыні... Ён – натурфілосаф, які імкнецца спазнаць сутнасць прыроды, яе жыцця, зменаў і руху. Вобраз травы – адзін з ключавых топасаў паэзіі Р. Барадуліна. Трава для яго нібы «першаславянствам пахне», яна – увасабленне чалавечага лёсу, аналогія жыцця і смерці. У вершы паэта «Маналог лугу», як і ў творах «Трава» балгарскага паэта Найдана Вылчава і «Трава» польскага паэта Богдана Драздоўскага, цесна паяднооўваецца прыроднае і чалавечае, трава выступае як метафара быцця, сімвал вечнасці.**

**Вельмі нацыянальны па светаўспрыманню, ладзе мыслення Р. Барадулін у сваіх так званых «падарожных» вершах. На іх менш за ўсё звярталася ўвага, хоць гэта і не апраўдана. Паэт шмат ван-**

У памагатáі хачу запрасіць прыслаўкі ды прымаўкі. Памятаеце не бойся сабакі звяглівага, а бойся куслівага. На воўка памоўка, а мядзведзь спадналуску.

Яшчэ ў Бібліі запытваюцца ў тварыны боскай ці ты халодны, ці гарачы, ці проста цёплы. І ў халоднага, і ў гарачага ёсць злосць. Толькі адзін умее сябе трымаць, астуджаць сваю злосць, а другі яшчэ болей яе раздзьмухае. Бадай што ў цёплага нібыта меней злосці. Як і лагоднасці. Нездарма ж кажуць: і ў вераб'я злосць ёсць. Толькі нябожчыку ўсё аднолькава.

Злосць, як і замілаванне, імгненна зменлівы стан душы Злосць, што тая навальніца, пасля якой неба й чысцее й лагаднее. Злосць, што вожыкаў лапсердачок, які бароніць непрыстасаваную істоту ад нахабных дотыкаў. Злосць бывае й той павязкай, якая засланяе позірк. Якраз злосць і прыпякае пяткі сатыры. У той час, як усмешка гумару пяткі казыча. Злосць мае ўсе манеры, усе выхадкі, усю сілу й слабасць алкаголю Злосць і алкаголь сыходзяцца ў характарах. Бо моцныя. Гумар болей хінецца да так званага дамскага віна Праўда, у век фемінізму ўсё пераблыталася Слушна заўважана. п'яніца праспіцца, а дурань ніколі. І апанаваны злосцю неўзабаве адыдзе, памякчэе, а зацяты – ніколі. Халерыкі доўга злосць не трымаюць, адхаляруюць і тут жа забудуцца. Дакладнае слова жыве ў нас на Вушаччыне халераваць, халярун. У нашым Саюзе пісьменнікаў шмат якія інжынеры чалавечых душаў проста чалавеканенавіднікі, а вонкава –ураўнаважаныя да рахманасці Бывае, яшчэ й высахлыя ад самажэрства. Гэтыя не цёплыя. Гэтыя гарачосць сваю астудзілі ў лядоўнях звышсамалюбства.

Ёсць злосць і зло Вонкава падобныя, яны адрозныя. Паняцце «злы чалавек» стасуецца бліжэй за ўсё да злыдня Можа й бываю залішне злосным, але не лічу сябе злыднем. .

**Л. Д.-М.** Прызнаюся, я дастаткова доўга вагаўся: закранаць ці не закранаць гэтую небяспечную тэму «Барадулін – злы чалавек». Пачуўшы ваш грунтоўны і, што самае галоўнае, дастаткова вясёлы адказ, бачу, што ваганні мае былі дарэмныя Прыемна пераканацца, што ў Барадуліна можна пытацца пра ўсё, выведваць нават інтымныя таямніцы. Дык вось, даўно хацеў даведацца пра паэта Рыгора Барадуліна – аўтара эратычнага шэдэўра «Рукі заломвалі скразнякі.. »[1] У свой час гэты верш мяне літаральна ашаламіў, уразіў неўласцівай для нашай лірыкі высокай арфічнасцю і неўтаймоўнай мужчынскай прагнасцю. Такія творы ў душы паэта «абстрактная» жанчына абудзіць не можа...

**Р.Б.** Зноў пачну з падзякі Апошнім часам ад маладзейшых толькі і чуеш папрокі. Што само па сабе натуральна. Сам такі быў у гады маладыя. А цяпер, вядома ж, усцешна чуць, што твой малады верш даспадобы быў маладому І не абы-якому, а паэту з вытанчаным густам

**Л. Д.-М.** Чуючы такое «лірычнае» адступленне, сарамліва апускаю вочы

**Р.Б.** Гэта не гэтулькі адступленне, як прыступка на драбінах адказу. З гадамі пачынаеш разумець-такі казытлівае становішча жанатага паэта безадносна ягонага ўзросту Калі,

---

[1] **Верш надрукаваны ў кнізе паэта «Абсяг» (1978 г., выдавецтва «Мастацкая літаратура») на старонцы 217-й.**

**драваў па свеце і стварыў нямала нізак пра экзотыку розных краёў і кантынентаў. Экзатычны пейзаж такую шырокую распрацоўку набыў яшчэ хіба ў паэзіі М. Танка. Паэтычная «геаграфія» Р. Барадуліна сапраўды маштабная: Прыбалтыка, Сярэдняя Азія, Балгарыя, Чэхія, Італія, Куба, Францыя, ЗША, Кітай, Індыя... Безумоўна, часам «радкі дарог» савецкага часу былі своеасаблівымі творчымі справаздачамі з абавязковай ідэалагічнай устаноўкай, наяўнасцю кантрасту «капіталізм – сацыялізм», «яны – мы». І ўсё ж, да гонару Р. Барадуліна, ён імкнуўся заставацца мастаком слова, багата маляваў краявіды замежжа, стварыў арыгінальныя пейзажныя карціны, замалёўкі, эцюды. Экзотыку ён успрымае вачыма беларуса, яго зрок праводзіць вобразныя паралелі з родным светам: «Раніца – Шэрая перапёлка Ад расы крыло абтрасае...» («Сустракаю пекінскую раніцу»). Вобразы чужых краявідаў, адгукаючыся ў сэрцы паэта, узбагацілі яго мастацкае ўяўленне, выяўленчую палітру.**

**Р. Барадулін – і тут няма ні каліва сумневу – прафесіянал высокага кшталту. Аднак не буду сцвярджаць, што ўсё ў ягоных кнігах апошняга часу выключна яркае, шэдэўральнае. Майстар, думаецца, таму і майстар, што сам зможа зірнуць на зробленае крытычна, а пасля здольны ўзяць зноў у рукі камяк гліны і сесці за ганчарны круг, працаваць, каб здзівіць сваім цудам свет. Далучыцца і прычасціцца да паэтычнага слова-цуду – вялікае шчасце.**

**Алесь БЕЛЬСКІ**





маладыя застольнікі, спявалі мы булатакуджаваўскія словы «. .не женитесь, не женитесь, поэты», тады болей бравадны верхні наплыў сэнсу цямілі. Уся, відаць, загвазка ў паэтычным выхаванні жонак. Не ведаю сямейных стасункаў Петраркі, а ў сонца рускай паэзіі не было, ужываючы сучасны тэрмін дзікага рынку, сямейных разборак з прычыны прысвячэння вершаў іншым. Вялікадзяржаўнік Цютчаў – тонкі лірык не толькі ў вершах, а і ў справах сардэчных. У нас даходзіла ж да сумнага смяхоцця. Выдаваўся збор твораў класіка. Дык другая жонка сына класіка нават з лістоў паэта выкрэслівала імя першай нявесткі і ўсе добрыя словы да яе. А збор твораў выходзіў амаль акадэмічны.

Нашыя паэты, выхаваныя на ідэях вернасці партыі і законным жонкам, выходзілі са становішча з саматужнай віртуознасцю, амаль цыркавой Пісалі вершы ўсім, хто часова кватараваў у сэрцы, і афішавалі іх, як песню песняў, у гонар жонкі. Некаторыя знаёміліся толькі з тымі, у якіх было аднолькавае імя з іхняй палавінай Гэта каб і ў п'яным не толькі ад пітва стане не прагаварыцца. Сапраўдныя чэкісты! Іншыя ў запісных кніжках усе жаночыя прозвішчы занатоўвалі як мужчынскія.

Безумоўна, абстрактных жанчын у паэзіі няма. Мне тут жа запярэчаць, а як жа « яна – выдумка маёй галавы»? І любая выдумка, і самая адцягненая абстракцыя хоць нейкім чынам судатыкаецца з канкрэтыкай, з рэаліямі

Сумна, але з гадамі болей пачынаеш жыць ва ўспамінах. Але алкаголь кахання ва ўсіх узростах моцны сваім няўлоўным і трывалым хмелем Цела хутчэй знойдзе цела, а душа шукае адпаведніцу Ды адрасы роднасных душаў недзе ў космасе Таму й пакуты, таму й блуканні.

**Л. Д.-М.** Вы сказалі: «. . алкаголь кахання », і я міжволі ўсміхнуўся – уся наша гаворка праходзіць пад нядрэмнай зоркай алкаголю. Зрэшты, мне падабаецца. Алкаголь – паняцце шматзначнае, філасофскае і дастаткова творчае ў сваёй першай, асноўнай якасці. Спадар Рыгор, пра вашыя стасункі з алкаголем у ягонай асноўнай якасці ходзяць легенды Вы, як і вашыя найбліжэйшыя сябры Караткевіч і Стральцоў, без цырымоніі адчынялі дзверы ў той дом, у якім гаспадарыў шчодры Вакх. Мяркуючы па значнасці створанага («Адам і Ева», «Каласы пад сярпом тваім», «Загадка Багдановіча» – класічныя кнігі! І, вядома, не толькі гэтыя кнігі.), Вакх ні вам, ні вашым сябрам не замінаў, а наадварот (часам думаецца й так!) спрыяў адчуваць сябе паэтамі, «дапамагаў» пісаць усё новыя і новыя творы Мяне гэта ўражвае, бо, скажам, калі ўвечары я вып'ю трыста грамаў гарэлкі, то заўтрашні мой дзень праходзіць марна – ніводнага радка не напішу У вас жа выходзіла, яшчэ раз паўтаруся, усё наадварот, нягледзячы на тое, што «алкаголь – цёмны вір, які ніколі не пакажа, што на дне» Чым гэта растлумачыць? Вашай і вашых сяброў фізічнай сілай ці якасцю гарэлкі? А можа тым, што не ўсе паэты служаць Апалону – ёсць і такія, якія служаць Вакху?

**Р.Б.** Пачну з успаміну Недзе напрыканцы сямідзесятых гасцявалі беларускія паэты ў гасцінным (і ў рыфму просіцца – вінным) Таджыкістане Мне кінулася ў вочы, што мажны Убайд Раджаб, паэт майго веку, нешта мала падымае келіх. Пытаюся: «Чаму?» Тлумачыць. «П'ю адразу паўнюткі фужэр. А пасля можна гранатавы сок цадзіць у сваю асалоду » І тут

# АСАЦЫЯЦЫЙ КАРАВАНЫ

**Бадай, адна з балючых праблем, якая заўсёды хвалюе пісьменнікаў і не абыходзіць увагай нашых крытыкаў, – праблема традыцый і наватарства. Творчасць Р. Барадуліна мае да названай праблемы досыць блізкае дачыненне. Паспрабуем жа прынагодна крыху паразважаць адносна сказанага. Толькі паразважаць... Інакш сама спроба разблытаць Гордзіеў вузел будзе выглядаць ужо зусім смешнай праявай. Як і не месца зараз узнёслым одам ці салідным навуковым трактатам.**

**Чым адметна барадулінская творчасць? Глыбокай памятлівасцю і прачулай асабістасцю, драматызмам і жыццесцвярджальнасцю, якія ўзаемадапаўняюць адно другое. Яны – вядучы імператыў паэта. Барадулін на дзіва нястомна апантаны стыхіяй адлюстравання «жизни в мимолетных мелочах» (А. Блок). Многія яго творы ўжо даўно сталі хрэстаматыйнымі. Ён любіць «гульню словамі» (не, хутчэй прызнанне іх Вялікасці!), інакш без спробы смаку слова паэт «сірата сіратою». Прыслухайцеся, як у «барадулінскім» акордзе слова пераліваецца шматгранным пералівам гукаў: «Чаратоў чапурыстых чупрына чэшацца абмялелым вяслом».**

**Думаецца, творчыя ўдачы паэта ёсць сплаў традыцый і наватарства. Не супраць-**

жа выціснуў гранат. Ну, зразумела, адразу ж налілі па фужэру каньяку, укоптур налілі. Толькі пачалі святкарскае дзеянне, як Мірзо Турсун-задэ уголас кажа Петрусю Броўку: «Моладзь пойдзе далей. » Гэта, спадар Леанід, да таго, што расчулілі вы мяне гэтым пытаннем, усялілі ў душу маю цёплае адчуванне пераемнасці пакаленняў Асабліва – у клопаце служэння Вакху Дарэчы, і гэтае служэнне не церпіць сумятні. Бо ўсёмагутны Вакх не саступіць у моцы й самому вечна маладому Амуру

Не варта бадай падзяляць прыслужнікаў Апалона і Вакха. Думаецца, што й Апалон часцяком збягае да Вакха, каб келіхам-другім падняць свой настрой, настроіцца на мройнасць. У Вакха на паслугах практычна кожная творчая душа. Хіба што *адны* спажыўцы, шчыруны на наўдзячнай ніве, якія нават насмельваюцца падужацца з самім богам, а *іншыя* лічы дэгустатары, эстэты ці смакуны – калі можна ўжыць такое слова. Спаконна тыя й гэтыя Вакху мілыя. Як таму бацьку ўсе дзеці. Іншая гамонка, што Вакх любіць тых, хто з ім нароўні. Калі адчуеш, што сіла й сіла духу ў табе здае, трэба задумацца, ці суцішыць імпэт, ці зусім выйсці з такога зманлівага сваёй шчырай буйносцю застолля, з вечнай бяседы. Гэтай жа бяседай пачынаецца шлях у жыццё, ёй жа і скончаецца. Але лірыка пішацца пад зацікаўленым позіркам алкаголю. Алкаголь не абавязкова мусіць быць толькі тым, што ліецца ў конаўкі, слоікі, гарчыкі, кубкі, брацiны, яндзоўкі, шкляніцы, келіхі, кілішкі, цабэрачкі, квартачкі. З халодна цвярозым розумам болей пасуе быць філосафам. Можа яшчэ празаікам-эпапеістам. Заўважце аднак, ні Караткевіч, ні Стральцоў, ні ваш пакорны слуга не пісалі, як гэта кажацца, набраўшыся да свінячага віскату. Уладзімір любіў падкрэсліць, што ён цвярозы, як шкельца. Міхась, калі пісаў, дыміўся, як неатухлы Везувій – паліў дужа. Каб даведацца, што пішацца ў стане, калі Вакх бярэ верх над творцай, – варта пачытаць тыя старонкі песняра Украіны, калі за паэта запісваў ягоны прыслугач

Спадар Леанід, у вас яшчэ ўсё наперадзе Дозу можаце й не павялічваць. Некалі ў нас была загадка. ён бярэ, а яго не бярэ. Не брала да часу Пілі мы, каб забыцца, каб хоць на момант забыцца на ўлады, шануючы адну ўладу алкаголю. І гарэлка была натуральная, шчырая, як і мы.

**Л. Д.-М.** Хочацца закрануць яшчэ адну далікатную праблему, якая самым непасрэдным чынам звязана з алкаголем, вольным каханнем, бытавой неўладкаванасцю і г.д. Маю на ўвазе багемнае існаванне творцы По складах прамаўляю ба-ге-ма і чую прытоенаспакуслівае гучанне. Слоўца гэтае заляцела да нас з аднаго французскага рамана, але для славянскага слыху, мне здаецца, яно ўсё-ткі чужаватае Невыпадкова ж палякі знайшлі багеме свой цудоўны сінонім – cyganeria. Можа, варта й нам пашукаць? Але пакуль будзем шукаць, згодзімся, што багема – з'ява, якая вызваляе паэта ад надакучлівага быту, дае магчымасць цалкам засяродзіцца на творчасці Я не ідэалізую такі лад жыцця, проста нагадваю пра вядомае – багема, ведучы ў пекла, стварае рай творчасці У нас, мусіць, не было багемы ў яе поўнай праяве Хіба што ў кароткую «ўзвышшанскую» пару? Ці я памыляюся?

**Р.Б.** Палякі знайшлі цікавае сваёй рамантычнасцю слова, але аддалі тым самым самое паняцце народу, якому зайздросцяць паэты. Захапляюцца цыганшчынай, імітуюць цыганшчыну, ды ў пераважнасці сваёй цыганскае сонца ім бачыцца з кабінета. Яно не грэе іх недзе, як пяецца ў песні, «...у дарозе на перавозе». Асабіста мне слова багема чуецца шматслоўна: багіня, геній, луват – багна. Мяноўна багна. Яна, багна багемы, засмоктвае руўвакрозным аблокамі. І неба нейкім чынам – гэта антыбагна, якая не апускае, а ўзносіць. Багема – зноў жа алкаголь, алкаголь антыбыту, антыпобыту, які дабратворна ўплывае на творчасць, аднак сам побыт багемы па часе можа знадакучыць. Калі вы мелі на ўвазе раман А. Мюржэ «Сцэны з жыцця багемы», дык напрыканцы героям прыелася іхняе вольнае існаванне. Заядлыя багемшчыкі сталі паважнымі акадэмікамі й пісьменнікамі, якіх « . удалося прывалачы ў літаратуру толькі таму, што прырода надзяліла іх доўгімі вушамі» Яшчэ ў Мюржэ цікавая думка, якая перагукваецца з тэмамі нашае гутаркі· «Як смерць – мяжа жыцця, а шлюб – мяжа кахання, дык платанізм у каханні – гэта ўсё роўна што вада ў віне».

Вобраз вады ў віне дапасуецца й да паэзіі й да асобы творцы Разбаўленай паэзіі, паэтаў, разбаўленых вадой разліку, вадой прагматызму, хоць адбаўляй. І хоць дабаўляй нічога не зменіцца

Ці была ў нас багема? Гэта з якога боку глядзець, ці якім вокам глядзець. Багема залежыць ад багемшчыкаў. Які іхні ўзровень, такі і ўзровень багемы. Багема можа быць на ўзроўні побыту й на ўзроўні духу, інтэлекту. У нас была й цяпер ёсць багема. Яна адметная. На беларусаў, як той імпартны хамут, навесілі найменне – рахманыя. Дык вось і нашая багема рахманая. Чыё вока запальвае паўлін сваім кідзістым убранствам, а чыё цешыць верабей сваёй шарачковасцю. Каму прамяністае світанне, каму ўтульныя прыцемкі. Адно ведаю, што багема – прываблівая рэальнасць, а не тая светлая будучыня, якую абяцалі цэлым пакаленням Ёсць мроя і ёсць спадман. Ад мроі пішуцца вершы, ад спадману баліць галава й апускаюцца рукі. Дык няхай жыве багема – светлая будучыня паэзіі!

**Л. Д.-М.** Цалкам прымаю ваш лозунг У ім дастаткова надзеі, дзеля якое варта забыцца на ўсе смуткі-маркоты і не думаць, што паэт цяпер – леў, які апынуўся ў клетцы. Аднак жа клетка існуе; дзе паэт, пакуль што невядома. Вядома іншае – вакол клеткі пануе амерыканізаваны рай. Культ лічбаў Мы звыклі да прыкладна такога шаблона: «. .звужаецца сфера ўжывання беларускай мовы». А мне здаецца, што наогул у свеце звужаецца філалагічная сфера. Людзі больш лічаць, чым прамаўляюць слоў

**Р.Б.** Наконт клеткі. Клетка й леў – адрозныя паняцці. Калі й здараецца, што леў у клетцы апынаецца, дык клетка мусіць быць занадта моцная. Салаўёў хутчэй прынаджваюць пазлацанай клеткай Ды ў няволі салавей не пяе. Думаю, што й цецерука прывучыць да клеткі цяжка. Хоць зловіць яго лёгка, калі ён такуе ці, дакладней, балбоча. Неяк казаў я ўжо, што нашыя паэты (тут лічы ўся савецкая інтэлігенцыя) хутчэй нагадваюць катоў ці нават сабак пароды колі, якіх выгналі з цёплай хаты на зімовую вуліцу. Хоць катоў з ашыйнікам не памятаю, каб калі бачыў Нервовая інтэлігенцыя заўсёды мітусілася пад кліентам пры ўсіх рэжымах. Быкавых і Адамовічаў у кожнай нацыі адзінкі. А калі ўзяць гісторыю паэзіі, дык пачынаючы адтуль, адкуль сонца ўзыходзіць, паэты часцей былі пры

---

**пастаўляючы адно другому, скажам, што Барадулін – ва ўладзе творчай традыцыі. Самы «мадэрнавы» пісьменнік, хоча ён таго ці не, у чымсьці і кагосьці паўтарае, бо ён чалавек і яму ўласцівы чалавечыя перажыванні. Праўда, паняцці ўплываў, наследаванняў, пераемнасці, тыпалогіі сыходжанняў настолькі «слізкія», што іншы раз выглядаюць зусім зманлівай праяваю. Кажучы словамі В. Бялінскага, аб вартасцях пісьменніка мяркуюць не па падабенству, а па адрозненні яго твораў ад твораў іншых пісьменнікаў. Застаючыся нястомным захавальнікам літаратурных традыцый, Рыгор Барадулін зарэкамендаваў сябе Барадуліным-наватарам, які па-майстэрску ўзбагачае тыя традыцыі. Безумоўна, Барадулін і арыгінальны, бо непадобны да іншых. Прымем пад увагу арыгінальнасць як род навізны – гэта вынаходніцтва новага ў форме адлюстравання прадмета, спосабе выражэння думкі (незалежна, думка новая ці старая). Праўда, заўважым, што меркаванне наконт здольнасці наватарства і арыгінальнасці адлюстраваць новае па-новаму не заўсёды мае рацыю: можна арыгінальна выявіць старое альбо новае сказаць па-старому.**

**Варта задумацца над тым, што ў барадулінскай паэзіі за суб'ектыўным стаіць аб'ектыўнае. Выхад на агульначалавечыя праблемы ён бачыць праз сябе. І характэрнае для яго слова «маё» ёсць не што іншае, як рашучая заяўка «боязни солгать за народ» (А. Пушкін). Ад «майго дзяцінства», «майго суседа», «майго зямнога паўтарэння» – да «майго развітання крынічна Звініць – Ёй імя Дамінічка», «Вушача – Мой пачатак, і мой канец – Вушача!», ад «маёй калыскі», «Маёй душы» – да «маёй Бацькаўшчыны», «Беларусі – маёй мовы і песні».**

**Вобраз малой радзімы традыцыйны ў паэзіі. І ўсё ж перад намі прыклад яе (паэзіі – *А.А.*) эстэтычнага ўзбагачэння. Гэта не проста гутарка пра родны куток, гэта не настальгічны плач аб «пачатку ўсіх пачаткаў», гэта – пачуццё глыбокай адказнасці перад домам: «Каб не страціць святое штосьці». Вось гэтае «святое» стала найістотнейшым акцэнтам у барадулінскай паэзіі: прычасце пахам падвялага аеру на памытай падлозе, глытком вады з вясковага калодзежа, «сонным сенам», настылай ад марозу клямкай... На мацерыку ягонай паэзіі «святое» выходзіць на шырэйшы абсяг – вяртанне да першародных вытокаў, да сівой даўніны, да святой радзімы продкаў. Сёння ўжо гэта адчайны крык перад ачарсцвелым беспамяцтвам, збуцвелай здрадай. Што пакінем у спадчыну нашчадкам нашым, калі нават «трава ў абразе не ўстае»?..**

**Традыцыйныя формы прасторы і часу абнаўляюцца мастакоўскім пошукам індывідуальна-суб'ектыўнага. Адсюль – аднaчасова полюсныя і разам з тым гарманічныя прызнанні: «Я – сын зямлі, нашчадак хлебаробаў» і «Я з крылатай сям'і, я дублёр касманаўта». Ушацкія хлебаробы ў яго – старажытныя арганаўты. «Кляліся небу перуном Ушацкіх гоняў арганаўты. Зямля рунела ім Руном». Чалавек – земляня... Горкаўская традыцыя раскрыцця партрэту часу праз вобраз сям'і блізкая і Барадуліну. Эрнэст Хэмінгуэй пісаў, што для пісьменніка найлепшая школа – нешчаслівае дзяцінства. Жахі блакады і паслявайны (сваё абпаленае**

ўладатрымцах. Тут ужо іншае пытанне, пра што пісалі й як славілі каго  Імёны часовых уладароў у гэтым свеце забыліся, нават выявы іхнія на манетах сцерліся, а імёны вялікіх паэтаў засталіся  Аднак, адчуваю, што адхіляюся ад тэмы гаворкі.

Амерыканізацыя шырыцца ва ўсім свеце. Дакладней – прагрэс глухі да слова мальбы й захаплення, роспачы й замілавання. Прагрэс, на жаль, чуе толькі звон манет, на якіх ужо меней і меней пышацца аблічы багатыроў (у нашай мове вызначэнне багацея больш канкрэтнае   багатыр). І калі напачатку было слова, дык напрыканцы моц набіраюць грошы  Грошы робяць грошы, абыходзячыся абмежаванай колькасцю словаў. Разам з тым цікавая дэталь – у шмат якіх краінах капіталу (так адмоўна называла развітыя краіны савецкая ідэалагічная служба) аўтарам плоцяць за слова. У краіне развітога сацыялізму плацілі за пагонныя метры  Праўда, у цывілізаваным свеце паэтычных кніг выдаецца мала. Відавочна, што й мы да гэтага йдзем. Пры саветах і паэзію й прозу зрабілі прафесіяй. Бадай ва ўсім свеце паэзія – хутчэй хобі, захапленне  Зрэшты, гэта ўжо асобная тэма.

У наш час, як гэта ні сумна канстатаваць, слова, маю на ўвазе нацыянальнае слова, павінна быць забяспечана, так бы мовіць, залатым запасам  У нацыянальнага капіталу свая нацыянальная мова, у інтэрнацыянальнага – свая  Бедняку застаецца толькі слухаць, як гавораць багатыры (прашу не блытаць з асілкамі, асабліва быліннымі!)

Паэтаў калі што й трымае, не дае дайсці да касмічнай роспачы, дык толькі алкаголь славы  Некалі расіец Асееў пісаў· «А слава, як вада салёная, чым болей п`еш, тым болей хочацца»  Хоць кажуць, каб не хацець піць у спёку, трэба з`есці селядца  Ды паэтам часцей і часцей няма за што й селядца купіць. А славы хочацца.

**Л. Д.-М.** Якое ўсё-ткі неадольнае імкненне да алоўка і паперы! Яно – ахоўны знак дзяцінства. Жаданне быць творцам, паэтам у чалавека абуджаецца раней, чым жаданне быць разбуральнікам. І, слава Богу, што гэта пакуль так. Паэт – панянцце дзіцячае  Аднак, спадар Рыгор, ці не здаецца вам, што дзяцінства паэтаў куплена д'яблам? І ніхто з часоў старажытнай Элады гэтай куплі не заўважыў  Удакладню: гаворка не пра душу, на якую традыцыйна ласы д'ябал, а менавіта пра дзяцінства.

**Р.Б.** Дзіцячая душа й анёльская душа, мяркую, паняцці раўназначныя. Памкненне да творчасці, прага тварыць – гэта ад Усявышняга. Творца, паэт у момант натхнення набліжаецца да Тварца, бо імкнецца, стараецца стварыць роўнае Тварцу  Гэта шлях да ісціны, да існасці  Чаму так уражваюць дзіцячыя малюнкі, вершы? Адказ не такі ўжо далёкі. Гэта чыстае, што называецца, мастацтва, яно ад душы, ад шчырага сэрца дзіцяці  І нельга купіць дзіцячую душу, як нельга й купіць дзяцінства. Майстэрства й рамяство – яны хутчэй ад нячысціка. У дзіцяці ўсё чыстае – і радасць, і гора, і нават зайздрасць. Алкаголь славы, спакуса славай – яны бяруць у палон душу дарослую. І тут д'яблу лягчэй  Жыццё чалавеку даецца як выпрабаванне, як торг за ягоную душу. Не прадасць душу, не закладзе яе д'яблу ўлады, раскошы, усёдазволу    застанецца асобай, творцам  Мне запярэчаць – тварыць можа й благі. Сапраўды, тварыць можа, але не дасягае вяршыннасці й дасканаласці. Нездарма Бярдзяеў пісаў· «Грэх робіць немагчымай не творчасць, а ейную завершаную дасканаласць»  Сапраўдны майстра непадкупны  Д'яблам можа быць падкуплены толькі ілжэмайстра, творца-рамеснік. Думаю, што Моцарту гіпатэтычна можна зрабіцца Сальеры, а вось Сальеры Моцартам не можа быць. Дзіцячая душа безабаронная  І адначасна абароненая – даверам, непасрэднасцю, чысцінёй  Як і паэзія .

**Л. Д.-М.** Задаючы сваё «правакацыйнае» пытанне, іншага адказу я й не чакаў – сапраўды «   нельга купіць дзяцінства»  І не кожная маладосць прадаецца, старасць. Але д`ябал нястомны і дастаткова, калі можна так сказаць, дыпламатычны. Ён можа пакласці перад Барадуліным сто тысяч залатых дукатаў і сказаць: «Бяры, бяры проста так. Я нічога не куплю. Проста даю табе сто тысяч залатых дукатаў  .» Возьмеце?

**Р.Б.** Дарагі сэрцу майму, спадар Леанід! Нейкая містыка ці чартоўшчына бачыцца мне ў гэтым пытанні, бо яно якраз трынаццатае. Чортаў тузін. Д'ябал не толькі нястомны, ён спрытны, хітры, вынаходлівы. І ўлягае д"ябал найбольш каля мужчынскага племя. Гэта першапачаткова для мужчын ён з фіміяму зрабіў дым тытунёвы, са слёзаў лазы вінаграднай – каньяк, з зерня, з якога хлеб надзённы, спірытус выгнаў  Ля жанчын болей Амур завінаецца  І грошы – яны ад д'ябла. Ад Бога – мілата й ласка. Ды ці не сам Гаспадар даў д'яблу патэнт грашыма купляць душы і наогул грашыма выпрабоўваць? У шмат якіх выпадках і слава небясзэбраніца. Грошы – самыя жорсткія, самыя бязлітасныя рабаўладальнікі  Яны прымушаюць працаваць на іх болей і болей  Апетыт расце ў іх разам з прагрэсам.

Маё малалецтва й юнацтва прайшлі яшчэ не пад такім моцным прыгонам грошай  Іх зяўсягды не хапала, да іх было стаўленне як да скупых суседзяў  Пятнаццаць сотак гароду, каровы, куры, ахвяра, якая штогод прыносілася посніцы, – парсюк. Местачковы феадалізм нейкім чынам абмяжоўваў уладу грошай  І цікава было мне год таму дома ў Вушачы – іду з Ваўчэнскага возера, едзе аўтобус з лёнзавода. Па інерцыі хачу пад'ехаць. Спахапляюся – у мяне ні калiткі з сабою, як кажуць, ні капейкі  Басанож (як ва ўсёй нашай паэзіі героі на радзіме) чашу пешкі  Грошы пачынаюць гаспадарыць паўсюль.

Грошы – дзяржава ў любой дзяржаве  Грошы грошы робяць. Ад грошай, як ад ценю свайго, можна ўцячы толькі ў царства ценяў  Дый там ці перавозіць Харон бясплатна, ніхто не распавёў яшчэ. Самыя чыстыя й самыя дарагія ва ўсіх значэннях гэтага слова былі й застаюцца мне тыя манеткі, што давала мне некалі мама, каб купіў нешта смачнае  Мама часта паўтарала, як ейны сусед некалі ў вёсцы Кавалеўшчына казаў на манеты. «Якраз як рыбіны вочкі»  І мне тыя пасляваенныя пятнаццаткі й дваццаткі здаваліся вочкамі рыбіны, якую не зловіць. Класічная лічба – сто тысяч, класічная грашовая адзінка – дукат, ды яшчэ залаты! Хоць памятаеце, спадар Леанід, мяхі золата, якія чорт даваў п`яным дзядзькам уночы, раніцай ператвараліся ў вуголле  Ведаеце, сто тысяч залатых дукатаў, нават на такіх ільготным умовах, не ўзяў бы  Прызнаюся шчыра, пабаяўся б іхняй дыктатуры  Яна мацней за дыктатуру пралетарыяту  А калі сур`ёзна, любыя грошы дарма не даюцца  А тым болей такія. Гэта ж не згаданыя мной рыбіны вочкі ад мамы  Узяўшы, нешта б такі давялося аддаць. Таму ж д`яблу  Бо закон даўні: будзь узях і будзь дах.

**дзяцінства і горкі лёс мацi-ўдавы) выкрасалі і выкрасаюць у паэта зарывы ўспамінаў. Для яго «ўспаміны – неўзарваныя міны». Зварот да вайны ў барадулінскай паэзіі – гэта не даніна часу, а ўнутраная неабходнасць, заснаваная на фактах уласнай біяграфіі. «...тэма вайны будзе для паэта пастаяннай... Яна – страшна гаварыць такое – стала нечым сямейным, ці што» (Ф. Семашкевіч). Згадаем вядомы ў ягонай паэзіі матыў «бязбацькаўшчыны» і карціну чакання з вайны, саму па сабе традыцыйную. Але падпарадкаваўшы яе (традыцыю – *А.А*) свайму вопыту, карціна набывае барадулінскую афарбоўку: доўгачаканы ранак перамогі сустракае не воін, не партызан, а «бязбацькавіч». У роднай хаце сустракае. У роднай хаце чакае – і чакае праз гады. «Каторы раз сыходзіў снег...» Чаканне перарастае ў вернасць: «А шапку я заўжды здыму Перад магілай невядомай...» Кругі памяці не адыходзяць у нябыт, яны застаюцца навек.**

**Майстэрства ёсць імкненне. Барадулін досыць часта згадвае пра Янку Купалу. «Згадвае на мяжы нейкай вельмі асабістай крэўнасці...» (Р. Семашкевіч). «...песня дзядзькі Янкі калыхала», «Пявучае купалаўскае дрэва!», «Іскра ў душу мне запала – Купала...». Купала для яго – «вялікі паэт славянскага свету», «уладар народных дум». Сіла мастацкага ўздзеяння адчувальная. У прыватнасці, Купалава «Яна і Я» і барадулінская «Адам і Ева»: водгулле адвечнага, быццам звычайнага, быційнага і ў той жа час найчалавечнейшага: ён і яна, зямля, праца, прырода, узаемная блізкасць. «Спакой спрадвечны на зямлі». Жыццё і зямля благаслаўляюць іх. О святая прастата! Палоняць маштабы агульначалавечых матываў разам з нястомным «урастаннем» у філасофію сялянскага быцця.**

**У Купалы:**

*Звінела песня і злівалась з музыкаю птушак,*
*Бярозавыя на гасцінцы плакалі прысады,*
*Заводзіў вецер, б'ючысь аб асінавы асушак...*
*Я выган плотам гарадзіў, яна палола грады.*

**У Барадуліна:**

*Пакуль далёка спіць залева*
*І сопкі песцяцца ў смузе,*
*Яны ўдваіх,*
*Адам і Ева,*
*Капаюць бульбу*
*у тайзе.*
*Конь пасвіцца,*
*бялее грыва.*

**Так ці іначай працай земляроба і Купала і Барадулін мераюць усе вартасці, усе ісціны на свеце. Вось яна, аркестроўка (па вобразу і падабенству) карміцелькі-зямлі, зямлі-Беларусі. Праз гістарычнае ўкрыжаванне (купалаўскія «вечныя на нас крыжы» і барадулінскі «быў час, як канакрад»). Развіваючы даўнія традыцыі нашай літаратуры («Ад касьбы, малацьбы толькі рукі нямелі»), Барадулін эстэтызуе сялянскі побыт наогул («...Увосень пахнуць каравaі», «Зімой агонь палае ярка: Памінкі правяць кабану», «Цячэ размова ціхай рэчкай. Смяецца радасць за сталом»).**

*Тут як у казцы, ў лядах восенню*
*Карову пасвіў кот Мірон,*
*Лісіца пеўня з дому зносіла*
*І вечар глух ад камароў.*

**Барадулінскія вясковыя замалёўкі з натуры ў нечым родняцца з падкрэсленай гогалеўскай і гарэцкаўскай стыхіяй вясковай паэзіі (рамантыкі). Згадаем: «А там гарэла ціхае**

## Няма калі

Няма калі Богу хварэць –
Адзін на такую гасподу.
Бадай, аратай гаспадар
Яго зразумее дагоду.

Няма калі Богу старэць,
Бо чорт маладзее з гадамі.
Світанак – ахвярны святар
Разбудзіць ды паспагадае.

Няма калі дбаць пра сябе
Ды выгадаць нешта ў дзяльбе –
Абы перапала тварыне
Жывое Яго мілаты.
Хай Богу хоць сон залаты
Прысніцца ў нябеснай адрыне...

## Што ёсць...

Народ, як лёд, –
То растае,
То з халадамі нарастае.
І галасы журбы свае
Пакінуць хоча на расстанне.

Гісторыя, як азярод,
Дзе ветрацца снапы стагоддзяў.
І зерне падае на ўрод
Ці на няўрод
У рот страхоццяў.

Капае кожны свой гарод.

сялянскае святло». Цёплая ўтульнасць і казачная прыгажосць. Гармонія ўсяго жывога...

Рыгор Барадулін – прырудапаклоннік. Ён увесь у палоне міфалагічнага светаадчування. «Я – хрышчоны паганец», – прызнаецца паэт.

*Хай мяне*
*блаславяць у нябыт*
*Як свайго шалапутнага хрэсніка*
*І яго Яснавокасць*
*блакіт,*
*І яе Ласкавасць*
*бярэзінка.*

Дзіву даешся, як тонка паэт назірае за тым, як «ляшчыннік моліцца на лог» і «маліннік млее ад блазенства», «Яліны хіляць галіны – Моляцца богу агню» (успомнім і ў купалавай «Яна і Я» паганскіх багоў. «Маліцеся да бела бога чуйна і чорнага не гнеўце бога!»). Паганскае буйства вобразаў у паэта невыпадковае, яно – ад першароднага ўспрыняцця прыроды крывіцкага духу.

Жыццёвы вопыт Р. Барадуліна ўвабраў у сябе і фальклорную спадчыну («Матчыны песні», «Бяроза з лістам гаварыла...»). Матчыны песні акрылілі паэта, далучылі да народнай мудрасці, уткалі ў сувой яго паэзіі народна-песенную аснову. «Матчына песня, Ты ў полі гарбела... Але спачувала, што ў перапёлкі ножкі баляць...». «Калі што-небудзь і зраблю, дык гэта дзякуючы роднай мове, матчынай песні, дзякуючы той, ад каго з калыскі чуў непераўзыдзеныя па сваёй ранішняй чысціні, да скону дарагія сэрцу напевы», – пісаў сам паэт. Інтанацыі песні і прыпеўкі, прыказкі і прымаўкі традыцыйнага падання і праклёну, замовы, загадкі, скорагаворкі – барадулінская арыгінальнасць. Адсюль бяруць





Дужэйшая за сілу стома.
Ды што такое ёсць
Народ,
Напэўна, й
Богу невядома...

## Таенне

Дыханне тоіць,
Заціхае
Пажар мілосці.
А сэрца мроіць,
Што кахае
Ва ўсёй буйносці.

Знікненне тоіць,
Затухае
Цяжар мілосці.
А рэўнасць чуе,
Бо глухая,
Усё ў былосці.

Ваганне тоіць,
Зарастае
Абшар мілосці.
І просіцца
Трава густая:
Касу прыносьце!

## Страх зярнят

Каб дзе антонаўка, каб сапяжанка.
У Гефсіманскім садзе

вытокі ягоны гумар і сатыра, адсюль – драматызм барадулінскай тэмы ўдовінага лёсу. «Удава – бяроза без верху...» (параўн.: у народнай песні маладая жанчына, пакідаючы родную хату, заламвае бярозку). Слова паэта ўспрымаецца перш за ўсё на слых. «Сампасам на выпасах верасня пасвіцца Збродлівы статак пчаліны». Параўнаем з купалавай «гульнёй слоў», дзе вызначальнай ёсць перашкоднаэтымалагічная сутнасць слова: «...дзівам дзівяцца з праяў». Выяўленчасць і быційнасць – носьбіты барадулінскага стылю. Я. Шпакоўскі слушна заўважыў: «...рэчы, з'явы малюе з натуры, а натуру выбірае самавітую, крамяную, сакаўную». У праве на гэта паэту не адмовіш.

Вобраз маці пранізвае, «асвячае і асвяшчае» (В. Тарас) усю творчасць Барадуліна. Паэт узнаўляе родны вобраз у яго будзённай канкрэтнасці і адначасова святасці. «І калі б была воля мая на тое – пачаў бы я азбуку менавіта з літары М: як і ўсё на зямлі, усё ў нас пачынаецца з МАЦІ», – шчыра прызнаецца паэт. Перад намі, бы жывыя, паўстаюць усе драбніцы горкага ўдовінага лёсу маці паэта, якая на папялішчы хаты, што «немцы спалілі пры адступленні», ставіла новую, дарабляючы яе ўсё жыццё. «Маці сталярыла і цяслярыла без гэбля, без ватэрпаса. Сякера была адна, як доля ўдавіная, чэзлая». Мацярынская тэма набывае ў Барадуліна сваё гучанне. Гэта сыноўняя вернасць матчынаму запавету. Вернасць праз усё жыццё. Маці для паэта – бясконцы напамінак: як трэба жыць. Неўзаважнымі нельга пакінуць наступныя моманты. Па-першае, маці і матчына хата (за-

Старасць дрэў.
Смуга й зямля,
Як цёплая ляжанка,
Каб смутак
Плечы сцёртыя сагрэў.

Натое сад і гадаваў
Садоўнік,
Каб тут аземіў думку
Бог жывы.
Каб і паломнік —
Смутку паслядоўнік —
Пачуў
Літанне смяглае травы.

У Гефсіманскім наквець адшумела,
А ў садзе недзе каля Ціханят
Антанаўкі ды сапяжанкі
Смела
У кулачках трымаюць
Страх зярнят.

## Перавядзі

Дай, мова беларуская, руку,
Перавядзі цераз раку нябыту.
За ўсё, што мне паслала на вяку,
Табе б купіў сукенку з аксаміту.
Збіраю, як жабрак па медзяку,
Па слову, плоцячы пагардзе мыту.
Ты неўміручая — і мерцвяку
Сон ажывіш з-за кратаў алфавіту.

Табе адной даверыцца душа,
Заступніца, парадніца, шчыруха.

---

мест – «бацькоўская хата») у барадулінскім уяўленні – трыумф гранічнай цэльнасці і сімвал паразумення:

*матчына хата слухае,*
*ці ўсё на зямлі спакойна?..*

Маці застаецца жывой душой хаты. Па-другое, са шчырым замілаваннем, сціпла і велічна называе яе (маці – *А.А.*) толькі «мама». Па-трэцяе, паэт не тое што апавядае пра маці – ён моліцца на яе. «А мама багіняй была». На думку В. Быкава, «барадулінскае маленне аб маці набліжаецца да каталіцкага багаўлення мадонны, тым самым узвялічваючы духоўную сутнасць нашай паэзіі». І, па-чацвёртае, вобраз Маці ў Барадуліна жыве пад знакам Вечнасці.

*Вочы твае*
*Нада мной узышлі*
*Сузор'ямі цішыні,*
*Сусветамі дабрыні,*
*Покуль ёсць яны –*
*Мне на зямлі*
*Светла, мама.*

Імпануе паэту, па ўсім відаць, і дубоўкаўская крывіцка-карэнная, з балцкай падсветкай мова, і панчанкаўская адкрытая публіцыстычнасць, і караткевічаўская стыхія гістарычнай мінуўшчыны, і...

І, нарэшце, можна сказаць пра традыцыі эстраднасці – выхад да шырокай аўдыторыі. Адны ў захапленні ад барадулінскага слова, другіх яно расцвяляе. Так ці іначай абыякавых не знойдзем.

Барадулін застаецца Барадуліным. Ва ўсёй віртуознай невычэрпнасці таленту. Кажучы словамі А. Блока, душэўны строй сапраўднага паэта выражаецца ва ўсім, да самых знакаў прыпынку. Яго «візітная





Іскрынка выкрычыць агонь з сушша
І гора й радасць утаймуе скруха.
Няхай на сухалес ідзе імша.
Калі цябе не чую — ў свеце глуха...

## Раслі...

Ах, якія былі бур'яны!
Як нязмушана ў іх былося.
Досвітак,
Як той конь вараны
Тут губляў сваё перапалоссе.

І крышыліся бур'яны,
І калоліся як папрокі.
Тут жа засветла
Хто неляны
Аблюбоўваў начлег шырокі.

З бур'яноў уцякалі сны,
Ведалі —
Тут не тое штосьці...
Як умелі маўчаць бур'яны!
І яны раслі ў
Маладосці...

## Рызыкую

Злом нявечаны, любосцю пешчаны,
Гадаваны цнотай і абразаю
Гэты свет
Ці Богам запавешчаны,
За яго, пакуль жыву,
Адказваю.

---

картка» – вокамгненная рэакцыя. Творы паэта эмацыянальна зараджаны, яны «забараняюць» нам анатаміраваць іх на прыёмах вершаскладання. Часам яны каламбурныя і выбуховыя, дзе «гульня слоў» робіцца прадметам (прадметам!), а не толькі сродкам паэтычнага адлюстравання. Фантан пачуццяў і феерверк думак. Кажучы па-барадулінску, і рунна, і наліўна, і пісальна, і нерушна, і абсяжна, і вечальна, і амплітудна, і дарожна... Ці як прызнаўся сам паэт у адным з вершаў – «проста мне так захацелася». Барадулінскія вобразы зямныя, але ні ў якім разе не прыземленыя. Характар неспакойны, няўрымслівы, чуйны да жыццёвых працэсаў. Барадулінскія парадоксы часам бачацца не чым іншым, як праяўленнем чуйнага бачання свету перад бачаннем ардынарным.

*Вершаліны –*
*Смалістыя вершы, якія*
*Разгайдалі*
*Падушку лясную ў нябёсах.*
*Не апусціць іх дол*
*Да жабрачага кія,*
*Лепей хай аблачына*
*Прыдбае на посах.*

*Вершаліны ідуць*
*Долам неба,*
*І цені*
*У сваім жа губляюцца*
*Перапляценні.*

Інакш паэт не сказаў бы, бо перастаў бы быць Барадуліным.

«Душою не ачарсцвець» – жыццёвая пазіцыя Р. Барадуліна. Талент самабытны і невычэрпны. Карацей кажучы, «асацыяцый караваны па ўсіх радках накіраваны».

Аліна АСТРАУХ

Не набыў я на́быцці для спадчыны
І не маю куфра кутавекага.
Гэты свет,
Вачмі маімі ўбачаны,
Рызыкую пакідаць на некага.

Як запалкі ад малога
Некалі,
Ад мяне памалу ўсё прымаецца.
Страшна разлучыць
З маёй апекаю
Гэты свет,
Што за мяне трымаецца.

## Няпэўнасць

Усё ў мінулым
Неабмінулым
Як быццам стала
Няпэўным гулам.
Усё самотнае
Знікла агулам,
Легла на дно
Каменем затанулым.
Са дна няпудджанага
Не ўсплывае
Ні сон, ні нават
Памяць жывая.

## Не мае

Калі агонь патух,
І вугалёў даволі.



Свабодны толькі дух,
Душа не мае волі.

## Была...

Раней займаецца світанне,
Ноч трызніць
Цёмнай варажбой.
Цябе чакае развітанне
З усімі
І з самім сабой.

Як запытацца ў развітання,
Чаго спяшаецца й куды.
Яго не стане,
Толькі стане
Табе гаркотней ад жуды.

Рыпіць сцюдзёна
Дуб-старэча,
Бяльміста пяліцца дупло.
Была вясноваю сустрэча
З жыццём.
Ды сцежкі замяло...

## Сам сябе

Сабака лечыць сам сябе —
Шукае травы,
А найболей
Ён лечыцца — нарэшце! —
Воляй.
Нашыйнік нервы не шкрабе.

# Нехта адчыняе браму...

***

Нехта адчыняе браму свайго горада, засланяючы ёю самога сябе. Нехта, адчыніўшы, становіцца ў праёме. Бачыш яго рознакаляровую вопратку і толькі ў прасветах тое, што адбываецца за брамай.

Гукапіс, яркая метафара ды іншае — гэта ў барадулінскім выкананні выглядае вельмі прыгожа. Але такія «прыгоствы» абкрадаюць цэласны вобраз, які павінен ствараць вершам. Атрымліваецца сітуацыя «моцных васалаў пры слабой каралеўскай уладзе».

***

Ведаю паэта, для якога творчасць — нібы посах у толькі яму вядомай дарозе. Барадулінскія ж вершы (калі заставацца ў межах той жа вобразнай сістэмы) хутчэй нагадваюць выразаныя падчас прывалу з дрэва і тут жа на месцы пакінутыя фігуркі людзей, жывёл ды інш.

Як адзін, так і другі паэт на сваім шляху іншы раз вяртаюцца на ўжо знаёмыя ім мясціны. Да часу вяртання як сляды ад посаху, так і драўляныя фігуркі паспяваюць, нібыта насенне, прарасці, стаць дрэвамі, здольнымі прыносіць плады. Але здаецца, што плады гэтых дрэў могуць наталіць смагу толькі сваіх гаспадароў. Ці то шляхі паэтаў не сустракаюцца, ці спрацоўвае знакаміты сіндром «лісы і журава».

***

Запомнілася выказванне Л. Дранько-Майсюка пра паэзію М. Купрэева: «Вершы Міколы Купрэева не заварожваюць, а кранаюць, не мілуюць слых, а ўражваюць душу». Наўрад ці з такой аднайзначнасцю можна было б выказацца адносна барадулінскіх вершаў. Барадулін — ці не найбольш яскравае ўвасабленне антыподу да «паэтаў адной песні». Але паміж словам прыгожым і дакладным паэт часцей выбірае першае. А за шматпланавасць і ўсёабдымнасць даводзіцца плаціць пранікнёнасцю і глыбінёй. Толькі тая ж самая шматпланавасць (здольнасць паэта бачыць рэчаіснасць у незвычайных ракурсах, пастаянная іх змена) і не дазваляе барадулінскім вершам «прыесціся», надае ім здольнасць да доўгага жыцця.

Усевалад ГАРАЧКА

А белы свет
Сышоўся клінам,
Журлівым клінам жураўліным.
У смелай волі
П'яны дух.
Адно нашыйнік напамінам
Пра костку, будку
Ды ланцуг...

## Босая сцежка

Босая сцежка да храма
Ногі грахамі мые.
Родная толькі мама.
Родныя ўсе –
Чужыя!

## Глухія пастухі

Ідуць праклёны не на лес сухі.
Каб пляскаць радасці,
Не хопіць ладкаў.
Нам аддаюцца нашыя грахі
Праз нашых
Неўсвядомленых нашчадкаў.

У старасці глухія пастухі.
І самапасам ходзяць
Думак статкі.
І самі па сабе
Жывуць грахі.
І нас не хочуць заўважаць
Нашчадкі...

# ДЗВЕ СТРАФЫ З БАРАДУЛІНА

Паэты вырастаюць на зямлі дзе радзей, дзе гусцей, і на гэта, пэўна ж, ёсць свае прычыны. Ці яны нашыя, зямныя, ці касмічныя? Ніхто не рабіў спробы разгадаць гэта. Ды і наўрад ці разгадае: чаму, прыкладам, Ушачы далі цэлае суквецце выдатных талентаў?

Але несумненным застаецца адно: паэзія нараджаецца як бы нечакана – і найперш, мабыць, для самога творцы, для самога паэта. Такой жа застаецца яна і для чытача – нечаканай і пастаяннай, аднойчы і назаўсёды. І будзеш стаяць у здзіўленні і думаць: адкуль што ўзялося?.. Як тая мінога з вясёлага дзіцячага вершыка·

*Запыталіся ў міногі:*
*– Дзе твае, мінога, ногі?*
*Доўга думала мінога –*
*Не магла сказаць нічога.*

От жа ўсё проста – і гэтак хітра: паспрабуй спецыяльна, запраграмавана прыдумаць такое. Не ўдасца. Тут патрэбна іскрынка азарэння! І яна ўспыхнула аднойчы ў свядомасці, а хутчэй – у падсвядомасці паэта Рыгора Барадуліна, і ён прамовіў гэтыя радкі – і, відаць жа, здзівіўся сам: адкуль яна, з якіх глыбіняў ці завадзяў, выплыла, тая мінога?.. І нас, чытачоў, здзівіў: от жа столькі год – дзесяткамі лічы – стаіць неадчэпна перад вачыма – у самым добрым сэнсе, вядома, – задумёнае стварэнне, збянтэжанае раптоўным пытаннем: «Дзе твае, мінога, ногі?..» А д'ябал іх ведае!.. Вось няма і не было ніколі тых ног, а стой і думай: дзе яны?.. Думаў я з малым сынам, цяпер думаю з малым унукам... А мінога ўсё тая ж – і ўсё думае, думае з намі...

Светла і радасна разгадваць загадку паэзіі. Аднае во хапіла на ўсё жыццё – на тры пакаленні.

А з такіх жа загадак – увесь Рыгор Барадулін. Яны ў яго растуць як грыбы пасля дажджу.

Я знарок не кранаюся тэм, якія літаратуразнаўства звычайна кладзе ў падмурак вучоных штудый і высноў, даследуючы творчасць Рыгора Барадуліна. Усё, безумоўна, там слушна, грунтоўна, заслужана. А я – пра тое, на што, быццам бы, і ўвагу вучоную не варта скіроўваць... Ну вось, да «міногі» – яшчэ адзін малюначак:

*І ты шпала, і я шпала,*
*І ты спала, і я спала.*
*Наляцеў цягнік,*
*Разбудзіў – і знік.*

І ўсяго?.. І толькі? А чаму ж я дзесяткі год, як таямнічы крышталь, паварочваю і так і гэтак жартаўліва прамоўленую паэтам страфу – і пералівістая, іскрыстая гульня прамянёў і праменьчыкаў, як у чароўным калейдаскопе, не перастае мяне радаваць? А таму, што гэта – паэзія. І гэтая прасмоленая шпала па-чалавечы дыхае, прамаўляе і жыве нейкім нашым, але і сваім, таямнічым «шпальным» (ці «спальным») жыццём...

Вось, бадай, і ўсё. Усяго пра дзве страфы Рыгора Барадуліна. Не самых, як кажуць, «лёсавызначальных». Але ён у іх – як у крышталіку – свеціцца. Прынамсі, для мяне. Запомніліся гэтыя радкі з першага чытання. І жывуць са мною, як маленькі цуд і вялікая загадка паэзіі.

Скажаце, гэта не пра майстэрства? А пра што? І што ёсць майстэрства? Што ёсць наватарства?

*Я не люблю церквей, где зодчий*
*Слышнее Бога говорит –*

І: «Научный язык» – чтобы скрыть свое незнание. А «литературный язык» – чтобы литераторам скрыть, что им нечего сказать...»

Дзве думкі, прамоўленыя зусім-зусім рознымі людзьмі, у розных абставінах і з розных прычын. Першая належыць Соф'і Парнок, напаўзабытай цяпер (а можа, і забытай) паэтэсе і перакладчыцы. Другая думка – з вуснаў мудраца сусветна вядомага – Льва Мікалаевіча Талстога... Але ўспыхвае між імі праменьчык лучнасці: здаецца, гэта пра адно, пра тое ж самае – пра майстэрства.

Сапраўдны майстар там, дзе яго не відно, дзе ён «выліўся» – цалкам, без астатку – у сваё тварэнне. Там, дзе «майстэрства» напаказ, дзе яно тырчыць з кожнае шчыліны, «крычыць» кожным швом, пранізліва зыркае кожным цвіком, – там ужо выступае не тварэц, а рамеснік – з рэкламным промыслам: прадаць тавар.

То не будзем жа глядзець на паэзію вачыма адной гераіні Праспэра Мерыме, для якой вершы – гэта «кароценькія радкі няроўнай даўжыні з пустымі месцамі з кожнага боку...». Не будзем жа заблытвацца і ў рыфмаваных (ці верлібрызаваных) шыфраграмах...

Майстэрства не ў знешнасці Міс Паэзіі-19..., а ў гарманічным, нябесна-зямным, узаема- і самадастатковым адзінстве формы і зместу, як ва ўсім існым, што створана Богам: чалавеку, птушцы, травінцы...

**Васіль ЗУЁНАК**

# НЕ КРЫЖ, А ПЛЮС

На тыльнай вокладцы кнігі «Вяртанне ў першы снег» дата ўцэнкі – 10.08.79 г. – чыйсьці размашысты подпіс. Вершы патаннелі ў два разы й сталі каштаваць дваццаць капеек – як бохан хлеба ў тыя «прыіллічныя» гады.

На паэзію ўвесьчасна знаходзіліся ўцэньшчыкі (як і загоншчыкі). І на маёй памяці было – у нашай вясковай крамцы з шматзначнай надганачнай шыльдай «Товары повседневного спроса» прадавалі Танка – па дзесяць капеек за том. Так і хацелася папрасіць мажную гандлярку Вераб'іху, якая што заўгодна магла прадаць напавер, на разліў і ўвогуле па частках – узважце мне вершаў на тры капейкі.

Паэзія можа падняцца ў цане ў букіністычнай краме. І то не за свой кошт, а дзякуючы выключна таму, што пэўная частка чалавецтва ажно дрыжыць, упадаючы за пажаўцелай ад часу і прапахлай мышамі паперай. Нядаўна набрыў у «Вянку» на Траецкім на зборнічак М. Машары. Тройчы пералічыўшы колькасць нулёў на цэтліку, я вымушаны быў канстатаваць для самога сябе неверагоднае – кніжка сярэдняга заходнебеларускага паэта каштавала каля паўсотні даляраў (!) Чаму так? Год выдання – 1928. А апантаны калекцыянер год хадзіцьме – падцягнутым пасам, але патрэбны старадрук набудзе.

Цана на Барадуліна ў сэрцах нешматлікіх, ды стойкіх прыхільнікаў беларускай паэзіі ніколі не падала. Ягоны паэтычны радок не паддаецца дэвальвацыі, нягледзячы нават на рэдкія па сённяшнім часе частыя выданні і перавыданні.

На Беларусі паэтаў ніколі не бракавала. Многія з іх вартыя добрага ўспаміну, многія

напісалі творы, што застануцца. Але...

У каго кожны радок выверany, як гадзіннікавы механізм, што й без груваcткага ківача не збіваецца з аднойчы абранага суладнага ходу? У каго ўвесь-часна і думка, і слова, і рыфма свежыя і пахнуць спрадвечнасцю, беларускасцю і глыбінёй, як увечненае паэтамВечалле?

У аднаго Барадуліна.

Хто здолеў апладніць мастацкім семем знаёмы з маленства фальклор, узняўшы ўшацкія прыпеўкі й прыгаворкі да арыгінальнага твора (згадайма бліскучую «Смаргонскую акадэмію» ці нядаўнае «Здубавецце»)?

Адзін Барадулін.

Каму муза засталася верная і ў пенсійным веку, каго яна наведвае (на зайздрасць і маладым, і сталым) на дзіва часта?

Аднаго Барадуліна.

Хто ў блюзнерска-святым парыве стварыў Евангелле ад найсвяцейшага чалавека на зямлі – Мамы, тым не менш рызыкуючы паводле царкоўных канонаў апынуцца ў адной ерэтычнай «кумпаніі» з Львом Мікалаевічам, аўтарам анафемнага Евангелля дзя дзяцей?

Адзін Барадулін.

Хто ўмее надпісаць аўтограф, адшукаўшы ў нетрах роднай мовы рыфму нават да такога імя-прозвішча, якое ну аніяк не хоча рыфмавацца, ды так, што шчаслівы ўладальнік не-не дый пахваліцца адрасаванымі толькі яму радкамі майстра?

Адзін Барадулін.

Чые эпіграмы-экспромты (друкаваныя й не для друку) шырока разышліся ў народзе, чые словатворныя іранічныя рэплікі здольныя развярушыць любую сумную сходку?

Аднаго Барадуліна.

Хто з творцаў носіць пярсцёнак з выявай «Пагоні» – як знак вечнага шлюбу з Айчынай?

Адзін Барадулін.

Хто з беларускіх паэтаў аднолькава свой і ў Парыжы, і ў Пекіне, і ў Нью-Ёрку, і ў Ерусаліме?

Мабыць, адзін Барадулін. Бо кожнае судакрананне з праявамі іншага жыцця імгненна ператвараецца пад ягоным увесьчасна наўзгатоўным пяром у паэзію.

Беларускія грошы ніяк не могуць зрабіцца канвертуемай валютай. Беларуская паэзія Барадуліна можа канвертавацца на любых сусветных рынках: яе не сорамна разаслаць у канвертах у Аўстралію ці на бераг Тэмзы, але хіба зможа ангелец адчуць, як пахне Вечалле?

Постаць Барадуліна звяртае на сябе ўвагу не толькі якасцю й колькасцю твораў. Мне імпануе ягоная зацятасць і грамадзянская смеласць, калі паэт чытае вершы на апазіцыйным мітынгу, не баючыся, што адбяруць званне народнага. Але для мяне важныя й чалавечыя ўчынкі паэта. Памятаю, як незадоўга перад адлётам у незваротны вырай да мяне на працу ў свой дзень народзінаў зайшоў Віктар Стрыжак і пахваліўся падарункам Барадуліна – кашуляй. Можна скласці сяброўскі панегірык, адбыць застольную рату наспех купленай у падземным пераходзе вабнай кнігай, а тут як сабрату, як сыну – кашулю...

І ўсё ж Віцебшчына, якая «лёсам не выпешчана», родавае гняздо Панчанкі, Вялюгіна й Барадуліна, дзякуючы сваёй небяспечнай набліжанасці (геаграфічна) да Расіі, хай сабе й гады ў рады, але дазваляла сваім песнярам двухсэнсоўныя выказванні. Чытаючы іх у студэнцтве, мы дружна былі гатовыя абвінаваціць паэтаў у згодніцтве й г.д.

Пімену Емяльянавічу даставалася за радкі: «Калі ж хто загадае: "Не трэба!" – Адрачэцца ад мовы народ...» Рыгору Іванавічу перападала за адзін-адзіны: «І калі нават мова мая замаўчыць...»

Што гэта за «калі»?! – экзекутарствавалі мы, непагрэшныя...

Не пасадзіў беларусаў на адну лаву Пілсудзкі, не саслалі, не закатавалі, не зрусіфікавалі нас правадыры ўсіх масцей, значыць і сёння крыж ставіць на нас не прабіла гадзіна. Час настаў той, калі нават змайстраваны незычлівцамі крыж можа стацца для беларусаў плюсам. Народу можа пашэнціць у наш выкрунтасісты час сёння, у паэта шанец ёсць заўсёды.

Міхась СКОБЛА

# ПРА ЗАЛАТАРОЎ І СЛОЎНЫЯ ЭКСПРОМТЫ

«Вершы павінны чакаць дзевяць гадоў – перш чым яны стануць вартымі апублікавання», – лічыў адзін з найвялікшых антычных паэтаў Гарацый.

Не ведаю, як яно цяпер з гэтым на ўсім белым свеце, мо дзе-нідзе яны і сапраўды чакаюць столькі часу, каб паявіцца на свет.

Але – толькі не ў нас!..

Колькі ж іх, абнародаваных, не праляжала ну хоць бы дзён некалькі ў стале, не прайшло самай сціплай, самай элементарнай аўтарскай рэдактуры, а адразу, проста з-пад аўтаручкі ці з пішучай машынкі выскачыла ў шырокі свет...

Ёсць сярод нашых вершатворцаў і свае чэмпіёны не толькі рэспубліканскага, але, відаць, і міжнароднага маштабу. І апошнім часам, бясспрэчна ж, першы сярод іх – Рыгор Барадулін. Такое ўражанне – яго слоўныя экспромты нават не занатоўваюцца на паперы, а... адразу па тэлефоне перадаюцца ў газеты і часопісы, а тыя – сходу, злёту, без аніякусенькае рэдактуры даводзяць да нас, грэшных, усёўсенькае, хоць там апошнім часам так шмат напісанага, «нібы з нашага брата смеюцца»...

Навошта я гэта пішу, з-за чаго і ў імя чаго?..

Мо – кажучы словамі Барадуліна – «ад лісьлівай хлусні і марнай мітрэнгі, ад нікчэмнага гневу і самазжэрнай зайздрасці»?

Бог таму сведка – ніякае такое «самазжэрнай зайздрасці» ніколі ў мяне не было – не мая ж парафія.

Як бы яно там у мяне ні выходзіла іншы раз, усё сваё жыццё я пісаў *sine ira et studio* (без злосці і прадузятасці). Тым больш – пра Рыгора Барадуліна: некалі ж у маю ўшчэнт змучаную душу нейкі праменьчык святла і надзеі ўліваў і яго «Маладзік над стэпам».

Божачка мой Божа! Якімі жыццядайнымі, жыватворнымі былі мне тады, у бясконцыя гады ляжання ў бальнічнай палаце сярод васьмі (!) змучаных людзей самага рознага ўзросту, характару і светаўспрымання, такія тады не толькі мне балючыя і адначасна гаючыя ягоныя «бясхітрасныя», немудрагелістыя, але такія жывыя, светлыя, паэтычныя строфы:

*Не забыць, як падвялы аер*
*На памытай падлозе пахне,*
*Як у студню цыбаты асвер*
*Запускае руку да пахі.*

*.. Помніць свой на іржышчы цень,*
*Не забыць, як завуць суседа,*
*Не забыць, як пяе пад дзень,*
*За вясёлым сталом бяседа...*

Немажліва даць нават беглы аналіз яго творчасці – адзін пералік выпушчаных пасля ўдалага дэбюту ў 1959 годзе кніг, у якіх было так шмат не толькі віртуознага валодання словам, але і цеплыні чалавечнасці, што давала ў выніку сапраўдную паэзію, якая ачышчала, узвышала, сагравала не адну нашу тагачасную душу, заняў бы не адну старонку.

Менавіта гэтае даўняе пачуццё штурханула мяне напісаць нядаўна ў «Крыніцы», што з літаратараў з эміграцыі «вышэй за Максіма Танка ці Рыгора Барадуліна паставіць няма каго». Гэтым, зрэшты, я не збіраўся паставіць яго ўпоравень з Максімам Танкам. І ніколі нікога з эмігрантаў я не пастаўлю на нейкую нечуваную вышыню... тым больш у паэзіі. Проста я мала ведаў Барадуліна апошняга часу! Не ўчытваўся глыбока ў яго кнігі...

Аказалася ж, што чым больш іх выходзіла, тым менш яны радавалі... Шырокая амплітуда былое паэтычнае віртуознасці ўсё больш і больш звужалася да нейкае аднастайнае гукавае імправізацыі.

Нават самыя апантаныя прыхільнікі яго паэзіі, для якіх ён – «сумленне і моц беларускага духу», як людзі самі сумленныя, цяпер проста вымушаны заўляць, што не ўсё ў ягоных кнігах апошняга часу «выключна яркае, шэдэўральнае» і майстар, мауляў, «таму і майстар, што можа зірнуць на зробленае крытычна...» (Не называю аўтара, бо цытую з рукапісу, які ляжыць на маім рабочым стале і, мажліва, паявіцца на свет разам з маімі нялёгкімі развагамі, калі яны не асядуць на дне «Крыніцы».)

Ніхто ж, вядома, не прымушае мяне чытаць бясконцыя барадулінскія «дурноты» – зрэшты, не самае горшае ў яго незлічоным творчым набытку апошніх гадоў: тут як хоць тое, што ён хоча сцвердзіць, улоўліваеш. Але ж пагадзіцца з тым, што «адна з самых выдатных кніг у нашай сучаснай паэзіі» менавіта ягонае «Евангелле ад Мамы» – значыць махнуць на ўсё рукою і маўчаць, пакуль хто больш смелы за мяне і каму таксама неабыякавы лёс роднае літаратуры, такое «Евангелле» ацэніць так, як яно таго заслугоўвае. А тут жа, у адзін і той жа год, мяне ашчаслівілі яшчэ і кнігай «некананізаваных успамінаў» і «сяброўскіх слоў» «Аратай, які пасвіць аблокі», у якой ёсць шмат і цікавага, але галоўная мэта якое – зрабіць сябе Апосталам № 2. А да таго ж, у дадатак – яго тэарэтычна-палітычна-«чалавеказнаўчыя» пастулаты ў газетах, згодна якіх – усе мы ўсё сваё жыццё былі на падхваце» ў «залатароў ад ідэалогіі».

Ну што ж!.. Хай сабе і яшчэ адно «новаскіданае» Евангелле – «Евангелле ад Мамы».

Якая ж невымерна цяжкая і няпростая задача стаяла перад аўтарам кнігі памерам у 11,55 др. арк.: гаварыць з чытачом калі не голасам Мамы, то абавязкова перадаючы яе светаўспрыманне, светаразуменне, гаварыць адпаведным ладам і складам, «будуючы» непаўторны сюжэт, даючы адпаведнае вобразнае напаўненне і г.д., і да т.п. Якая сапраўды унікальная кніга магла б атрымацца, калі б аўтара напаткала творчая ўдача, калі б хапіла на гэта сіл і часу.

Але такая праблема, здаецца, яго зусім не турбавала! Назва ж тут адвольная, як і ўсё астатняе. У кнізе нават верша такога няма, які хоць бы неяк апраўдваў такую экстравагантную назву.

Што і казаць, менавіта ў шматлікіх ранейшых вершах пра маму ці не найбольш было творчых удач, сапраўдных узлётаў высокай паэзіі, што яшчэ раз паказвае – у Паэзіі, апрача здольнае галавы, патрэбна яшчэ сэрца, якое ўмее любіць.

Самы бясспрэчны доказ таму – верш «Дзякуй! Даруй!», з гэтае кнігі, прысвечаны маці.

Шчырае глыбокае чалавечае пачуццё спараджае і словы дакладныя, і мелодыю ўражлівую – не трэба ні «дурнотнічаць», ні марнавацца з рыфмаю...

Іншая рэч, што і самая шчырая, самая святая любоў да самага дарагога чалавека не можа паўтарацца дзесяткамі вершаў, тысячамі слоў...

Сотні метафар і іншых «паэтычных сродкаў» не

заменяць той жа шчырасці пачуцця ў «Мальбе» за любімую дачушку.

*І на каленях аб адным малю,*
*Бо пачынаю адчуваць расстанне –*
*Гасподзь,*
*Дачушку не забудзь маю,*
*Будзь бацькам ёй,*
*Калі мяне не стане.*

Давайце ж, аднак, хоць крышачку зазірнём у свет «Евангелля» ад Барадуліна...

Спачатку ўвойдзем яшчэ раз у рэальны «Новы Запавет», услухаемся ў яго запеў:

«...9. Яны выслухаўшы цара, пайшлі. І вось зорка, якую бачылі яны на ўсходзе, ішла перад імі, пакуль прыйшоўшы ня стала ўгары над месцам, дзе было Дзіця.

10. Угледзеўшы зорку яны ўсцешыліся радасцю вельмі вялікай.

11. І ўвайшоўшы ў дом, убачылі дзіця з Марыяю, маці Яго, і, упаўшы пакланіліся Яму...»

Услухаемся ў запеў барадулінскі, у яго «ўваходзіны»:

*Як у сцюдзёную раку*
*Памалу ў Біблію заходжу,*
*Бо веру, што душу зглагоджу*
*І думаю, бяду ўраку.*

Ну што ж, здавалася б, і вышыня тону адпаведная, і сапраўды нейкая вера прыадкрываецца...

Але далей:

*Ніякавее парахня,*
*У прах ператварыўшы порах*
*Глушэе боль,*
*Маўчыць брахня*
*І страх не варухнецца ў норах.*

Скажыце мне, людзі добрыя, хіба ж гэта не святатацтва?

Далей нас вядуць чамусьці не за Мацвеем, Маркам, Лукой і г.д., а «следам Эклезіяста». Хай сабе. Хто з нас не памятае трагічна-балючае і адначасна велічна-высокае:

«...14. Видел я все дела, какие делаются под солнцем, и вот – все суета и томление духа!

...18 Потому что во многой мудрости много печали; и кто умножает познания, умножает скорбь».

Па-нашаму ж, «высокапаэтычнаму», выходзіць:

*Усё – пачатак тла і лоўля дзьмушак,*
*І млоснасць духу – усё лухта лухты...*
*І ў вырай будзе зноў душа прасіцца.*
*Усё – лухта лухты. І ўсё з лухты.*

І ўсё гэта аб'яўляецца ў нас «сумленнем і моцай беларускага духу», а такая паэзія, маўляў, «дае красамоўны адказ на тое, якім павінен быць паэт, якой павінна быць паэзія».

Даруй, Божа, нам, грэшным, такое.

Ой, як слушна – хоць забіце мяне «гнуткія і палкія» аматары мяняць плюсы на мінусы! – заяўляў гадоў з трыццаць назад вельмі знакаміты тады паэт Сяргей Васільеў:

*Искусство задом наперед*
*Не принимает наш народ.*

Як бы я быў удзячны любому, разумнейшаму за мяне, хто б не тое што паказаў мне прыгажосць, мастацкую сілу, а хоць бы растлумачыў элементарны сэнс такое, скажам, чарговае «філасофскае» мініяцюры:

*Смерць як жыццё.*
*Жыццё як смерць.*
*І немінучасць і мінучасць.*
*Жыві.*
*І ў гэтым свеце сцвердзь*
*І ў тым*
*Сваю неіснуючасць.*

Прачытана было ж нямала на пачатку творчасці шмат і не такога «складанага», але ж там было і самае неабходнае ў паэзіі – і лірычны сюжэт пры ўсёй яго тагачаснай «раскіданасці», і сапраўдная музыка нашага слова і шчырасць найскладанейшага пачуцця:

***

*Мы з маці –*
*усёй сям'ёй*
*Рэзалі дровы зімою.*
*Два крокі*
*я йшоў*
*за пілой,*
*Тры крокі –*
*назад*
*з пілою.*
*Скакала*
*тупая піла,*
*Звінела,*
*як шкло,*
*асіна.*
*А хата*
*прасіла*
*цяпла,*
*Ды сцюжу*
*нялёгка асіліць.*
*Дровы*
*ў вачах*
*плылі,*
*Дрыжаў я,*
*ад поту мокры.*
*І пальцы*
*у маці былі,*
*Як дзесяць падмёрзлых*
*морквін...*

Цяпер жа, на схіле год, нас спакушаюць такім вось «альбомным»:

*Альбом.*
*Даль. Бом.*
*Сквар. Змрок.*
*Твар. Крок.*
*Рух рук.*
*Крык воч.*
*Шал. Грук.*
*Жаль. Ноч.*

Пры цяперашнім нашым дэфіцыце з папераю, ці варта абрываць такі экспромт на палове старонкі, хіба так ужо цяжка дэманстраваць такую «віртуознасць» да канца яе?..

«Генадзь Серафімавіч, міленькі, ну што вы так сур'ёзна рэагуеце і так балюча перажываеце, – суцяшаў мяне адзін вельмі разумны і дарагі мне чалавек, – гэта ж усяго слоўныя эксперыменты».

Але ж ці не зашмат апошнім часам такіх эксперыментаў і экспромтаў (ад лац. *expromtus* – тое, што маеш пад рукой, г.зн. зробленае без падрыхтоўкі, адразу) – ажно на пяць тамоў...

Зрэшты, гэта бадай ці не самы наш арыгінальны беларускі «эксперымент»: без дня перадыху ярасна змагацца з праклятым мінулым, аднак, маючы такую мажлівасць, жыць па звычках мінулага –дзе ў якой «рынкавай» дзяржаве мажлівыя такія бясконцыя выданні за кошт дзяржавы, для якой не знаходзіш ніводнага людскага слова?..

І ўжо што самае дзіўнае, прыкрае, вартае жалю – яму замінае ледзь не ўся наша літаратура, ёй, маўляў, хапіла б двух апосталаў: № 1 – Васіля Быкава, і № 2 – самога сябе: «А возьмем творчыя саюзы – спадчыну імперыі. Гэта тыя ж калгасы! Сталінскія калгасы з шыльдай інтэлігентнасці. Таму што нельга аб'яднаць людзей, якія па ўзроўні сваім, па светапоглядзе, нават па манеры сваёй, разыходзяцца, а іх штучна зноў збіраюць разам» («Культура», 1995, № 8).

Не ведаю, чаго тут болей – ці нейкага «апостальскага» верхаглядства ці апломбу на мяжы цынізму. Хто ж іх збірае? Яны ж самі гуртуюцца, як некалі ў 20-я гады. Яны ж ведаюць, што ім нічога цяпер не свеціць, як свяціла некалі «гаротніку»-Барадуліну – ганарары, кватэры, бясконцыя паездкі па ўсім свеце, высокія званні...

Нам жа радавацца б, што, нягледзячы ні на што, людзі ідуць у сваю Родную Літаратуру, што сярод іх ёсць і сапраўдныя творцы – інакш не даваў бы Рыгор Іванавіч ажно тры рэкамендацыі на адзін прыём. Менавіта на Роднай Літаратуры, на сваёй непаўторнай культуры мы і выжывем найперш як нацыя. Пабольш бы іх ішло, бо ёсць жа сярод іх не толькі патрыёты, але і сапраўдныя таленты.

Дык жа не!

«...калі ў любой еўрапейскай краіне спытаць чалавека, колькі ў вас мастакоў, дык яму пералічыць іх імёны, хопіць пальцаў двух рук».

Ну і што з таго? Хіба мала і там людзей, каму да лямпачкі іхняя культура? Хіба там такія ўмовы, якія ўсё-такі былі да нядаўняга ў нас?..

І што дае правы нашаму Апосталу № 2 заявіць, што ўся наша інтэлігенцыя, «прынамсі, тая, якая ацалела, здолела захаваць галаву ў чыста фізіялагічным значэнні», маўляў, «стаяла на падхваце пры залатарах савецкай ідэалогіі» («Звязда», 30.XII.1995)?

Што гэта, зрэшты, азначае? Пісалі пра камуністаў?..

*Хай плавіцца*
*дол камяністы,*
*ні сквар, ні знямога не дойме, –*
*у шарэнгах крутых*
*камуністы*
*шчыльней за патроны*
*ў абойме.*

.. ..... .. .. .... ..

*Ні перад кім*
*не будзеш перадкава́ць,*
*слацца абвялым лістам,*
*калі прыйшоў ты*
*зямлю парадкаваць,*
*калі ты стаў*
*Камуністам!*

(Р. Барадулін.
«Балада Брэсцкай крэпасці», 1975)

Яму, аўтару паэмы, – яшчэ ўсяго толькі сорак, на «падхваце» было быць яшчэ не грэх...

Але вось сярод нешматлікіх мініяцюрных кніжачак на маёй паліцы стаіць як па цяперашнім часе «самая адыёзная» мініяцюрная кніжачка – «Розум. Гонар. Сумленне» (Беларускія савецкія пісьменнікі – Леніну, Партыі, Рэвалюцыі), якую беспартыйны Барадулін самахоць падхапіўся, ледзь не вырваў у прававернай камуністкі, рэдагаваць гэтую кніжку, хоць на дварэ ўжо стаяў 1986 год.

Ды вось што цікавае найбольш. На фоне абстрактнай рыторыкі літаральна ўсіх – ад Янкі Купалы да Віктара Шніпа – яго «Пароль сумлення» па сіле нейкага жывога чалавечага пачуцця можна паставіць побач хіба толькі з вершам У. Караткевіча «Ленін калыша дзіця» (сапраўдны, неардынарны верш, які сёння проста ашаламляе такім пераканаўча-ўражлівым караткевічаўскім «падхватам»).

Прыгадаем жа той барадулінскі «Пароль сумлення»:

*Надзея гнала мяне скразняком,*
*Не мне па дарозе з маною.*
*Ён мой,*
*Ён са мной,*
*Партызанскі райком,*
*Мае камуністы –*
*Са мною!*

Сябе ён, відаць, лічыць «падхватчыкам» у ювеліраў ад ідэалогіі, гэта ўсе астатнія – у асенізатараў... (Залатар жа – гэта: 1. ювелір; 2. асенізатар).

І ўсё ж ці варта так бясконца, безупынку ставіць сябе ў позу «самага чыстага» і «самага справядлівага» суддзі і выносіць экспромтам свой канчатковы, безапеляцыйны прысуд цэлым пакаленням?

Не магу не паўтарыць у гэтай сувязі словы Валерыя Мазынскага з таго ж навагодняга леташняга нумара «Звязды», хай сабе сказаныя ім не ў гэтым канкрэтным кантэксце: «У такіх складаных сітуацыях, як цяпер, і правяраецца чалавек: была ў яго пазіцыя, альбо ён проста флюгер, які круціцца ў залежнасці ад патокаў паветра».

Пачытаеш бясконцыя развагі нашых самазваных «апосталаў» і пачынаеш думаць, што ўсё наша «першародства», уся нашая найвышэйшая духоўнасць – у ПЭН-цэнтры, а мы ўсе астатнія – цемра, блазнота, «дурнота»...

Што ж гэта за доля наша такая?

Мала мы душылі адно аднаго, мала нам страшных, жахлівых трагедый, ад якіх мала якая літаратура выжыла б, дык ужо і цяперашнія самазваныя, нікім не кананізаваныя апосталы толькі і робяць, што ганьбяць – ці то па нейкай вышэйшай «прадвызначанасці», ці па нейкай душэўнай корці – ледзь не ўсіх ва ўсёй гісторыі нашае сучаснае літаратуры.

Але ж... Без шчырай сапраўднай шматдаравальнай любові да ўсяго народа, да кожнага чалавека, да жыцця як дарунку Божага, самае дзівоснае, самае жыццядайнае і жыватворнае, што парадзіў чалавек, Паэзія – ператвараецца ў слоўнае штукарства, у нейкую дзіўную злосць, якая дарастае і да нянавісці.

Генадзь ШУПЕНЬКА

# Парнаская таямніца Рыгора Барадуліна

Рыгора Барадуліна любяць, ненавідзяць, пабойваюцца, старающа замаўчаць; ім захапляюцца, яму зайздросцяць, спрабуюць помсціць – гэта значыць, да Р. Барадуліна ставяцца як да класіка.

Шчодрай прыродай Р. Барадуліну дадзена права універсальна карыстацца вершаваным радком. Версіфікацыйныя магчымасці паэта сапраўды бязмежныя. Ягонаму таленту падуладны самыя складаныя рытмічныя канструкцыі, дакладнанечаканыя метафарычныя і метанімічныя нюансы, невырагодная рыфмастваральная лексіка.

Мова паэзіі Р. Барадуліна, дзякуючы сваёй фальклорна-каранёвай свежасці, артыстычна-аўтаномная ў беларускай літаратурнай прасторы і з'яўляецца адным з самых значных духоўных анклаваў нашага нацыянальнага Адраджэння.

У сямідзесятыя гады, калі, пры патуранні ўсмешлівай палітыкі Пятра Міронавіча Машэрава, беларуская мова была загнаная на задворак грамадскага жыцця, я, у той час студэнт Літаратурнага інстытута, на адным з семінараў, на якім абмяркоўвалася кніга паэта «Свята пчалы», здзівіў свайго маскоўскага выкладчыка фразай: «Беларусам яшчэ давядзецца па вершах Барадуліна аднаўляць сваю родную мову...»

Не ведаю, ці камплімент гэта паэту і ягонай творчасці (калі камплімент, то даволі сумны), але ўпэўнены – паэзія Р. Барадуліна мусіць выканаць і гэтую чыста прыкладную функцыю...

Яго паэзія геліятропная – накіраваная да кожнага прадмета, які асветлены сонцам. І яна ж селенатропная – поўная начнога святла. Як тут не згадаць паэтычны герб-сігнет Францішка Скарыны – непадзельныя Сонца і Месяц! І цікава тое, што пры ўсім багацці фармальных сродкаў, у адносінах зместу гэтая паэзія надзвычай лапідарная. Па сутнасці тэматычны ланцужок усіх барадулінскіх кніг складаецца з трох звёнаў – вершы пра вайну, пра маці і пра Ушачы. Праўда, у апошніх па часу напісання творах прагучалі біблейскія матывы і класічная тэма двайніка, а таксама палітычна-злабадзённы эпатаж. Маю на ўвазе з'едлівыя эпіграмы ці, як іх сам называе паэт, «дурноты». Аднак жа наогул карціна не мяняецца – дамінантнымі застаюцца вершы пра маці і родныя Ушачы.

Вядомае, якое даўно ўжо зрабілася банальным, выслоўе: каб зразумець паэта, неабходна пабываць на ягонай радзіме, – заўсёды мне здавалася не зусім пераканаўчым.

Я, да прыкладу, люблю паэзію Арцюра Рэмбо і Сэсара Вальехі, але не ўпэўнены, што Шарлевіль і перуанскія Анды адкрыюць мне нешта канцэптуальна новае ў разуменні творчасці гэтых цудоўных паэтаў. Як правіла, *новае* адкрываецца ў рэчах выпадковых і далёкіх ад прадмета вывучэння, і чым больш значны паэт, тым больш непрадказальны шлях да спасціжэння ягоных творчых таямніцаў і загадак.

І ў выпадку з Р. Барадуліным я не спяшаюся купляць білет на Ушачы, таму што парнаская таямніца аўтара «Свята пчалы» не там, не на радзіме, а хутчэй за ўсё ў слове – тым слове, якое спасцігае чужое слова. Калі чытаю ў перакладах Р. Барадуліна Рэмбо і Вальеху, бачу наколькі супараўнальна трагедыя беларускай мовы з трагічнымі лёсамі гэтых паэтаў. І мне асабліва зразумелы і блізкі такі Р. Барадулін – майстар супастаўленняў, якія ўражваюць; эстэтычны заваёўнік, які чужое робіць родным; цесляровы нашчадак, які будуе новыя светлыя калідоры ў змрочным будынку рэчаіснасці...

Ён піша далей свой галоўны твор – кнігу пра маці. Гэта кніга павінна ўвайсці ў школьную праграму, таму што яе гучанне значна шырэй за пазначаную тэму. Гэта перш за ўсё лірычная песня пра беларускую дзяржаўнасць, песня пра нашыя страты, праз якія прарастае зерне аптымізму.

І апошняе.

Рыгора Барадуліна цяжка ўявіць у шэрагу паэтаў, якія пакланяюцца толькі Апалону, аднак жа й казаць пра яго як пра песнятворцу дыянісійскай неўтаймаванасці можна хіба што з пэўнай доляй асцярогі. Хутчэй за ўсё ён – майстар, які шануе Арфея – гэта значыць, ягонай паэзіі дадзена сіла абуджэння.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# УШАЦКІ ПРАРЫЎ

Кнігу Рыгора Барадуліна «Аратай, які пасвіць аблокі» (артыкулы, эсэ, успаміны), выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1995 годзе, я выпадкова ўбачыў у руках калегі. Мусіць, такая запозненая інфармаванасць сведчыць пра тое, што ў нас няма амаль ніякай рэкламы беларускай кнігі. Стаў шукаць яе ў бібліятэках, прайшоў ажно тры, у тым ліку і абласную імя А.С. Пушкіна, усюды адно апраўданне: «У нас мала сродкаў». Адшукаў зноў жа яе толькі ў выдавецкай бібліятэцы.

Цікавасць мая да гэтай кнігі выклікана даўняй любоўю да выданняў пісьменніцкай крытыкі і мемуарыстыкі. Назбіралася ў мяне такіх кніг некалькі паліц. З беларускай пісьменніцкай мемуарыстыкі даражу невялічкім зборнічкам успамінаў пра Эдуарда Самуйлёнка, выпушчаным таксама ў зусім няшчодрыя пасляваенныя гады. Па доўгім перапынку затым пайшлі кнігі аўтабіяграфій пісьменнікаў, зборнікі ўспамінаў пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Міхася Лынькова, Петруся Броўку, Івана Мележа... І ўсё ж у нечым гэтыя ўспаміны выглядалі аднастайна. То былі ўспаміны хутчэй пра пакаленне пісьменнікаў, чым канкрэтна пра асобу творцы, нават «успамінальнікі» часта былі адны і тыя самыя. Вядома, можна рабіць скідку на час, аднак, як кажуць, усё ж, усё ж, усё ж...

І вось кніга эсэ Рыгора Барадуліна. Не пабаюся сказаць, яна не раўнуючы як выбух на будаўнічай пляцоўцы, што расчышчае завалы, усю непатрэбшчыну, і ты адчуваеш, што цяпер трэба рабіць лепш, панавому. Па-новаму, я маю на ўвазе ў нашай мемуарыстыцы, бо ў сусветнай яно складвалася ад пачатку, само сабой. Скажам, калі я чытаю аўтабіяграфію Рыгора Барадуліна «На таку майго веку», то ўвесь час успамінаю «Аўтабіяграфію» Браніслава Нушыча, хоць першая напісана цалкам на падставе жыццёвых фактаў, а ў другой скарыстаны і мастацкі вымысел. Што аб'ядноўвае гэтыя творы? Усмешлівы пагляд на рэчы, таленавітая імправізацыя камічных сітуацый, сатыра на палітычныя і грамадскія норавы свайго часу. Прывабнасць барадулінскага гумару ў тым, што ён мяжуе з самаіроніяй. Хіба не так? Пачытаем: «Перад дзесятым класам на заробленыя грошы справіў я сабе абновы – купіў кірзавыя боты і цёплую фуфайку (уніформу будаўнікоў камунізму ад Масквы да самых да акраін)». Ці яшчэ, з універсітэцкага жыцця: «На занятках па тактыцы на пытанне, чаму нельга наступаць на лыжах, у прыціхлай аўдыторыі адказаў я палкоўніку Кузняцову, што калі наступаць з узвышанасці, можна, таго не жадаючы, заехаць у палон». Гэта ўжо на грані анекдота. А вось і ўмелае скарыстанне анекдота. Паэт разважае пра кананізацыю і ікананізацыю імёнаў: «Часта раней, сказаўшы – Янка Купала, тут жа трэба было дадаць і Якуб Колас. На ўзор бальшавіцкага Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс. Не дзіва, што ў часы застою хадзіў анекдот пра чукчу, які толькі на з'ездзе партыі ў Маскве даведаўся: Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс не муж з жонкай, а чатыры зусім розныя чалавекі».

Усё дасціпна, жыва, мудра і чэсна. Праз усю аўтабіяграфію праходзяць постаці маці, Ушаччыны, а значыць – Бацькаўшчыны.

Калі памёр Міхась Стральцоў, ля труны Рыгор Барадулін назваў яго сваім настаўнікам. Да гэтага Міхась мне казаў, што звычайна ў шэсць-сем раніцы Рыгор будзіў яго тэлефонным званком і чытаў новы верш. «Я раблю яму заўвагі, разважаю, як ляпіць вобраз, а ў адзінаццаць ён зноў звоніць і чытае завершаны твор», – расказваў Міша. Сяброўству з незабыўным Міхасём у кнізе Рыгор прысвяціў шчырыя старонкі ўспамінаў «Конь гуляў па волі».

Пранікілвым вокам паэта Рыгор Барадулін бачыць сваіх старэйшых калег, сяброў і з разуменнем піша пра іх. Некалі, прачытаўшы «Споведзь» Ларысы Геніюш, мне падумалася, што з цягам часу яе імя будзе кананізавана ў Нацыянальны пантэон. Барадулін яе так і называе – святая пакутніца зямлі беларускай. «Унучка Францыска Скарыны, альбо Зэк № 0-287» – пра Ларысу Геніюш, «І коскі з месца не зрушу» – пра Уладзіміра Караткевіча, «Зямляк» – пра Петруся Броўку, «Вясёлы дзівак» – пра Антона Бялевіча, «Конь гуляў па волі» – пра Міхася Стральцова, «Чорначупрынны, чорнабароды, дужы» – пра Анатоля Анікейчыка. І ў кожным загалоўку – адносіны аўтара да творцы, у кожным успаміну найперш паўстае чалавечая асоба.

Вось якраз многім кнігам мемуарыстыкі і нестае выяўлення асобы, чалавечых якасцяў, нібы ў застойныя часы і не кахалі, і не было асабістых драм ці трагедый. У гэтым сэнсе цікавыя ўспаміны Рыгора Барадуліна. Возьміце хоць бы тэму: паэт і жанчына. Барадулін можа ўпершыню закранае яе ў пісьменніцкай мемуарыстыцы, уберагаючыся аднак ад залішніх вольнасцяў.

Можа, я і не на ўсе вартасці кнігі акцэнтаваў сваю ўвагу, проста хацелася падкрэсліць тыя новыя моманты, якімі яна ўзбагачае наш мемуарны жанр. Думаю, што не выпадкова аўтар кнігі ў падзагалоўку свае ўспаміны называе неканаізаванымі.

«Аратай, які пасвіць аблокі» – гэта своеасаблівы ушацкі прарыў (скарыстоўваю тэрмін з радзімы паэта), у выніку якога з'явіцца яшчэ не адна кніжка сапраўднай мемуарыстыкі і не аднаго аўтара.

Аляксей ГАРДЗІЦКІ

# «СВЯТА ПЧАЛЫ»

**Няўлоўная рэч Паэзія, колькі пра яе ні пішаш – заўжды падманваешся...**

**Вось і Барадулін.**

**У яго, здаецца, ёсць усё. І гэтага ўсяго так многа, што я магу выбіраць самае адметнае.**

**Але ў тым і загвоздка, што прапанаваны выбар надта ж аб'ёмны – вочы мае разбягаюцца, успрыманне слабее... Хоць, кажучы шчыра, я даўні прыхільнік яго паэзіі. Ма́ю ўсе кніжкі паэта, уключаючы «Самоту паломніцтва». Пасля – знямогся, а да ўсяго й не па кішэні...**

**Барадуліну, на мой погляд, бракуе спагады і ашчаднасці – да сябе, да слова, да чытача ў рэшце рэшт.**

**Метафорыка яго творчасці пераважна марфалагічнага складу, эмоцыі і пачуцці за рэдкім выключэннем рацыянальныя, а само** *слова,* **якім мысліць, узрушвае і апелюе паэт, ужо дарэшты стомленае...**

**Няма большай небяспекі для паэзіі і для паэта ў прыватнасці, як празмерная эксплуатацыя слова – наўмысная ці інертная гульня з ім, бо тут, як у вядомай дзіцячай гульні, альбо слова хаваецца ад цябе, альбо ты ад слова, і нават калі, пасля доўгіх пошукаў, знаходзяць адзін аднаго, то робяцца нецікавымі адзін другому па той простай прычыне, што ўся цікавасць (ідэя) гульні заключаецца менавіта ў схаванасці (хаванні, хованках), дзе ўсякая іншая задача другасная.**

**Барадулін данельга доўга загуляўся са словам, замайстраваўся. Абрысы явы і ілюзіі, магчымага і неабходнага, размыліся да празрыстасці. Самога Паэта ўсё цяжэй адшукаць...**

**«Мое мастерство – избежать мастерства», – добра сказаў калісьці адзін рускі паэт, няхай сабе й савецкі.**

**Барадулін свядома не хоча пазбягаць майстэрства, а мо ўжо й не можа. Яго майстравітасць стала вытыркацца... Не, я не сцвярджаю, што ён прыкладае неймаверныя намаганні для падобнай вершатворчасці – проста ў яго такі адметны, напрацаваны жыццём у паэзіі, талент ці, як пісаў Горкі ў дачыненні да Ясеніна,** *орган.*

**Зрэшты, Барадулін і гаворыць хутка, многа, лёгка, метафарычна, але не заўжды выбалена, глыбока і роздумна. А здараецца – афарыстычна і трапна. Як у жыцці, так і ў паэзіі.**

**Памятаю, як усе хорам захапляліся па-майстэрску зробленым вершам «Матылёк». І сапраўды дзве першыя страфы нібы здзьмутыя з вуснаў Апалона:**

*Лілею*
*млявы*
*плёс*
*люляе,*
*З-пад злежаных*
*аблок*
*здалёк*
*Ляціць віхлясты і бяляны,*
*Пялёстак лёгкі –*
*матылёк.*
*Ён кліча у блакіт лілею,*
*Каб не любіла больш да слёз*
*Бліскучы ад лускі і глею,*
*Самлелы,*
*абмялелы*
*плёс.*

**Якія тропы! Цуд Паэзіі.Але вось – трэцяя страфа, напісаная рукой, ужо спакутаванай у пошуках алітэрацыі:**

***Дзе лашчыць** цёплай **ласкай** хваля*
*Лінёў – злянелых цельпукоў,*
*Паблісквае*
***няблізка***
***далеч,***
***Дзе ў іле не злічыць малькоў.***
***Дзе** глыб угнеўлена шыпела,*
*Калі*
*на хвалі*
***лівень***
***лёг...***

**У творчасці апошняга часу прыкладаў падобнай** *стомленасці словам* **дастаткова.**

**Вершу Барадуліна, як мне здаецца, нестае ўсяго Барадуліна. Увесь ён расцёкся ў іх мностве, таму кожнаму канкрэтнаму бракуе паўнаты Паэта. Сыс, да прыкладу, прачытваецца разам з вершам. Барадулін – асобна, хоць, пэўна, кожным з яго чытачоў асэнсоўваецца ў сукупнасці ўсяго ім напісанага. На жаль, наша крытыка пакуль не змагла даць рады сур'ёзнаму прачытанню і аб'ектыўнаму абгрунтаванню такой літаратурнай з'явы як Барадулін.**

**Я ж любіў і люблю яго маладзейшага, калі ён, асвойваючы азы майстравітасці, у хвіліны натхнення тварыў высокую Паэзію. П'ю НАГБОМ яго РУМ і НЕРУШ – аж да натуральнага СВЯТА ПЧАЛЫ!**

**Аднак пчалінае свята канчаецца разам з летняй парой медазбору. З надыходам восеньскіх халадоў пчол пачынаюць падкормліваць цукрам. Яны не гінуць, але – свята прападае...**

**Мне здаецца, тут дарэчы будуць словы, напісаныя Т.С. Эліотам да прадмовы выбраных вершаў Эзры Паўнда: «Немагчыма ствараць паэзію ўвесь час, і калі паэзія не ствараецца, найлепш пісаць вершы, добрыя вершы, чым, пішучы кепскія вершы, упэўніваць сябе ў тым, што ствараеш добрую паэзію».**

**...Разумею, паралелі нацягнутыя, суб'ектыўнасць ацэнак скарэктаваная да ўласнага светапогляду аўтара гэтага тэксту, зацягнутага ілам усё той жа версіфікацыі...**

**Чаго яшчэ жадае Паэт, калі ён ужо адбыўся?**

**Маўчу, маўчу... Грэшны. Але – ведаю...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



# Язэп ПАЛУБЯТКА





*Упаў келіх,*
*разлілося віно. .*

# ВЕРСЭТЫ

## ПАЖАР

Як многа ўбірае ў сябе гэтае слова!
Усёзнішчальны і ачышчальны агонь.
ПАЖАР, ЖАР, ВУГОЛЛЕ, ПРЫСАК, ПОПЕЛ.
Пажар бывае злаўмысны, няўмысны, неспадзяваны, выпадковы.
Успыхвае ад маланкі, асмалка цыгарэты, запалкі і нават самастойна. Ён, у дыялектычнай сувязі агню і дыму, ператварае ў жар і прысак усё жывое і нежывое на сваім шляху: утварае вялікія і малыя вогнішчы — не ведае перашкодаў. Агонь меншае, калі не знаходзіць сабе спажывы.
Пажар сціхае, а месца, дзе ён гуляў, завецца пажарышчам.
Паволі астывае жар і прысак. Яны ператвараюцца ў вуголле, попел. Спустошаная зямля жывіцца імі.
Усёмагутная прырода, напачатку скарыўшыся пажару, урэшце перамагае яго. На пажарышчы сям-там з'яўляюцца кволыя зялёныя парасткі. Год ад году іх большае. Праз некаторы час густая расліннасць знішчае ўсе прыкметы пажару, адначасна ствараючы перадумовы новага пажару.
Яны адзін без аднаго не існуюць!

## СМАК І СЭНС ЖЫЦЦЯ

З самага маленства дома, у школе, на вуліцы знаёмыя і зусім чужыя людзі вучаць мяне пазнаваць сэнс жыцця. "Самае галоўнае — усвядоміць, дзеля чаго ты жывеш", — цвердзілі яны штодня.
Я шырока расплюшчваю вочы і пільна ўглядаюся ў навакольны свет. Бачу жывую і нежывую прыроду, яе пачварнасць і прыгажосць, гармонію і неўладкаванасць. А вакол мяне падобныя мне індывідуумы здзяйсняюць непрыстойныя ўчынкі: п'юць, кураць, кахаюцца з чужымі жанчынамі, крадуць, забіваюць адзін другога. Яны прымаюць жыццё такім, якое яно ёсць. Самі пазнаюць смак жыцця, а мяне прымушаюць шукаць у ім сэнс.
Я бяру тоўстыя кнігі і ў іх спрабую адшукаць сэнс жыцця. Яго няма і там. Ёсць толькі няўмелае павучанне, як варта жыць.
Бясконцыя пошукі неіснуючага.
І толькі ўжо на схіле год сваіх здагадваюся, што смак і сэнс жыцця — дзве часткі аднаго цэлага.
Наталяючы смагу крынічнаю вадою, ачышчаеш душу.





Удыхаючы пах веснавой кветкі, згадваеш маладосць і прыгажосць.
Толькі блізкасць з жанчынаю дае магчымасць зразумець неабходнасць працягу чалавечага роду.
Зрабіўшы злачынства, спазнаеш сэнс кары.
Без турмы не зведаеш каштоўнасць волі.
Не спазнаўшы салодкі, горкі, кіслы, пякучы, салёны, прэсны, хмяльны смак жыцця, не здолееш цвяроза разважаць над ягоным сэнсам.

## ЗБЕГ АБСТАВІН

Упаў келіх, разлілося віно, на дробныя аскепкі разбілася люстэрка — не шанцуе.
На скрыжаванні сапсаваўся святлафор — прыкра спазніўся на спатканне.
Лёгкі ветрык прыгнаў аднекуль невялічкае, здавалася, воблачка — і залева змачыла мяне з галавы да ног.
Блукаю ў дзіўных пошуках. Нарэшце знайшоў неабходны дом, але патрэбны мне чалавек з'ехаў у камандзіроўку.
І так увесь дзень. Куды ні памкну — нечага не стае, штосьці зашкаджае. Фатальна не шанцуе ва ўсім.
Сусед спачувае: "Збег абставін..."
Пагаджаюся, сам сябе шкадую ды цешу: "Збег абставін".
Недарэчныя абставіны збегліся ў адно цэлае.
Кола лёсу працягвае свой кругабег.
З роспачы выпіта горкае віно — і настрой стаў цудоўным.
Нечакана сустракаю прыгожую дзяўчыну, якая сама прызначае мне спатканне. У латарэі-ашуканцы трапляе выйгрышны білет. На працы прапаноўваюць новую пасаду.
Столькі прыемнага ў адзін дзень. Ва ўсім шанцуе.
Сусед зайздросціць. Ён не разумее, што гэта таксама збег абставін, толькі ўжо добрых.
Кола лёсу бяжыць далей.
Зноў разбіўся келіх. Прадчуваю збег кепскіх абставін...

## ЗВАРОТНЫ БОК МЕДАЛЯ

"Узнагарода знайшла свайго героя!"
"Пакрытыя неўміручай славай, ягоныя подзвігі назаўжды застануцца ў памяці ўдзячных нашчадкаў!"
"Ён рашуча ішоў у атаку, без страху бег уперад пад градам

куль, штохвілінна рызыкаваў сваім жыццём дзеля перамогі!”

Гучалі палкія прамовы і, як сведчанне таму, што гаварылася, ззяў на грудзях медаль.

Хваласпеў не сціхаў з гадамі, а медаль чарнеў.

Толькі адзін бок медаля быў бліскучы, як новы, але ніхто гэтага не заўважаў.

Гаспадар ім не ганарыўся.

Калі-нікалі, праз напластаванні часу, памяць вяртала яго да іншай, жудаснай рэчаіснасці, пра якую маўчалі прамоўцы:

Застрэлены з паднятымі ўгару рукамі варожы жаўнер...

Раструшчаны гусеніцамі танка стары чалавек...

Згвалтаваная дзяўчына... —

Такое адбываецца на вайне.

На вайну спісваецца ўсё, і пераможцаў не судзяць.

.................................................................................................

Людзі бачаць толькі адзін бок медаля.

## САЛДАЦКАЯ СМЕРЦЬ

Дачакаўшыся істэрычнага крыку “Наперад!”, Яе Вялікасць Смерць горача ўзялася за справу. Яна мітусілася ад аднаго ланцуга акопаў да другога, і паспяхова. Тыя, хто трымаў абарону, і тыя, хто наступаў, пры яе нябачным дотыку аднолькава бездапаможна падалі ў перамешаную ботамі гразь. Смерць не разбіралася ў людзях і ў салдацкіх званнях. Ёй было ўсё адно, сяржант падае ці радавы, зялёны хлопец ці сталага веку воін, адважны ці баязлівец, жанаты ці халасты. І хто за які бок ваюе, Смерць таксама не цікавіла. Адзіная яе мэта была — як мага болей пакласці іх сваёй нябачнай касой на зямлю.

Яна ні ў кога не пыталася ні імёнаў, ні прозвішчаў. Так забіваць заўжды лягчэй.

Пасля крывавага жніва Смерць рабіла агледзіны сваёй рупнай справы. Радавалася, калі палеглых у баі было многа, ды абыякава назірала за ўсім, што адбывалася потым. Як салдаты з пахавальнай каманды збіралі трупы і бессаромна корпаліся ў кішэнях нябожчыкаў. Як капалі вялізную яміну і кідалі ў яе задубелыя целы.

Болей Смерць ужо нічога не цікавіла. Асабліва яе не цікавіла, што было з гэтымі кладамі пасля: зарасталі яны травою ці за імі хтось даглядаў. Гэта ўжо была людская справа і клопат.

Яны — людзі.

Яна — Смерць.



# Яўхім КІПЕЛЬ





*БССР была абвешчаная ў Смаленску*

## *Пра Яўхіма Кіпеля*

**Яго апошні зямны прыстанак няцяжка адшукаць на беларускіх праваслаўных могілках у амерыканскім горадзе Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрсі. Як і шмат хто з тых, што, на думку савецкай улады, занадта любілі Беларусь, Яўхім Кіпель большую частку свайго жыцця мусіў правесці далёка ад Дзвіны і Нёмана.**

**Сыну глускіх сялянаў, які прыйшоў на свет у 1898 годзе, лёс наканаваў трапіць у самы вір таго пераломнага часу. Франты І-й сусветнай вайны. Афіцэрская школа ў Маскве. Прысутнасць на смаленскіх паседжаннях Першага ўсебеларускага з'езду Саветаў, дзе было абвешчанае ўтварэнне БССР...**

**Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта і абароны дысертацыі Я. Кіпель выкладае ў маладой нацыянальнай альма-матэр, працуе ў Тэрміналагічнай камісіі Акадэміі навук і ў Беларускім краязнаўчым таварыстве, піша падручнікі, друкуецца ў часопісах «Полымя» і «Наш край». Было б дзіўна, каб адданы нацыянальным ідэалам навуковец застаўся па-за ўвагаю органаў. Пасля арышту ў чэрвені 1930-га (тады ў Менску за адну ноч узялі болей за трыста беларускіх патрыётаў) ОГПУ прыгадала яму і**

# АБВЕШЧАНЬНЕ БССР У СМАЛЕНСКУ

Ад часу, калі я пакінуў сваю вёску Байлюкі, каля мястэчка Глусак на Бабруйшчыне, а потым і самое мястэчка Глусак, дзе прайшлі мае школьныя гады, у 1915 годзе, і да таго дня, калі я ізноў апынуўся на Беларусі, на Смаленшчыне, давялося шмат пабачыць ды яшчэ больш перажыць.

Спачатку я вучыўся ў школе прапаршчыкаў у Кіеве, потым быў на фронце ў Бесарабіі, быў у Адэсе, потым вучыўся ў ахвіцэрскай школе ў Маскве, ваяваў на Паўночна-Заходнім фроньце, дзе й спаткаў рэвалюцыю. У часе грамадзянскае вайны, будучы ў Чырвонай арміі, прайшоў на франтох ад гораду Ноўгараду ізноў да Чорнага мора  Быў адзін раз ранены, а пару разоў думаў, што з баёў ня выйду жывым. Як прынята казаць. дарогі вайны давялося зьведаць глыбакавата

І вось нарэшце зь Беларускай Заходняй Дывізіяй ступіў на беларускую зямлю. Горад Смаленск быў першым месцам, дзе мне, з тысячамі маладых чырвонаармейцаў-Беларусаў, давялося затрымацца крыху даўжэй. Гэты час побыту ў Смаленску мне добра запамятаўся, і вось цяпер я хачу падзяліцца ўспамінамі аб гэтым часе й тагачасных падзеях.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЫВІЗІЯ

Пасьля Кастрычніцкае рэвалюцыі і бадай на працягу ўсяго 1918 году я знаходзіўся ў розных месцах паўночна-заходняга фронту. На гэтым адрэзку фронту было шмат Беларусаў і была добрая сувязь зь Пецярбургам, адкуль час-часом у розныя гарады й мястэчкі траплялі беларускія газэты. Быўшы недзе каля Пскова, я спаткаўся з колькімі Беларусамі-матросамі  Два зь іх былі мае землякі спад Глуску, вось яны мне й сказалі, што ў Пецярбургу дзеіць вялікая арганізацыя беларускіх эсэраў, што бываюць беларускія сходы, і быццам-бы гэтыя эсэры робяць стараньні сфармаваць Беларускую Дывізію  Пра гэта я папытаўся ў штабе, і там пацьвердзілі, што гэта праўда, ды тамжа сказалі  што ёсьць інструкцыя, што тыя, хто жадае, могуць быць пераведзеныя ў тую фармаваную Заходнюю Дывізію  Праўда, месцазнаходжаньня гэтае дывізіі ў штабе дакладна ня ведалі, але было ведама, што гэта недзе ці то ў Смаленску, ці каля Смаленску  Доўга ня думаючы, я йшчэ пару дзесяткоў маіх аднапалчанаў-Беларусаў падалі рапарты аб пераводзе нас у Заходнюю Дывізію. Нам адразу афармілі й далі «пуцёўкі» на праезд аж у Смаленск. Калі мы прыехалі ў Смаленск, дык там ужо было Беларусаў-жаўнераў пару тысячаў, а як мы даведаліся ў штабе, уся створаная дывізія тады налічвала дзевяць палкоў, згрупаваных у тры брыгады  Гэтаксама былі ў дывізіі тры батарэі сярэдняга калібру й палкавая артылерыя  Праўда, як я даведаўся неўзабаве, на адну брыгаду прэтэндавалі Палякі, каб брыгада была названая польскай, аднак, пасьля даўгіх ваганьняў, у дывізіі была вылучаная толькі адна польская рота, як прыпамінаю, каля дзевяцідзесяці асобаў

Нажаль, яшчэ ня скончыўшы фармаваньня, камуністычныя камандзеры вялікую частку дывізіі паслалі на паўдзённы фронт, ды бадай дайшло-б да бою, калі Беларусы-жаўнеры адмовіліся ехаць у Сібір на Калчака. Наколькі прыпамінаю, на Калчака з Заходняе Дывізіі не паслалі нікога, але неўзабаве ізноў вялікі кантынгент Заходняе Дывізіі быў узяты на Дзянікіна.

Неўзабаве, калі я прыехаў у Смаленск, мяне паклікалі ў штаб ды папыталіся, ці не хацеў-бы я праходзіць далей вайсковую адукацыю. Ахвіцэр высокае рангі, прозьвішча ягонага я ня памятаю, гутарачы зы мной пабеларуску, сказаў, што ў дывізіі нестае вышэйшага камандзерскага складу і мне варта было-б ісьці вучыцца далей, бо дасюль у мяне была добрая вайсковая кар'ера, а дзеля беларускага войска такія людзі патрэбныя  Зразумела, што на гэтую прапанову я адразу згадзіўся і быў адразу-ж залічаны ў Смаленскую Штабную Школу  Шмат Беларусаў-жаўнераў былі сьціраваныя ў Школу страявое службы, якая таксама знаходзілася ў Смаленску  Аб жыцьці ў школе я раскажу далей, а цяпер мне асабліва прыпамінаецца адна падзея, якая мне добра запамяталася і якая адбылася пасьля майго прыезду ў Смаленск

## АБВЕШЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ САВЕЦКАЕ РЭСПУБЛІКІ

Мала каму ведама, як праходзіў Смаленскі зьезд, на якім была абвешчаная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Гэты зьезд камуністыя выстаўляюць, як выяўленьне голасу беларускага народу, а прадстаўнікоў беларускага народу на гэтым зьезьдзе толькі й было 60 – 70 асобаў вайскоўцаў-чырвонаармейцаў ды каля 10-цёх беларускіх эсэраў. Праўда, у Смаленску ў тым часе Беларусаў-жаўнераў было шмат, было шмат народу й на зьезьдзе – тры, а мо й чатыры сотні, аднак пабеларуску гутарыла людзей напэўна менш за сотню, ды й няведама было, хто дэлегат, а хто госьць. Ува ўсякім выпадку – прадстаўнікамі народу людзі на зьезьдзе ня былі

Я тады вучыўся ў Школе Штабной Службы  Школа зьмяшчалася на Паштамскай вуліцы, а зьезд адбываўся ў будынку былога «Дворянского Собрания», якое ўжо тады было пераназванае ў «Дом Культуры».

Аднойчы камісар школы прыйшоў із сьпісам і выклікаў усіх тых, хто ў фармуляры быў запісаны Беларусам  Такіх было асобаў дваццаць. Камісар нам сказаў, што пойдзем абвяшчаць Беларускую Рэспубліку ды тут-жа загадаў пагаліцца, паглянцаваць боты й надзець новыя гімнасьцёркі

Калі ўсе былі гатовыя, нас маршам павялі ў будынак «Дворянского Собрания». Тут нас сустрэў Вільгельм Кнорын. Усіх нас ён рассадзіў на прыстаўных крэслах. За намі прыйшла й другая група чырвонаармейцаў, і іх таксама пасадзілі на прыстаўных крэслах. Гэта былі курсанты Страявое Школы.

Неўзабаве адчынілі паседжаньне зьезду. Прэзыдыюму ня выбіралі, а прынялі цэлым сьпісам. За старшыню быў нехта з Камісарыяту Замежных Справаў  Зараз-жа па адчыненьні зьезду пачаліся прывітаньні. Ад беларускіх камуністых зьезд вітаў Латыш Вільгельм Кнорын, ад беларускіх сацыялістых-рэвалюцыянераў выступала славутая эсэрка Палута Бадунова. У сваім выступленьні яна запатрабавала безадкладнага зачыненьня зьезду

«Беларуская Рэспубліка ўжо абвешчаная законнымі прадстаўнікамі Беларускага Народу  Усё, што вы тут робіце, гэта хвальш  Ніхто вас ня выбіраў!» – крычэла Бадунова і настойвала на зачыненьні зьезду

Бадунову ўсё-ж супакоілі· старшыня сходу прыстрашыў вывесьці яе із залі, калі яна

**арганізацыю Клуба беларускай моладзі, і заснаванне «Беларускай Хаткі», і стварэнне Аб'яднання беларускіх студэнтаў Менскага універсітэта.**

**Вяртаючыся з пяцігадовай вяцкай высылкі, ён вязе паміж чамаданавымі склейкамі рукапіс «Тэстамэнту» Уладзіміра Жылкі – яшчэ аднаго «нацдэма», памёрлага ва Уржуме ад сухотаў. Спатканне з воляй доўжыцца ўсяго чатыры месяцы, пасля чаго Яўхіма Кіпеля, якому забаронена жыць у Беларусі, зноў арыштоўваюць. Следчы прапаноўвае яму і вызваленне, і нават магчымасць пасяліцца ў Менску і займацца навукай. Дзеля гэтага трэба толькі «помочь органам». Атрыманая адмова каштуе пяць гадоў Байкала-амурскіх лагераў.**

**Вайна СССР з фашысцкай Нямеччынай заспела яго ў Арле. У час акупацыі Кіпель пераязджае ў Менск, супрацоўнічае ў беларускіх газетах, рэдагуе «Голас вёскі». Сваім старшынёй выбіраюць яго дэлегаты Другога ўсебеларускага кангрэса, які пацвердзіў імкненне да незалежнасці.**

**Жывучы ў Заходняй Нямеччыне, а з 1949 года – у ЗША, Яўхім Кіпель не пакідае навуковай і публіцыстычнай дзейнасці, піша найцікавейшыя ўспаміны пра савецкія лагеры. На жаль, застанецца нязздзейсненай мара пра кнігу мемуараў «Нацдэмы».**

**Яго сэрца спынілася ў ліпені 1969-га.**

**10 чэрвеня 1988 года Вярхоўны суд БССР прыняў пастанову аб рэабілітацыі «врага белорусского народа».**

**Уладзімір АРЛОЎ**

ня сьціхне Найбольш спрачаўся з Бадуновай Цішка Гартны Быў мамэнт, калі ён ледзь не падскочыў біцца да яе Бадунова заціхла й пакінула залю.

Пасьля Бадуновай зьезд вітаў Паляк Язэп Уншліхт, а за ім выступаў лятувіскі камуністы Сьмілга Ён у сваёй прамове дзякаваў камуністычнай партыі за тое, што яна аднаўляе дзяржаву старадаўнае Літвы, якая шмат зрабіла для Маскоўскага Княства За Сьмілгам выступіў латыскі камуністы Берзін. Ён гаварыў доўга і раіў аднавіць на тэрыторыі Беларусі – Крывію, бо, як ён казаў, Крывічы далі пачатак ня толькі беларускаму народу, а навет Маскоўскай Русі У часе зьезду былі перапынкі. На перапынках частавалі чаем з цукеркамі і бутэрбродамі А пятай гадзіне ўвечары падыйшлі да галасаваньня тае рэзалюцыі, якую прапанаваў Прэзыдыюм. Галасавалі ўсе, у тым ліку й вайскоўцы Супраць рэзалюцыі галасавалі прысутныя на зьезьдзе эсэры. На гэтым зьезд і скончыўся. Трываў ён гадзінаў сем

## ПАСЬЛЯ АБВЕШЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

На другі-ж дзень пасьля зьезду ўсяму гораду сталася ведама, што абвешчаная Беларуская Рэспубліка й што Смаленск – беларускі горад. Так выглядала з тых картаў, што былі парасклейваныя на сьценах. На картах гэтых гарады Ярцава, Вязьма, Бранск і навет Арол уваходзілі ў склад Беларусі. На паўдзённым усходзе беларуская мяжа падыходзіла да самага гораду Мцэнску На паўдні, з Украінай, мяжа заставалася непарушнай, а на поўначы уся Пскоўшчына да самага мора ўваходзіла ў склад Беларусі Карты былі выкананыя добра, шмат у якіх месцах давалася тлумачэньне, што гэта – гістарычныя межы Літвы, а Беларусь – тая самая Літва

Цікавымі выглядалі агітацыйныя плякаты супраць Польшчы, Лятувы й Лацьвіі Польшча малявалася таўстым сярдзітым, з ашчэранымі зубамі, сабакам, а Лятува й Лацьвія – маленькімі хударлявымі сабачкамі. Іх вёў на ланцугох капіталісты, а яму памагаў польскі пан. Пры гэтым польскі пан ставіў на карты кропкі, дзе павінна праходзіць мяжа. А пад усім малюнкам быў верш, які канчаўся гэтак.

*Пан бясстрашна кропкі ставіць:*
*Што ні горад, то і тык.*
*Эх і ўставіць пану кропку*
*Ў самае пуза рускі штык!*

Частка жыхарства была незадаволеная такімі зьменамі, але бальшыня была вельмі радая аддзяліцца ад Расеі, бо, як яны казалі, ад Расеі яны ніколі дабра ня мелі

У горадзе была моцная групоўка расейскіх сацыялістых-рэвалюцыянераў Яны арганізоўвалі мітынгі пратэсту супроць абвешчаньня Беларускае Рэспублікі На гэтыя мітынгі хадзілі й беларускія эсэры, што былі на зьезьдзе пры абвешчаньні Савецкае Беларусі Там, на Камуністычным Зьезьдзе, яны былі супроць Савецкай Беларусі і стаялі за Беларускую Народную Рэспубліку, абвешчаную на Ўсебеларускім Кангрэсе

Паслухаўшы-ж прамовы расейскіх эсэраў, якія ніякіх Беларусаў ня прызнавалі, беларускія эсэры пачалі разам з камуністымі выступаць супроць расейскіх эсэраў.

Добра прамаўлялі супроць расейскіх эсэраў Усевалад Фальскі, Язэп Дыла, М Маркевіч ды іншыя, толькі ім таксама не давалі гаварыць пабеларуску

Тую-ж самую Палуту Бадунову, што выступала супроць камуністых у Доме Культуры, на мітынгу, на пляцы перад поштай, Расейцы сьцягнулі з трыбуны ды яшчэ пабілі за тое, што агітавала за Беларусь.

## НЕЗАДАВАЛЬНЕНЬНЕ СМАЛЕНСКАГА ГАРНІЗОНУ

Незадавальненьне пэўнай часткі смаленскага жыхарства распадзелам Расеі перакінулася й на Смаленскі гарнізон У Смаленскім гарнізоне, у Пакроўскіх казармах, стаяў толькі адзін Віцебскі батальён, які як паводля нацыянальнага складу, так і паводля духу быў беларускім, а ўсе іншыя вайсковыя адзінкі былі сфармаваныя з





Расейцаў, якія ніколі не захапляліся камунізмам, а тым больш цяпер, калі пабачылі, што дзеляць Расею

Штаб гарнізону, на ўсялякі выпадак, загадаў вывезьці за горад патроны й артылерыйскую баявую амуніцыю. У жаўнераў бояпрыпасаў амаль ня было, добра быў узброены толькі адзін камуністычны ЧООН (Чрезвычайный Отряд Особого Назначения). Каб увесь гарнізон паўстаў, дык ЧООН паўстаньня ня стрымаў-бы, бо колькасна ён быў невялікі – асобаў сто пяцьдзесят

Каб узьняць паўстаньне, у незадаволеных ня было даволі расейскіх прапагандыстых. З войскам гаварылі толькі камуністыя Ім удалося ўгаварыць адзін батальён сесьці ў вагоны· чырвонаармейцам абяцалі, што іх адвязуць у Маскву, а там яны сустрэнуцца з самым Ленінам і пагавораць. Як ні дзіўна гэта гучэла, чырвонаармейцы ўсё-ж далі веры й селі ў цягнік. Іх адвезьлі на паўдня Смаленшчыны, і ўвесь батальён расфармавалі, а найбольш актыўных расстралялі

Таксама ўдалося ўгаварыць і артылерыстых паехаць на палігон, на страляньне Толькі з таго палігону ніхто не вярнуўся назад: частку расстралялі, а хто застаўся – расфармавалі ў іншыя аддзелы Праўда, крыху пазьней – у 1919 годзе – артылерыстыя памсьціліся камуністым яны падпалілі склады з артылерыйскай баёвай амуніцыяй Хоць падпальшчыкаў і не знайшлі, але шмат хто заплаціў жыцьцём. Гэтак расстралялі пяць асобаў быццам-бы ўдзельнікаў падпалу, з Штабу 16-ай арміі і расстралялі 7 Палякаў зь лягеру ўцекачоў, бо яны хадзілі на працу ў гэныя склады

Фармаваньне-ж Заходняе Дывізіі, крыху стрыманае перад гэтым, ішло далей, і афіцыйныя дзейнікі змушаныя былі трымацца афіцыйнага курсу, прымірыцца з абвешчаньнем Савецкае Беларусі, хоць, як я даведаўся пазьней, ня ўсё йшло гладка.

## ШКОЛА ШТАБНОЕ СЛУЖБЫ Ў СМАЛЕНСКУ

Асноўнае заданьне й праграма школы былі скіраваныя на рыхтаваньне із страявога каманьдзерскага складу працаўнікоў для штабаў Упоруч з выкладамі мы, курсанты, досыць часта адбывалі практыку штабное працы ў штабе Заходняга фронту, а начальнікам фронту ад паловы 1919-га году быў прызначаны У Лазарэвіч, здаецца ў чыне генэрала, Беларус. Шмат практычных заданьняў трэба было выконваць і ў штабе 16-ай Арміі, штаб знаходзіўся таксама ў Смаленску, а каманьдзерам Арміі быў генэрал Салагуб, таксама Беларус. Дарэчы сказаць, абодвы гэтыя высокія вайскоўцы потым зрабілі добрую кар'еру ў Чырвонай Арміі, а ў 1937-38 гадох былі расстраляныя.

Бываючы часта й падоўгу ў штабах, я там пазнаёміўся із шмат якімі вышэйшымі вайсковымі каманьдзерамі й камісарамі Чырвонае Арміі. Некаторыя зь іх, як Лазарэвіч, Салагуб ды іншыя былі нацыянальна-сьведамыя Беларусы, аднак было шмат і такіх, што выступалі адкрыта супроць беларускасьці У Штабе 16-ай Арміі я таксама пазнаёміўся з курсантам тае самае школы, што й я, Палякам з нацыянальнасьці, які добра гаварыў парасейску, А. Завадзкім. Прыпушчаю, што гэта пазьнейшы прэзыдэнт камуністычнай Польшчы. Ён тады яшчэ ня быў камуністым і прыхільна ставіўся да беларускага пытаньня. Пра Беларусаў ён добра ўжо ведаў у Пецярбургу, дзе ён нарадзіўся

Жыцьцё ў школе было досыць напружанае, трэба было шмат працаваць. Выкладчыкамі ў нас былі былыя царскія ахвіцэры, ім было цяжка мяняць свае погляды Аднак, і сярод іх былі такія, што разумелі, што час ідзе і, ведаючы мінуўшчыну Беларусі, стаялі на гледзішчы, што стварэньне Беларускае Дзяржавы – рэч патрэбная

На лекцыях зь гісторыі Расейскае арміі й штабу нам неаднаразова зазначалася, што ў царскай арміі было шмат генэралаў беларускага паходжаньня, як да прыкладу ген Жылінскі, Кандратовіч ды інш., якія прапаноўвалі праекты, каб у Расеі была створаная тэрытарыяльная сістэма арміі. У прыклад ставілася Нямеччына, дзе тэрытарыяльная армія была заўсёды Гаварылася й аб тым, што пасьля паўстаньня 1863-га году была выстаўленая ў штабе прапанова, каб у Віленскім Юнкерскім Вучылішчы выкладаліся лекцыі беларусаведы, меркавалася, што гэта будзе дапамагаць супраць польскіх уплываў Аднак з гэтага нічога ня выйшла

Выкладчыкам стратэгіі й ваеннай гісторыі ў школе быў генэрал Агароднікаў, быlы

галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі Расеі пры ўрадзе Керанскага. І вось якраз у тым часе, пасьля абвешчаньня Савецкае Беларусі, калі ў горадзе адчувалася забурэньне супроць Беларусаў, генэрал Агароднікаў прачытаў колькі лекцыяў аб былой Ліцьве-Беларусі, аб ейнай арміі і арганізацыі вайсковага выведу. Ён гаварыў, што як і Літва за часамі самастойнасьці, так і Маскоўскае Княства вялі свой вывед, але Маскоўскі вывед ніякіх дакумэнтаў не пакінуў. Літоўскі-ж вывед усе патрэбныя дакумэнты размнажаў і рассылаў на перахаваньне, і гэтыя дакумэнты можна знаходзіць у бібліятэках. Не прамінуў ён зазначыць, што літоўская лёгкая коньніца была куды лепшая за татарскую. Пераходзячы да нашых часоў і закранаючы палітыку, генэрал Агароднікаў уважаў за вялікую памылку тое, што Расейцы разам з Палякамі зьліквідавалі самастойную Літву, і Расея наблізіла да сябе Польшчу. А яшчэ большай памылкай з боку Немцаў, уважаў генэрал, была ліквідацыя Польшчы У выніку ўсяго гэтага заходняя мяжа Расеі сутыкалася зь Нямеччынай. Генэрал уважаў, што Немцы – вораг дужы, і на працягу ўсяе гісторыі яны нішчылі Славянаў. Дзеля Расеі-ж (гэтак казаў неаднаразова выкладчык) быў-бы разумны крок – аднаўленьне Літоўскае дзяржавы, і супроць гэтага Расейцы не павінны былі-б пратэставаць.

Мушу таксама зазначыць, што й іншыя выкладчыкі, разьбіраючы паасобныя ваенныя дзеі, кампаніі й войны Літвы з Маскоўшчынай, неаднаразова выказваліся аб тым, што для Расеі ляпей было-б, каб Нямеччына была далей ад яе. У мяне-ж, дзякуючы гэтым лекцыям, добра ўмацаваўся пагляд на нашае дзяржаўнае мінулае. Школу я скончыў, і нейкі час быў у штабе Заходняга фронту, а потым, у часе польскае кампаніі 1920 году, паслалі на фронт, а пасьля фронту я застаўся ў Менску

### ЗНАЁМСТВА Ў СМАЛЕНСКУ

Падзеі ў Смаленску ды вывучэньне мінуўшчыны Літвы станавіла мяне на шлях беларускае нацыянальнае працы Але найбольш бадай я ўцягнуўся ў беларускі нацыянальны рух праз знаёмства з тагачасным беларускім актывам. Як-бы там ні было, аднак самая падзея абвешчаньня Беларускае Савецкае Рэспублікі значна паспрыяла ўзраджэньню беларускае нацыянальнае сьведамасьці сярод некаторае часткі жыхарства гораду У Смаленску актыўна пачало працаваць Беларускае Згуртаваньне Адбываліся зборкі, вечары. Бадай галоўную ролю ў гэтым згуртаваньні й беларускім жыцьці ў Смаленску адыгрываў Зьмітро Жылуновіч. Зь ім я пазнаёміўся вельмі хутка, калі прыехаў у Смаленск. Аднойчы ён прыйшоў да нас у штабную школу ды папытаўся ў мяне, ці ня мог-бы я спаткацца зь ім увечары на ягонай кватэры. Мы спаткаліся. Гутарка зь ім таго вечару зацягнулася далёка за поўнач. І ў той вечар ён мне адчыніў вочы шмат на што, аб чым я й не падазраваў, ды што мне запамяталася аж да сяньня.

Гутарка йшла больш-менш гэтак:

– Скажы мне, Яўхім, колькі ў вас цяпер у школе Беларусаў?

Я сказаў, што бадай што палавіна, асобаў зь пяцьдзесят, і ўвесь час прыбываюць новыя.

– А скажы мне, – пытаўся далей Жылуновіч, – колькі будзе такіх, што выступяць за Беларускую Рэспубліку?

Я на гэта пытаньне ня мог дакладна адказаць, прыпушчаў, што ўсе курсанты, бо я ведаў настроі іх, і ўсе яны было ўжо добра ўсьведамленыя, каб «будаваць Беларусь»

– Дык вось слухай, Яўхім, ня ўсё, брат, ідзе гэтак гладка, як гаворыцца й пішацца. Бачыш, тут у Штабе Фронту Палякі вядуць паскудную работу Яны падбіваюць Рэўваенсавет Заходняга Фронту, каб у рапарце ў Маскву Рэўваенсавет запрапанаваў зьліквідаваць Беларускую Рэспубліку, а абвесьціць Польска-Беларускую. Палякі кажуць, што гэта аслабіць аўтарытэт Пілсудзкага ды што гэта правільны гістарычны шлях, бо Польшча заўсёды была блізкая зь Беларусяй Наагул, Палякі ў штабе, ды думаю, што і ў Маскве – казаў далей Жылуновіч, – імкнуцца пераканаць начальства, што трэба рабіць стаўку на Польшчу· гэта будзе спрыяць пашырэньню рэвалюцыі, а зь Беларусяй Палякі дагаворацца пазьней. Гэта, брат, небясьпечная справа. Таму я прашу цябе трымаць вуха востра, і магчыма, давядзецца ў школе зьбіраць нейкія подпісы, а таксама гаварыць да жаўнераў





На гэта я адказаў, што мне так страшна гэта не здаецца, бо ўсе жаўнеры настроеныя за Беларусь, і калі давядзецца падпісваца, дык змусяць і Расейцаў падпісацца. Тады ён, перапыняючы мяне, сказаў, што ў Штабе Фронту шмат Расейцаў, якія гэтым праектам былі-б задаволеныя. Таксама, казаў Жылуновіч, у Маскве маюць плян новага адміністрацыйнага ўладжаньня Беларусі ды могуць нам моцна перашкаджаць.

Я-ж сваім парадкам папытаўся ў яго, хто там найбольш з Палякаў дзейны. На гэта ён мне адказаў, што іх і ня так шмат, але ўсе яны вельмі зацятыя й актыўныя. Самы галоўны ў іх быў Я. Уншліхт, а потым Гельтман і ягоная жонка. Таксама ўсюды выступаў супраць Беларусаў нейкі Пікель – Паляк зь Менску.

За колькі дзён я ізноў прыйшоў да Жылуновіча й сказаў яму, што ў штабной школе я перагаварыў з усімі Беларусамі, а таксама гутарыў зь некаторымі ў Штабе. Праўда, у штабных ужо было ня тое ў галаве, бо, як выглядала, наступалі зьмены на фроньце. І тады мне Жылуновіч сказаў, што справа прымае іншы зварот, бо разам зь Беларусамі салідарызуецца Сьмілга, а ён у добрых дачыненьнях у партыі і ў штабе, стары камуністы, сябра Рэўваенсавету Заходняга фронту і настроены супраць Палякаў. Пасьля я яшчэ меў пару спатканьняў з Жылуновічам.

Разоў пару я заходзіўся ў клюб, дзе зьбіраліся Беларусы й там пазнаёміўся з Фальскім, якому пры першым-жа знаёмсьцьве сказаў, што яго прамова на мітынгу каля пошты мне вельмі спадабалася. Фальскі запрасіў мяне да сябе, і я да яго пару разоў заходзіўся. Ён меў шмат беларускае літаратуры, газэтаў, і ён мяне грунтоўна ўвёў у жыцьцё розных беларускіх партыяў і групаў. Мне, маладому вайскоўцу, гэта ўсё было новае Аднойчы Фальскі запрасіў мяне на зборку ды пазнаёміў тады зь Янкам Купалам. Гэта была палітычная зборка Памятаю, што былі эсэры і пару камуністых Камуністыя казалі, што будуць тварыць сваю беларускую камуністычную партыю, а эсэры сьмяяліся з гэтага Янка Купала трымаўся асьцярожна, ня выказваўся, і ў мяне ствралася першае ўражаньне, што Купала сваймі паглядамі не бярэ ўдзелу ў тагачасным палітычным жыцьці. Маё першае знаёмства з Купалам было кароткае, бо на іншых зборках я яго больш не спатыкаў. Неўзабаве мяне паслалі на фронт. Уключыўся я ў грамадзкае жыцьцё поўнасьцяй, калі прыйшоў з Чырвонай Арміяй у Менск улетку 1920 году Але гэта ўжо другая балона ўспамінаў.

*«Беларус», № 261*
*Нью Ёрк, 1979.*

# НАПЯРЭДАДНІ ПАГРОМАЎ

Пагром нацдэмаў (нацыянал-дэмакратаў) быў падрыхтаваны загадзя й вельмі сакрэтна Першыя згадкі пра стрыманьне беларускае актыўнасьці пачалі чуцца недзе, здаецца, у гадох 1926 – 27-ым. У той час сакратаром камуністычнае партыі Беларусі быў нехта на прозьвішча Крыніцкі Сваю нацыянальнасьць ён хаваў, ня трымаў блізкіх кантактаў з камуністамі-Беларусамі ды быў вельмі варожы да ўсяго беларускага. Аднак Крыніцкі быў вельмі асьцярожны й спрытны адміністратар (Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя падае, як месца нараджэньня К., расейскі горад Цьвер, год нарадж. 1894. Крыніцкі Аляксандар Івановіч, паводля БелСЭ, пасьля партыйнае службы ў Цьверы і ў Маскве, ад верасьня 1924 г да травеня 1927 г быў першым сакратаром ЦК КП(б) Беларусі, ад травеня 1927 г. загадваў ужо аддзелам агітацыі й прапаганды ЦК ВКП(б). – Рэд. «Б-са».)

Сваю дзейнасьць супраць беларускага актыву Крыніцкі пачаў з адміністрацыйнага партыйнага апарату· ён пачаў абсаджваць розныя адміністрацыйныя пасады сваймі людзьмі. Шмат у якіх раёнах, у Менску, у прафесійных саюзах, у адміністрацыі Крыніцкі паставіў небеларусаў. У Менску на сакратара Саюзу настаўнікаў быў пастаўлены,

праўда, Беларус Ахрамовіч, але авантурнік і басяк зь менскага раёну Серабранкі На чале-ж Саюзу настаўнікаў быў пастаўлены небеларус Нодаль. Ахрамовіч і Нодаль.

І вось гэтыя два суб'екты панарабілі ладна супроць Беларусаў у Менску Ахрамовіч меў магчымасьць поўнага падбору адміністрацыйнага апарату настаўніцтва.

Наблізіў Крыніцкі да сябе й Беларуса Сянькевіча, былога настаўніка, рээмігранта з Амэрыкі, дзе ён скончыў вэтэрынарны каледж. Здольнасьцямі асаблівымі Сянькевіч не вызначаўся, аднак быў амбітны й злапамятны. Спачатку ён быў у Акадэміі, аднак яго зьмясьцілі, бо не спраўляўся з працай, потым быў, здаецца, рэдактарам пэдагагічнага часапісу, і там ня справіўся – гэта яго ўзлосьціла супраць беларускага актыву Каб трымацца на паверхні, Сянькевіч пачаў пісаць даносы на навуковых працаўнікоў Аўтару гэтых радкоў даносы Сянькевіча зрабілі шмат няпрыемнасьцяў, а праф. Смолічу, зь якім аўтар у той час працаваў, даносы Сянькевіча на яго (Смоліча) пазьней каштавалі жыцьця.

Нодаль, у сваю чаргу, панацягнуў у Менск сваіх блізкіх партыйшчыкаў, зь якімі ён ведаўся з часоў грамадзянскае вайны. (Цікавая цяпер мазоліць галаву думка як гэта тады мы мала аналізавалі ў Менску, што рабілася навокал )

Адміністрацыйныя перамены назіраліся і ў Акадэміі і Ўнівэрсытэце. Прыяжджала больш прафэсароў з Расеі, пераважна з Масквы. Пачалі вельмі хутка прасоўвацца на адміністрацыйнай лесьвіцы партыйныя. Адзін з такіх выпадкаў мне асабліва ў памяці Гэта выпадак з Вальфсонам, пазьнейшым тэарэтыкам разгрому нацдэмаў

Вальфсон мой недалёкі зямляк, ён з Бабруйску Да першай сусьветнай вайны ў Бабруйску на Мураўёўскай вуліцы быў папяровы магазын Я. Вальфсона За прылаўкам у магазыне стаяў маленькі Сёмка ды прадаваў алавікі й розныя канцылярскія прылады. Магазын гэты таксама пастачаў паперу ды алавікі царскаму войску, у Кутаіскі полк, які стаяў у Бабруйску Часта ў Бабруйску можна было бачыць, як Якаў Вальфсон разам з сынком развозілі тавары. Адным словам, гандлявалі ды набівалі капітальчык.

Рэвалюцыю Сёмка праседзеў ціха, аднак, калі пабачыў, што замацаваліся бальшавікі, хутка зактывізаваўся й стаўся марксыстам Напачатку дваццатых гадоў ён прыехаў у Менск. Сядзеў ён досыць ціха, хоць часамі й прабаваў зьвякаць пра непатрэбу нацыянальных адраджэньняў. Камуністычная партыя хутка зьвярнула ўвагу на гэтага былога гандляра, а сёньняшняга гарлапана Хутка Сямён Якаўлевіч заняў пасаду прафэсара дыялектычнага матэрыялізму Мне неаднаразова даводзілася зь ім сутыкнуцца ды пасадзіць публічна яго ў калошу зь ягонымі паглядамі на нацыянальнае пытаньне ды зь ягонымі часта мяніянымі паглядамі на эканамічную палітыку ды філязофію Як я потым пераканаўся, Сёмка мне гэтага не забыўся Трымаў хутка сьпечаны акадэмік Вальфсон нос на ветры І як толькі ў паветры запахла, што рыхтуецца пагром беларускай інтэлігенцыі, ён зараз-жа пачаў публічна асуджаць беларускую інтэлігенцыю ды пісаць на яе артыкулы й даносы

Як я даведаўся значна пазьней, рапарты-даносы свае Вальфсон навет ня слаў поштай, а перадаваў праф Кролю, тады дырэктару клінікі нэрвовых хваробаў, а той беспасярэдня адвозіў іх у Маскву, дзе ён меў добрыя сувязі праз Молатава

На мой пагляд, якраз Вальфсон і быў тым тэарэтычным абаснавальнікам пагрому беларускае інтэлігенцыі, якому Масква і верыла і была радая

Наагул-жа, як на Ўнівэрсытэце, гэтак і ў Акадэміі зьявілася ў другой палове дваццатых гадоў поўна небеларусаў Шмат зь іх было сэксотаў, якія так і шныпарылі па лябараторыях і нечага выглядалі. Аднойчы на гэтую тэму мне давялося перакінуцца словам з Азбукінам (Мікалай Азбукін, 1894–1943 гг – беларускі географ і грамадзкі дзеяч, з Бабруйску – Рэд. «Б-са» ), але ні ён ні я неяк гэтаму не надавалі сур ёзнага значэньня

Паводля агульнае думкі, галоўным слупом унівэрсітэцкага выведу была нехта Марголіна. Афіцыйна яна была асьпіранткай ды займала пасаду партыйнага арганізатара. Відаць, яна добра спраўлялася із сваёй партыйнай працай, бо яе некалькі разоў перабіралі на галоўнага арганізатара.

Вельмі-ж шмат гора прычыніла гэтая асоба беларускім студэнтам У Марголінай на паслугах быў дацэнт фізікі Усьпенскі. Тады яму было гадоў 45, а то й больш Як фізік, ён быў на сваім месцы, але ён быў кандыдатам у партыю, і гэта яго абавязвала быць асабліва пільным да «клясавага ворага». Камуністычную пільнасьць ён выяўляў вельмі шчыра, ды зла нарабіў студэнтам і прафэсуры поўна Шпігаваў Усьпенскі і ў Акадэміі Навук.





Ня менш зла нарабіў беларускаму актыву на Ўнівэрсытэце і былы эсэр, а тады камуніст, Панкевіч Гэты суб'ект, каб давесьці сваю адданасьць камунізму, шпігаваў бадай болей за ўсіх. Навет камуністы Беларусы, якія тое-сёе бачылі, цірaз пры спатканьні пыталіся· хто гэта – Панкевіч, і што гэта ён выпісвае? Хутка яму надалі тытул прафэсара ў пэдагагічных навуках, спэцыяліста комплекснага мэтаду.

Гэтыя адміністрацыйныя зьмены мне былі асабліва заўважныя, бо гэта адбывалася ў асяродзьдзі, зь якім я працаваў бадай ад часу, калі прыехаў у Менск у 1920 годзе

Аднак, маючы шмат знаёмых і ў іншых колах грамадзкага, палітычнага й культурнага жыцьця ды будучы добра знаёмым зь некаторымі камуністамі Беларусамі, гутарачы зь імі, бачыў я зьмены ўсюды

Асабліва мне запамяталася адна сустрэча зь Якубам Коласам на вуліцы, калі ён, не захацеўшы доўга гутарыць, выняў зь кішэні сваю фатаграфію й сказаў нешта накшталт· вось, Яўхім, на ўспамін.

Гэтаксама неяк дзіўна не хацеў нічога гаварыць і Цішка Гартны, зь якім я знаўся даўно, і мне ён часта паведамляў, што рабілася ў партыі Гэтым разам, ці толькі не апошні раз перад маім арыштам, ён неяк махнуў рукой – наколькі памяць, здаецца, гэта было недзе зімой на пачатку 1930 году. А Цішка-ж Гартны ня бачыць ня мог, што рабілася ў дзяржаўным апараце.

Хутка зьмяшчалі з пасадаў камуністаў Беларусаў Там-сям у партыі назіраліся апазыцыі· у Гомелі, Магілеве. У сувязі зь індустрыялізацыяй у рэспубліку масава пачынаў наяжджаць небеларускі пралетарыят Расейцы займалі кіруючыя становішчы У самай вяршалінцы партыі назіралася чахарда Крыніцкага замяніў Кнорын, а за гэтым ненавісьнікам Беларусаў прыйшоў Гамарнік, што перад гэтым катаваў Украіну й Далёкі Ўсход.

Чыстка Беларусаў у партыі разгаралася Тады прыйшоў у 1930 г нехта Гей (Канстантын Гей – родам зь Пецярбургу, год нарадж. 1896, партыйную кар'еру рабіў у Расеі – ад 3.І 1930 г да 18 І 1932 быў першым сакратаром ЦК КП(б)Б Рэд. «Б-са» ) Начальнікам ГПУ у 1930 г быў Міхаіл Рапапорт Аб Рапапорце я ўжо ведаў і раней. У Бабруйску (я паходжу з Глушчыны, ад Бабруйску недалёка, і Бабруйск мы ўсе добра ведалі) перад Першай сусьветнай вайной на конскім рынку арудаваў малады Мішка Рапапорт, ці, як яго звалі ў Бабруйску, Мішка Конюх. Быў ён маклерам па продажу й абмену коней, а таксама лоўкі шулер у карты Мішка Конюх хутка стаў рабіць кар'еру пры бальшавіках, і ўрэшце трапіў у Менск ды стаўся там начальнікам ГПУ Займаў ён таксама высокую пасаду і ў партыі

Ішоў пагром беларускага сялянства, што вёўся ўжо недзе ад 1928 – 29 году, а ад году 1930-га, калі ў лютым быў прыняты закон аб поўнай калектывізацыі, за год часу сельская гаспадарка Беларусі была дашчэнту разбураная

Беларусы камуністы ня бачыць гэтага не маглі, аднак стрымаць гэтага ні яны, ды й ніхто ўжо ня мог Нажаль, ніхто таксама не ўяўляў і поўнага размаху таго, што было заплянавана

Калі гэтая фаза была пройдзеная, ды ў Менску й іншых гарадох пазаменьваная адміністрацыя, тады справу беларускае інтэлігенцыі паставілі ў Маскве на парадак дня (прынамся гэтак мне казалі некалькі Беларусаў камуністаў). Справа была пастаўленая ў Палітбюро й прадстаўленая так, што беларуская інтэлігенцыя станавіла небясьпеку. Пастанова ў Маскве была прынятая вельмі лютая для Беларусаў. Была дадзеная інструкцыя ГПУ, а таксама й партыйным органам ды й судом зьліквідаваць нацыянальна думаючыя кадры Быццам пасьля прыняцьця такое рэзалюцыі былі пакліканыя ў Маскву камуністы Беларусы. Чарвякоў, Галадзед, Васілевіч ды іншыя. Выклікалі тады ў Маскву таксама й Алеся Адамовіча, аднак памінулі Ігнатоўскага. Быццам там у Маскве моцна запратэставаў супраць пастановы Васілевіч. Яго адразу падтрымалі іншыя. Беларускія камуністы даводзілі, што такая палітыка наробіць больш шкоды і для рэспублікі і для Беларусаў Як мне перадавалі, Чарвякоў пры ўсім гэтым маўчаў. Пратэсты аднак нічога памагчы не маглі – партыя пастанавіла, што гэта адзіны правільны шлях. І справа пагрому беларускае інтэлігенцыі рушыла ўперад.

*«Беларус», №№ 314 – 315.*
*Нью Ёрк, 1983*

# Вінцэсь ВАШЭКА



* * *

*Алесю КАСКО*

Адраджаецца душа, бы вяртаецца з нябыту,
За мінулыя грахі небу сплочваючы мыту,
Праз нябачную мяжу зноў яднаецца са светам,
Нішчыць чорную тугу і становіцца санетам.

Зноў нырае ў мітусню вершаванае пакуты,
Дзе Сусвет у ланцугі прагнай шчырасці закуты,
Дзе канчаецца жыццё, саступіўшы сцежку смерці.
Так задумаў, пэўна, Бог – каб стварыць,
а потым сцерці.



# Драгаслаў МІХАІЛАВІЧ



## ЯНЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

Галодныя і ачмурэлыя, але хоць у цеплыні, сядзелі яны ў сталоўцы насупраць чыгуначнага вакзала. Прымасціліся за столікам на алюмініевых ножках, адразу каля вітрыны, уласна, шкляной сценкі, у дальнім кутку. Ім не хапала смеласці падбіраць чужыя аб'едкі. З роспачы ад такой слабасці, якую называлі гонарам, яны адварочваліся ад людзей, што снавалі з падносамі, гучна сёрбалі, чаўкалі, вячэраючы. Адварочваліся, ды не маглі адгарадзіцца ад прынадных гукаў, якія чуліся безупынна і час ад часу проста да вар'яцтва даводзілі.

Рака, схухлены, з'ёжаны як неаперанае кураня, уцягнуўшы галаву ў плечы, рассеяна глядзеў скрозь запацелае шкло на змрочную Караджорджаву вуліцу. Нібы ў цёмным калідоры, там натужна званілі трамваі, клякаталі грузавікі і аўтобусы, таўкліся гарбатыя легкавушкі, шырокімі веерамі распырскваючы снежную кашу Адна думка, што неўзабаве будзе вымушаны апынуцца там, прычыняла яму боль.

А Баджа, не гледзячы ні на што, амаль гадзіну ўжо чытаў. Рака зайздросліва падумаў: «Вось і ты, каб прывык да чытання, зараз бы гэтак не пакутаваў». Выцягнуўшы доўгую мускулістую шыю, абкручаную брудным шалікам, ён зазірнуў у разгорнутую газету, убачыў здымкі і двойчы прачытаў напісанае буйнымі літарамі: «Візіт да братняй партыі».

Шморгнуўшы носам – які ў яго звычайна, калі не выспіцца, закладзены, – Рака пацікавіўся:

– Слухай, а чаго цябе празвалі Баджа?

Таварыш, не адрываючыся ад газеты, пасля нейкай паўзы ціхім сіплым барытонам адказаў·

– Ды гэта ў маленстве запрыкмецілі маю панскасць.

Рака зацягваецца дымам з кароткага вішнёвага муштука, які, падгараючы, шыпіць. Агледзеўшы яго, робіць яшчэ зацяжку, тады заціскае соску вялікім і ўказальным пальцамі, хлопае далоняю ў далонь. Ды вылятае толькі жарына з параю валаконцаў тытуню, а недагарэлая папера застаецца прылепленая ўсярэдзіне. Рака доўгім брудным пазногцем мезенца выкалупвае паперу і кладзе муштук у нагрудную кішэню зацяганага мешкаватага твідавага пінжака. Апранаха, калі ён устане, амаль да кален, але гэта і патрэбна, бо пад яе можна надзець нават тры джэмперы.

У адказе таварыша яму штосьці засталося незразумелым. Толькі ён і сам не вызначыў дакладна, што. Паспрабаваў разабрацца, палыпаў вачыма, а потым, не пераадолеўшы звычку проста пабалбатаць, якую ніхто ніколі ўсур'ёз не прымаў, як і ён сам, загаварыў·

– Я лічу так: напрыклад, мяне ў нашай вёсцы празвалі Голатвары, бо я. . Ну бачыш, які я. – Ён праводзіць бруднай рукою па нямытым, цёмным, безбародым твары. – Цябе ж завуць Баджа, пан, а ты вось які...

Рака ўглядзеўся ў мажнага мужчыну з газетай у руках і міжволі яму паслужліва ўсміхнуўся, ад чаго твар, чысты толькі пад вачыма, быццам бы чалавек толькі што плакаў, пакрыўся сеткаю тонкіх дробных маршчын – як асока пад веснавым ветрыкам.

Баджа думаў· «Вось назола гэты Рака!» Ён няспешна павярнуўся, зірнуў мутнымі, але з дабрадушнымі іскрынкамі, вачыма і прамовіў:

– Адно – калі ты малы, другое – калі сталы.

І зноў вярнуўся да механічнага чытання.

Не выспаўшыся, у цяпле ён ва ўладзе дрымоты, галава сама час ад часу ападае на грудзі. Таму некалькі разоў ужо вяртаецца да прачытанага, усё роўна паспяваючы ўсвядоміць хіба што трэцяе-чацвёртае слова. «Як незабыўны ўспамін, – чытаў ён зноўку, –

застанецца прыём, наладжаны гаспадарамі на другі дзень нашага знаходжання...» Чаму незабыўны ўспамін?.. Хіба яны перад гэтым галадалі?

Баджа быў паголены. Таму Раку здавалася, што ён маладзейшы, як у сапраўднасці, хоць збароздны лоб паказваў стому, нават хваравітую. Угледзеўшыся як след, немагчыма было памыліцца, што за жыццё ў гэтага чалавека.

Рака між тым запытаўся:

– А ты мінулай ночы паспаў дзе-небудзь?

Баджа кіўнуў Яму, відаць, не хацелася нават размову пра гэта весці. А можа, падобна да іншых, ён утойваў, дзе і як здолеў адшукаць прытулак.

– Паспаў гадзіны дзве, – мармытаў ён потым. – На станцыі. Пакуль не прагналі.

Яшчэ два дні таму ў яго пры Саўскім мосце быў буданчык, дзе рабочыя-будаўнікі трымалі свае начынне Там, каля рыдлёвак і сякер, на купе мяхоў ды розных ануч ён мог пераначаваць. Пільнаваўся толькі, каб не заўважылі – увечары, калі прабіраўся туды, трэба было асцерагацца такіх, як сам, а раніцою – рабочых. І адны і другія маглі навесці міліцыянераў А тады ўжо не прамінуць нагоды з каталажкаю Тым часам працу на мосце завяршылі, будан, як непатрэбны, разбурылі. А іншага прытулку няма. І шукаць не хочацца. Зрэшты, дзе ты яго будзеш шукаць?

Маркотныя думкі падганялі адна адну· «Замест таго, каб праспаць зіму, залёгшы ў нейкую бярлогу, як мядзведзі, а калі прыгрэе сонца, вылезці і жыць па-людску, мы вось штоночы бадзяемся ад спрата да спрата Не ведаем, як дачакацца світання. Бо ўдзень лягчэй-такі перабівацца – скажам, і тут яшчэ не надта ганяюць, пакуль наведвальнікаў не зашмат і месцаў хапае А ўначы хіба што на вакзальнай лаве можна прыкарнуць. Ды і то, калі пашанцуе лавы не дзеля гэтага прызначаліся, на вакзалах людзей заўжды процьма, да таго ж ахоўнікі парадку сочаць.. Калі ж не выспішся, раніцою табе яшчэ беспрытульней і халадней, як звычайна. Холадна тады нават, калі ўсім цёпла. Ты ходзіш і ляскаеш зубамі, як тое парася, што на сметніку дападзецца да слівовых костачак. Калі ўжо надыдзе лета?»

Рака ўглядаўся ў таварыша-чытача. На ім таксама было некалькі сарочак, кашуляў, джэмпераў, а паверх усяго – брудная летняя куртка. Буйнага целаскладу, у такім убранні ён здаваўся проста мажным. А калі скідае ўсё свае транце – як умываецца, звычайна ў нейкім сховішчы альбо ў станцыйнай прыбіральні, дзе смярдзіць лізолам, – відаць, толькі скура ды косці. Аднак ён яшчэ трымае кантроль над сабою Уласна, і цяпер з-за яго павярнуліся спінамі да тых, хто вячэрае Хоць ад гукаў і пахаў сталоўкі ў абодвух кішкі маршы граюць.

А яшчэ ж катарга яму – галенне Пагаліцца можна таксама толькі ўпотай у прыбіральні. У кішэні заўжды трэба насіць з сабою памазок, станок, брытвачкі Вельмі цяжка здабыць працу і так. Ну а няголенаму чакаць ласкі ад незнаёмых людзей няма чаго. У яго ж за два дні можа нарасці такая шчаціна, што жах.

Рака міжволі праводзіць рукою па сваім безбародым твары Згадвае, як некалі перажываў з-за гэтага, няраз яшчэ там, у вёсцы, горка плакаў па начах, як недзе на самым пачатку пяцідзесятых гадоў, калі надышла пара юначая, а з яго пачалі кпіць, хадзіў па два-тры разы на месяц у манастыр і скрушна маліўся: «Госпадзе, дай, каб у мяне вырасла барада, не дапусці, каб я быў інакшы за астатніх!», як праз гэта вясковыя партыйцы чапляліся, пагражалі, што адлупцуюць, як неаднаразова, у тым ліку на Святую Тройцу, умываўся гарачай вадою з цудатворнай крыніцы манастыра Раваніца. І нечакана сам здзіўляецца, што зараз ужо ўспрымае гэта без колішняга трымцення душы, нібыта справа датычыцца гнілога зуба, якому лекаў няма.

А ў параўнанні з таварышам ён меў яшчэ, адчуваў прынамсі, нейкую перавагу, хоць і дробную, і незаслужаную. Бо таварыш, гэтаксама галодны і халодны, без даху над галавой і без надзеі, якая б магла сагрэць, гэтаксама забыты Богам і людзьмі, быў яшчэ і жонкай пакінуты, што, бадай, у знакі давалася, але пры такіх умовах жыцця мусіла хавацца. Яго ж, Раку, ніякая жанчына пакінуць не магла.

Ён адчуў патрэбу неяк ураўняцца, праявіць далікатнасць. Дастаў з кішэні амаль пусты пачак і сказаў усмешліва, паказваючы роўныя жоўтыя зубы, якія раней, у вёсцы, націраў соллю, каб белымі былі:

– Давай запалім Хоць рукі пагрэем.

Баджа моўчкі склаў два тоўстыя пальцы так, што яны ўтварылі нібыта качыную дзюбу, і засунуў у пачак. Выцягнуў з самага дна пакамячаную цыгарэту і бязвольна падумаў· «А заўтра ж і ў яго не застанецца курыва»





Прычакаў, пакуль дробны, нягеглы таварыш дабудзе аганьку, прыпаліў ад яго, з асалодаю зрабіў першую зацяжку і, выпускаючы дым, упікнуў сам сябе «Калі ўсё разумееш, дык нашто забіраеш астатняе?»

Прагна зацягваўся яшчэ і яшчэ раз, глыбока ўдыхаў дым, кідаючы погляд цераз плячо на сталы і стойкі, за якімі людзі вячэралі. Хоць, уласна, ён не глядзеў ні на каго і ні на што.

Рака ж усмешліва назіраў за ім.

– Ну як, нічога? Моцная! – паказаў ён на цыгарэту – Як пацягнеш, дык ажно тут адчуваецца, тыкаў сябе брудным пальцам у грудзі. – Я заўсёды кажу: няма яшчэ ліха ў жыцці, калі зранку ёсць курыва. І няма чаго палохацца дня, калі ранак пачынаецца як след.

З шырокаю ўсмешкаю ён задаволена трос нахіленай галавою, а Баджа пазіраў на яго ў здзіўленні

– Ну, някепска, га? дапытваўся нягеглы чалавечак. – Га? Што скажаш? Някепска, га?

Баджа пастараўся расцягнуць свае худыя шчокі ва ўсмешку і адказаў·

– Някепска.

– Сапраўды, га? – Рака махнуў цыгарэтаю ў руцэ і захоплена пазіраў то на цыгарэту, то на таварыша. – Сапраўды, га? Добрая цыгарэта! Хіба не? Га? Згодзен, га? Ды добрая!

Баджа яшчэ раз пацвердзіў, ківаючы галавою і ўжо натуральна ўсміхаючыся

– Добрая цыгарэта. Добрая! – Гэта гучала пераканаўча.

А я што кажу! – падхапіў дробны чалавечак. – Бач! – Ён павольна махаў улева-ўправа непрапарцыянальна вялікай рукой, за якой цягнуліся ашмёткі дыму, што нагадвалі падзёрты сцяг Абодва назіралі гэта і ўсміхаліся.

Памяшканне вакол іх было густа насычана выпарэннямі, запоўнена гоманам, які нарастаў і ападаў, цягучы, але невыразны, пусты, як піўная пена. У іх за спінамі тым часам беcперапынна дзынькалі, пстрыкалі дзве касы, размешчаныя адна супраць адной. Прыслухоўваючыся, можна было ўявіць, што нехта аздабляе манатонны шум – як быццам вешае на яго бліскучыя латунныя медалі, ці гэта нейкі асаблівы станок штампуе і рытмічна выплёўвае дробныя салдацкія падкоўкі.

Яны двое – ці не самыя прамерзлыя, самыя галодныя, самыя ўтомленыя і самыя прыгнечаныя істоты на свеце Да іх вярнуўся звыклы настрой Без аніякай веры ў будучыя змены да лепшага, з перакананнем, што ўсё як было, так і будзе.

Рака, праўда, не страціў яшчэ сялянскай запаслівасці. У яго ным поліэтыленавым пакеце, дзе ўсе пажыткі, зараз кінутым пад стол, ляжаў загорнуты ў старую газету, куплены з тыдзень таму, шматок сала. Да таго ж у кішэні прыхоўвалася ўчацвёра складзеная паперка годнасцю ў тысячу дынараў За палову ён мог раніцою прыдбаць пачак «Дравы», а рэшту і яшчэ паберагчы. Баджа, напэўна, таго не меў Хоць, хто ведае, можа, нешта зарабіў?

Закралася падазрэнне, і Рака надумаў праверыць:

Табе ўдалося зарабіць сёння што-небудзь?

Баджа, не адрываючыся ад газеты, скрывіў міну·

– Ты дзе начаваць збіраешся?

– Каб то ведаць! – злуючыся, адказаў Рака.

– І я не ведаю.

Баджа ў роздуме паківаў галавою, не зводзячы вачэй з газеты.

А Рака падумаў· «Скажу яму, відаць, пра сваё сала. Разам маглі б павячэраць» Але рашучасці не хапала. Павагаўшыся між магчымасцямі – скончыць гэты дзень сытым, а ці таварыскім, – ён выбраў сытасць, бо разважыў· «Знойдзе начлег у якой-небудзь бабы, там і павячэрае».

Сумленне між тым не давала спакою: «Ці ведае ён пра маё сала?» І каб яшчэ неяк падмацаваць зроблены выбар, Рака запытаўся:

– Ты галодны?

Мажны чалавек скрозь зубы цыркнуў:

– Не вельмі.

«Бадай, можа і патрываць, калі яму ў бабы гатуецца вячэра», –вывеў Рака. Зніклі сумненні: таварыш ягоны праўдзе ноч як пан. Уяўляючы сабе шчодра застаўлены стол і белае, цёплае, мяккае жаночае цела ў пахучай пасцелі, Рака адчуў, як жывот хапаюць сутаргі. А на Баджу паглядзеў з захапленнем.

Нейкі час курылі моўчкі.

Ды раптам, адганяючы ўсё, што прымроілася, неўспадзеў нават для сябе самога, Рака прамовіў:

– Як ты думаеш, ці маглі б мы з табою аб’яднацца?

Баджа адклаў газету Нібыта не дачуў, прымружыўся, уважліва зірнуў і перапытаў:

– Што зрабіць?

– Аб’яднацца. Я і ты маглі б стварыць ну як быццам нейкую суполку.

Мажны чалавек у бруднай летняй куртцы і далей мружыўся:

– Як гэта аб“яднацца?

– Ды, я лічу, гэтак нельга. Кожны сам па сабе – дзе ж тут вытрываеш. Павыпручваемся шчэ.

Баджа ўсміхнуўся. Тое, што Рака гаварыў па-вясковаму, яго нязменна забаўляла.

– Павыпручваемся шчэ? – паўтарыў ён з усмешкаю, з выглядам амаль што вясёлым.

Рака асмялеў і загаманіў пераканана.

Узапраўду павыпручваемся шчэ! Во якія мы! Во які ты! – Ён тыцнуў пальцам у зашмальцаваны, амаль чорны каўнер кашулі, што віднеўся з-пад джэмпера. – Я, скажам, у войску на пральні службу нёс. Мыў бялізну. Умею і не ганьбую рабіць гэта, без ніякіх. А ты б мог нешта іншае.

Увесь час пазіраючы на Раку нібы на вар’ята, Баджа зноў пачаў хмурыцца. Нават іскрынкі тыя ў вачах ягоных прапалі.

– Ну й дурны ж ты, браце, – зазначыў ён абыякава. – Лічыш, не варта паміраць гэтак, калі кожны сам па сабе?

– А ты на жарты ўсё не пераводзь! Я да цябе сур’ёзна! Каб лепш нам было!

– У чым лепш? – Баджа гэта вымавіў ужо груба, з насмешкаю, а то і з відавочным асуджэннем

І Рака імгненна страціў упэўненасць. Як бы яго хто моцна штурхнуў, зваліў з крэсла на падлогу, а потым яшчэ пачаў соўгаць па слізкай плітцы Прысаромлены, пачырванелы, ён замахаў рукамі, нібыта абараняючыся.

– Ды чакай, чакай, я благога не прыдумаю... – панічна адступаў ён. – Я так лічу. Я гэта... Ну проста каб гаворку завесці... Ты не думай. не думай .. што кепскае... Я толькі... Ды бач, як нам зараз.

Баджа стомлена глядзеў на таварыша і шкадаваў ужо, што павёў сябе рэзкавата. Ён збіў мезенцам попел з дакуранай амаль цыгарэты і ўдакладніў:

– Нічога такога я не думаю. Проста, нашто нам гэта? Мы прапалі і так, і гэтак.

Ён няспешна адклаў на стол газету, зрабіў яшчэ адну зацяжку, тады недакурак расцёр, пакруціўшы стаптаным ботам, як быццам выконваў нейкую важную справу.

Пасля гэтага ўстаў Трымаючы рукі ў кішэнях, падцягнуў штаны

– Ну, да заўтра. Бывай! І ўразвалку патупаў між сталамі да выхаду

Рака не знайшоў адразу, што сказаць, а калі Баджа пайшоў, неяк дрыгатліва крыкнуў яму наўздагон:

– Прыходзь заўтра сюды! Я буду чакаць!

Не паварочваючыся, мажны чалавек кіўнуў галавою. Ён ужо быў каля парога.

Дайшоўшы да дзвярэй, пацягнуў іх на сябе, агідліва нейкі момант узіраўся з парога ў халодную змрочную слату Потым насунуў глыбей кепку, узвёў каўнер сваёй летняй курткі і, прыціскаючы левы кулак да грудзей, пакрочыў у бок асветленай міжгародняй аўтобуснай станцыі, наўскасяк праз каляіну трамвая. Уважліва абмінаў лужы, не спяшаўся, нібыта ашчаджаў сілу, неяк па-старэчы цярпліва прапускаў машыны і даваў крукі ў небяспечных месцах.

Рака пэўны час глядзеў яму ўслед праз вітрыну А потым забыўся.

Ён зноў адчуў мурашак на сваёй спіне З перасцярогі адвярнуўшыся ад дзвюх работніц, якія збіралі брудны посуд, ён адсунуў крэсла – мо захочуць і гэты стол працерці, – да вітрыны і свой пакет перакінуў туды. Адхінуўся на спінку, выпраставў ногі ў вялізных чаравіках з гумовымі падэшвамі, прыціскаючы імі свой клунак.

– Застануся тут, – думаў ён, уладкоўваючыся, – пакуль не выпхнуць.

Абцягнуў усюды незашпілены пінжак, перакрыжаваў і засунуў пад пахі рукі, пакруціў галавою, шукаючы ямчэйшага месца падбародку

– Застануся тут, – круцілася думка, – застануся тут... –Тым часам павекі ягоныя, быццам бы ад нейкай супакойлівай, цёплай, прыемнай вагі, самі па сабе апускаліся ўніз. Няўцямна радуючыся, ён проста дазваляў ім рабіць, што хацелі.





# ВОСПА

Дзякуй вам пані Ёванка да Неба вам дзякуй што вы чалавек. Нямала каму Гэтак я праз Акно кідала Пыдулачку і Некаторыя яей бачылі ды Збаяліся улез Страх у людзей. Што вы перадалі Моркаўку длямайго Рада я зразумела вы прадзеце каб мне памагчы, майму сыночку Бог няхайвам Заплаціць завашу Ласку. Бачыла вас як праходзіце ў Чарніне адразу пабачыла Што вы Добры Чалавек. Шкада мне вашага Сына ія матка ведаю Што гэта значыць вам. Носіш яго гадуеш на ногі падымаеш і Кроў яму з Жылы сваей даеш апотым уцябе яго нехта адбярэ. Алеможа Мой рада вам Заменіць вашага Сына. Калі схочаце узяць Яго

Глядзела навас празакно калі вы прыйшлі Да Брамы і злякалася каб хто непабачыў. Калімы дамаўляліся празакно. Ёсць тут адна поскудзь санітар глядзіць што робім і Адразу даносіць гестапаўцу заховы. Але небачыў ён дзякуйбогу. Яшчэ можаце звяртацца да ахоўніка Срэты прозвішча яго неведаю. Ён змайго краю з Пракупля Многім жанчынам памог імне таксама Толькі ён у лагеры у Шпіталь рэдка заходзіць а калі вам што патрэбна вы яго папытайцеся Там. Як вас пытацца будуць кажыце штовы мая цётка па Бацьку. Кажыце што дагэтуль не ведалі! Што я арыштаваная іщто дагэтага немаеце ніякага дачынення

самною Ая Міліца стэфанавіч удзявоцтве мілоевіч ад бацькі Мілавана Родам знад Топліцы Вёска Стубліны зпоштай вялікая Радуша Сірата. Працавала спачатку на Трыкатажы у Лескаўцы чорнарабочай потым пачалася Забастоўка мяне звольнілі Пакахала Нябожчыка Міле Таксама рабочага мы пабраліся і пайшлі працаваць умайстэрню да Тэакаравіча. Атады пачалася Вайна імы Зтаварышамі пашлі у Лес. Больш несярдуйце намяне Кожны маю Сваю Ідэю я маю гэтую. Потым нас прадаў Брат серб і нас Схапілі каля вёскі верхняя Мутніца у клуні гвоздана Міялавіча Некаторых Таварышаў намесцы Пастралялі а некаторых спачатку катавалі. Некалькіх Расстралялі у Чупрыі наплошчы перад школаю там і вешалі Потым

расказвалі што наш дружка на вянчанні Мілаван міча Лазаравіч мы яго вельмі любілі ія і Мой Небарака Міле калі яго вывелі Крычаў няхай жыве гітлер. Адзехто кажа штоне хто яго ведае.

Майго Небараку міле многа Катавалі. У чупрыі у турме іў Краг еўцы. Пыталіся дазнаваліся каго ведае у Парачыну іхто яго навёў на Кумунізм Ая Кабета. Я няведаю Я думаю ён неведаў штотакое Кумунізм. Гэтак як ія Толькі ведаў ПРа Таварышаў. Тады яго звязалі як авечку і мяне прыгналі каб глядзела на Яго Пакуты. А ён яшчэ пасля бою быў увесь Скрываўлены і апухлы і пад Пазуры яму забівалі Цвікі такшто Пальцы ўяго сталі быццам яблыці і Вока яму Правае чыста выбілі і ўжо пах ад яго ішоў зусім як ад Забітага.

А нейкі карла Верлёгер гестапавец дваццаць гадоў жыў у чупры Крывасмок многіх нашых Таварышаў памардаваў Шпіён ён быў Бухне майго Небараку міле паддых і кажа Яму прывялі мы табе Жонку Каб пабачыла якіты прыгожы і ты яшчэ нейкі Барацьбіт Кажы што ведаеш ато іяе будзем Гэтаксама. А Мой Міле глядзіць на яго і зтаго Вока ўяго Сляза пацякла ікажа яе Нечапайце яна нічога неведае яна ніўчым невенаватая яна Цяжарная і Слухалася мяне. А мне кажа а цябе Міца няхай Бог беражэ Мы кахалі адзінаднаго а цяпер глядзі Сябе Глядзі зберажы Дзіця калі яго зберажэш і Будзе Мужчына імя яму дай па Дзеду Радаван.

А таму карлу кажа Мы такія якія Ёсць. І ты такі які Ёсць.

А яж хадзіла Цяжкая Маім Радам ды адвезлі мяне ў Латер у Ніш там я і Нарадзіла майго Радавана Майго Раку маё Сонейка. А цяпер калі яго ніхто

невозьме і яго чакае тоесамае штой мяне А мяне чакае Чорная Яма Паклон Міліса стэфанавіч

Пішыце мне гэтаксама на папяроснай паперы туга скруціце і ўстаўце паміж сцябла маркоўніку Кантроль тут не надта Лепш друкаванымі літарамі кірыліцай бо я Непісьменная Мой Міле мала мяне вучыў да гэтага недумаў Гаротнік што ябуду Гэтак праходзіць Навуку

Цётка Ёванка шчыра дзякую за Манку Май Радэ яе сасмакам з'еў дзе ты толькі і знайшла гэта вялікі вам дзякуй Ая на яго Глядзела і Плакала бо яж болей нікога свайго нямаю двое нас толькі я і Мой маленькі Радэ. Ёсць яшчэ свякруха яна у Вёсцы Жырава з Поштай у Пракуплі зваць Мілева стэфанавіч непісьменная атаксама дзевер у Палоне не вярнуўся і залвіцу Маю шчэ Цётку ў Крагуеўцы замужам ёванам станісаўлевічам шаўцом але там казалі быў Вялікі растрэл і змаганне дык хто ведае ці жывыя Таварышкі маі ім адсюль пра мяне пісалі але адказу не было.

Такшто вы калі яго Возьмеце адпраўце у крагуевац да Свякрухі маёй калі яна жывая Аяк схочаш Возьмеш і будзе ваша дзіця за Сына ці нібыта ад вашага Сына а мой Радэ вельмі Добры хлапчынка Небудзеце меці вялікага Клопату з ім есць ён усё няплача Спіць усю ноч я яго дагэтага прывучыла Турма тут і ніхто не будзя цярпець Дзіця якое плача Ды і трэба каб падрыхтаваўся да Чужой Хаты. А так ён Здаровенькі ужо шэсць месяцаў сам сядзіць два Зубкі прарэзаліся і вясёленькі толькі часта яго жывоцік прыхоплівае Панос Пашліце калі Маеце кавалачак Мыла радэ памыць

Атрымала мыла Выкупала майго маленькага Радэ Каб вы бачылі які ён, Сонейка маё светлае Учора прыходзілі і пыталіся пра вас а Якая гэта цётка ў цябе знайшлася Я сказала Так як мы дамаўляліся і сказала што вы можа яго Возьмеце А ён мне кажа А чаго не аддасі яго да суполкі мацярок ая яму адказваю Гэтаж панская суполка Якжа тыя пані будуць любіць майго Сыночка Мой Радэ сялянскае дзіця мой малы Сірацінка Я думаю што ні яны мяне не Любілі ні я іх не люблю так што бог ведае іхнія справы Яны ніколі не мелі сваіх Дзяцей бо каб мелі дык чужых не прасіліб і хто іх ведае што там з Дзіцяткам станецца Але гэтага я ўжо не казала. І невядома ці каліб што мой сынок даведаўся пра Бацьку і пра мяне. Каб з Дзіцятка не зрабілі Вырадка. Авы цётка Ёванка калі яго возьмеце вам я Веру.

Мыла я загарнула ў анучку і хаваю запазухаю каб неўкралі

А калі вы яго не возьмеце Тут была адна яўрэйка з Малым пяць гадкоў яму саша зваўся Расстралялі абох. Але я думаю Мой Радэ не Яўрэйчык зашто ж страляць майго Радэ Мой радэ ужо 8 кг

Цётка Ёванка да мяне прыходзіў Начальнік Шпіталя Кажа нядобра што ты неаддала малога Тым паням хто ведае што яшчэ з табою Будзе А ён ведае што самною будзе і Яшчэ кажа Дзіця гэтак прапасці можа а Твая Цётка яшчэ невядома ці яго возьме. Ая яму кажу не ведаю Начальнік вельмі добры чалавек толькі ён мяне і выратаваў ды на яго увесь час насядаюць Увесь час пытаюцца дакуль гэта камуністка Стэфанавіч будзе ў шпіталі адседжвацца як тая пані. А ён адказвае так трэба Дзіця слабое Ды бачу нямнога мне ўжо Засталося Адзін цяпер клопат пра майго Радэ штож з ім будзе з Сыночкам маім Маленькім ціж зараз яму паміраць міліца

Срэта мне прынёс Бульбачку і Мяса дзякуй вам Радэ ўсё з'еў толькі жалопаў зубкамі сваімі і жалопаў А таксама перадаў Усё што вы яму Сказалі і плакала я калі пачула што ёсць яшчэ нехта хто Любіць майго Радэ і хто можа яго ўзяць. Зраблю ўсё так як Вы Кажаце падпішу тую Паперу калі яе прынясуць і аддам вам Майго радэ маю радасць.





Ты кажаш што майго Радэ палюбіла як Маці але пані хто ж яму я вітаю вас міліца стэфанавіч няшчасная маці.

У майго радэ Гарачка баліць яму Горлечка і кашляе і з жывоцікам блага Доктар кажа не ведае што з ім. А як ён можа няведаць. Паперу тую атрымала яшчэ не падпісала няведаю як быць.

Усё атрымала што вымне паслалі вы Добраяжанчына Бог няхай вам Аддзячыць А з сыночкам нічога нелепшае іштож гэта будзе. З паклон міліц Стэфанав

Зноў прыходзілі тыя Пані з суполкі мацярок і я сказала што ім неаддам сыночка З лагера таксама прыходзілі пыталіся калі ім яго аддам не дачакаюцца маёй Галавы Аможа неаддам Яго Нікому Мой Радэ не яўрэйчык і Я не Яўрэйка і можа сапраўды мяне небудуць забіваць а толькі адправяць на Працу ў нямеччыну яны так кажуць. А можа яшчэ застануся гэтак з ім у шпіталі як яны могуць адлучыць мяне ад Майго Дзіцяці хіба ў іх няма Дзяцей Прышліце мне яшчэ хоць крыху Бульбачкі Калі маеце. Майму Радэ. У яго воспа Беднае маё дзіцятка Пакуль не пройдзе мяне не будуць чапаць я буду жывая Міліца.

Мой Радэ лепшае Як я з гэтага Радавалася Учора ўсё наверх высыпалася увесь рабенькі ад воспінак і гарачанькі але ўжо забаўляецца на Сонца глядзіць і ўсміхаецца і мяне гладзіць па твары нібыта ўсё разумее Сірацінка матчына. Доктар яму нічога недае гляджу толькі каб незастудзіўся Калі пройдзе гэтая зіма навясне будзе мой Дзень нараджэння, 23 гады ці дачакаюся яго

Срэта прыходзіў там зноў растрэльвалі Вялікую Партыю Кажа добра што Радэ захварэў бо мяне забраліб у лагер Некажа ці будуць мяне растрэльваць кажа Небудуць калі дагэтуль нерастралялі Але хто ім дасць веры горшыя за туркаў яны Толькі мяне забяруць з Шпіталя кажа Хутка.

Атрымала айву Дазволілі мне зварыць канпот толькі без цукру. А еў ён і сырую так хораша шкрабаў сваімі Зубкамі. І цягне ручкі просіць Яшчэ Гарачкі болей няма Высыпка нагнойваецца ідзе ў каросту Доктар кажа што так і мае быць. Уначы несплю накрываю яго сачу каб незастудзіўся і гляджу на яго як Спіць маміна Ягнятка

Сёння паслала тую паперу падпісаную Начальству што вы можаце яго ўзяць калі прыдзе час. Падрыхтуйце ўсё для Радэ гэта ўжо будзе Хутка. Зранку прыходзілі да мяне камендант лагера немец новы неведаю як яго зваць і вуйкавіч і мой следчы Вітас і яшчэ нейкі Раз злавала мянеіх. Няхай толькі Бог Бароніць майго Радэ

Правяралі ўсіх Жанок і мужчын якія ў Шпіталі і мы Усе вельмі напалохаліся а мне Сорамна было Вуйкавіч мяне пытаецца а ты ўсё яшчэ Тут з гэтым сваім Камуністаўскім байструком. Ая яму кажу Мой радэ не байструк Больш не магла. А ён раззлаваўся я бачыла ды Прыдаўся што нічога не пачуў. Потым яны нешта гаварылі з камендантам і вуйкавіч пытаўся Начальніка шпіталя што з малым і калі будзе Здароваеі сказаў Доктару каб не рызыкаваў Галавою А мне кажа пан камендант цікавіцца тваім сынам і пытаецца каму яго аддасі ці аддасі да суполкі мацярок каб яго Выхавалі А я сказала

не А камендант здзівіўся і праз вуйкавіча пытаецца чаго ж не хачу калі Пані добра Выхоўваюць і дагледзяць майго Радэ будуць добра карміць і ён будзе нетакі як цяпер а Чысты і Хораша дагледжаны і Прыгожы. А я сказала перакладзіце пану каменданту што ў Нас сярод сербаў не тыя Найлепшыя што Выхаваныя хораша дагледжаныя і чыстыя і што я не хачу каб Мой радэ быў Выхаваны што Нам Сялянам ад таго выхавання Тады ўсе зніякавелі і замоўклі а камендант запатрабаваў каб яму ўсё пераклалі і закрычаў на іх Потым яму Адзін немец хуценька растлумачыў і ён Засмяяўся і яшчэ больш Здзівіўся і запытаўся што ж я Рабіць буду з маім сынам і чаму не аддам

яго тым Шаноўным сербскім паням. Тады я яму сказала няхай сабе яны і Шаноўныя ды яму Не Маці.

А яб хацела каб мой Радэ ведаў што былі ў яго Бацька і Маці і што мы яго Не кінулі каб Дзіця не думала што яно без Кораня. Каб праз гэта не было Няшчаснае. І таму хачу аддаць яго маёй Цётцы. Тут камендант зноў засмяяўся сказаў бравос Сербішэ і яшчэ нешта панямецку потым зняў Пальчатку дастаў з кішэні два Бісквіты і кінуў на Ложак майму Раду. Тады я ўзяла Бісквіты ад малога з рук падышла да таго немца што ведае Сербскую мову падала яму і сказала перадайце дзякуй пану каменданту Мы Бісквітаў не ямо зубоў на гэта немаем мы прывычныя да Кашы кукурузнай а гэта няхай аддасць пану начальніку Гэта я пра вуйкавіча калі я тут апынулася ён мяне надтаж біў. А немец

неведаў што рабіць дый узяў стаўшы смірна перад камендантам усё яму расказаў. А камендант толькі глядзеў на мяне потым узяў бісквіты і шпурнуў у плявальніцу. І тады яны пайшлі. А мне потым Шкада было майго Радэ што я адабрала ў яго Бісквіты і ўжо была дастала іх з плявальніцы але потым раздумала і выкінула праз акно. Потым зноў прыйшоў Начальнік Шпіталя і глядзеў на мяне Нeяк Дзіўна і сказаў мне загадалі каб адразу паведаміў калі дзіця палепшае яно павінна быць адпраўлена адсюль як хутчэй з табою яму больш нельга заставацца і цябе тут больш трымаць не магу Гэта будзе праз Некалькі Дзён.

Дзякуйвам цётка Ёванка за моркаўку Атрымала. І дзякуй табе што ты непабаялася калі Крычалі на цябе што Памагаеш мне і бярэш камуністаўскіх байструкоў каб іхнія маткі на магілах крычалі А мой Радэ не байструк. Цяпер яму лепш хоць высыпка яшчэ не сходзіць. Калі ён пачне разумець вы яму ўсё раскажыце як было самною каб дзіця ведала. І пра бацьку яму таксама раскажыце пра Міле Стэфанавіча яго не адразу застрэлілі спачатку мардавалі Апошні дзень перада мною. А ён саромеўся і толькі крычаў нечапайце яе яна Невінаватая ніўчым выведзіце яе адсюль. Аяшчэ прышліце мне штонебудзь старое з воўны хачу Нешта перавязаць майму сыночку вітаю Міліца

Засталося мне яшчэ Чатыры Дні сказалі. Міліц

Усёяшчэ верыла і Верыла што застануся з Маім сыночкам Разам у шпіталі Далей і буду яго гадаваць і мой Радэ вырасце Вялікі і я яго Ажаню. І буду даглядаць Яго Дзяцей Ды бачу што гэтага неможа быць. Сваёй галавы мне не шкада але якжа ім дараваць тое што разлучаюць мяне з маім Дзіцяткам. Калі Маё Дзіця не яўрэйчаня І Ніўчым Невінаватае. Гэтага немагу ім дараваць. Каб Зямля іхнія Косці павыкідала каб Маткі іх мёртвых неаплакалі каб ад іхняга Племені і следу не засталося каб з іхніх горлаў ніколі Песня не загучала каб Любові дзіцячай яны аніколі незведалі.

Цётка Ёванка я распарола сваю камізэльку хачу звязаць сыночку Світарчык. Ужо і звязала частку толькі Воўна старая ірвецца Гэтай ночы Неспала які тут сон усю ноч глядзела на Яго. Воспіны ў Радэ сталі як кароста Чорныя ён спіць і неплача болей Есць таксама Добра Вы зім небудзеце мець ніякага клопату ён умяне Вельмі Добрае Дзіцятка спіць усю ноч так я яго прывучыла а таксама прывучыла каб неплакаў хто тут будзе цярпець Дзіця Якое плача. Есці ён можа ўсё грудзямі Болей некармлю няма Малака. Даю што маю. Каровіна малако можна напалам з вадою. А можна Моркаўку Я вару яе і дробна Дробненька пакрышу ён так Любіць а яшчэ Бульбачку ён таксама любіць вараную ці смажаную. Хлеб ён таксама есць толькі муслае і мумлае падабаецца яму накрышаны ў малако любіць і яблыкі ў Канпоце альбо сырыя і Айву аднойчы мне перадалі і Грушку любіць таксама Добра і кукурузную кашу гетажі на ёй мы трымаліся а неяк тут давалі яму і Манку гэта начальнік Прыпісаў бог яму хай аддзячыць.

У майго Радэ воспа амаль прайшла усё падсохла і злушчваецца. Толькі зноў з жывоцікам блага Панос. Атрымала Шкарпэткі дзякуй вам ды нашто яны мне Распусціла каб звязаць малому Шалік Світарчык ужо амаль гатовы Звязала і другую палавінку





пераду і спінку засталіся толькі Рукаўчыкі Адна жанчына тут намалявала мне на Паперы першыя літары нашых імёнаў майго і Міле і Радэ я хачу іх вывязаць на Грудзях няхай будзе відаць хто ён і чый ёсць. Авы мне адкажыце якнебудзь напішыце на папяроснай паперы і ўтыкніце ў гічча Моркаўкі тут не надта строгі Кантроль дзе ж будзе мой Радэ спаць і ўсё як у вас у Хаце каб ведаць куды маё Дзіця пойдзе.

Я Купала яго калі магла аціпер болей не Купаю праз гэтую Воспу баюся ён Любіць купацца толькі смяецца і ляпае Ножкамі і Ручкамі. Вы яго купайце раз на тры ці чатыры дні Цяпер больш і нетрэба ён ужо Вялікі. Спіць ён спавіты звязваю яму ножкі Начальнік кажа што нетрэба ды што ён угэтым разумее нехачу каб у хлопца Ногі былі крывыя каб мяне потым праклінаў. Спіць самною разам прывык гэтак а калі хто іншы бярэ дык адразу крывіцца бо дамянеж прывычны. Дык вы калі раптам пачне плакаць бярыце нарукі Гушкайце і Спявайце а крыху падманіце каб супакоіўся А цяпер прыміце найлепшае прывітанне ад мяне міліца Стэфанавіч

Вы цётка ёванка не Бойцеся мой радэ не якоенебудзь бруднае дзіця а калі крыху апісяецца я неспяшаюся перапавіваць каб не застудзіўся І вы гэтак рабіце. Ён у мяне і некакае многа толькі адзін два разы калі Здаровенькі Цяпер болей толькі таму што з жывоцікам у яго блага Панос. А так вам недавядзецца многа мыць заім Пялёнкі Пялёнак у яго трое з маёй кашулі зраблю яшчэ двое Нашто мне Кашуля а яму Хопіць. От перабіраю рэшту лахманоў каб пашыць яму Шапачку дзве кашулькі а Світарчык ужо ёсць крыху велікаваты алеж ён будзе ўмяне расці Гэта яму напакуль Будзе Дастаткова. Аяшчэ калі паспею вывяжу яму Шкарпэткі з воўны.

Мой Радэ уначы плакаў зноў Баліць яму Жывоцік Гаротнаму майму Дзіцятку Усю ноч насіла яго Потым ён крыху заснуў ая і Далей яго насіла і Глядзела яшчэ крыху наяго пагляджу. Воспа зяго яшчэ не сышла

Учора вязала старалася Баялася ці паспею. Вы рыхтуйцеся гэта Будзе за Два-тры дні.

Забрала на складзе мне дазволілі усё што мела з адзення усё памыла і Падрыхтавала. Пашыла Шапачку і кашулькі толькі адна засталася без Рукаўчыкаў Нехапіла матэрыі. Атаксама падрубіла і Пялёнкі Каб мела дзіця. Прасіла каб мне дазволілі памыцца. Аяны кажуць рыхтуешся нібыта да Вяселля Я ім Нічога неадказала але думаю там куды я Іду чалавек павінен быць чысты Думала і хустку выпрасаваць ды няма Праса ну нічога я яе якнебудзь на Калене разгладжу.

Няма многа Часу каб вам пісаць патрэбна яшчэ імёны сыну вывязаць Маё і Ягонае і Бацькава начальнік мне сказаў што можа Заўтра А можа іне яшчэ Заўтра Субота дык калі не Будзе заўтра тады пакінуць мяне да Панядзелка яны ж у Нядзелю неробяць адпачываюць і моляцца Богу. Вы калі можаце знайдзіце Срэту Жандара ён з майго краю з Пракупля ён вам паможа. Дайце яму крыху грошай. Калі маеце

Я памылася і высушыла ўсе лахманы Усё назад занесла на Склад такі парадак але як Павядуць мяне каб быць Гатовай. Начальніка ўчора зноў пыталіся прамяне. Ён сказаў што майму Раду лепш Мусіў Мой Радэ сапраўды палепшаў толькі што Панос непраходзіць. Хутка Ноч тут рана гасяць Святло але я папрашу ахоўніка каб мне дазволілі пабыць пры Лямпе. Дзеля Радэ. Тады вам і напішу якналежыць пра ўсё Што Трэба. І наяго Пагляджу яшчэ Трошкі А калі непаспею вы ўжо Беражыце Майго Маленькага і Выбачайце міліца Стэфанавіч родам з Пракупля вёска Стубліны

Запалілі мне Лямпу. Усё Сабрала Як Трэба і звязала Матузком калі мне скажуць Выходзь каб толькі ўзяць і пайсці Яны нечакаюць Многа. Усё памытае з дзіцячага толькі непракіпячонае няма Дзе На Радэ адзела Новую кашульку тую што пашыла і Новую шапачку ўчора памерала вельмі датварыку яму Хораша. Апрану яму і світарчык.

Вязанне маё выйшла крыху затоўстае пража ўжо патлелая так што мусіла браць у тры ніці тамуй Завялікі алеж Радэ мой Вырасце На світарчыку на грудзях будуць тыя Імёны Гэта каб Адразу ведаў Хто ён такі. Трэба гэта. Аяшчэ

я спаўю яго у падвойныя пялёнкі і ў сваю старую спадніцу і ў Ягоную коўдрачку і ў палову Салдацкай коўдры гэта яму падаравалі нейкія Жанчыны калі Нарадзіўся Разам з ім будзе яшчэ Трое пялёнак Адныя Новыя з маёй кашулі двое старыя крыху падраныя дык я іх пазашывала. І яшчэ Шапка цёплая Старая гэта яму адзін Дзядзька з Ягадзіна калі ішоў на Растрэл скінуў з Галавы і сказаў аддайце Таму дзіцяці каб немерзла дык я Ножкі яго ў гэтую шапку захутвала І чунікі старэнькія Гэта я сама пашыла з латак. Аяшчэ на ножках уяго Будуць Шкарпэткі Новенькія з воўны Гэта я звязала з тых шкарпэт якія вы мне Прыслалі з іх Выйшлі таксама і Рукавічкі і Шалік няхай носіць. І будзе наім Мой пояс тканы Ён замест спавівача. Ды і наўспамін пра мяне няхай застанецца. А больш нічога.

Ён у мяне далікатны перахварэў і на Жывоцік і з Горлачкам каб і яшчэ чаго небыло гэтае адолеў Атак ён Здаровенькі. Есці можа Усё ціто кашу якую густую з малаком атой з вадою ціто супчык. Хоча хлебца але я яму зусім Мала давала бо немела. Можа есці капусту вараную тое што нам тут давалі і Квасолю калі памнеш Любіць моркаўку вараную як яе дробна дробненька пакрышаш і Яблыкі таксама Любіць сырыя і ў Канпоце больш любіць з цукрам І Грушку таксама мне неяк была прынесла адна Т替арышка дык я яму давала Усё гэта ён можа есці і сырое і Зваранае Любіць і манку і рознае ўсё што можна есці вы толькі яму Давайце

Характарам ён таксама Добры неплача дужа толькі калі Хворы ды галодны наплакаўся мой Небарачка Сыночак. Уначы спіць і непрачынаецца калі засынае негалодны. Я яго спавіваю каб ногі небылі крывыя думаю што і вы гэтак будзеце Спавіваць. Мне так здаецца а вы цяпер як сабе хочаце бо ўжо вы яму Маткай будзеце дык і рабіце Так як Матка. Калі яму нешта забаліць і пачынае плакаць Любіць каб я Спявала і тады перастае плакаць толькі Глядзіць сваімі Вачаняткамі Рабіце і вы гэтак.

А калі пачне Разумець дык вы ўжо яму Добра раскажыце усё як было са мною і з яго нябожчыкам Бацькам Яго звалі Міле Міадраг Стэфанавіч многа над ім гаротнікам здзекваліся цвікі забівалі пад пазуры ды яшчэ і Вока Правае зусім выбілі А расстралялі ў Лапаве так я чула а ці дакладна неведаю А я Міліца Стэфанавіч у дзявоцтве Мілоевіч з вёскі Стубліна пошта Вялікая Радуша Там яшчэ маю нейкіх дальніх сваякоў дык Радэ калі вырасце няхай наведае можа прызнаюць. І таксама няхай наведаецца ў Жырава гэта недалёка недзе пятнаццаць кіламетраў там яго бабуля гэта мая Свякруха мілева Стэфанавіч дзеда няма Ёсць яшчэ і цётка ў яго там а Дзядзька ў Палоне дык няхай і з імі пабачыцца.

Ая маю Цётку ў Крагуеўцы яе муж Ёван станісаўлевіч шавец трымае майстэрню на галоўнай вуліцы толькі неведаю ці Жывыя Дык калі вы не зможаце яго гадаваць Занясіце да іх можа Цётка мая яго Возьме Альбо занясіце ў Жырава Бабуля яму Узрадуецца яна Больш Унукаў немае Ну а калі няма іх у Жывых аці нехочаце нікому яго аддаваць Вазьміце сабе каб вам быў Замест вашага Сына Як толькі Радэ пачне ўвас плакаць вы крыху Палюляйце і Паспявайце ён гэта Любіць і крыху Падманіце яго Зараз прыдзе Мама зараз прыдзе Мама і ён супакоіцца. А потым і Прывыкне Ну а больш няма Чаго вам напісаць Толькі шлю вам Паклон нізкі і Адыходжу Туды адкуль Ніхто Не вярнуўся няхай Вам усё будзе якнайлепш няхай бог ахіляе а вы мяне Выбачайце міліца Стэфанавіч.

І яшчэ вас Прашу знайдзіце Срэту Жандара каб ён памог ён вам зможа сказаць што Было самною І дзе мяне Закапалі І яшчэ прыдзіце у Чацвер у Лагер там прымаюць перадачы з Дванаццаці да дзвух. Дык калі я Буду яшчэ вы толькі Паведаміце як там Мой Радэ як Мой маленькі асвоіўся ў Чужой Хаце і ці яму палепшала з жывоцікам А калі мяне небудзе значыць мяне небудзе





# ГОЛЫ ОТАК

*(Урыўкі)*

### Карона на злачыннай галаве

Даймае мяне адзін сон, пра які ведаю, што гэта не сон Я гэта аднойчы перажыў ці, дакладней, убачыў, ды не ведаю, як апынуўся ў тым стане, калі перажываў Здаецца, глядзеў я з мора, хоць не выключаю і магчымасць, што знаходзіўся на мацерыку Але такая цішыня на мацерыку не можа ўсталявацца, значыць, я глядзеў-такі з мора. А паколькі з мора востраў бачыць я мог толькі адзін-адзіны раз – як вязня мяне ніколі нікуды не вазілі параходам так, каб гэткае відовішча адкрывалася – гэта павінна было здарыцца тады, калі я, вызвалены, адплываў дадому.

Так-так, гэта адбылося ў дзень вызвалення Я доўга не мог паверыць, што вызваленне ўвогуле магчымае.

А чаму вяртанне з Голага Отака слаба помніцца? Таму, пэўна, што адчувалася нейкая віна перад тымі, хто яшчэ заставаўся? Яшчэ мінулай ночы мы з Піфатам спалі пад адной коўдраю, былі ва ўсім роўныя, а тут раптам, толькі з-за таго, што на маёй паперы, якую я падпісаў у турме Ады Цыганліі, стаяла «пятнаццаць месяцаў», а не «два гады», як на ягонай паперы, а таксама з-за таго, што я быў не «двухматорны», ды яшчэ апынуўся там на чатыры месяцы раней за яго, я адплываў дадому, а ён заставаўся ў тым месцы, якое было зусім нерэальнае Я ведаў, што як толькі пакіну яго, у той самы момант перастану верыць, што месца такое наогул можа быць створана на зямлі Аднак яно ж было, якраз тут

Пачуўшы сваё імя ў пераліку вызваленых, хутка я быў у дарозе, недзе каля гавані Вялікага Заліва На галаве ў мяне – вялікая, трохі гратэскная зеленавата-кававая кепка, пашытая ў лагернай майстэрні з рэштак англійскай ваеннай формы, па якой можна было заўжды пазнаць арыштанцкія брыгады Замест чаравікаў мне далі голаотачкія пасталы з аўтамабільнай гумы, якія вырабіць маглі толькі там А яшчэ ў мяне на руцэ было зімовае паліто, купленае ў той самы летні дзень, калі мяне арыштавалі, на гэты ж час ужо пагрызенае лагернымі пацукамі, з адным крысом такім цвёрдым, як дошка, ад спечанай крыві < >

І вось я, згарнуўшы і падклаўшы пад сябе паліто, сяджу на палубе Колькі тады нас было? Рыхтуючы гэтую кнігу, такое пытанне я задаваў сабе, відаць, больш за тысячу разоў, ды адказаць на яго з пэўнасцю не мог ні разу А хто б на яго мог адказаць. Я і цяпер не ведаю. Скопішча вялікае, у любым выпадку – сотні, а можа і больш за тысячу, але я пачуваюся так, нібыта сяджу адзін

Спеву не чуваць, нават гратэскных тых песень пра Ціта – і яны б прынеслі нейкую палёгку! не чуваць і жывой гаманы. Вяртанню на волю ніхто не радуецца. У кожнага распіска, што ён будзе паведамляць і супрацоўнічаць, у кожнага папсаваныя адносіны з самім сабою і з людзьмі, і з сям'ёю; ніхто не ведае, што яго чакае на мацерыку

Я ж, апроч усяго, чакаў, што з Чупрыі, куды кіраваў, мяне вернуць у лагер, і таму да ўсяго навакольнага быў абыякавы Я быў упэўнены, што ўсё перажытае мною паўторыцца яшчэ ў намнога цяжэйшай форме, таму думаў сабе, што лепш было, уласна, і не рушыць адтуль. Каб была схільнасць да самазабойства, я б, відаць, не праміНуў такой магчымасці Ды сядзеў на палубе парахода і адсутна зырыў у нікуды

Мора – веснавое, падобнае да мутнага чарніла, на ім паўднёвы вецер ўскрай камяністага берага вострава пакідаў белапеністыя барозны Вецер лёгкі, і, каб не ўсё іншае, магло быць даволі прыемна

І вось тады я ўбачыў гэта

<...> Мы вось-вось выйдзем з заліва, курс належны возьмем, а перад намі ўзнікае відовішча занятай працаю арыштанцкай каманды Там магло быць і некалькі дзесяткаў, і больш за дзве сотні людзей Расцягнуліся ў ланцуг, нібыта самі хочуць нам паказац-ца – я ў сябе пытаюся, ці бачаць яны нас, хоць ведаю, што павінны бачыць, таму што

нас раздзяляе нейкіх сто метраў, – яны занятыя тым, чым да ўчарашняга дня ўсе мы займаліся· вядуць так званыя земляныя работы, хоць, вядома, зямлі там нідзе амаль няма.

Я вольны ўсяго некалькі гадзін – дый ці вольны? – і гляджу, упершыню, на гэта з новага становішча. Першы раз гляджу збоку.

Людзі гэтыя нагадваюць мне перадусім нейкае незвычайнае войска. Ва ўсіх да аднаго на галовах цітаўкі і, хоць яны ў кароткіх штанах, таксама шэра-карычневага колеру, усе маюць нешта з вайсковай уніформы – блузу, сарочку, чаравікі. Выгляд у іх цалкам шэры – з-за такога ўбрання, з-за апаленасці на сонцы, з-за бруду, у якім працуюць, з-за няголенасці і яшчэ з-за чагосьці ў абліччах – як у нейкіх двуногіх насякомых. Худыя, быццам цыганскія коні, на тонкіх загарэлых нагах, з падоўжанымі нібыта рукамі, яны такія няскладныя, нягеглыя. Адзенне і абутак падзёртыя Сарочкі без рукавоў, блузы падраныя на плячах, штонікі ў латах ледзь трымаюцца на худых азадках, ад чаравікаў і гумовых пасталаў толькі транце, якое кавалкамі адвальваецца пры руху.

А працуюць у нейкай панічнай напружанасці На ўсіх трох-чатырох сотнях метраў, якія каманда займае, ніхто нідзе ні на міг не прыпыняе працы. Рухі рэзкія, кароткія, хуткія, як у драўляных.

Толькі ў адным месцы скупленасць: там уздымаюцца тонкія вертыкальныя лініі ламоў, дугамі сігаюць молаты, да плячэй адмахваюцца крыжападобныя кіркі. А ўсе астатнія бегаюць адначасова на розныя бакі, тады, быццам бы, раздаюцца кулямётныя чэргі. У ногу ляцяць двое з насілкамі, на якіх навалена груда камення. На адпаведным месцы насілкі схіляюцца і каменне ссыпаецца. Затым яны бягом вяртаюцца па новую порцыю, каб зноў у хуткім тэмпе перанесці яе. Парожнія насілкі звычайна нясуць таксама двое, перакуленыя, але ёсць і такія, што нясуць па аднаму, на плячы, у той час як другі паспяшае за ім і раз за разам штурхае пярэдняга ў спіну, так што той спатыкаецца.

Засяроджана ўглядаючыся, я заўважаю, што ў гэтай бегатні таксама ёсць збоі. Сёй-той спатыкаецца не толькі з парожнімі насілкамі, асабліва бегучы пярэднім. У некалькіх выпадках гэта набывае драматызм, бо да двух насільшчыкаў падлятае трэці і, тады як задні прыціскае пярэдняга насілкамі, ён сцёбае абодвух вяроўчынай, якая да таго вісела на шыі. А гэткае адбываецца па ўсім ланцугу занятых, бо спатыкнецца, зацісне напарніка, заробіць плёткі то адзін, то другі ўдзельнік таго, што выглядае як дзіўны скаклівы, перакрыўлены балет.

У некалькіх месцах заўважаецца нейкае таптанне. Мне з палубы здаецца, што нехта адмовіўся працаваць, хоць я ведаю, што такога не можа быць. Нібыта і мітусня астатніх крыху затрымліваецца Дзе-хто прыпыняецца ў здзіўленні, азіраецца Можа, пытаюцца· што там? Кідаюць насілкі, збягаюцца, утвараюць кола, і там пачынаецца нешта з нагінамі ў сярэдзіну. Тады мільгаюць у паветры рукі, малоцяць ногі. Таго, хто пасярэдзіне, больш не відаць.

На другім канцы за гэты час, як бы з намерам давесці, што інцыдэнт выклікаў асобны безадказны элемент, бегатня становіцца яшчэ больш напружанай. Твараў не відаць, але яны, бадай, выражаюць не што іншае, як: вось гэта мы, а не той вар'ят

Дзве-тры мінуты параход плыве міма гэтай панарамы; але і потым я, быццам зачараваны, не зводжу вачэй І за ўвесь час адтуль ані голасу.

У нейкія моманты мне здавалася, што бачу разяўленыя рты, і я напружваўся, каб пачуць, што яны крычаць. Стваралася ўражанне, што некаторыя твары ад крыку багравелі Ды не, такога не было. Ва ўсіх абліччы безаблічныя, па-мярцвяцку сур'ёзныя, і з выглядам, якому не пасуе проста перадаваць уголас пачуцці.

Так што я чуў толькі шум матора, плёскат хваляў, а відовішча на востраве засталося выключна нямым. І на параходзе пра яго ніхто не сказаў ні слова; я не заўважыў нават, каб хтосьці на яго рэагаваў, за ім сачыў, хоць па цішыні вакол сябе мог зрабіць выснову, што сачылі, з вялікай пільнасцю.

Будзе перабольшваннем, калі скажу, што менавіта гэтае відовішча, праз шмат гадоў, прымусіла мяне ўзяцца пісаць пра Голы Отак. Я, павінен сказаць, амаль забыўся





на яго, захаваўшы ў цьмяных згадках толькі ўспышку, якая потым дапамагла ўспаміны ажывіць.

Не меней як дваццаць гадоў, а то і цэлую чвэрць стагоддзя, я адмаўляў сабе самому ўзяцца за гэтую тэму Прычын было шмат, а галоўная – я лічыў, што не дарос да яе Карацей кажучы, мне здавалася, што, каб пісаць пра Голы Отак, патрэбен аўтар такі, як Дастаеўскі, а не такі, як я < >

### ЗАБІ ТАВАРЫША БЛІЖНЯГА

Калі аднойчы гістарыяграфія пачне сур'ёзна займацца Голым Отакам, перад ёй узнікне асоба – як аднаго з буйных выкрывальнікаў тых злачынстваў – баснійскага і заграбскага серба Нікалы Чучкавіча. Гэта чалавек з няпоўнай сярэдняй адукацыяй, па неабходнасці «првоборац» (удзельнік народна-вызваленчай барацьбы, партызанскага руху ў час другой сусветнай вайны ад самага пачатку – *І Ч.*), потым афіцэр і палітвязень, правёў у лагерах і катаржных турмах шэсць гадоў; яму ўдалося пазбегнуць Ясенаўца (канцлагер фашысцкага рэжыму Незалежнай Дзяржавы Харвацкай – *І.Ч* ), затое хапіла на Голым Отаку

Праз дзесяць гадоў пасля таго, як выйшаў на волю < > ён яшчэ належаў да тых, якія лічылі, быццам Броз пра Голы Отак «магчыма, не ведаў» І калі той у 1966 годзе звольніў свайго паслугача Аляксандра Ранкавіча, якога трымаў дзеля таго, каб вынішчаць людзей у іхнім родным асяроддзі, і такім чынам павёў трэцюю ўжо чыстку сербаў з блізкага акружэння, Чучкавіч вырашыў напісаць яму «пра злачынствы службы бяспекі на Голым Отаку»

З вялікай надзеяй пачаў ён свой ліст зваротам· «Дарагі таварыш Ціта!» І прывёў шмат доказаў таго, як дзейнічалі Ранкавіч і Стэфанавіч – паводле яговых перакананняў, патаемна, – у Градзішцы, Білечы, на Гргуру, Угляну і Голым А дзеля пераканаўчасці ўдакладніў, што ў іх, зняволеных, скарочаны назоў службы Ранкавіча, УДБ (Упраўленне Дзяржаўнай Бяспекі), расшыфроўваўся так «Убиі Друга Ближнега» (Забі таварыша бліжняга)..

Зразумела, гэта выклікала якраз тое, што і павінна было выклікаць, – уціск УДБ на яго стаў яшчэ мацнейшы Пераадолеўшы такім чынам патаемны перыяд сваёй выкрывальніцкай страсці, Чучкавіч у 1968 годзе, калі завіраваў рух бялградскіх студэнтаў, звярнуўся да выканаўчага камітэта гэтага руху. Ён слаў з Заграба гарачыя камуністычныя прывітанні, а ў дадатак – копіі сваіх лістоў пра Голы Отак, адрасаваныя розным установам Югаславіі

На маладых бунтаўнікоў, якія дайшлі да сутычак з паліцыяй, гэта дзейнічала проста фантасмагарычна Ці ж магчыма такое, пыталіся яны, няўжо і да гэтага даходзіла? А высвятлялася, што ўсё якраз так, больш таго, шэф бялградскай паліцыі Нікала Бугарчыч, які ўзначальваў большасць мерапрыемстваў па барацьбе са студэнцт-



## Замест пасляслоўя

**Здаецца, гэта Аляксандр Блок заўважыў некалі, што ў паэта няма біяграфіі, у паэта ёсць наканаванне. Ёміста сфармулявана. І, відаць, не без разліку засцерагчы ўсіх, хто бярэцца разглядаць «жыццё і творчасць» таго ці іншага паэта, пісьменніка, ад марнай траты часу на высвятленне біяграфічных звестак, «фактаў».**

**З другога боку, наканаванае далёка не заўсёды разгадваецца, усведамляецца нават самім носьбітам кону. Тым значней выпадкі, якія інакш не ўспрымаюцца і не вытлумачваюцца. А гэта з поўным правам аднесці можна да ДРАГАСЛАВА МІХАІЛАВІЧА, слыннага сербскага раманіста, апавядальніка, драматурга, публіцыста, акадэміка.**

**Паводле звычайных мерак, лёс яму выпаў жорсткі.**

**Народжаны ў 1930 годзе ў правінцыйным гарадку Чуприя, Драгаслаў хутка застаўся без маці, а потым і без бацькі. Апроч таго, з юнацкіх гадоў пакутаваў ад цяжкай формы туберкулёзу, так што мусіў перапыніць навучанне ў Бялградскім універсітэце на аддзяленні югаславістыкі. Але пасля трапіў не ў санаторый, а ў карнапапраўчыя ўстановы – турмы Чугрыі, Крагуеўцы, Ады Цыганліі ды, у рэшце рэшт, на Голы Отак, на востраў у Адрыятычным моры, які сучасная свядомасць успрымае абагулена: «канцлагер цітаўскай сістэмы», югаслаўскі ГУЛАГ. Удалося-такі выжыць, вызваліцца, нават у войску адслужыць, змяніць**

каля дзвюх дзесяткаў прафесій – пекар, чорнарабочы, вагаўшчык на малатарні, пісар, рахункавод, імпрэсарыо вандроўнага цырка, карэктар у ведамасным часопісе, рэпарцёр... і нават выкладчык сербска-харвацкай мовы ў Францыі, калі ўжо было літаратурнае імя. Пералічанае вядзе да высновы, што ён сам усё жыццё намагаўся пераламіць наканаванне. А разам з тым дазваляе меркаваць, што гэткім чынам наканаванне высвятлялася, раскрывалася, усведамлялася. Як неадменная дадзенасць, як дар – прынамсі творчы, літаратурны.

Пісьменніцтва Драгаслава Міхаілавіча таксама не з лёгкіх у заканамернасцях рэалізацыі, прызнання. Дэбют прыпадае на 1957 год, а першая кніжка (апавяданняў) з'яўляецца толькі ў 1967. Праз два гады, праўда, выдаецца раман «Калі зацвітаюць гарбузы», па якім адразу ставіцца ў вядучым тэатры краіны спектакль... Ды распачынаецца ідэалагічная траўля, раман забараняюць і п'есу здымаюць з рэпертуара, паколькі сам Ёсіп Броз Ціта выступіў у якасці крытыка Яшчэ адзін перыяд уціску. Але не застою. Пішуцца, а з часам і друкуюцца раманы «Петрыін вянок» (1975), «Чаботнікі» (1983), зборнікі апавяданняў «Злаві зорку-падан-ку» (1983), «Паляванне на клапоў» (1993), кніга п'ес «Уводзіны ў справу» (1985). Большасць твораў набываюць сцэнічныя, радыё- тэле- і кіна- версіі, здзяйсняюцца пераклады на дзесяткі моў. Тым часам прысуджаюцца і аўтарытэтныя айчынныя прэміі, адбываецца абранне ў акадэмікі. Слова Драгаслава Міхаілавіча набывае значнасць і аўтарытэт у грамадстве, якое пазбаўлялася спадчыны цітаізму А якраз пераадоленне вынікаў той эпохі, пошук праўды веку складае змест апошняй яго значнай кнігі – «Голы Отак». І гэта наканаванне.

Калі ставіць задачу вызначэння асаблівасцяў мастацкага светапогляду Драгаслава Міхаілавіча, нельга абмінуць ягоную ўвагу да адпаведных з'яў, тыпаў, характараў, якія таксама нясуць адзнакі наканавання. А хіба можа быць інакш? Толькі гэта ўжо тэма асобнай гаворкі. Натуральна, пасля як мага глыбейшага знаёмства з творамі.

**Іван ЧАРОТА**

вам, некалі быў начальнікам лагераў у Білечы і на Голым Отаку

Пры ўсёй сумятні, пры хаосе знайшліся-такі людзі разважлівыя, якія перадрукоўвалі і раздавалі дзе-каму з бялградцаў не толькі кароткія лісты Чучкавіча Гэтак і да мяне трапіў асобнік – ад маладога пісьменніка Слаўкі Лебядзінскага, за што я і дагэтуль удзячны яму

На той час я быў яшчэ не гатовы ўсур'ёз займацца Голым Отакам Але, падштурхнуты да гэтага жыццём праз дзесяць гадоў пасля студэнцкага руху, згадаў пра матэрыялы Чучкавіча, дастаў іх са схованкі і двойчы спрабаваў пазнаёміцца з самім аўтарам Першы раз пошта вярнула мне канверт, які я пасылаў на адзін з вядомых ягоных адрасоў, прыклеіўшы цыдулку· «Адрасат не знойдзены» Другі раз я зрабіў спробу выйсці на яго праз голаотачкага «сувязніка», ды таксама без выніку – гнаны чалавек, відаць, быў вельмі асцярожны. Так што знаёмства не адбылося, мы нават не ўбачыліся

Дапускаю, што ўжо тады Нікала Чучкавіч мог быць у катэгорыі асоб непрыемных, падазроных, апантаных, з поглядам, упёртым у адну кропку, – тых, хто ўсіх староніцца і каго ўсе староняцца, хоць і паважаюць, а ў іх нязменна пераважае клопат, як унікнуць паліцэйскага хваста У такіх звычайна поўныя кішэні нататнікаў і алоўкаў, туга набіты партфель, як у гандлёвага агента, хоць яны нічым не гандлююць, астатнія грошыкі сваёй мізэрнай пенсіі выдаткоўваюць на транспарт і тэлефон дзеля сцвярджэння сваёй праўды Чалавек гэтай катэгорыі, сам ужо з паранойяй, з'яўляецца без папярэджання, знянацку, панізна стукаецца і звоніць у незнаёмыя кватэры Рыекі, Скоп'я, Врнячкай Бані ці Марыбара, па-фаталісцку спакойна ўспрымае паранаідальныя адпрэчванні ды жах у поглядах напуджаных жанок былых вязняў (колькі разоў яму даводзілася чуць. «Кінь ты гэтую марную справу!») Ён усё роўна дастае акуляры і на загадзя падрыхтаваным квадрацiку паперы хутка запісвае штосьці; аддае са словамі «Калі надумаеш, звярніся, і я прыйду яшчэ раз» А калі яго прымаюць як след, ён выцягвае з кішэняў адразу два-тры нататнікі і, задаючы пытанні, піша, піша, піша

Без ягоных не дужа пісьменных запісаў свет застаўся б бяднейшы І я без іх сваёй кнігі не мог уявіць <. >

За два дзесяцігоддзі збору матэрыялаў пра Голы Отак паліцэйскае дасье Нікалы Чучкавіча павінна было стаць падобным да цельнай каровы А ці хоць недзе ў гэтым тоўстым дасье змяшчаўся запіс, што цвердалобы ураджэнец Баніі быў слабы здароўем? Так ці інакш, недзе ў сярэдзіне васьмідзесятых гадоў заграбскія сябры паведамілі, што Чучкавіч трапіў у бальніцу, і адтуль не выйшаў

Ці варта жывых яшчэ вязняў Голага Отака папракаць за меркаванне, што ў гэтай смерці было, здаецца, нешта не зусім зразумелае?

**З сербскахарвацкай пераклаў**
**Іван Чарота.**



# Аксана ДАНІЛЬЧЫК

## Я маю твор...



* * *

Вярніце мне маю душу
Я толькі думкі рух злачынны,
Я не жыву і не пішу,
Я толькі сон бесперапынны
Я абсалютны недавер
І асалода прanікнення,
Калісьці, заўтра і цяпер
Злучоныя адным імгненнем
І не спяшаюцца суняць
Анёлы зменлівае цела:
Прыйдзі, душа мая, спазнаць,
Што робіцца са мной спусцелай
Яшчэ надзеяю грашу,
Яшчэ крычу ў прасторы звонкай
Вярніце мне маю душу
Ці забярыце абалонку

